# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

Пад рэдакцыяй З. ЖЫЛУНОВІЧА,
Я. ЛІМАНОЎСКАГА і І. ШЫПІЛЫ



## № 4
## 1925





Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК —— 1925

## НАШЫ СУПРАЦОЎНІКІ:

Аксэльрод Л. (Ортодокс) праф., Александровіч А., Байкоў М., Баліцкі А., Баравы М., Барашка Іл., Барычэўскі Эўг. праф., Буйло К., Бядуля З. (Ясакар), Бываеўскі Н., Васілеўскі Д., Вольны А., Вольфсон С. праф., Гарбацэвіч В., Гартны Ц., Грамыка М., Гурло А., Гэрчыкаў І. праф., Дзяржынскі Ў., Друшчыц В., Дрэйзін Ю., Дубоўка Ў., Журба Я., Замоцін І. праф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Ігнатоўскі Ў. праф., Каган Л., Колас Я., Купала Я., Караneўскі Я., Кацэнбогэн С. праф., Круталевіч А., Лёсік Я., Ліманоўскі Я., Маразоўскі М., Моркаўка А., Мялешка М., Некрашэвіч С., Неманскі Я., Нодэль В., Пічэта Ў. праф., Пушча Я., Пятровіч Я., Пятуховіч М. праф., Родзевіч Л., Сербаў І. праф., Смоліч А., Сянькевіч А., Трус П., Харэвіч А., Хэрсонскі Х., Хлябцэвіч Я., Хмарка, Цьвікевіч Я., Чарвякоў А., Чарот М., Чарнушэвіч Н., Чорны К., Шатэрнік М., Шукевіч-Трэцьцякоў Р. і інш.



# ПРЫСАДЫ

## Цішка Гартны

### I

Цікавая, нязвычайная зіма—зіма ў 25 годзе! Старыя няпамятаюць, дзівяцца, пацепаюць плячыма.

Што гэта? Адкуль яно? Дзівы дзеюцца ў сьвеце! Ды балюча к таму: выехаць нельга ў дарогу. Мала яе здараецца—людзям некуды і незачым езьдзіць; але зрэдку трэба. Трэба—бо сьвет не стаіць, а жыве, варушыцца, рухае, трапеча.

Так—сягды-тагды здараецца ў падводы, але асьмелься—каняку змардуеш нашчэнт: глей, смала! па калодкі калёсы лезуць у зямлю. Пуд аўсу на трыццаць вёрст—а коні на сене каб таней абыходзіліся гаспадарству. Пярэкарма—толькі для гною ды яшчэ каб клопату ня было вясною. Прывык, прынаравіўся, падладзіўся, агойтаўся. Абыходзіцца, глядзіць і нават шануе. Куды-ж пагоніш небажатку?

Бяз дроў акідаецца: добра, што сівер не пранізвае старых хатак—ці-ж можна гнаць за дзесяць, за дваццаць вёрст па сырую асіну, па ламяйко? А пакуль у лес, яшчэ да лясьнічага вярстоў пяць убок зрабіць, часамі дарэмна, бо няма дома. Столькі турбацыі паложыш—а скутак? Шкада выехаць з хлява і трэба доўга—перакідаюцца думкі ў галаве, як лепш—ехаць ці ня ехаць.

Нарэшце—ехаць: што заробіш—добра.

Праца не валяецца на дарозе.

І гразатою і сьлякотаю—едуць: вязуць камісара ў раён ды на павет, адвозяць сына-вучня на станцыю, развозяць трапунковае начальства—яго і ў провінцыі ня мала: мерае поле, вывучае вёску.

Па сьценках, па гасьцінцах, па шляхох лёгкаю ступою поўзаюць рэдкія падводы ад вёскі да вёскі, ад сяла да сяла, з сельрады ў саўхоз.

Днём і ноччу.

Днём падувае лёгкі густы вецер з поўдня й захаду, ганяе рэдкія палавыя хмары. Выскальваецца неба нясьмелым сонцам, якое спрабуе грэць, мацае зямлю, ужо вызьвеўшую, ужо падсохшую, трапяткім праменьнем, але ня грэе. Шарыя палявікі—птушкі—гацаюць па ральлі, па межах, зімою—зімою 25 году, якое ня помняць старыя,—назвычайнаю...

Прабягае жарабіца ў ператоч вузкіх і доўгіх палеткаў, якія чакаюць пары, моманту перакроіцца на шырокія шматы пасёлкаў.

Бярозы па шляху, рэдкія, стогоднія, ня шумяць нудлівым шэптам асеньняе мэлёдыі—пазіраюць на вясну. Ні разу ў годзе не бранчалі цаплякамі галалёду, не маталіся махрастымі ніткамі шэрані.

Дзень-адо-дню — пускацьмуць сок. Набрыняўшы — чакаюць, калі прасьвярдлуе дбайная рука селяніна яе белае цела.

Дзень-адо-дню, абы больш прыгрэла сонца, абы.

Гэта зімою, зімою 25 году, якое ня помняць старыя, нязвычайнаю зімою.

Ноччу ў гэту зіму, як у сопусе; цалуном туліцца зямля; зьліваецца ўсё ў густую сажу-фарбу, ні дарогі, ні сьледу. Дзе лес, дзе гал—воку не ўлавіць.

Але жыцьцё не стаіць—рухае, трапечыцца, плыве, як крыніца, б'е пад зямлёю, хоць схована ад сьвятла.

Коні бачаць дарогу...

Ды ці ўпяршыню Астапу ехаць па службе? Ходзяць чуткі—а ласьне сам ня знае, што ўсё яшчэ вандруюць ліхія людзі: крымінальнікі, бандыты-зладзеі. Колькі іх вылавіў—у лесе каля Ронцавіч, у фальварку Падвільле, у засьценку Грабы—могуць напаткаць пры мосьце на грэблі, у хмызьняку Паўднёўскіх... З-за кожнае бярозы можа пальнуць, прыпільнаваўшы. Дык што-ж, гэта выпадак—ён сьцеражэ людзей, кожнага чалавека—усюды, усюды. Можа яго, Астапа, начальніка раённай міліцыі, пільней за другіх—не баіцца.

Набіты сям'ю дранкулямі рэвольвэр „Кольт"—пры боку. Муляецца—дае веды аб сабе. Настарожанае вуха разьбірае кожны шэпт, малейшы шорпат, ціхі гук. Навучыўся Астап вынаходзіць сябе ў розных абставінах. Адучыўся палохацца—сапраўды, ці-ж бы яно пасавала яму, маладому, браваму, начальніку раённай міліцыі?

Сёнешні рэйс нязвычайны; вязе старшыні райіспалкому дакладны рапарт пра свае посьпехі: наскочыў на сьлед шайкі разбойнікаў-крымінальнікаў. Умела і спрытна падышоў да маладое шляхцянкі Вікці ў засьценку Процьма, і тая выказалася, дзе й што і калі гэту шайку будзе можна злавіць. Заўтра а дзесятай гадзіне будзе нарада ў райіспалкоме.

А пакуль Астап мяркуе сам, як і што будзе лепш і вярней іх злавіць.

Ноч, цёмная, абгарнутая цалуном, ноч зімы 1925 году. На шляху маўкліва, як вэтэраны, стаяць бярозы. Што год—іх менш ды менш.

Ужо мясьцінамі—пні. Індзе—і пнёў няма—гала, пустая шырокая дарога. І чамусьці сіратлівая без бяроз, няпрыветная, перацятая большю...

А калісь?

Астап перабіў думку пра бандытаў і вярнуўся да бяроз. Езьдзіў калісь—роўнаю сьцяною, шнурком стаялі бярозы ў два падвойныя шэрагі

ўсьцяж гасьцінцу. З дому відны былі і цягнулі да сябе, кудысьці далёка на поўдзень.

Летам—зелянелі, зімою—шэранелі. Зімою тулілі шырокі шлях ад сьнегу. Зацішна, калі ехалі ў мяцеліцу. Пасьля—вайна; хапіліся за бярозы. Куды там—людзей не шкадавалі! Нарабілі плехаў, зглумілі шлях, прысады.

А з таго часу—украдкаю, патрошку, сягды-тагды, вёска за вёскаю, нападалі на бярозы.

Глядзіш—та там, та тут сьвежы нізкі пянчук. Галяйко падабрана, сьляды прытаптаны. А ўверана—вось гэтая ці тая вёска прылажыла руку над бярозаю.

Ёсьць закон бараніць прысады, а ўбарані папрабуй! Не паставіш-жа знарочыстае варты. Ды ў гэту зіму, у зіму 25 году, калі нельга далёка за дрыўмі паехаць, завярэдзіш каня.

Усё-ж шкада шляху, як-бы там не спагадаў людзям.

Усмомніў Астап: „А ёсьць-жа праступак наконт гэтага: пазаўчора за Круполай павалілі дзьве бярозы. Асякоўцы, вядома. Стралялі міліцыянэры, гналіся па сьлядох, ня кончылі справы. Трэба выясьніць да канца. Не пакіну—не ў маёй натуры. Знайду канцы!“ Паглядзеў Астап угору і памеркаваў: каб хто сек у момант, калі ён едзе, бахнула-б бяроза якраз яму на воз. Расхрабустала-б яго й каня.

Прыслухаўся, ці ня чутно падазроных зыкаў. Абапал—маўчала...

Але ўперадзе, далёка ад яго, раптам блиснуў малюткі агеньчык. Мэрам-бы хто сьпічку запаліў і хутка кінуў.

Сьледам некалькі ўдараў, глухіх, умела-скрытных, даняслося.

Як ляжаў на локці, галавою ў палукошак, так і прыўстаў Астап. Насьтаражыўся, сашчапіў у жмені ручку „Кольта“. Падумаў, памеркаваў і выстраліў у бок затушанага агеньчыку.

Стрэл пранёсься і ўзад і ўперад, скалануў бярозамі, як той віхор, аддаўся ва ўсіх бакох, разрываючы цемер. Управа—адгукнуўся зычным рэхам, мэрам-бы хто адстрэліўся.

Астап азірнуўся навакола, прыслухаўся: калёсы ціснулі мяккую глыбокую гразь, шоргаючы па ручках драбін; конь шлёпаў у калатушу блізка па калені. Улева—скрыпела бяроза.

— Тпру-у-у, гнедка-а.

Стала вельмі ціха. Уперыўшыся вачмі ў той бок, куды ехаў, Астап сіліўся разглядзець што-небудзь. Прыжмурваў вочы, нахіляўся, касіў галаў, падаваўся ўперад, пасьля адышоў са шляху на поле, каб не заступала нічога.

— Ліха яго ўбачыць што ў гэтай цемні,—матнуў рукою.

Чамусьці каняка чмыхнула, натапырыла вушы.

Астап сумеўся і яшчэ паглядзеў,—мільгнуў дзесьці далёка-далёка ўправа трапяткі, мільгутны агеньчык.

— Падаліся, гады, к лесу. Так ціха!

Пакруціў галавою:

— Вось і злаві ты іх... Але пачакайце!

Успомніў, што там пасёлак Глушакі.

— Га-а-а! то работа глушакоўцаў! Я ім пакажу. Я на іх раптоўна наскочу, неўспадзеўкі—не апамятаюцца...

Пагнаў каняку, думаючы: заўтра субота, адвячоркам, павячэраўшы, заеду.

— Но-о, малая!

Прысеў на драбіны і ўжо ня прылёг на локаць правае рукі, а пільна глядзеў на левы рад бярэзін, каб высачыць сьвежы пень. Праз пяцьшэсьць бяроз стаялі карчы, чорныя, аднакія. Хто іх разьбярэ ў цямрыве, каторы сьвежы? Каля мастка Астап выскачыў з возу і пабег да двух карчоў, углядзеўся, абмацаў рукамі. Абудва мелі форму танклявых сьпіцукоў, абсечаных, ацятых да рэшты; вакол аднаго валяліся трэскі, яшчэ сьвежыя.

Сьціснуў плячыма Астап:

— Цяжка з дрывамі. Пакутуе насяленьне—шукае дроў. Ну, як ты ўсьцеражэш прысады? Лесу няма—вынішчылі; дроў недзе дастаць. Сякуць, крадуць бярозы. Зразумела—іншага скутку няма... Хоць-бы тая дарога, а то...

Што за зіма! Нязвычайная, няўпамятная, нудная зіма, зіма гэтага году! Нікуды не падаецца. Гразота-брыдота, дастань тых дроў!

Вярнуўся на воз, прысеў, ужо кінуў сачыць, а стаў плянаваць ды судзіць:

— А што, няхай-бы секлі, хоць-бы й гэтыя бярозы. Новыя патрэбна насадзіць, маладыя, сьвежыя. Няўжо мы ня сумеем зрабіць так, як то рабіла царская ўлада? Вось хай адно акрыяем крыху, заменім шляхі шасою. Абсадзім маладымі прысадамі. Даць людзям на ўмову: сячы пару бяроз, засадзі гоні маладняком. Можна й садовымі дрэвамі. Што-ж у гэтым за хітрасьць? Якія труднасьці? Паду-умаць!

Успомніў, калі быў у плене ў Прусіі.

— А ласьне нельга зрабіць так, як у немцаў? Абсаджаны дарогі яблынамі й грушамі, выбрукаваны, ашашованы,—люба-дорага. Стаць-бы на ногі—і тое самае ў нас. Павязаць мястэчкі й сёлы добрымі дарогамі, абсадзіць іх.

Плюнуў Астап і шэптам вылаяўся:

— І хвароба яго ведае, гэтае праклятае царскае правіцельства: што яно рабіла, каб правясьці культуру? Жарты-ы! нідзе, нічога. Выпадковыя кавалкі шашы пабудавала, а ўсюды—адвечныя, натуральныя дарожкі... Совайся селянін, як хочаш.

І ўскрыліла ў Астапа думка.

— Вясною на свой страх і на сваю адпаведнасьць прымуся за абсадку шляху маладымі прысадамі. Троха жыхарства, троха міліцыянэры,

троха вучні... Высаджу на ўсім раёне. Можа некалі ўспомняць... Заўтра скажу прадсядацелю.

Пад'язджаў да мястэчка—загрукацелі калёсы па бруку.

II.

У каморцы—голы забруджаны стол, два столкі побач. У чарцы, з вышчарбленым берагам—згушчанае чарніла; асадка паколатая, а ў ёй заржаўленае пёрка.

На пашарпанай сьцяне—Ленін, насупроціў—замэзганы Чарвякоў. Чуцьчуць відаць. На вушаку дзьвярэй—абрэз на рэмні. Дзьверы—бяз клямкі, фортка да форткі не даходзіць; на вокнах—акуркі цыгарак, скрыначкі ад папярос: ГТФ—на чырвані.

Габінэт начальніка міліцыі раёну.

„Начальнік раённай міліцыі", прыглядзеўшыся, прыкмеціш над сталом. Старэнна выведзены літары чырвонаю фарбаю, абведзены сіняю.

Астап прышоў, панюхаў паветра:

— Ніколі ня выветраць, сукіны дзеці. Ну й народ! Хоць у хляве пасадзі—сядзецьмуць і не ў шманкі.

Хацеў адчыніць фортачку і забыўся, што іх няма ў вокнах. Трэба зрабіць—рашыў і сеў за сталом.

Палажыў тоўстую папку з дзяламі. Колькі іх, у шэрых, у сініх, у жоўтых вокладках? Пачаў перакідаць дзела аб бандытах.

— Пайду да прадсядацеля.

Палажыў дзела наверх і пачаў завязваць кончыкі папкі. Абдумоўваў плян гутаркі з прадсядацелем.

— Можна?—стукнулі ў дзьверы.

— Уваходзьце!

Адчыніліся дзьверы, і ў габінэт увашло двое сялян, адзін міліцыянэр.

Астап паглядзеў і запытаў:

— Якая справа?

Сяляне пераглянуліся і змаўчалі.

— Гэта тыя, таварыш начальнік, што сьсеклі бярозу на шляху з вёскі Асякі. Тояцца—ня мы, ня мы.

— А ты ў іх нашоў бярозу?

— Вядома.

— Ну, мужчыны, дык чаго-ж таіцца, высеклі?

— Дальбог-жа не, таварыш начальнік...

Адказаў старэйшы, гадоў за пяцьдзесят дзядзька.

— Як-то не, калі нашлі...

— Падкінулі; нехта ноччу, злы быў і падкінуў... А каб мы самі—няхай нас...

Малодшы маўчаў, трымаўся; няпэўнасьць у тым, што казаў сусед—трывожыла...

— Ды хоць-бы вы ўжо ня хлусілі, мужчыны. Навошта вам займа здароў вочы залівяць... Нехта падлажыў! Хто вам падложыць? Пасароміліся-бы, нарэшце.

— Дальбог, праўду кажу... Нічыпар, мо' я хлушу?—стары запытаў суседа.

Той нічога не адказаў, яшчэ больш нахмурыўся.

— Кінь, Даніла, хлусіць. Хто сазнаецца, што ты праўду кажаш...

— Папытайце Нічыпара.

Астап сур'ёзна паглядзеў на худашчавага, дробнага безбародага чалавечка.

— Нічыпар, кажы праўду: у вас няма дроў і вы высеклі дзьве бярозы ў прысадах?

Той памяўся. Апусьціў ніжай голаў.

— Да ўжэ-ж яно—высеклі. Ведаю добра, што ўчынілі праступак. Не гадзіцца цяпер гэта рабіць—у саміх сябе крадам. Але, паверыце, я мусіў пайсьці на гэта: два вянкі зьняў з хлявушка, мерзьне гавяда, а дзеці ў хаце. Ну, куды ты кінешся з біткаю: ні калёс, ні збруі, а дарога—гразь, брыдота, гэткая зіма—ніхто не запамятае! Дзе-ж тых дроў возьмеш?.. Высеклі, высеклі... Стралялі ў нас, а мы ўцяклі. А як-жа йначай?

— Чуеш, Даніла?

Ухмылка на мяккім, хітраватым твары, палахлівая і разам добрая ўхмылка; стары разьвёў рукамі—сорамна было глядзець у вочы Астапу—не сярдзіты зусім, добрадушны таварыш начальнік, чаму трэба было таіць ад яго свой праступак?

— Давялося, таварыш начальнік, паверыце, давялося; не таю, мілы таварыш...

— А чаму адпіраўся?

— Чаму?...

Даніла ня ведаў, што казаць, нэрвова мяў шапку ў руках, сарамліва нік поглядам.

Выручыў Астап.

— Лепш позна, як ніколі. Дагадваюся а прычыне, але ці-ж можна красьці, прысады красьці? Помніце, як міла было калісьці глядзець на стройны рад бярэзін? Шнурам, як войска, роўныя, белыя, струною цярэспаля. Летам—цень, зімою—зацішша. Цёмнаю ноччу—ня зблудзіш. Цягнуць міжвольна недзе далёка. А вы—бераце і сечаце. Як магла ваша рука падняцца, дзядзька?

— Таварыш начальнік казаў праўду—нельга, няма чым адказваць, але... бяздроўе. Паверыце, толькі бяда напірала, недахопы вадзілі рукою. Сек, а сэрца траслося. Пала і я затросься ад болю. Ды што-ж парадзіш—дзеці трасьліся ў хаце, зварыць бульбы не начым, вады сагрэць... Куды паедзеш гэтым часам?

Зіма, нязвычайная, нябывалая, ліха ведае, якая зіма, зіма ў гэтым годзе!

— Дрэнна і кепска, дзядзька. Пакараем судом.

— Ды ці-ж мы адны сяком? А глушкаўцы, а нізаўцы, а сухоўцы? Гора гоніць.

— Будзе і ім.

Нічыпар, маўчалівы, скрытны здаваўся перад словамі Астапа: ня ўшчуе паначальніцку—таварыскі гутарыць. Праўда—саграшылі, скрыміналіліся. Ці-ж выправуе што? Нічым ня правы... І балюча—дагэтуль ні ў чым ня ўлічаны, не заплямены. Перадавіком слыў—а тут...

— Таварыш начальнік, усё роўна бярэзін не аднавіць... Скрымінаілілі— але ручу, што больш ня будзе—даруйце... Ведаеце—я адплачу віну дзяржаве...

Міліцыянэр уголас засьмяяўся:

— Чым? Адседкаю?

— Пастой, пастой!—перабіў Астап.

— А тым, што я ўвесну, першым дзелам, усё забыўшы, засаджу гоны шляху маладымі прысадамі. Хай толькі вызьвее зямля, пададуцца сокі, і я кіну-рыну хату—пайду на дарогу. Дзень, два, нават тры дні патрачу, а засаджу. Бярозкамі, хочаце—елкамі, можна клёнам і каштаном...

— Дастанеш—зробіш!

Міліцыянэр ізноў зарагатаў.

— А зраблю, клянуся, што зраблю... Ахвяруюся—дайце паперу... Няўжо, думаеце, зьбягу дзе-колечы? Удвойчы наложаце штраф, калі толькі падвяду вас...

— І я бяруся гэта зрабіць,—дадаў Даніла. Вазьмеце на ўчот, адмецьце і тады—штрафуйце ўдвойчы, утройчы...

— Гм! Ня хлусіце?—выпрабаваў Астап.

І тут-жа памяркаў: а можа й чэсныя людзі... Што з іх возьмеш, апроч кары? А бярэзіны—адновіш? Людзям, сапраўды, прыпёрла, прыціснула, вядома. А ну-ж—выпрабаваць: няхай двое ганоў пасадзяць маладняку.

Даў умовы:

— Штрафую абодвых: на пяцьдзесят рублёў. Пасадзеце двое ганоў— здыму, а не—яшчэ набаўлю...

— Павал, напішы штрафную, хай расьпішуцца... Калі ня высадзяць прысад—сышчу з пенаю ў сто працантаў. Чуеце?

— Ці-ж мы будзем хлусіць?—выказалі сяляне разам і так шчыра, што Астап не сумляваўся ў іх словах... Усё-ж даў расьпісацца на штрафной.

— Помніце—і йдзеце.

Сяляне пакланіліся, разьвіталіся.

Усьлед пашоў міліцыянэр.

Астап задумаўся:

— Пастой, Павал.

Вярнуўся, падышоў да Астапа.

— Думаеш, выпаўняць?

— Чаму не. А ласьне сышчаце з іх штрафа? Голыя, як бізуны. Бачыў іх гаспадарства: хаты—у зямлю глядзяць; падраныя стрэхі; голыя дзеці; някутыя калёсы; коні—мэрам сьвіньні надворныя...

— Шкада!

— Пэўна.

Астап падумаў; узяўся двума пальцамі за губы і раптам кіўнуў галавою.

— Вось што, браток Павал.

— Што?

— З глушакоўскае шляхты нагонім... Сёньня вечарам—у Глушакоўцы... Ведаеш, ноччу ўчора ехаў—секлі, гады... Ганоў на тры заўважыў, выстраліў. Ну, а пагонішся ласьне? Конь ледзьве йдзе ўлегцы. Гразі па калодкі, цемень—вока выкалі. Зіма, ліха ведае што, нябывалая! Нельга працаваць: ні высьледзіць, ні выглядзець.

— Верхам сяду і паеду на змроку, а то ноччу—ці-ж знойдзеш?

— Тваё дзела: толькі найдзі—і гэтых ужо прыпяком...

— Не пакараеш—усе прысады зьнішчаць... А калі насадзяць—чакай...

Астап пашоў з габінэту. На парозе спыніўся, павярнуў назад, але пачуў з-заду:

— Таварыш начальнік, прышлі па вас ад прадсядацеля.

— Дзе, хто?

Дзелавод—то быў ён—падаў пісульку. Астап разгарнуў, прачытаў. Пачырванеў.

— Бюрократызм! Ці-ж разарвешся ўсюды. Ён думае, што я тут сяджу, склаўшы рукі... Выгавар, прыказ... За шчырасьць, мо‘? Мяне трэба вучыць... Пяць год за гэтаю справай...

Стукнуў моцна дзьвярыма і вышаў.

## III

Разапрэўшы, стомлены, знэрваваны—Астап бег да сябе ў канцылярыю міліцыі. Праз два крокі павяртаў левую руку, паднімаючы на ўзровень носу, і пазіраў на гадзіньнік, прычэплены на руцэ. Хвіліны раставалі, як сьняжынкі на цёплым шкле. Вышаў з райіспалкому—было без дваццаці хвілін чатыры. Званілі ня раз—важныя справы, тэрміновыя... Ды так, трэба паглядзець, як і што. Установа, ды гэткага характару, як міліцыя,—баявая, шумная. Ці-ж ня ведае Астап? Мала што магло здарыцца ў яго адсутнасьці! Праверыць—абавязкова.

Астап не цярпеў нядбайнасьці. Рупіўся, пільнаваў даручанае яму справы. Любіў быць акуратным, стараннымі. Масьцер—ды годзі.

Сьпяшыў, а хвіліны йшлі, беглі, уцякалі. Заўсёды так—як сьпяшыш іх нагнаць, супыніць.

— Хаця-б не разышліся з канцылярыі.

Перад будынкам, а дзе яна мясьцілася, яшчэ раз паглядзеў на гадзіньнік—аставалася дзесяць хвілін да чатырох. Ужо адзін міліцыянэр вышаў з дзьвярэй і падаўся з двару. Ня прыкмеціў начальніка. Астап бачыў—мерыўся спыніць, даць выгавар. Але не сабраўся, як незнарок яго абазвалі:

— Таварыш Бобік, на хвілю, даруйце...

Астап азірнуўся—некі незнаёмы мужчына.

Недалікатна запытаў:

— У чым справа? Мне некалі, хутчэй.

Чалавек азірнуўся па бакох, таемным узрокам паглядзеў на Астапа.

— Ведаеце... ці паверыце, ці не... мне казалі ня раз... знаеце, справа з вашым міліцыянэрам Гарбузікам... Ён у Глушакох дзень-у-дзень на вечарынках, з дачкою Палікара Асінені... што вычварае... Ой, што там ён!..

Вы дасьледуйце, таварыш Бобік. Дурныя чуткі—падрыў уладзе...

— Добра, расьследую...—і крануў з месца.

Але чалавек схапіў Астапа за крысу.

— Я яшчэ да вас, таварыш Бобік...

— Кажэце.

А нагою, нэрвуючыся, пераступаў з месца на месца.

Ішлі з канцылярыі адзін за другім, міліцыянэры, дзелавод, угрозыск. Матнуў рукою, адвярнуўшыся ад чалавека, паглядзець на гадзіньнік—пасьля чатырох.

— Кажэце хутчэй...

— Я колькі раз бегаў у канцылярыю вашу... Прасіў адсрочыць хоць на месяц. Чым я заплачу па выпаўніцельнаму лісту? Самі бачыце. адкуль зарабіць трыццаць рублёў, дзе іх узяць мне...

— Хутчэй... у канцылярыю прыдзеце... мне няма часу... слухайце...

Адступіў на шаг ад прасіцеля.

Той працягнуў руку, каб хапіць Астапа за крысу ці за рукаў, але затрымаўся.

— Таварыш Бобік, таварыш начальнік... Падумайце—дарэмшчына... Ліха ведае за вошта прысудзілі гэтаму злодзею, голіку гэтаму... Трэба было мець совесьць... Але-ж я нічога, я ня проціў суду—сьвятая справа, трэба слухаць, толькі—чым я магу заплаціць... Ну, маю каняку, драбінкі, на варагоў казана,—сьлёзы, а ня маетнасьць.

Астап падаваўся да канцылярыі, павяртаючы голаў назад. А чалавек, як муха, гудзеў сваё, не адстаючы нінаводзін крок, ні на корг.

— Я сапраўдны бруковы чалавек... Яшчэ-б раней, ну хоць-бы з восені, усё-ткі залатоўку-другую зарабляў, а цяпер, глянь іх, куды ты выедзеш.

Зіма, як кара якая, гнусная, балотная, гібельная зіма!..

— Ці-ж можна вылезьці з хаты ў дарогу? Пасудзеце самі, таварыш Бобік.

— У канцылярыю... па нядзелі... няма часу; ды што на вуліцы?

Крута сарваў з месца і пашоў.

Чалавек перш кінуўся ўдагон, але раптам стрымаўся і пусьціў:

— А Гарбузіка прасачэце, таварыш начальнік...“

Астап пачуў фамілію, але ня ведаў да чаго. Кінулася ў думкі: „Няўжо такі Павал здацен на гэта? А мо' праз тое, што сысквае штраф? Чорт яго ведае, за каго можна ручыць? Ша-а, добра, прыпільную. Паедзе ў Глушакі, а я за ім. Праз гадзіну-другую... Усё можа стацца“...

Вашоў у канцылярыю—пусьцела. Дзядуля-сторож шкрабаў сьцёртаю мяцёлкаю па бруднай-бруднай, загаджанай, загражанай падлозе. Сьцежка-шнурок, вымачаная ботамі ад дзьвярэй да стала дзелавода, краіла падлогу на двое. Стары злосна мармытаў сабе пад нос, падвойчы тручы мяцёлкаю па чорных плямах. „Гэтак забрудзіць—сораму няма. Іншы ідзе, як назнарок, сумысьня нанясе пудамі гразі. Няхай-бы выцер—мяцёлка стаіць, дык не: пастаў швацара ды каб папрасіў той—дай вытру,—то можа-б што... Паперы, сьмецьця, саломы наносяць... Канцылярыя, а як у стойле“...

Астап заўважыў нездавольства старога, усьміхнуўся. Пабег у свой габінэт, прысеў да стала, разьвязаў папку, перагарнуў дзелы.

— Франук!—пазваў старога.

Сторож прышоў з мяцёлкаю ў руках.

— Чаго, таварыш начальнік?

— Чаму не пачакалі мяне?

— А я што ведаю.

— Гарбузік не казаў нічога, што паедзе?

— Таварыш начальнік, ласьне са мною гаворыць хто аб гэткіх рэчах. То не маё дзела...

— А каня не запрагаў?

— Не заўважыў.

— Добра.

Франук маўчліва адвярнуўся, зрабіў некалькі шагоў да дзьвярэй; пераступіў аднэй нагою парог і адвярнуўся да Астапа.

— Таварыш начальнік, даруйце, што трывожу; я рэдка вас чапаю...

— Ну?—Астап адняў вочы ад папер.

— Ведаеце, таварыш начальнік, доўга зьбіраўся, ня мог асьмеліцца, але прыпёрла. Ці нельга было-б, таварыш начальнік, хоць рублёў два надбавіць да пэнсіі? Столькі работы ў вас! Вось усе пашлі, а я покі тут закончу; а жыцьцё—муляецца.

Астап маўчаў.

— За дзесяць рублёў—ці-ж можна старому пражыць, падумайце самі.

— Сьмета, дзедку, нельга выці з яе...

— Нельга?

— Нельга.

Стары матнуў рукою і схаваўся за дзьвярыма, неасьцярожна стукнуў мятлішчам у дзьверы.

— У вас нічога нельга, ніколі нельга...

Астап паглядзеў усьлед, паспагадаў старому:

— Лепі-б, каб у шпіталь... Куды яму гэтая служба!

І йзноў аддаўся паперам.

Гартаў, перакладаў, чагосьці шукаў.

Размаўляў сам з сабою:

„Ну, проста нельга ўлавіць гадзінкі вольнага часу. Хоць-бы ў справах разабрацца... Вось Хмяльных дзела, кража каня... Ух, ад дзесятага верасьня яшчэ! Каб ты спрахла, як яно завалялася... Вось і не перабяры папкі... А гэта? Справа колектыву „Пушчыцы“. Бачыш ты! Не разарвешся... А ён яшчэ ўпікае! Стаў-бы на маё месца—нябось, то не прадсядацелем... Патрасіся па гэткай дарозе вярстоў па сто на тыдзень—не паздаровіцца. І сёньня—каму спачынак, а гэта, сьпяшы паабедаць ды падавайся йзноў“...

Адхіліўся і паглядзеў у вакно.

На захадзе выдалася чырвоная палоса проміну. Брыжастыя берагі цёмнае хмары тонкаю плеўкаю распаўзаліся над цёмным лесам.

— А вось ды мароз будзе, хоць-бы мала-веля сьціснуў гэтую гразоту. Проста омегам выходзіць. Другі месяц пашоў, і як завяло—ні сьняжынкі.

Што за зіма—трэба цуду давацца, ды годзі-ы!.. Розуму ня возьмеш, як і што гэта чаўпецца. Адкуль тая палоса насунулася?

Заглядзеўся на патухаючы промін.

— Можа ўжо пойдзеце, таварыш начальнік,—нясьмела з-за дзьвярэй пытаў Франук:—ужо меркне на вуліцы... Ці мо' лямпу засьвяціць?

Астап адвярнуўся ад вакна, пасьпешна зляжыў паперы і завязаў папку.

— Іду, зьбірайся запіраць канцылярыю.

Стары забразгаў замком і, калі Астап вышаў з свайго габінэту, сустрэў яго словамі:

— Вось пацікаўцеся, як замурзалі падлогу. Цэлы дзень народу, мэрам на вакзале. Ідуць ды йдуць, адкуль ён бярэцца. Яшчэ ніколі ня было столькі. Нанасілі гразі, саломы...

— Дубас злаваўся, раз-по-разу пазіраў у вакно, вас чакаў.

Стары засьмяяўся.

— Далі яму пытлю за сёньнешні дзень! Ня вельмі смашна быць начальнікам. Мне-б на ваша месца—тыдню не паслужыў-бы.

— Чаму, дзядзька? Сьвятыя гаршкі лепяць?

Ён павярнуўся.

— Бывайце здаровы, дзядзька!—і вышаў.

## IV

Падкарэла грязь—браў марозік. З зорнага ціхага неба падалі малюпаценькія пылінкі шэрані і асядалі лёгкаю вільгацьцю на голых дрэўцах хмызьнячку. Стыла вада ў лужынках.

Конь цьвёрда ступаў, прабіваючы слабую кару гразі. Чутна было ў ціхай ночы, як хрусьцела ў каня пад нагамі.

Астап узіраўся ў бок Стадолішч, перакідаючы поглядам палі. Узгрудак, што абымаў пасёлак Глушакі, хаваў гала палёў. Дый ноч брала сваё: зоры—і многа зор, але цем тушыла сваёю сопухаю. Толькі большменш зблізку можна было разглядзець дзераўца ці лужыну, а на поўганоў—чорная сьцяна. „Ці паехаў Гарбузік?“ пытаў сябе Астап: „Можа збаяўся?“

І ўсумніўся, ці ехаць самому.

Бездараж, цемрыва. Кудэю пакіраваць на Глушакі?

За мастом, выехаўшы на ўзгрудак, Астап угледзеў агеньчык. Смуглы, ён выглядаў здалёк воўчым вокам. Але дарма, можна ехаць хоць цярэспаля, нацянькі.

Астап накіраваў каня проста да агеньчыку. Паслушная жывёліна сышла на ральлю і, лезучы па калені ў гразь, пашла полем. Сапла, фыркала, паднімала голаў, блыталася, шукаючы лепшых мясьцін, мяжы ці разоры. Астап лёпаў далоньню па загрыўку, цешыў, угаварваў і тут-жа ўслухоўваўся.

Азіраўся ў бокі, налева й направа, узад.

Агеньчык гарэў роўна, адным промінам, вузкім касьнічком, слаўся к Астапу. І здавалася, ня блізіўся нізваньня, ні каліва.

Астап меркаваў на яго, думаючы:

„Няўжо такі Гарбузік сапраўды распусьціўся? Ці можа тое стацца? Цікава. Няпрыкметна на ім, а ў тым—хто яго ведае. Згадзіўся ахвотна ехаць. Але-ж дарма—я начальнік, прыказаў—мусіць“.

Падпусьціў сумненьня:

„А мо і так, як кажуць? Вось-жа не раскрыў пакражы ў гэтых самых Глушакох. Цэлы месяц валаводзіцца, а канцоў ня відаць, хіба скрывае? Тое можа быць і з бярозамі, прыедзе знарок ноччу і ня нойдзе. Дасьць адгавор, любы“...

Суцешыўся:

„Добра, аднак, што паехаў; трэба выверыць хлопца. Справа вымагае. Ня глянеш, не пасачыш—і распусьціцца. Чалавек—не жалеза, спакусы многа ўсякае“.

Конь шаргануўся між кустоў, фыркнуў і натапырыў вушы. Агеньчык замільгацеў між ралак. З боку нешта зашамала. Астап памацаў кольт—вісеў на рэмені.

Навяло думкі на бандытызм, на той плян, які апрацаваў, далажыў сёньня прадсядацелю і мусіў выпаўніць на наступным тыдні.

„Добры вечар—шкада, што не паехаў у Процьмы. Сьвята, як быццам-бы гуляць да Вікці. А ну-ж і скутак быў-бы...“

Праехаў кусты, рашыў:

„Пагляджу тут і з Паўлам далей; шкода гэткае пары“.

Забрахаў сабака—здалося, агеньчык падблізіўся. Скрыпнуў вочап у студні.

„Адзін, ня ведаюць бандыты, а то-б з кусьцікаў“.

Агляну ўся— кусьцікі згінулі ў процьме ночы.

А вось і гумно, агеньчыкаў з дзесятак.

Да сабакі, што брахала, прыбавілася некалькі новых. Заліліся выем, затрывожылі пасёлак.

Астап завярнуў у двор першае хаты, зьлез з каня, пастукаў у вакно, запытаў:

— Міліцыянэра ня ведаеце дзе?

Маладзіца падбегла к вакну.

— У Асінені Прахора, трэцяя хата.

Забрала Астапа—завярнуў каня, ускочыў і праз мінуту быў у двары Асінені. Вокны, завешаныя фіранкамі. Сьмех у хаце, голас Паўла.

Прыгнуўся на кані і паверх фіранкі зірнуў у вакно. Угледзеў: на ўслоне, адвярнуўшыся сьпіною да стала, сядзеў Павал; сярод хаты стаяла дзяўчына, ухмылялася. У запеку—стары.

Пастукаў Астап у дзьверы—выбег Гарбузік.

— Павал!

— А, таварыш начальнік?!

— Як з парубкаю?

— Нашоў сьляды. Хрышчанік Якаў.

— А што зрабіў?

— Я заўтра наскочу, сёньні...

Астап западозрыў.

— А тут чаго?

Гарбузік замяўся.

— Ведаю, брат... Ну, давай абследуем зараз Хрышчаніка гэтага. Як кажаш?

З хаты вышаў гаспадар.

— Чаму-ж у хату ня зойдзеце? Каня ў прыгрэбіцу... Ах, і служба-ж ваша!

— Некалі.

— Вайдзеце, чаго там, абагрэцца хоць-бы з дарогі. Ня блізкі сьвет, гэтаю дарогаю, гразотаю, сьлякотаю... Ах, ах! Вядзеце каня ў прыгрэбіцу...

Астап здаўся, павёў сьледам за гаспадаром, Павал астаўся каля парогу...

— Служба, ведаеце, і людзі гэткія... хоць-бы і вашы глушакоўцы каторую ўжо бярозу на шляху высеклі? Ці то ёсьць лад, парадак? Жывуць у вас ня бедна, а то та-ж... Ну, як тут добрым будзеш. Нядаўна з пакражаю, а пасьля з гэтымі хлопцамі, што галёкаюць недзе абармотамі— усе ў Глушакох...

Гаспадар маўчаў. Адчыніў вароты ў прыгрэбіцы, увашоў. За ім Астап: да шула прывязаў каня.

— Ну, як там?—запытаў з-пад дзьвярэй Гарбузік.

— Гатова!—адказаў Астап, і не пасьпеў астыць голас, як бухнуў зычны стрэл. Астапу мэрам-бы хто стукнуў каменем у ногу; так моцна, што ён ня ўтрымаўся і кінуўся на зямлю.

— Павал, ратуй!—прагукаў і ад болю сьціснуў зубы, што больш слоў ня вышла.

Гарбузік падбег да Астапа, абмацаў усяго і паглядзеў на руку: была ў сьвежай крыві.

— Памагайце,—вялюча сказаў Павал гаспадару Асінені,—у хату ўнясьці. Бандыцтва, прахвосты!!!—вылаяўся ён.—Спаліць мала ўсе Глушакі!..

Некалькі чалавэк, спагадаючы, падбеглі к двару, загаманілі, завылі сабакі гучней і зласьлівей.

Астапа ўнясьлі ў хату, распранулі, перавязалі рану, палажылі.

Дзяўчына апранула новаю коўдраю, у прыгожа-выплецены дэсань.

— Засьнеце! Якая напасьць!!!

А Павал Гарбузік, перапалоханы, адчайна крычаў:

— Бандыты, шляхты паганыя! Гэткага чалавека згубіць!..

— Што-ж ты да нас маеш—ці-ж гэта нашы, думаеш? Мала брадзягаў бадзяецца зараз? Цудны ты, Павал,—выбачаўся Асіненя.

Але Гарбузік не зважаў, крычучы і тупаючы па хаце.

— За свайго начальніка—адамшчу паганцам!—выгукнуў ён і кінуўся ў дзьверы.

Дзяўчына пагналася ўсьлед.

— Куды ты, Паўлік! Куды ты!

У адказ захрабусьцела гразь пад нагамі Паўлавых ботаў—ён пабег на пасёлак, мэрам-бы гонячыся за кім.

Праз хвіліну пачулася раз-по-разу некалькі стрэлаў.

Асіненя ўзяўся рукамі за голаў.

— Што-о ён ро-обіць, што-о ён робіць?

І тут-жа хапіўся за сьвежа-пасечаныя дровы, што ляжалі пры печы, ды пачаў кідаць у печ, адчыніўшы засланку і мяркуючы засланіцца ад Астапа...

А той драмаў, утомлены, змардаваны. І хатні гоман, і брэх сабак і водгук стрэлаў Гарбузіка зьліваліся ў Астапавым пачуцьці ў нудны шолам прысад, рэдкіх, пасечаных, сіратлівых, пакараных гэтаю зімою— і тых маладых, сьвежых, што ён меркаваў, марыў насадзіць пасьля гэтай нязвычайнай, няпамятнай, гразкай зімы 25 году.

## МЫ ЙДЗЕМ...

**Падабед Язэп**

Зялёна-цёмны, кучаравы гай,
Шумі аб шчасьці ў гордым шуме шат!
Шагае цьвёрда крок у крок нага,—
Агнём палае вольная душа!

Дарогу ўжо ня ўкрадзе мітульга—
Хвалюе чырвань маку наш абшар!
Мы йдзём! Дасягнуць вечна мэту льга,
Калі надзеі звоняць—ня шуршаць!

Нічога, што учора змочана ў крыві,—
Тане, тане яно у часу вір...
Сьпеў горды новаму складае гай!

Сталёвым стаў разгонны сёньня крок,—
Мы йдзём! Гарыць зарою наш зарок...
Дарогу не завіхрыць мітульга...

## З ПОЭМЫ „СЫМОН МУЗЫКА“

**Якуб Колас**

I

Я пайду, адзін пайду я!
Вольны вецер хай гадуе
Мае думкі, мае мары,
Мае песьні, казкі-чары.

Я пайду, міну лясочкі,
Што чарнеюць, нібы бровы:
Там пабачу я сьвет новы,
Там пацешу свае вочкі,
Там другія ўчую словы...
Я міну, міну лясочкі.

За лясочкамі, за гаем
Далі, лёгшы сінім морам,
Вабяць душу мне прасторам
І чаруюць новым краем,
Клічуць к нейкім новым зорам
Далі, зьлеглыя за гаем.

На прасторы сэрцу люба!
Прывітаюць мяне краскі,
І мне будуць баяць казкі,
Мне ўсьміхнецца постаць дуба,
Чараў поўная і ласкі—
На прасторы сэрцу люба!

Пабяжыць у сьвет дарога
Цераз горачкі, лагчынку.
Будзе ветрык гнуць былінку,
І навеюць думак многа
Мне пра мілую дзяўчынку
Далі тыя і дарога.

Я пайду, адзін пайду я!
Няхай дзед сабе сярдуе:
Я яму цяпер ня служка—
Сам сабе хачу быць панам!
Разлучыцца ўжо пара нам:
Вольным быць хачу, як птушка!

II

Гэй, дарогі ў край шчасьлівы!
Гэй, дарогі,
Паясы!
Колькі ножак пранясьлі вы
Праз аблогі
І лясы!
Гэй, дарогі, ніці-кросна
Тканкі кола
І зямлі!
Як зацята—безгалосна
Позьверх долу
Вы ляглі!
Гэй, дарогі-пуцявіны!
Чыёй волі
Вы ганцы?
Што гамоняць каляіны
І на полі
Растанцы?
Вы паведайце нам былі,
Што пісалі
Вам тут дні!
Няхай скажуць вашы мілі,
Як зьнікалі
Тут агні!
Няхай скажуць вашы далі,
Дзе зьвісае
Мгла-туман,
Што яны нам абяцалі?
Хто ня знае
Гэты зман?!

III

Страшнавата, сьцішна ўночы...
Нібы ходзіць хтось, шалпоча,
Пустым сьмехам, дзесь рагоча...

Ці то можа плача Шлёма?
Ня ўсё добра ў яго дома...
А там нешта бы рухома...
Ці то вочы, тыя вочы?
Страшнавата, сьцішна ўночы!

Ноч так зманна, так варожа!
Спатайка наскочыць можа
Нехта страшны з свайго ложа...
А там... што там? Двое, трое...
Гібель страхаў, там іх рої,
І ня зьлічыш ты іх зброі,—
Многа іх!.. ён іх ня зможа:
Ноч так зманна, так варожа!

Хоць-бы вецер выплыў з хмары:
Асьвятліў-бы ён абшары
І разьвеяў тыя чары...
Месяц выплыў, пасьвятлела;
З мроку цэркаўка бел-бела,
Як і ён, глядзіць нясьмела—
Болей страху на іх твары...
Месяц! лепш схавайся ў хмары:

У тым блеску-асьвятленьні
Больш замецен, менш збавеньня—
Страшна гэтае суценьне!..
Ці з кары старога дуба
Нос высоўваецца, губа;
Сьмех, ды страшна, рот бяззубы,
Хтось вылазіць з-пад карэньня...
Страшна гэтае суценьне!

Хлопцу сьцішна і маркотна.
Ноч цянюецца дрыготна...
Дзесь хтось сьвіснуў троякротна...
Сьвіснуў! хто? для якай мэты?
Ці то знак які? прыметы?
Ці то страшны рабін гэты?
Ці то пташка мімалётна?
Хлопцу сьцішна і маркотна.

Ноч глыбее, поўнач скора.
Сьвецяць бледна ў небе зоры,
А карчма з-за касагору
Выглядае так жалобна—
На астрог яна падобна.

Ён, яна стаяць асобна,
Яны разам былі ўчора...
Ноч глыбее, поўнач скора.

Крыкнуў певень дзесь далёка,
Ды так глуха, так глыбока,
Так нясьмела-адзінока!
Ціш, глухота, нема ўсюды,
У вушах бы енкі-гуды,
У вачох той рабін руды...
Што там бачыць яго вока?
Крыкнуў певень дзесь далёка.

Але блізка час сьвітаньня.
Зьнікнуць страхі ўсе дазваньня,
Дык жыві-ж ты, вандраваньне!
Мрок радзее, ноч сьвятлее—
Ноч і добрай быць умее.
Жывіць сэрца зноў надзея,
Сэрца цешаць песьні раньня—
Блізка, блізка час сьвітаньня!

IV

Заблішчала, зазьзяла на ўсходзе лука—
Бераг неба над краем зямлі,
Залатыя чаўночкі ўсплылі.
З безьбярэжнай далі

Разьлівае ўжо блеск агнявая рака,
І чыясь там рука
Аднімае заслону з зямлі.

А з-за краю нябёс вочы ўскінуў дзянёк,
Сыпнуў чырвань на шапкі лясоў,
Жмут нясе залатых каласоў,
Абрусоў, паясоў.

Белы сьвет убіраць, небу сплесьці вянок,
І расьсеяўся мрок,
Адамкнуўся цямраны засоў.

І балуе пажар—іскры сонцавых кос,
Разьнімаецца шырай, дужэй—
Ясны дзень павядзе цяпер рэй!
На душы весялей,

А ўчарашняга дня кроплі вылітых сьлёз
Замарозіў мароз—
Срэбрам іх парабіў, чарадзей!

* * *

## Аркадзь Моркаўка

*Памяці паўстанцаў Андрэя Крывашчокага*
*і Міхася Рудовіча, расстрэляных белапалякамі.*

Мяне сёньня яшчэ лашчыць сонца,
Мяне сёньня цалуюць вякі,
А нядаўна дык боль па староны
Грудзі грыз, сэрца еў,—ды які!
Зарагочуць, бывала, дзяўчаты,
А у рогаце сьлёзы чуваць.
Неспакойнымі сталіся хаты,—
Дык у лес мы пашлі начаваць.
Начавалі под хвояй маўклівай,
Пабунтарску глядзелі на шлях:
Ці ня едзе з заданьнем рупліва,
Ці ня едзе узброены лях.
Начавалі ў балоце імшыстым,
Начавалі калі пад карчом,
Вуха слухала: часам мо' „ўшыстко"
Ці ня згубіцца як панічом.
А калі... дык сьвінцовай падзякай
Мы плацілі за копы пакут,
Мы плацілі за колас усякі,
За дзядоўскі згвалтованы кут...
Го-го-го, лес зялёны, адвеку.
Ты хаваў шмат бунтарскіх галоў,
Памагаў бараніцца ад зьдзеку,
Ад бязьлітасных кіпцяў арлоў!..

* * *

Уздыхнеце, свабодныя грудзі,—
Гэтак добра між хвоек гуляць,
Дый гулялі, пакуль тыя людзі
Загадалі другім: „расстраляць!".
Расстралялі... і чвыр прыгаруніў...
Застагнаў гэтак жаласна гай...
Дык грымеце-ж, свабодныя струны,
Аб ваяках за радасны край!

## ДЗЕНЬ

**Аркадзь Моркаўка**

Шчодра золатам сонца плюскоча
На раку, на муры і на даль.
Горад пенны гудкамі рагоча,
Дзень зьвініць, бы празрысты крышталь.

Дзень зьвініць... то мільёнамі колаў
Уразаецца стальлю у брук,
То гамонкаю радаснай школаў
Аплятае сады, бы павук.

А калі дык магнэсамі хоча
Прыцягнуць да спачынку пад плот.
Дзень бурліць, дзень жыве, дзень рагоча,
Нараджаючы радасьць і пот.

Дзень на рэчцы купаецца ў хвалях,
Час ад часу ныраючы ў глыб,
Дзе так весела ў шкляністых далях
Карагоды мітусяцца рыб.

А вада... не!—пуховыя хвалі
Абымаюць і лашчаць плыты
І шыбаюць крышталямі сталі
На пясок, бы агонь, залаты.

1925 г.

# НОЧЧУ

**Аркадзь Моркаўка**

Месячык цэдзіць праз сіты праменьні
На грамаду камяніц.
Месячык блутае кволыя цені,
Хіліць маўкліва іх ніц.

Рэдкае-ж цэдзіва сьцелецца кужалем
З шэптам пабедным на сьвет:
Цемру начную я здужаю, здужаю,
Здужаю ведзьмаў-кабет.

Сінімі пырскамі пырскну між сьценамі
Ў кожныя лужу і кут.
Бледна-сярэбранай месячнай пенаю
Сьвет будзе мною закут.

Будуць аблутаны сьветлымі чарамі
Танкі муроў-камяніц.
Моладзь згуртуецца шчырымі парамі,
Я-ж пакланюся ёй ніц.

1925 г.

# ВЕЦЯРОК ДЫ СЬНЯЖОК

*(Песьня)*

**М. Грамыка**

За вакном, за дваром сьнегавы буралом
Сьвішча, кліча, кляне, задзіраецца.
То у твар хлестане лебядзіным крылом,
То наскочыць на карк за халодным вуглом,
То па даху віхром прабіраецца...

Бель ўзьвіваецца;
Баба лаецца:
„Каб табе благі лёс!
„Каб-жа ты не данёс,
„Каб цябе ды табой ды пасыпала!
„Вось паркан падапрэш,
„Хоць ты хмаранькі рэж!
„І чаго мяне вынесла—рыпала!
„Ў хаце цёпла у нас,
„І парадак і час...
„Мой зяцёк не абы-што, ды шэсьцьдзесят
„Кожны месяц бярэ,
„Ні сячэ, ні арэ,—
„А да грошы прыладзіў-жа нейкі сват!
„На дачку толькі—зірк!
„Дык яна, як мыш,—нырк!
„І у хаце цяпер перайначыў усё.

„Але так, зяць нішто,—
„Не абмераў кутом,
„Мне за печкаю месца прызначыўшы...
„Каб цябе паралюш!
„Каб табе той каклюш!—
„Ну, глядзі—так і смажа спадніцаю!
„Нібы я не стара,
„Нібы з плечаў—гара,
„Нібы ночкай,—і я маладзіцаю!

„Да кумы-ж я іду.
„Да старой не дайду.
„А язык, далі-бог, так і чэшацца!
„Аб заецьку, аб дачцы,
„Прабачайце, айцы,—
„Аб суседзях усіх,—каб усьцешыцца!
„Мусіць, прыдзецца зноў
„Аглабелькі дамоў,
„Дзе за печкаю месца прызначана...
„Каб табе благі лёс!
„Во, нячысьцік нанёс,—
„Ўсё на сьвеце цяпер перайначана!“...

---

Над руінай старой, над цагельнай гарой
Курыць, веіць мяцеліца, круціцца...
Праз вакнішчы руін то забрэша парой,
Як мінулых гадзін пераграннай ігрой,
То плыве яна качкаю-вуціцай...
Хто занудзіцца,
Той забудзецца...
Вартаўнік на пасту, на каўзучым масту,
Аж на вочы налезла „будзёнаўка“.
А як месяц з-за хмар дасьць усьмешлівы твар,
Заблішчыць у руцэ яго конаўка...
Келіх дыму-агню:
„Стой, я пост бараню!“
Штых трыкутны глядзіцца у месячык.
Той халодны і той
Над руінай гарой...
„Вартаўнік, вартаўнік,—ці ты ўвесь пачыў?“
—„Не заснуў я, ды не!
„Вецер моцна кране,
„Калі толькі хоць крыху забудуся.
„Мне ня спаць на гары,
„Аж да зьменнай пары,—
„Хай у вочы пасыплецца груда ўся!“

---

У-у-у... і-і-і... ўой...
Ссы—ссу—ссі.
Сьпі, сынку мой,
Пасьсі сьняжку, пасьсі!

---

А над садам таксама гудзе буралом.
Але-ж добра у садзе пад сьнежным крылом.

Толькі двом, толькі двом!
Хай для іншых ні сьцежак, ні лавы няма—
Ім дарма, ім дарма!
Бо для гэных, як лявы гарачай струмень,
Як эгіпэцкі цень, гэты месячкаў цень...
А сьняжынкі, як сьлёзкі па шчочках цякуць;
І так хочацца буру і сьвет прыгарнуць!
Ды каб сыпаў, ды сыпаў з паднеб'я сьняжок;
На пушок, на лужок каб насыпаў стажок...
Ды каб месячык толькі вось так не глядзеў;
Каб сьмяяцца над імі, паганец, ня сьмеў...
Калі хочаш,—зірні, як з каханых вачэй
Прабяжыць прамяністы сыгнал, гарачэй
За сузор'і паўднёвых начэй...
Там, на месяцы белым, ні сьнегу, ні бур,
Ні людзей, ні садоў, ні віхур,—
Ён глядзіцца зайздросна на наша жыцьцё,
І сумуе пустыня нябёс—нябыцьцём.

---

Лернік лады пераводзіць,
І стаіць, стары, пад сьнегам.
Ён вачамі не паводзіць
І ня рупіцца начлегам.
Бо сьляпому ўсё аднака:
Дзень ясьнейшы, ночка цёмна...
Белы вочы ў небарака,
Думкі ціхія бяздомны.
Вецер з чорнай барадою
Непаважліва балюе;
Над някрытай галавою
Кошык сьнегавы гатуе...
„Я-го-о па-а-слаўшы-ы
„Неба разу-у-мей-це;
„На зямлі ста-а-яў-шы
„Ветра-амі узьвейце...
„І прышлі ад мора
„Праз горы прарокі,
„Грахі адпусьцілі
„Па людзёх „жастокіх“.
Так сьпявае дзед той, лернік,
Словы нейкія старыя,
Для яго яны глыбокі—
Для людзей яны сьляпыя...

Хай там Кэплер ці Капэрнік
Ставяць зорныя законы,—
Іх ня ведае той лернік,
І нічому ня зьдзіўлёны.
Перад ім часы нясуцца;
Завірыла завіруха;
Перакінуліся троны,—
Гукі трапілі праз вуха...
Кажуць, людцы ўжо ня тыя,
Але-ж вось ідуць па горцы,
Нечым новым занятыя,
І сьмяюцца, богаборцы.
Часам, хто-які спыніцца
Ды падкіне грош у кошык,
А ня просяць, каб маліцца...
І сьляпы схавае грошык,
Ды пашоў круціць па струнах.
І заплачуць струны ў ночы,
Бо ня плачуць яго вочы.
Яго вочы, як той месяц,—
Толькі ў іх няма усьмешкі;
Барада навокал ходзіць,
Нібы хмаравы адзежкі...
Для музыкі ўсё аднака,—
Дзень ясьнейшы, ночка цёмна,
Белы вочы ў небарака,
Думкам ціха і бяздомна...

---

Вецярок ды сьняжок круцяць белы вірок.
Разышліся натоўпы па дворыках.
Помнік ціхі стаіць, нібы белы грыбок;
Бель падучая засьціла зоркі.
Не балюе тут вецер з сівой барадой;
Барада, як і сам, нярухома.
Тут у сьвяты ідуць, ды ідуць чарадой,
Сьпеў дрыжыць у паветры знаёма...
Вулкі моўчкі бягуць,
Толькі дроты гудуць.
Вецер б'ецца у краты мядзяныя;
Ды часамі скрозь рык
Леры просіцца зык,
Са старым, са сьляпым пакіданае...

## АПАВЯДАНЬНІ.

**Панталяймон Раманаў** *)

I

## ТРЫ КІТЫ

Як толькі пранесьліся чуткі, мужыкі зараз-жа выбралі комітэт. У склад яго ўвашлі тры асобы: шавец Мікола, Сьцяпан і крамар.

Міколу выбралі за тое, што ён умеў вельмі доўга гаварыць і мог выдумляць такія штукі, якіх ніхто, апрача яго, не выдумляў.

Сьцяпана выбралі за тое, што ў яго душа была вельмі добрая, што ён заўсёды гаварыў аб тым, каб усім было добра жыць, каб усе былі роўнымі і каб усё рабілася паспраўядліваму. Чалавек ён быў вельмі сумленны.

Крамара выбралі проста затым, што мелі да яго добрыя пачуцьці. Гэтыя-ж пачуцьці далі-б магчымасьць выбраць і пана, каб толькі паказаць, што мужыкі зла ня помняць. Але абраньне пана не адбылося, бо пабаяліся маладых, якія павінны былі хутка вярнуцца з фронту. Вось зачым увага іх спынілася на крамару.

— Ён хоць і жулік вялікі, але дзелавы,—гаварылі мужыкі.

— Бяз жуліка не абыдзешся, бо ён усё ведае, дзе, як і што. Можа будзе ён клапаціцца ня толькі аб сябе, а й аб грамадзе.

— Здаволены сваімі?—пыталі суседнія мужыкі з слабодкі.

— Што можа быць ляпей. Адным словам—тры кіты. Падбор добры.

Працу абраныя разьмеркавалі згодна сваім здольнасьцям. Мікола быў тэорэтык. У яго заўсёды галава працавала ў такім кірунку, каб наладзіць такое жыцьцё, якое яшчэ нідзе ня было. І вось загэтым ён узяў на сябе ідэолёгічны бок і тэорыю. Але ў яго была адна хіба: ён ніколі не згаджаў тэорыю з практыкай. А ўласьцівасьць яго галавы была такая, што яна заўсёды нараджала новыя ідэі. Ідэй гэтых было так многа, што

---

*) Рэдакцыя знаходзіць цікавым пазнаёміць нашага чытача з творамі расійскага пісьменьніка Панталяймона Раманава, як з надта выдатным бытавіком, гумарыстым і здольным мастаком. Творчасьць П. Раманава асабліва, характэрна, дапамінае сабою творчасьць старога расійскага пісьменьніка Гарбунова, толькі з новым, сучасным сюжэтам.

*Рэдакцыя*

ён ледзь-ледзь пасьпяваў іх выяўляць і нават часта сам забываў сёньня аб тым, пра што гаварыў учора.

Ён пачаў з таго, што адразу вёску зрабіў сталіцаю. Паводле яго пляну, патрэбна было адчыніць: школу для дарослых, сталярную майстэрню, агрономічныя курсы, народны дом, пчалярскія курсы, і ўсё адразу і ўсё ў розных памяшканьнях, каб блытаніны ня было.

— А грошы адкуль возьмем?—пыталіся мужыкі.

— Глупства, па дзьве капейкі з усіх зьбяром, вось і ўсё.

— А на агрономічныя курсы—па тры будзе?—пытаўся Сенька.

На другі дзень школа й курсы з пляну выкасоўваліся, бо ў Міколы думка накіроўвалася ў другі бок. І мужыком лягчэй рабілася, бо адна капейка, дзьве капейкі і тры капейкі маглі застацца ў іх кішэні. Мужыкі нават адчувалі большую прыхільнасьць да Міколы; ён так прыгожа гаварыў, а нарэшце, нікому ня трэба будзе за гэта плаціць. І ўсе яшчэ з большай увагай і спакайней слухалі яго.

Такія зьмены ў плянах і пастановах Міколы рабіліся таму, што ён ніколі ня мог уцярпець, каб не пагаварыць пра задуманае з першым сябрам, які пападаўся яму пад руку. Калі-ж такіх сяброў пападалася дзесятка паўтара, то пад вечар задуманае здавалася яму непатрэбным, і ён ад гэтых думак так утамляўся, як-бы пасьля бязупыннай тыднёвай працы.

— Як твая толькі галава ўсё трымае?—гаварылі мужыкі.

Яны ня толькі не прымячалі зьмяншэньня дзейнасьці Міколы, а вельмі часта атрымлівалі ад яе карысьць для сябе: надумаецца Мікола разабраць на школу панскую кухню. Мужыкі разьбіраюць з вялікай ахвотай. Але не пачнуць яшчэ будаваць школу, як у Міколы зьяўляецца новая ідэя.

А цэгла ляжыць вольная.

А ў гаспадарцы яна каму непатрэбна?

І калі Мікола надумаецца пабудаваць баню для грамадзян, узяўшы з кожнага па чатыры капейкі, то выяўляецца, што платы зьбіраць ня трэба, бо цэглу ўсю ўжо разабралі мужыкі сабе.

Мікола сходзіць на тое месца, дзе ляжала цэгла і пераканаецца, што яе ўжо даўно няма.

— Ці з гэтым чортавым народам што-небудзь зробіш?—скажа Мікола.

Пры абраньні Сьцяпана, каторы заўсёды клапаціўся аб тым, каб усім было добра жыць, кожны думаў, што калі Сьцяпан добры чалавек, то, папрасіўшы яго, ён усё зробіць патрэбнае.

А дзеля таго, што ў кожнага была якая-колечы патрэба, дык і йшлі да Сьцяпана. І ён нікому не адмаўляў. Пісаў на паперы якіясь кручкі і накіроўваў крамару для выкананьня.

Але рабілася ўсё звычайна так, што аднаго здаволіць, а другога—не. Напіша аднаму даць карову, і той пойдзе вясёлым, пакуль ня ўбачыць,

што гэту карову патрэбна раней адабраць ад гандляра. Гэта было-б і добра. Але гандляр зьвяртаецца да Сьцяпана з просьбай выдаць яму паперу аб тым, што яго каровы не падлягаюць рэквізыцыі; Сьцяпан, прывыкшы нікому не адмаўляць, выдае такое пасьведчаньне.

Справа бывала так, што калі бядняк, якому Сьцяпан дазволіў забраць карову, зьявіцца да гандляра, каб атрымаць гэту карову, то апошні паказвае яму паперу ад таго самага Сьцяпана і аб тым, што карову забараняецца браць.

Калі паднімалася гутарка пра тое, што трэба падзяліць панскую зямлю, то Сьцяпан зазначаў, што, вядома, несправядліва аднаму ўладаць 1.000 дзесяцінамі, а мужыку ня мець і пяці.

Але калі мужыкі рыхтаваліся прыступіць да справы—падзелу панскае зямлі,—то Сьцяпану раптоўна станавілася шкода пана і ён гаварыў, што лепей крыху яшчэ пачакаць.

— Як вырашыць увесь народ, так павінна й быць. Крыху пачакаем. Хутка зьбяруцца ўсе.

— Да якога-ж часу чакаць? Есьці няма чаго,—заяўляў хто-небудзь.

— Ну, дык я табе пісульку напішу да арандатара. Ён дасьць табе мукі.

— Дык ты толькі аднаму напішаш?..

— Чаму аднаму, магчыма і другім.

І ўсе, акружыўшы Сьцяпана, атрымлівалі ад яго дазвол і беглі да арандатара па муку. А праз дзесяць хвілін прыбягаў арандатар і прасіў:

— Галубок, выдай хутчэй пісульку, калі ласка, а то ўсё забяруць!.

Чым больш Сьцяпан выяўляў сваёй дабраты да ўсіх, тым больш яго ня любілі. Нарэшце справа дашла да таго, што мужыкі не маглі спакойна чуць яго імя, каб ня вылаяцца моцнымі слоўцамі, зачапіўшы імі бацькоў ня толькі чужых, але і сваіх.

Крамар, згодна сваёй здольнасьці, працаваў у гаспадарчым кірунку. Галоўную ўвагу ён зьвярнуў на коопэратыў. Але ўсю сваю здольнасьць ён накіраваў у адзін бок: толькі стараўся для сваёй карысьці, зусім забыў пра грамадзян.

Перад вялікаднем паехаў ён па тавар і прывёз чамусь аднаго толькі мыла. Прадавалі яго дзешава. Усе мужыкі падыходзілі да лаўкі, на якой ляжалі брусочкі шэрага мыла, глядзелі на яго, бралі ў рукі і клалі на месца.

— Можна і мыцца, можна і разгаўляцца,—сказаў Сенька.

А дзеля таго, што мыла, як казаў крамар, было многа прывезена, то ён і пачаў яго прадаваць самастойна. У коопэратыў-жа пасадзіў крамар свайго блізкага сваяка, у каторага нос заўсёды быў у сажы і правая рука якога заўсёды паднімалася разам з левай.

Парашылі зрабіць рэвізію. Сабраліся, паклікалі дзячка ў вялікіх галёшах і поўвопратцы, з касой маленькай на галаве. Пачалі праглядаць

кніжкі. Выявілася, што ў касавай кніжцы запісаны тры сьвіньні. У радку, дзе стаяць рублі і капейкі, напісана: „паступіла тры сьвіньні“.

— Куды-ж ты іх загнаў!—сказаў дзячок.

— Гэта тут я зрабіў памылку, іх вось куды трэба...—сказаў чорнаносы сваяк крамара і пачаў правай рукою чухаць патыліцу, а ў гэты час паднялася і левая яго рука.

— Ты, мусіць, ня тэй рукою пісаў,—сказаў Сенька.

— Ты лепш вядзі справу,—сказалі сябры комісіі.

— А мыла дзе ў цябе запісана?

— Мыла не запісана. Яно ўсё ў абмен пашло,—адказаў чорнаносы.

Калі з крамаром пачыналі гутарыць пра зямлю, то ён (бо ў самога было дваццаць дзесяцін купленай) адказваў:

— З гэтым трэба крыху пачакаць, як усе вырашаць гэта пытаньне. Вось яны хутка зьбяруцца. За тое-ж мы з вас падаткаў ніякіх не бяром. А без закону ня можна.

Калі хто-небудзь зьвяртаўся да яго з пісулькай ад Сьцяпана, які прапанаваў выдаць на хату цэглы, то крамар гаварыў:

— Няма цэглы, на школу забралі.

— На якую школу? Яе-ж яшчэ няма.

— У Міколы запытай.

Той ішоў і да Міколы.

— Цэглу з разломанай кухні браў?—пытаў Мікола.

— Браў.

— Дык чаго-ж ты яшчэ хочаш?

Адным словам, усе цярпелі ад траіх. З аднаго боку, ад багатай фантазіі Міколы, з другога—ад добрай душы Сьцяпана, з трэцяга—ад вялікага таленту крамара.

— Гэтаму чорту ў сьвятыя трэба йсьці, а ня справамі кіраваць,—гаварылі пра Сьцяпана.

— Вось заселі злыдні на грамадзкай шыі. Калі-ж гэта з фронту прыдуць?

— Хто-ж вам выбраў гэткіх?—пытаўся хто-небудзь у мужыкоў.

— Самі, вядома. Хто мог апрача нас!

2

## РАБАЯ КАРОВА

Пры падзеле панскай жывёлы перш-на-перш парашылі надзяліць бядноту.

Сьцяпан, якога выбралі ў комітэт за тое, што ў яго была добрая душа, здавалася, быў вельмі здаволен, што яго мары выконваюцца. Ён хадзіў у настроі радасьці й сьмеху. Усе іншыя мужыкі былі таксама здаволены. На іх твары, здаецца, было напісана аб тым, што яны бяруць выключна дзеля таго, каб гэта аддаць бядноце.

Беднота чакала, што ёй дадуць па карове.

Супроць былі толькі тыя, у каго й сваіх кароў было шмат: гандляр, гароднік ды Янка Мікітаў, здольны й стараны мужычок. Ён хоць яўна і ня выказваў свайго жаданьня, бо быў вельмі асьцярожным, але можна было заўважыць, што ён не згаджаўся з агульнай пастановай мужыкоў.

Супрацiўнікаў была такая нязначная колькасьць, што ніхто на іх і ўвагі не зьвяртаў.

— Прапаную дарэмна жывёлу не раздаваць, а за плату,—сказаў крамар, вышаўшы на сярэдзіну.

— А грошы на што пойдуць?—запытаў хтось з грамады.

— Грошы паложым у комітэце. Будзем зьбіраць грамадзкае багацьце для здавальненьня запатрабаваньняў усіх грамадзян,—адказаў крамар і адышоў у бок, як выканаўшы свой абавязак.

Усе глядзелі адзін на другога і ня ведалі, што сказаць на гэту прапанову. Чакалі вырашэньня справы ад таго, хто пачне гаварыць першым.

— Што-ж, згодны,—сказаў Хведар, які меў добры характар і згаджаўся з усякімі прапановамі.

— А ці шмат на кожнага прыдзецца?—запытаў увесь час маўчаўшы Янка Мікітаў.

— Чаго прыдзецца?—сярдзіта сказаў Сьцяпан.

Янка Мікітаў ня здолеў растлумачыць яму, што ён разумеў пад сваім пытаньнем і маўчаў.

— Згодны,—сказалі ўсе, апрача гандляра і гародніка, якія сядзелі збоку на бярвеньнях і, шчыплючы свае бароды, глядзелі на воблакі і як-бы зусім ня цікавіліся гэтым пытаньнем.

— Хто за тое, каб надзяліць беднякоў?—крыкнуў Сьцяпан.

Усе, за выключэньнем гандляра, гародніка й Янкі Мікітавага, паднялі рукі.

Пры гэтым трэба адзначыць, што й Янка Мікітаў таксама зрабіў нейкі рух, каб падняць руку, але гэты рух быў такі не акрэсьлены, што здавалася ён паднімае руку дзеля таго, каб пачасаць галаву.

— Большасьць за тое, каб надзяліць. Хто супроціў?

Супроціў не паднялася ні адна рука.

— Хто ўстрымаўся?

Гэткіх таксама ня было.

— Прынята аднагалосна,—вельмі хутка прагаварыў Сьцяпан, усё роўна як баяўся, каб мужыкі не перадумалі.

Падышло яшчэ больш народу і ўсе рушыліся да маёнтку рабіць падзел.

Уперадзе ішоў Сьцяпан, за ім крамар, які трымаў у руках шчоты, пасьля йшлі беднякі, за імі серадчякі, а ў самым хвасьце пляліся два сябры—высокі маўклівы Сідар і маленькі Афоня.

Вывелі першую карову. Яна дасталася бедняку Захару Аляксееваму.

— Вядзі, браце. Памажы божа. Дзешава атрымаў.

— Вось гэта на малако была-б добрая,—сказаў сабе пад нос гандляр

— Яе трэба добра карміць,—сказаў гароднік.—А ці-ж ён яе пракорміць?

— Грамадзяне, ня ваша гэта справа. Адыйдзеце, не перашкаджайце.

— Мы й не перашкаджаем. Мы паміж сабою гаворым, а гэтага ты нам забараніць ня можаш.

Другая карова дасталася худой бабе Кацісе.

— Вось гэта на мяса вельмі добрая.

— Грамадзяне, не гаварэце пад руку,—крыкнуў Сьцяпан, калі заўважыў, што пасьля слоў гандляра ўсе пачалі больш уважліва прыглядацца на каровы.

Калі вывелі трэцюю карову, дык зараз-жа падбеглі засопшыся чужы мужык і дзьве бабы.

— Галубчыкі...—толькі й здолелі прагаварыць бабы, бо іх вочы разьбягаліся і яны ня ведалі на якія каровы глядзець,—на тыя, што выводзілі з хлява, ці на тыя, што мужыкі ўжо вялі з двара.

На іх усе паглядзелі.

— Чые вы?

— Малчанаўскія...

— Што вам трэба?

Бабы ці ня здолелі адказаць, ці іх думкі былі заняты іншым: вочы іх упёрліся на выведзеную з хлява рабую карову з вялікім дойлам. Адна баба падбегла да каровы й пачала яе мацаць, ні на кога не зьвяртаючы ўвагі.

— Ай, міленькія, а якая-ж прыгожая... Галубчыкі...

— Што ты, баба, ці не адурэла?...

— Што вам трэба?—запытаў салдат Андрушка і адцягнуў бабу ад каровы.

— Чуеш ці не... адказвай!

Баба закасьцянела.

— Кароўку нам...—прагаварыла другая.

— Ці не патрэбна яшчэ што-небудзь?..

— Авечка трэба,—сказала баба, якую Андрушка ўсё яшчэ трымаў за хвост вопраткі і ў якой адразу разьвязаўся язык.

— Ты чаго ў чужы гарод лезеш?—сказаў нарэшце гандляр і ўвашоў у грамаду.

— Таварыш, так ня можна гаварыць,—сказаў Сьцяпан:—у нас цяпер няма чужога, усё агульнае.

Гароднік паглядзеў на Сьцяпана коса.

— Так, агульнае,—ціха прагаварыў Янка Мікітаў,—але пападае ўсё адным, а другія толькі аблізваюцца.

— Ты якой воласьці?—спытаў толькі што прышоўшы сюды шавец Мікола, старшыня комітэту.

— Вашай-жа воласьці. Мы малчанаўскія.

Мікола прыдаў свайму пытаньню такую сур'ёзнасьць, што ўсе зьвярнулі на яго ўвагу.

— Вы бednякі ці не?—запытаў ён з такой павагай, з якой доктар пытаецца ў хворага, ці ёсьць у яго гарачка ці няма.

Тая баба, каторую Андрушка трымаў, адскочыла ад яго й расшпіліла свой кажушок так хутка, што ў ім трэснулі ўсе кручкі.

— Глядзі! вось табе крыж!..—Яна пачала аглядацца навакол, каб убачыць дзе-небудзь царкву.

Пад яе кажушком ніхто ня прымеціў чаго-небудзь асаблівага. Невядома, нават, дзеля чаго яна расшпілілася. Але яе такі сьмелы, сур'ёзны рух, мабыць, усіх у чымсь пераканаў.

— Трэба даць,—сказаў Мікола.

І ён, адвярнуўшыся, плюнуў.

Усе ўважліва паглядзелі на Міколу.

— Што-ж, давай,—сказаў Хведар.—Калі-б не адчувалі патрэбы, дык не прасілі-б.

— Давай,—сказалі іншыя.

— Запішы іх у кніжку.

Бабы павялі рабую карову. Янка Мікітаў доўга глядзеў у той бок, куды пашлі бабы з кароваю. Іншыя мужыкі зрабілі гэта самае.

— Цяпер трэба даць самаму бяднейшаму. Андрэя Гаруна патрэбна надзяліць. Грошы можаш заплаціць?

— Акуль у мяне грошы,—сказаў худы й босы Андрэй,—вось яно, глядзі...—І ён, як і тая баба, расшпіліў сваю парваную вопратку.

Усе пераглянуліся паміж сабою і маўчалі, бо ня ведалі, што сказаць.

— Пасьля заплаціш,—сказаў Сьцяпан і махнуў рукой.

— Вядомая рэч,—згадзіўся Хвёдар,—што з беднага цяпер браць?

— Пасьпеем яшчэ,—сказалі другія галасы.

Чым больш выводзілі кароў, тым больш радаваўся Сьцяпан.

— Каб нам толькі беднякоў паставіць на ногі,—гаварыў ён неспакойна.

— Бядноту на ногі хочуць паставіць,—сказаў ціхенька маленькі Афоня Сідару, з якім ён стаяў збоку.

— А рабая карова вельмі прыгожая,—прагаварыў ціхенька-ціхенька Янка Мікітаў.

— Так...—згадзіўся з ім хтось.—Толькі ўсю ноч будзе сьніцца яна.

— З гэткім дойлам за карову можна 300 рублёў узяць,—сказаў гандляр і плюнуў.

— І чорт іх падвярнуў пад руку.

— І ня відно было, адкуль яны прышлі.

— Ад паповага будынку йшлі,—сказаў шавец Мікола.

Усе паглядзелі ў бок паповай будовы.

— Паплылі нашы каровачкі,—пачуўся чыйсь голас.

— Пачакай, паплыве й хлябец.

— Хлябец, кажуць, таксама паплыве,—заўважыў Афоня Сідару.

— Ідзеце вы к чорту!—ні з сяго, ні з тага крыкнуў гандляр.—Дай дурням волю, дык яны ўсіх па сьвеце пусьцяць. Гэта карова малочная, а вы яе каму даіцё? Ці-ж ён будзе даіць яе?

Усе паглядзелі на карову.

— Што гэта за парадак, што аднаму даюць, а ўсе іншыя бяз нічога застаюцца?—прагаварыў Янка Мікітаў.—Ці ня лепш, каб яе зарэзаць ды падзяліць...

— Толькі й гутаркі, што пра гэтых бедных,—сказаў гароднік.—Яшчэ чарцей навязалі на шыю, хутка іх абуваць-адзяваць прымусяць.

— Які гэта дурань выдумаў? Пароўну ўсё трэба дзяліць.

— Грамадзяне!—сказаў крамар,—пастанова зроблена на агульным сходзе. І скасаваць гэту пастанову можа толькі агульны сход.

— Зьбірай сход!—закрычаў гандляр. Мы іх зараз.

— Каго-ж табе зьбіраць, калі ўсе тут?

— Пытаньне ставіцца на галасаваньне,—заявіў крамар.—Хто за тое, каб...

Ззаду паднялося некалькі рук.

Крамар паглядзеў на іх і затрымаўся.

— Яшчэ нічога не сказалі, а вы ўжо рукі паднімаеце! Апусьцеце іх зараз-жа.

— Ох, хутчэй-бы ўжо,—пачуўся жаночы голас.

— Хто за тое, каб...

— Чаму ён, чорт, ізноў спачатку?

— Хто за тое, каб даць бяднейшым?—крыкнуў крамар.

Некалькі рук, ня выслухаўшых добра ў чым справа, падняліся ўгору, але хутка апусьціліся.

— На людзей глядзі!—сярдзіта сказаў гандляр і сам павярнуў галаву ў іх бок.

— Хто за тое, каб бяднейшым... не даваць?—крыкнуў крамар.

Адразу падняўся цэлы лес рук.

— Гэй, бабы, па дзьве рукі не паднімаць!—крыкнуў крамар.

— Гэта я за сьвёкра.

— А вы чаму паднімаеце?—запыталі ў бяднейшых, рукі каторых тырчалі ўгары.

Яны, як-бы нехаця, апусьцілі рукі.

— А хіба нам ня трэба?

— Ня трэба.

— Прынята большасьцю,—сказаў крамар і махнуў рукою.

— А нам куды цяпер?—запытаў Андрэй Гарун і падышоў да гандляра.

— Вам куды? Да чортавай мацеры, вось куды,—адказаў гандляр.

— Да чортавай мацеры паслалі,—сказаў Афоня Сідару.

## 3

## СЬВЯТАЯ ЖАНЧЫНА

Ад пачатку перавароту з бяднейшымі зрабіліся тры розных зьмены.

Сьпярша толькі й думалі пра іх: як пачнуць што-небудзь рабіць, то зараз-жа дзесятак галасоў з розных бакоў крычыць:

— Пра беднякоў не забудзьце. Іх у першую чаргу надзяліць неабходна.

— Знаем бяз вас,—гавораць комітэтчыкі,—а затым і ўзяліся за справу.

— Так, так, мы-ж не сабе бярэм.

— Ці нам усё гэта патрэбна?

— Нам, каб хоць іх на ногі паставіць.

І ў першыя часы беднота зьяўлялася асяродкам усёй увагі комітэту.

У Захара Аляксеевага даўно ўжо страха цячэ, і кожны раз пасьля дажджу ён як выходзіць з хаты, то ў сенцах адразу пападае ў вялікую лужыну і, спыніўшыся на парозе, доўга разглядае свой лапаць, у які пападала шмат вады. Але страхі Захар не папраўляў, а сядзеў на прызьбе і, апусьціўшы галаву на калені, усё аб чымсь думаў.

— Чаму ты страхі не паправіш, Захар? — пытаў хто-небудзь, як праходзіў каля яго хаты.

Захар Аляксееў паднімаў галаву і глядзеў сьпярша на таго, хто цікавіўся яго хатаю, а затым паднімаў вочы і на самую страху.

— Як-жа яе папраўляць, яна ўжо зусім старая,—адказваў ён,—вось, як комітэт...

Пасьля гэтага За́хар Аляксееў адыходзіў на сярэдзіну вуліцы і адтуль, прыкрыўшы рукою вочы ад сонца, доўга глядзеў на сваю старую страху, а затым зноў садзіўся на прызбу і аб чымсь думаў.

У першыя часы перавароту беднякі маглі зусім не зьяўляцца на агульныя сходы, каб прасіць там дапамогі: аб іх усе памяталі.

Бедная жанчына Сьцепаніда, якая ня мела сваёй зямлі і ў якой было пяцёра дзяцей, ніколі нічога не прасіла, але комітэт сам аб ёй пакалапаціўся: пры падзеле панскага багацьця далі ёй у пазыку каня, харчы, воз і, нават, калёсы для перадка.

— Ці ўсё-ж людзям жыць у недастачы. Пры старой уладзе галадалі ды яшчэ й цяпер галадай,—гаварылі мужыкі.

Але калі коні беднаты паелі той харч, які дастаўся ад падзелу панскіх запасаў (вядома, аднаго возу магло хапіць ня больш як на месяц), то беднякі пачалі ўжо самі гаварыць пра свае запатрабаваньні.

Праўда, голасу іх амаль што ніхто ня чуў, бо час гэта быў вельмі сьпешны: кожны думаў пра сваю карысьць.

Янка Мікітаў стараўся хутчэй адаслаць у горад мяшэчкі мукі, якія яму дасталіся ад падзелу. Ён баяўся, каб не сказалі пры новым падзеле, што ў яго многа старое мукі. Яго, нават, рукі дрыжэлі ад спадзяванага прыбытку. Ён ужо забыў пра бяднейшых.

Гандляр парэзаў свае цяляты й каровы і выменьваў іх на сьпірытус. Яго таксама ня цікавілі бяднейшыя.

Гароднік быў заняты сваёю справаю і ён таксама забыў пра беднякоў.

І чым больш беднота заяўляла пра свае запатрабаваньні, тым менш было вынікаў. Усе заняліся сваімі ўласнымі справамі, і яны толькі перашкаджалі на кожным кроку ім.

Захару Аляксееваму прышлося ўжо знайсьці новае месца, на якім-бы яму ніхто не перашкаджаў будаваць свае пляны. Замест прызбы, дзе ён звычайна сядзеў раней, Захар выбраў сабе ганак чайное, у якой зьбіраўся комітэт.

І калі здаралася, што які-небудзь сябра комітэту хутка йшоў на пасяджэньне і тут натыкаўся на Захара, на галаве каторага была зімовая шапка, а ў руках палка, то комітэтчык, плюнуўшы, варочаўся назад, за вугал і ўваходзіў у будынак з другога ганку.

Бяднейшыя ўжо пачынаюць больш сур'ёзным шляхам зварочваць на сябе ўвагу. Яны пачынаюць ужываць розныя сродкі.

На іх пачынаюць ужо глядзець, як на нейкую кару бога.

— Вось навязаліся на нашу душу.

— Раней па маёнтках і фольварках увесь век цягаліся, а цяпер нашу кроў хочуць піць!—тонкім голасам крычаў гароднік.

— Чаму вось Сьцепаніда ня лезе ў вочы,—гаварылі ўсе,—яна й хворая ляжыць і ёй усякі гатоў дапамагчы.

— Хоць-бы ёй хлеба занесьці,—кажуць, увесь дзень ня ела нічога.

— Хто на чужую ўласнасьць глядзіць,—гаварыў Янка Мікітаў,—у таго й сваё адбяруць, бо гэта не па закону.

— У цябе вось не адбіраюць,—гаварылі бедНякі,—набіў сабе кішэні. Мы табе закон скора пакажам, мы цябе растрасем. Лепш дабром давай. Мы ня чужога патрабуем, а свайго. Усё наша!

Вось гэта была другая зьмена.

Залатая пара, у якую беднату кармілі толькі словамі, прашла. Яны пачынаюць ужо дамагацца. Іх усе ненавідзелі й баяліся.

— Даняньчыліся!..—гаварыў гандляр.

— Іх трэба было з першых дзён загнаць у барані рог.

— Толькі адна Сьцепаніда... Вось сьвятая жанчына, хворая, пяцёра дзяцей, ня мае хлеба, а ўсё-ж ня лезе. Хоць-бы хлеба ёй занесьці, а то, кажуць, другі дзень ня ела.

І дзеля таго, што ўсе ўтаміліся ад запатрабаваньняў бедната, напалохаліся іх пагрозамі, то ўспаміны пра Сьцепаніду аблягчалі іх душу.

Бедната ўжо пачала крычаць пра новы перадзел усяго: у каго ёсьць многа, трэба адабраць і падзяліць пароўну.

— Толькі цяпер усё падзяліць паміж намі,—крычаў Андруша.—Усё наша. Мы іх пачэшам.

Час ішоў, а да разьдзелу не прыступалі: вялікі настрой бедната паступова слабеў. І Захар Аляксееў, у вольны час, калі яму ўжо надакучала сядзець на прызьбе, сваімі ўласнымі сродкамі дабываў сабе штонебудзь у суседзяў: забытую гаспадаром вязачку дроў, ляжачую на чужой прызьбе аглаблю.

Андрэй Гарун павесіў сабе на плечы торбу, узяў у рукі даўгую палку і кудысь пашоў; пастаяў крыху за гумнамі і зьнік у тумане.

— Адкрылі кампанію,—сказаў Сенька і падмаргнуў.

— Нарэшце за розум узяліся,—сказаў Янка Мікітаў.

Адна Сьцепаніда ўсё ляжала хворая і не магла пайсьці па шляху апошніх. І калі пра яе пачынал і гутарку, дык крамар гаварыў:

— Вось ужо каму, мабыць, ад роду напісана пакутваць: і пры старой уладзе мучылася, бедная, і пры новай...

— І ўсё маўчком пераносіць,—дабаўляў хто-небудзь.

— Сьвятая жанчына. Хлеба-б ёй занесьці, ці што? Трэці дзень, кажуць, нічога ня ела.

4

## ВОСЕМ ПУДОЎ

Мужыкі вялікім натоўпам стаялі ў маёнтку каля торпы сена і ўжо дзьве гадзіны гутарылі, крычалі й спрачаліся наконт падзелу сена.

Спачатку ўмовіліся ўсё падзяліць пароўну. Жыта падзялілі пароўну і вышла добра. Пачалі таксама дзяліць і вазы, але тут вышла непаразуменьне: аднаму прышлася вось, другому калясо. І калі падзел адбыўся, то выявілася, што й сельска-гаспадарчых прылад няма і вазоў ніхто ня мае,—езьдзіць зноў няма на чым. Кароў парашылі ў такім выпадку пароўну не дзяліць, а спачатку даць бедным. Але як приступілі да справы, дык усім адразу стала шкода іх і ўсе пачалі заяўляць пра сваю беднасьць.

— Вось хутка маладыя з фронту прыдуць!—крычалі беднякі, у якіх забралі назад кароў.

Пры падзеле сена засталося шмат нездаволеных.

— Ну, думай, думай, павярні мазгамі,—сказаў гандляр, адзеты ў сінюю вопратку,—трэба разьдзяліць, пакуль маладыя з фронту ня прышлі, а то тады гэта галыцьба завядзе свае парадкі.

— Вось што!—крыкнуў каваль:—кладзі ўсім па восем пудоў, а што застанецца, тое аддаць бедным. І нам добра будзе, і ім ня кепска.

— Правільна.

— Цяпер можаце быць спакойны,—сказаў Сенька бедняком,—кароў не далі, затое сена многа атрымаеце, давайце толькі хурманкі.

— Калі прыцягнуць да адказнасьці, дык каб ужо ўсіх,—прагаварыў ззаду нехта.

Гэткае слова было сказана ў першы раз за ўвесь час.

— Хто гэта народ бунтуе!—крыкнуў сярдзіта гандляр і пачаў аглядаць заднія шэрагі.

Усе таксама аглянуліся, але ніхто не даведаўся, хто гэта сказаў такія словы.

— Ну, ідзеце па хурманкі.

Усе кінуліся бегчы да хаты, засталіся адны толькі беднякі, каторыя ня мелі хурманак; у іх былі толькі восі, аглоблі, якія дасталіся ім ад падзелу і якія яны ў першы дзень са злосьці папалілі.

Праз поўгадзіны ўвесь двор заставілі санямі. Каваль быў у вялікім настроі. Ён бегаў і крычаў, як на пажары. Крамар і гандляр прымчаліся на дваіх санях. Гароднік быў таксама ў настроі: ён падбягаў да сваіх саны, пры каторых стаяў яго хлапец у вялікіх ботах і з пугаю, затым бег да торпы сена, каб паглядзець, ці хваціць для яго сена.

Папершае ўсе ўзялі па вялікаму бярэмю, каб паслаць у санях і даць коням, і гэта ў лік ня йшло.

— Гэй, больш двух бярэмяў ня браць!—крыкнуў старшыня, які стаяў пры сене і трымаў у руках вілкі; ён бачыў, што некаторыя спрытныя мужыкі замест саней панясьлі сена за хлеў.

— Мы й па дзьве добрыя возьмем,—сказаў каваль і яшчэ з большай сілай пачаў уціскаць вяроўкаю сваю вязку сена.

І, праўда, набраў ён так многа, што калі ён нёс да саней, то здавалася, што сунецца на дзьвюх палачках цэлая капа сена.

Бабы, якія прыехалі без сваіх мужыкоў, патаміліся нашчэнт, хапаючы сена. Сталярыха навязала гэткую вязку, што ніяк не магла падняць. Яна са злосьці заплакала і пачала глядзець на торпу, дзе мужыкі з усіх бакоў, як тыя мурашкі, цягалі сена, і плаксіва прагаварыла:

— Госпадзі, бацюшка, сілы няма.

— Проста кішкі сабе выпусьцяць,—гаварылі мужыкі, гледзячы на мучэньне баб.

— Гэй, па восем пудоў, больш ня браць!—крычаў старшыня.

— Чаго стаіш і лыпаеш вачыма!—закрычаў і падбег да сына ўвесь потны гароднік. Ён ужо некалькі раз вярнуўся з-за хлява і быў увесь абсыпаны дробным сухім сенам.—Кладзі!

— Пасьпеем,—адказаў сын.

— Дурань заўсёды пасьпее, а разумны за гэты час два вазы завязе.—І сам схапіў каня за лейцы, і хутка памчаўся збоку саней да сена.

— Паганяй скарэй!—крычаў ён сыну, калі той пад'яджжаў да варот з поўным возам сена.—Сам заставайся дома, а замест цябе няхай Міць-

ка прыедзе, ды скажы, каб ён тваю шапку не надзяваў, а то ходзіце ў аднэй і за дзесяць вёрст можна пазнаць, што з аднае хаты.

Каля сена кіпела гарачая работа. На самай торпе працавала чалавек дзесяць здаровых мужыкоў, якія як-бы баранілі гэта сена ад пажару і ў некалькі вілак кацілі яго на вазы. Тое сена, каторае не пападала на вазы, а валілася на зямлю, хутка кудысь прападала, усё роўна як правальвалася ў вялікую яму.

— Ты чаму так многа бярэш!—крычаў старшыня на каваля, каторы гэталькі наклаў сена, што аж сані яго трашчалі і сам ён сядзеў на возе, як на якой званіцы.—Колькі гэта яно ў цябе зaважыць?!

— Восем пудоў...—адказаў каваль хрыплым голасам.

З яго ліўся пот, увесь ён быў у дробным сене, але яшчэ падхваціў жмак сена і ўтаптаў яго нагамі. А ў вароты ўжо нясьліся тыя, хто раз пасьпеў завезьці.

— Глянь! гэтыя прахвосты йзноў прыехалі...

— Вы чаго сюды яшчэ зьявіліся?

— Мы толькі паглядзець...

— Браткі, будзьце сумленнымі!—крычаў тоненькім галаском Сьцяпан.

— Усё добра будзе,—адказаў каваль і пачаў уціскаць свой воз.

Да хаты з сенам так шпарка несьліся мужыкі, што трудна было разьмінуцца.

Як забралі ўсё сена, зьявіліся сюды бяднейшыя—Сьцепаніда й Захар Аляксееў, якія ўвесь час бегалі па вёсцы і прасілі хурманку, бо тэй-жа Сьцепанідзе пры падзеле дастаўся перадок з старымі калёсамі.

Захар Аляксееў, на якім быў кажушок і на галаве з аўчыны шапка, прыбег сюды з такім адбіткам на твары, што яго можна было палічыць за гаспадара, які прыбег на пажар свае хаты ў той час, калі ўсё ўжо згарэла. Ён стукаў рукамі па сваім кажушку, глядзеў то на тое месца, дзе ляжала сена, то на накладзеныя вазы.

— Іван Мікіціч, зрабі ласку, дай сані.

— Няма ў мяне саней...—адказаў Янка Мікітаў і зараз-жа некуды пабег.

Да якой кучкі беднякі не падыходзілі, ніхто ім ня даў саней. Усе разьехаліся. Засталіся Захар і Сьцепаніда, каторыя ўважліва пазіралі адзін на другога.

— Дык чаго-ж турбавацца, калі сказана—па восем пудоў...

— Так, па восем, але ты хватай скарэй,—сказаў якісь мужычок, толькі што наклаўшы сабе другі вазок, і хутка паехаў.

— Скончылі?—крыкнуў старшыня.

— Скончылі.

— У самую гарачую пару так не працаваў,—сказаў каваль, пасунуў на патыліцу шапку і пачаў фартухом выціраць з твару пыл і пот.—Восем пудоў, а сапрэў так, што ўвесь кажушок мокры.

— А нам што-ж засталося?!—сказалі бяднейшыя.

— Вось усё ваша,—адказаў Сенька,—дзялеце. Толькі будзьце сумленнымі.

5

## ГОЛАС НАРОДУ

Пранеслася чутка, што комітэты будуць зьніштожаны, а заместа іх будуць саветы. З Масквы з заводу прыехаў Аляксей Гураў, які кожны дзень зьбіраў навакол сябе маладых салдат, каторыя папрыходзілі з фронту і пра нешта ўсё з імі гаварыў.

Старыя сябры комітэту, асабліва крамар, занепакоіліся. Крамар, як спаткае каго-небудзь на дарозе, то зараз-жа й говорыць.

— Што робіцца!.. Толькі пачалі абжывацца, а яны цяпер усё разьнясуць. Гэта галыцьба праціўная сама ніколі нічога ня мела і другіх цяпер хоча голымі па сьвеце пусьціць.

Раней, калі крамар быў старшынёю, ён быў надта сур'ёзным, да яго трудна было прыступіцца, і ў мужыкоў ужо пачало зьяўляцца нездавальненьне. Але цяпер ён зрабіўся такім добрым і гутарлівам, што ўсе пра яго гаварылі:

— Ад дабра дабра ня шукаюць. Нам новых ня трэба.

— Яны ўсе разбойнікі,—гаварыў крамар:—у іх няма й бога, нічога няма.

— Гэта праўда, пра бога цяпер ня думаюць.

— А ці разумеюць яны што-небудзь у справах?—казаў далей крамар.—На кожнае дзела патрэбна асаблівая спэцыяльнасьць, а яны, апрача таго, што горла драць, больш ні на што не гадзяцца.

— Гэта што там...

— Мы працавалі на вас, можна сказаць, зрабілі пачатак, а яны хочуць гатовенькае падцапаць, а нас далоў. Ці-ж правільна гэта?..

— Хто там хоча!—пачуліся галасы.—Мы выбіралі вас, значыць, наша воля. Нам патрэбны дзельныя людзі, адным словам, каб чалавек быў здольны. А гэта што... галыцьба яна й заўсёды галыцьбой застанецца, як гэты й Алёшка. Апрануўся ў паліто і ўжо думае... Калі толькі гэты корань акаянны зьвядзецца.

— Значыць падтрымаеце?—пытаўся крамар.

— Ня бойцеся. Мы за вас усе, як адзін чалавек, паднімемся... голас народу, браце, адным словам... Калі мы ўжо вас выбралі, вам даверыліся, значыць, крышка ўсяму.

— А то прыдуць нейкія галадранцы, у каторых мацерына малако на губах яшчэ ня высахла і—калі ласка, выбірайце іх.

— Сіланціч просіць таго... каб яго падтрымалі—гаварылі мужыкі тым, якія ня прысутнічалі пры гутарцы.

— Гэта можна.

— Ну, бачыш,—усе, як адзін чалавек, за цябе стаяць. Пастаў, браце, магарычу. Падтрымаем! Хоць іншы раз і прыціскалі нашага брата, але што там, бяз гэтага немагчыма.

— Я павінен быў, на падставе,—гаварыў крамар.—Каб была мая воля, дык-бы я з усімі, як з братамі. А калі іншы раз за справу, дык разумееш сам, так трэба.

— Правільна!—гаварылі мужыкі.—А што сур'ёзным часамі быў, дык з нашым братам інакш ня можна; ты з імі хочаш на „шляхетнаму", а яны табе ў кішэню накладуць.

— Значыць, магу спадзявацца?..—пытаў крамар.

— Сказалі ўжо, чаго там! Проста як адзін чалавек устанем.

У нядзелю каля школы сабраліся мужыкі. Усе сядзелі на траве, на бярвеньнях, курылі, гутарылі й паглядалі на дзьверы школы, у якія пашлі маладыя салдаты з фронту з высокім чалавекам, на якім было паліто з барашкавым каўняром.

— Чаго яны так доўга там сядзяць?

— Хочуць разумнымі сябе паказаць.

З школы вышаў салдат і паклікаў усіх на сход. У пярэдняй частцы школы, дзе звычайна сядзеў прэзыдыум комітэту, за столікам сядзеў Аляксей Гураў, а каля яго два маладыя салдаты ў шынялёх і ў шапках.

— Шапкі можна й зьняць,—ціхенька нехта сказаў у задніх шэрагах.

— Іх галовы паветра ня любяць,—адказаў жартлівы голас.

Крамар стаў каля вакна ў пярэдняй частцы школы на відным месцы і аглядаў усіх. Яму ўсе падморгвалі. Сьцяпан, таварыш старшыні, ціхенька сядзеў каля вакна. Міколы шаўца нідзе ня відно было: ён, мусіць, апазьніўся на сход.

Аляксей Гураў, каторы сядзеў за сталом, таксама, як і крамар, глядзеў на ўсіх і здавалася, што ён хоча, каб хутчэй усе паселі на свае месцы. Твар яго быў сур'ёзны. Ён не пазнаваў знаёмых, у галаве яго былі як-бы зусім іншыя думкі.

— Усё роўна, як начальства якое... Сеў сабе за стол, хоць ніхто яго й не прасіў... Чаго-ж гэта Сіланціч маўчыць?

— Наглы чалавек і больш нічога,—каму ахвота зьвязвацца?

— Усё роўна. Калі просіў яго ўсе,—дык ніякая нагласьць не паможа,—гаварылі ў розных кутках.

— Селі?—пранёсься моцны спакойны голас Гурава.

— Селі,—адказаў нездаволены голас з задніх шэрагаў.

— Ну, вось і добра! Вы старым прэзыдыумам здаволены?

— Здаволены!—адказалі разам галасы, і некаторыя мужыкі пагледзелі на крамара.

Крамар апусьціў вочы ўніз.

— Добра. Цяпер па дэкрэту комітэты касуюцца. Заместа іх трэба організаваць саветы. Прэзыдыум можаце заставіць старьі, можаце выбраць і новы.

— Спадзяваліся, што ён нагласьць сваю пакажа, а ён—нічога, па „шляхетнаму“,—пасьля некаторага маўчаньня пачуўся голас з вугла.

— Ён як-бы нічога, дзельны, а ня тое, каб...

— А чаму вы здаволены старым прэзыдыумам?—запытаў Гураў.

Усе маўчалі.

— Зямлю яны вам падзялілі?

— Наконт зямлі гутарка была,—адказаў хтось нясьмелым голасам.

— А падзелу ня было яшчэ?

— Загадалі пачакаць,—адказаў той-жа голас.

— Значыць, чакаеце па ўласным жаданьні?..

— Па ўласным... каб усё рабілася парадкам,—сказаў Янка Мікітаў,— а ня так сабе.

Пасьля гэтага ён хмурны сеў і паглядзеў на крамара. Той таксама паглядзеў на яго.

— А яшчэ наконт чаго была гутарка?

— Ці мала наконт чаго гаварылі...—адказаў ізноў нехаця голас ззаду.

— Наконт хлеба была. Хлеб і жывёлу ўжо падзялілі.

— А ў каго яна, гэта жывёла?—запытаў Аляксей.

— Да гандляра ў госьці пашла...—сказаў Сёмка Цесьля,—яна багатых вельмі любіць.

— Так, так,—сказала некалькі галасоў,—бедным далі, а яна йзноў да багатых пабегла.

— Так...—сказаў Аляксей; ён усё сядзеў за сталом, трымаў у руках аловак і круціў яго за рубчыкі.—А сеяць на панскай зямлі будзеце?

— Загадалі пачакаць. Як там вырашаць...

— Дык вы здаволены?

— Вось, чорт, спавядаць пачаў. Кручком за губу злавіў і вядзе,— сказаў злосна Янка Мікітаў, а пасьля моцна дабавіў.—Чым здаволены?

— Ды тым, што пачакаць загадалі...

— Чым-жа тут быць здаволеным?—адказаў Янка Мікітаў, але паглядзеў на крамара і яшчэ больш злосна прыбавіў:—вядома, здаволены, бо парадак.

— Так... А калі цяпер такі закон выйдзе, што бяры зямлю і— ніякіх!

Усе пераглянуліся паміж сабою.

— Чым хутчэй, тым лепей,—сказаў Янка Мікітаў, а крамар у гэты час падняў галаву.

Усе паглядзелі на крамара.

— Як-бы Сіланціча не пакрыўдзіць...—сказаў нехта.

— А чым яго пакрыўдзім. Яму што? Ён ці што будзе несьці адказнасьць? Калі такі закон вышаў... Выберам яго ў савет дый усё.

— Чаму-ж, калі такі закон ёсьць, дык чаму ня браць, калі толькі за гэта па шапцы не ўляціць,—сказала ўжо некалькі галасоў.

— А то дагэтуль чакалі і цяпер ізноў чакай.

— Правільна.

— Ім добра, яны залезьлі сабе ў комітэт і грабуць, а мы, дурні, чакаць будзем!

— Чаго вы, чэрці,—Сіланціч пачуе,—пачуліся ціхія галасы.

— А няхай чуе. Ён кішэні сабе напхаў.

Крамар глядзеў на ўсіх, але ні з чымі вачыма ён ня мог спатканца.

Усе глядзелі ў другі бок або вадзілі вачыма так хутка, што іх пагляду крамар ня меў магчымасьці ўлавіць.

— Чаго вочы вылупіў?..—сказаў хтось, мусіць, наконт крамара:— грошы ўсе загроб сабе...

— Міколка хоць па глупству многа траціў на вецер, а гэты чорт лапы мае заграбучыя... раней увесь час выціскаў з нас сокі, а цяпер таксама. Мы „пачакайце“, а ён сабе ў кішэню... Эх, сволач!..

— Мікола—чалавек усё-такі сумленны.

— Такі самы й Мікола твой: языком толькі меле, а карысьць якая? Сьцяпан, вось гэта праўда,—сьвяты чалавек.

— Вядома, гэты сьвяты карову ў мяне забраў, ды ў Слабодку аддаў... Калі сьвяты пачне старацца, дык гарэй, як у дурня, выйдзе...

— Усе яны добрыя, чэрці.

Аляксей, які ўвесь час пісаў, падняў галаву і сказаў:

— Вось што, таварышы: улада цяпер ваша і зямля ваша. Бярэце зямлю, бярэце хлеб, каб гэтых чарціных гнёзд тут больш ня было. Хто ня згодзен, прапаную ўстаць.

Усе сядзелі. У крамара вывалілася шапка і пакацілася.

— Шапкі ўжо ў руках ня можа ўтрымаць,—сказаў нейкі мужык.

— Ад'еўся, вось і ня ўтрымае. Вось чорт... І калі толькі гэты акаянны корань зьвядзецца!

— Прапаную зрабіць перавыбары ў савет,—сказаў Аляксей.—Зараз будуць прачытаны два сьпіскі: у адным стары прэзыдыум, а ў другім— новы. Чытай...—зьвярнуўся ён да сакратара і падаў яму абодва.

Усе слухалі ўважліва.

— У новым ён і гэтыя двое з фронту?—запытаў пярэдні мужычок.

— Выходзіць гэтак,—адказаў сусед.

— Хто за стары прэзыдыум... паднімеце рукі.

Усе сядзелі і не варушыліся?..

— Хто за новы?..

Усе паднялі рукі.

Крамар узяў шапку, апусьціў вочы і пашоў да дзьвярэй.

— Што тут?—запытаў Мікола шавец, які апазьніўся на сход і, увашоўшы ў школу, трывожна ўсіх аглядаў.

— Новых выбралі,—адказаў задні мужычок у лахматай шапцы?

— Хто-ж гэта?

— Усе. Проста, як адзін чалавек, паднялі рукі.

— Голас народу, браце...

# КРЫТЫЧНЫЯ ЎВАГІ ДА ТЭОРЫІ ВАРТАСЬЦІ АЎСТРЫЙСКАЕ ШКОЛЫ

**Т. Зарубін**

Цяпер зьяўляецца агульнапрызнаным, што вырашэньне проблемы вартасьці гэта адначасна і вырашэньне проблемы палітычнай экономіі наогул, а таксама і разьвязаньне шмат якіх проблем грамадзянскае ідэолёгіі. Вось таму пытаньне аб вартасьці ма евялізнае тэорэтычнае, а таксама грамадзка-практычнае значэньне. У той-жа самы час мы бачым, што ў экономічнай навуцы змагаюцца цяпер дзьве тэорыі: гэта працоўная тэорыя Кароля Маркса і Аўстрыйская тэорыя вартасьці, або тэорыя гранічнай карыснасьці; адначасна магчыма бачыць, што першая тэорыя—гэта сымболь барацьбы пролетарыяту, зарука і надзея яго на лепшую будучыну, а другая зьяўляецца фундамантам капіталістычнае крэпасьці, дзе заселі старыя ўжо зусім абаронцы буржуазнага сьвету, узброеныя ўсімі мэтодамі навуковае мысьлі і ўпарта адстрэльваюцца ад куль марксысцкае крытыкі, што сыплюцца на іх. Бязумоўна, гэты фундамант няўхільна будзе зруйнованы з капіталістычным ладам, але пакуль гэты лад трымаецца моцна, дык ніякая страляніна не пераканае прыхільнікаў капіталістычнага ладу ў яе правіловасьці, бо яна зьявілася выяўленьнем ідэолёгіі вяршкоў капіталістычнае грамады, абібокаў-рант'е[1]) і падмяніла напрамак гістарычнае школы, якая баялася рабіць якія-небудзь вывады ці асьцярожна адносілася да іх. Трэба сказаць, што гэтая, адна з самых дасканалых буржуазных тэорый зьяўляецца вельмі вытрыманай і ў поўнай меры можа здаволіць вымаганьні школьнага прыхільніка сылёгізацыі. Пераканаць у яе бязгрунтоўнасьці магчыма толькі тады, калі крытычна разглядзець самы прынцып, самую аснову псыхолёгічнай тэорыі вартасьці. Хоць у працы тав. Бухарына—„Политическая экономия рантье"—дакладна высьветлена клясавая існасьць гэтае тэорыі, але мы хацелі-б, з свайго боку, крыху закрануць гэтае пытаньне.

Але найперш, з тае прычыны, што гэту тэорыю мала хто ведае, дык трэба падаць хаця-б схэматычна самую тэорыю гранічнае карыснасьці, каб мець магчымасьць кінуць крытычны погляд на даную тэорыю. Мэнгэр, Візэр, Джэвоіс, Б.-Баверк,—усе яны, трымаючыся агульнапрыз-

---

1) Тых, хто жыве на прыбытак з свайго капіталу.

нанага падзелу вартасьці на суб'ектыўную і об'ектыўную, у сваю чаргу прытрымліваюцца наогул данае клясыфікацыі, але прыметы данага падзелу ці клясыфікацыі прымаюць у іх крыху іншы характар. Так, вартасьцю ў суб'ектыўным сэнсе Бэм-Баверк называе „тое значэньне, якое мае матэрыяльнае дабро або скупнасьць яго для дабрабыту суб'екта", а вартасьць у об'ектыўным сэнсе, подлуг яго думкі, гэта „нішто іншае, як здольнасьць рэчы даваць які-небудзь об'ектыўны вынік". Пад гэтым вынікам ён разумее розныя формы перавярненьня рэчаў. Гэтак, страва, трапіўшая ў жывот, перарабляецца ў органічную энэргію, прычым чалавек адчувае, што ён сыты; таму вось страве з об'ектыўнага боку магчыма прыпісаць „пажыўную вартасьць". Тое самае і дровы, накладзеныя ў печ і падпаленыя, ператваюцца ў цеплавую энэргію, а гэта выклікае адчуваньне цяпла.

Таму вось дровам прыпісваецца адносная вартасьць. Гэткіх об'ектыўных вартасьцяй магчыма набраць колькі-хаця ў кожнай зьяве матэрыяльнага сьвету. Мала таго, дзякуючы таму, што кожная зьява можа пры пэўных умовах нязьлічоныя разы зьмяняць свае формы, дык, такім, чынам, выходзіць, што кожная зьява мае бясконцную рознастайнасьць об'ектыўных вартасьцяй. Але прымаючы пад увагу, што мы ня маем крытэрыю (словы Бэм-Баверка), на падставе якога мы маглі-б выдзеліць адзін які з іх ды не зьвяртаць увагі на іншыя, дык у выніку, пры разглядзе об'ектыўнай вартасьці кожнае рэчы, мы заўсёды павінны мець справу з бясконца-вялікай колькасьцю незаўважальных зьяў, адмоўных і станоўчых.

А калі гэтыя зьявы зусім нельга ўявіць і параўнаць, дык мы кажам, што грунтавацца на іх у сваёй гаспадарчай чыннасьці мы зусім ня можам, бо ўся гаспадарчая чыннасьць чалавека толькі на тым і пабудована, што ён заўсёды мусіць карыстацца пэўнымі вартасьцямі гаспадарчага дабра.

Побач з актыўнай вартасьцю, Бэм-Баверк ставіць яшчэ менавую вартасьць, прычым у ёй ён бачыць толькі „об'ектыўнае значэньне матэрыяльнага дабра ў сфэры абмену", г. зн. магчымасьць абмяняць на іх пэўную колькасьць другога якога матэрыяльнага дабра, прычым гэта магчымасьць разглядаецца, як сіла або ўласьцівасьць самога матэрыяльнага дабра („Основ. теор. ценн. хоз. благ" Б.-Баверка, стар. 9). Тут мы зноў спатыкаемся з вельмі ўяўным мэтафізычным поглядам на рэчы, у даным выпадку на вартасьць.

Гаворыцца аб „менавых уласьцівасьцях", менавых сілах рэчаў і ні слова не гаворыцца аб тых грамадзянскіх адносінах, якія зьяўляюцца грунтам менавой вартасьці. Тут на сцэну выходзіць з вялікай пыхай фэтышызм рэчы, які заблытвае ды зацямняе погляд вучонага і якога так бязьлітасна прагнаў К. Маркс з сфэры грамадзянскіх навук. І праўда, гаварыць-жа аб менавых сілах ці ўласьцівасьцях рэчаў, гэта значыць прыўлашчаць ім тое, чаго зусім няма, адушаўляць іх сіламі, якіх яны, з прычыны свае будовы, зусім ня маюць.

Ніхто дагэтуль ня бачыў яшчэ, каб тыя ці іншыя рэчы самі абменьваліся адна на другую. Нівоздін бот на сьвеце, нават бот самога Бэм-Баверка, не пашоў сам на рынак, каб абмяняцца на муку ці на 50 крон, рублёў, даляраў ці на якія там іншыя рэчы. Тое самае магчыма сказаць і аб усім чыста іншым гаспадарчым дабры.

Але калі яны ня могуць самі абменьвацца, дык як можна прыпісаць ім „менавыя ўласьцівасьці“, як уласьцівыя ім самым. Тымчасам усім бязумоўна вядома, што людзі самі носяць ці возяць іх на рынак, змагаюцца з-за рынкаў. Словам, рэчы абменьваюцца не таму, што маюць пэўныя ўласьцівасьці, але таму, што людзі жадаюць, таксама прымушаны іх абменьваць. Вось тут якраз і паўстае пытаньне: чаму гэта людзі хочуць абменьваць свае продукты? Тут мы і прыходзім тады да пэўных грамадзянскіх адносін, г. зн. падзелу грамадзянскае працы, які зьяўляецца прыватным выпадкам (праявай) працоўнай тэорыі вартасьці, тлумачачы менавую вартасьць.

Нам скажуць, што Бэм-Баверк ня мысьліў абмену бяз удзелу людзей. Зусім правілова. А каб ён так мысьліў, дык трапіў-бы ў вар'яцкі дом. Але ў кожным разе ў сваёй працы ён ня высьветліў грамадзянскіх адносін і магчыма, што сумысьля падмяніў іх прынцыпам „рэч у сабе“, каб надаць надворнае складнасьці сваёй тэорыі, хаваючы сапраўдную існасьць вартасьці. Наша мэта—гэта паказаць, да якіх недарэчных вывадаў мы можам прысьці, калі будзем стаяць на пункце погляду азначэньняў нават самага талентнага прадстаўніка гэтае школы—Бэм-Баверка, разьвіваючы іх да лёгічнага канца.

Далей, наконт самае глыбыні тэорыі гранічнай карыснасьці. Каб абараніць яе ад крытыкі, Бэм-Баверк робіць падзел гаспадарчага дабра з пункту погляду залежнасьці людзкога дабрабыту ад уладаньня ім. Гэты дабрабыт у яго спрытных руках прымае двухступянёвы выгляд, а менавіта: падзяляецца на ніжэйшую і вышэйшую ступень. Ніжэйшую ступень ён называе проста карыснасьцю, а вышэйшую—вартасьцю.

Дзеля паясьненьня свае думкі, ён садзіць аднаго чалавека з шклянкай у руцэ каля многаводнае рэчкі, а другога—таксама з шклянкай вады але ўжо ў самой сярэдзіне сьпякотнае пустыні. Для першага—шклянка вады зьяўляецца толькі карыснасьцю, бо можа замяніць гэту ваду другой шклянкай, а для другога чалавека шклянка вады зьяўляецца ўжо вартасьцю, бо, страціўшы яе, ён ужо ніяк не заменіць яе другой шклянкай вады. Як бачыце, тлумачыць аўтар, у першым выпадку, г. зн. для чалавека, што сядзіць каля ракі, шклянка вады зьяўляецца толькі прычынай яго дабрабыту, але не зьяўляецца яшчэ і абавязковай умовай, а вось для пустэльніка тая самая шклянка вады—гэта ня толькі прычына яго дабрабыту, але і абавязковая ўмова, бо, страціўшы яе, ён павінен быў-бы мучыцца ад смагі ці нават памерці (стар. 16).

Гэты падзел Бэм-Баверк лічыць за вельмі важны, грунтоўны ня толькі ў галіне тэорыі, але і ў гаспадарчай практыцы, бо, на яго думку, да карыснага дабра гаспадар адносіцца нядбайна ці проста абы-як, ну, а да вартасьці яго адносіны ўжо зусім іншыя, вельмі беражныя.

Найперш мы павінны адзначыць тое, што гэтая клясыфікацыя ўзята ім ad hoc, а ня ўзята з галіны гаспадарчага жыцьця; таму яна прыгодна толькі для штучна-адцягненых прыкладаў, для экономічнай робінзонады, а не для ўразуменьня сапраўднага жыцьця. І праўда, вельмі рызыкоўна законы капіталістычнага жыцьця тлумачыць штучна ізоляванымі вандроўнікамі. Для ўсякага-ж зразумела, што вартасьць—гэта зьява грамадзянская. Але калі гэта так, дык як-жа можна тлумачыць яе прыкладамі, у якіх і знаку няма грамадзянскіх зьвязкаў, а ёсьць толькі законы фізычнага і псыхічнага жыцьця індывідууму? Гэта мо' прыгодна было-б на тое, каб пакрашаць старонкі псыхолёгіі, але не для політэкономіі. Падзел людзкога дабрабыту ад уладаньня гаспадарчым дабром на вышэйшую і ніжэйшую ступень дае ключ да разуменьня самае існасьці тэорыі—гэтае залежнасьці вартасьці ад гранічнасьці гаспадарчага жыцьця.

Дзеля таго, каб больш выразна ўявіць існасьць і хібы гэтае тэорыі, падамо схэму Бэм-Баверка, якая зьяўляецца арытмэтычным нарысам асновы кораня данае тэорыі.

| I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 10 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | 9 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8 | 8 | 8 | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | 7 | 7 | 7 | — | — | — | — | — | — |
| 6 | 6 | 6 | — | 6 | — | — | — | — | — |
| 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | — | — | — | — |
| 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | — | — | — |
| 3 | 8 | 3 | — | 3 | 3 | — | 3 | — | — |
| 2 | 2 | 2 | — | 2 | 2 | — | 2 | 2 | — |
| 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | — | 1 | 1 | 1 |
| 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |

Гэтая схэма малюе, з аднаго боку, віды патрэбы, а з другога—інтэнсыўнасьць патрэб кожнага віду. Пычым рымскія лічбы паказваюць віды, а арабскія—іхную сілу, напружаньне або інтэнсыўнасьць.

У шэрагу арабскіх лічб мы заўважаем, што адны з іх ідуць у бесьперарыўнай паступовасьці і канчаюцца нулямі. Другія, як віды IV і VII,—наадварот, ідуць з перапынкамі, але таксама маюць за сваю аснову нуль. Гэтым нарысам абаронца Аўстрыйскае школы хоча сказаць, што ў галіне здаваленьня людзкіх патрэб ёсьць такія, якія здавальняюцца ў пэўнай паступовасьці, як, напрыклад: ежа, пітво, аздобы, але, побач з імі, ёсьць і такія, што здавальняюцца быццам скачкамі.

Такія патрэбы чалавек можа мець, скажам, у стасунку да печкі, кнігі і г. д. Адна печка яму вельмі патрэбна, а другая можа быць зусім лішняй.

Арабскія-ж лічбы наогул паказваюць так званыя конкрэтныя патрэбы кожнага віду. Гэтая-ж схэма, подлуг слоў Бэм-Баверка, вельмі добра тлумачыць і розьніцу цаны на хлеб, і дыямэнты. Ня гледзячы на тое, што хлеб непараўнана карысьней за дыямэнты, апошнія цэняцца, звычайна, непараўнана даражэй ад першага, і тлумачыцца гэта тым, што конкрэтная патрэба ў хлебе, дзякуючы вялікай насычанасьці ім рынку, звычайна дасягае 1, тымчасам як конкрэтная патрэба алмазаў стаіць вышэй таксама з прычыны ненасычанасьці рынку. Калі мы алмазы ў колькасьці 2-х паставім пад рубрыку, абазначаную рымскай лічбай V, дык конкрэтная патрэба можа спыніцца на арабскай лічбе 5; гэта значыць, што алмазы будуць цаніцца ў 5 раз даражэй за хлеб. Так вось тлумачацца ступені інтэнсыўнасьці конкрэтных патрэб, што маюцца ў відавых патрэбах. Праз падзел карыснасьці на конкрэтныя віды і агульнарадавыя ці адцягненыя Бэм-Баверк нібы з посьпехам выходзіць з супярэчнасьцяй між жыцьцёвай практыкай і тэорыяй вартасьці, выходзячай з карыснасьці, як унівэрсальнага абумоўліваючага пачатку вартасьці. Але гэтыя шэрагі арабскіх лічб з каронай з рымскіх ані ня тлумачаць сапраўднай існасьці вартасьці, а напамінаюць толькі кабалістычныя знакі ўсходніх мерцьвякоў

Гэтая самая схэма ілюструе і велічыню вартасьці. Калі відавая патрэба пад лічбай і будзе насычана да 5 ступені, г. зн. калі ў гаспадара будзе ўжо 5 адзінак гэтага продукту, дык цану яго азначыць якраз 5-я адзінка. Адсюль, калі 5-я адзінка будзе расцэньвацца на рынку ў 1 руб., дык і ўсе іншыя пойдуць па 1 рублю, хоць яны і будуць здавальняць больш важныя патрэбы. Але дзякуючы таму, што лічбу 5 узялі ў гэтым відзе патрэб, як гранічную, дык гэта дазваляе прыхільнікам данае тэорыі казаць, што асновай вартасьці зьяўляецца ня самая вялікая і не сярэдняя карысьць, але гранічная карысьць (стар. 45). Гэта можна ілюстраваць наступным прыкладам. Дапусьцім, што хто-небудзь мае 5 мяшкоў збожжа, прычым адзін з іх ідзе на падтрыманьне жыцьця, другі—на дагляд за здароўем, трэці—на куплю мясное ежы, чацьверты—на хлебную гарэлку і пяты на прыемнасьць трымаць папугаяў. Дапусьцім для выгады, што ўсе гэтыя мяшкі збожжа аднолькавай вагі і якасьці. Паўстае пытаньне, як дорага будзе цаніцца хлеб пры даных варунках? Зразумела, разважае Бэм-Баверк, што вартасьць хлеба будзе азначацца апошнім гранічным мяшком, г. зн. тым, які ідзе на харч папугаям. Гэта будзе даведзена ў тым выпадку, калі гаспадар згубіць адзін які мяшок. Тады гаспадар адмовіцца трымаць папугаяў, як ад найбольш слабога пачуцьця, з ліку тых што здавальняюцца хлебам. Але дзякуючы таму, што ўсе мяшкі аднолькавыя, дык страта збожжа ў даным выпадку адчуваецца, як немагчымасьць здаволіць самае слабое гранічнае пачуцьцё прыемнасьці,

якім вымяраецца і сама карыснасьць хлеба. Адсюль азначэньне Бэм-Баверка, якое кажа: „Каштоўнасьць рэчы вымяраецца велічынёй гранічнай карысьці гэтае рэчы" (стар. 45). Але гэты монізм у азначэньні вартасьці гаспадарчага дабра парушаны нават у самога Бэм-Баверка, калі ён робіць ацэнку не аднае рэчы, але пэўнаму збору рэчаў; так, калі гаспадару адзначаных мяшкоў збожжа трапіла-б страціць не адзін мяшок, а ўсе, пры ўмове, бязумоўна, ізоляванага існаваньня і, галоўнае, немагчымасьці замяніць іх другімі экзэмплярамі, дык вартасьць хлеба азначалася-б не гранічнай карыснасьцю, але сумай ступеняў інтэнсыўнасьці патрэб. Адсюль, калі згадзіцца, што пяты гранічны мяшок мае вартасьць у 1 рубель, дык вартасьць усіх іх будзе роўнай ня 5 руб. (1×5), але 15 руб., як гэта выцякае з вымаганьняў тэорыі гранічнай карыснасьці, г. зн. суме ступеняў 5+4+3+2+1 (Бухарын).

Тут трэба зьвярнуць увагу на тое, што Бэм-Баверку не ўдалося ўтрымацца на адным прынцыпе граніцы (предела), пры дапамозе якога ён дакляраваў растлумачыць усе рознастайныя праявы вартасьці. Тымчасам прысутнасьць дуалізму ў вартасьці ён лічыць за вялікі грэх для Рыкардо, яго наступнікаў—Шэфле і інш., і лічыць гэта не навуковым падыходам у тлумачэньні проблемы вартасьці (стар. 92).

Ад чаго-ж залежыць вышыня самае граніцы? На гэта Бэм-Баверк адказвае, што вышыня гранічнай карыснасьці азначаецца аб'ёмам і інтэнсыўнасьцю патрэб і колькасьцю гаспадарчага дабра, што йдзе на здаваленьне данае патрэбы (стар. 60). Але дзякуючы таму, што насычанасьць попыту прапановай зьніжае самую гранічную карыснасьць аж да нуля подлуг азначэньня самога Бэм-Баверка, дык у канчатковым выніку выходзіць, што вышыню вартасьці або, праўдзівей, велічыню самае граніцы карыснасьці азначае колькасьць рэчаў. Але тады паўстае пытаньне, а што-ж азначае колькасьць самога гаспадарчага дабра? Рэчы-ж ня скідаюцца з неба, а зьяўляюцца вынікам гаспадарчага процэсу продукцыі.

Гэтае пытаньне выразна і азначана прымушае нас зьвярнуць увагу на працу, як на крыніцу, аснову, колькасьць матэрыяльнага дабра.

Вось таму, калі-б Бэм-Баверк быў больш бесстароньнім да буржуазнай політэкономіі, дык, будучы лёгічна паступовым, пачаўшы з гранічнай карыснасьці, ён павінен быў-бы зноў вярнуцца да працоўнай тэорыі вартасьці.

Апрача адзначанага дуалізму, аўтар „Основ теории ценности" ўносіць яшчэ і трэці пачатак для рознага матэрыяльнага дабра, якое магчыма здаволіць некалькімі спосабамі з рознай вышынёй іхнае гранічнае карысьці. Несумяшчальныя спосабы здаваленьня—спосабы, якія выключаюць друг друга: дошкамі можна, ці страху накрыць ці выпаліць у печы, але ня тое і другое разам. Выходзіць, што тут дабро ацэньваецца не па найменшай ці гранічнай карысьці, як гэта ён кажа на 44 стар., але подлуг самае высокае гранічнае карысьці (78 стар.). Адсюль зноў-т

відаць, што самая граніца ў розных выпадках бывае самай рознай. Іншымі словамі, яна зьяўляецца велічынёй адвольнай, зьменнай, а таму і зусім нічога ня варта ў якасьці адзінкі меры пры азначэньні велічыні вартасьці.

Цяпер закранем крыху вартасьць *комплемэнтарнага матэрыяльнага* дабра. Пад гэткай назвай фігуруе матэрыяльнае дабро, што ўзаемна дапаўняе адно другое, якое дае найбольшую карысьць толькі пры комбінаваным супольным ужытку. Такім дабром зьяўляецца: пяро, атрамант, папера; лук і стрэлы або пара ботаў, пальчаткі і г. д. (стар. 84). У стасунку да комплемэнтарнага матэрыяльнага дабра магчыма азначаць вартасьць усяе групы або асобна кожнага ліку групы. Пры азначэньні цэлае групы, вартасьць будзе роўнай гранічнай карысьці яе і ані ня ўхіляецца ад агульнага закону, але калі мы будзем азначаць субстытуцыйную вартасьць, дык справа робіцца больш складанай. Уявім сабе комплемэнтарнае матэрыяльнае дабро, што складаецца з элемэнтаў ці членаў ABC; комбінаванае ўжываньне іх дае карысьці ў 100 адзінак, а субстытуцыйная вартасьць роўна: A=20, B=30, C=40; тады пры паасобным іх ужытку яны дадуць карысьці на 90 адзінак. Калі-ж комплемэнтарнае матэрыяльнае дабро магчыма ўжываць толькі супольна (боты, пальчаткі), дык кожны член гэтае групы ўвасабляе вартасьць усяе групы. У першым-жа выпадку вартасьць кожнага матэрыяльнага дабра будзе хістацца паміж велічынёй гранічнай карысьці рэчы, узятай ізолявана, як мінімум, і велічынёй комбінаванай гранічнай карысьці, адлічыўшы ад яе ізоляваную гранічную карысьць іншых, як максымум. Так, калі мы страцім „A“, дык у нас застанецца яшчэ „B“ ды „C“ з сумай карысьці ў 70 адзінак (30+40); але з тае прычыны, што A+B+C=100, дык A=(100—30+40)=30, а тымчасам узятае ізолявана A=20. Значыцца, тут, кажучы на матэматычнай мове, амплітуда хістаньняў вартасьці матэрыяльнага дабра роўна вартасьці сродкаў продукцыі.

Далей ідзе вартасьць вытворчага матэрыяльнага дабра і наогул кожнага матэрыяльнага дабра паасобнага парадку. Пад гэтай назвай мы падыходзім да новага ўскладненьня экономічных зьяў, якія павінны быць растлумачаны з пункту погляду прынцыпаў Аўстрыйскае школы. Калі паставіць чалавека з яго патрэбамі ў асяродку і ад гэтага асяродку ў думках правесьці радыусы да кожнага матэрыяльнага дабра, якое йдзе на здаваленьне гэтых патрэб, дык выйдзе, што даўжыня радыусаў будзе рабіцца карацей і даўжэй у залежнасьці ад таго матэрыяльнага дабра, да якога мы яго правялі. Так, калі мы яго правялі да хлеба, віна ці вопраткі, дык радыус будзе самы кароткі, бо гэтыя прадметы беспасрэдна йдуць на здаваленьне людзкіх патрэб. Але правядзем яго да мукі, вінаградні, паркалю, і ён ужо зробіцца даўжэйшым. Працягнем радыус зноў да печкі, да зямлі вінаградні ці да прадзева—і радыус зробіцца яшчэ даўжэйшым. Такім способам, мы можам праводзіць яго да рознага матэрыяльнага дабра, якое знаходзіцца на вялікай адлегласьці ад беспасрэд-

нага здаваленьня людзкіх патрэб. Гэта дазволіла Бэм-Баверку назваць патрэбныя рэчы „матэрыяльным дабром далёкага парадку“. Зьяўляецца пытаньне, якім чынам можна цаніць такое дабро? Яно, як зацьвярджае аўтар, цэніцца подлуг гранічнае карысьці заключнага продукту, інакш кажучы, „спажывецкага продукту“. Дапусьцім, што мы зноў ткі маем спажывецкі продукт „А“, гранічная карысьць якога роўна 100 руб., але гэты продукт „А“ атрымліваецца, скажам, у выніку выдатку матэрыяльнага дабра паасобных парадкаў. Запішам гэта пры дапамозе $B, B_1, B_2, B_3, B_4, B_5$.... Калі кожны член абавязкова патрэбен у процэсе вырабу А, дык чаму будзе роўна вартасьць кожнага з іх і ўсіх іх разам? Адказ ясны. Кожны з іх роўны вартасьці А, г. зн. 100 руб., і ўсе разам узятыя яны таксама роўны 100 рублём $B=A$; $B_1=A$; $B_2=A$ і $(B+B_1+B_2+B_3+B_4+B_5)=A$ або 100 руб. Адгэтуль слоўная формула Бэм-Баверка—вартасьць адзінкі вытворчых сродкаў—азначаецца гранічнай карысьцю і вартасьцю продукту, які мае самую меншую гранічную карысьць спаміж усіх продуктаў, на вытворчасьць якіх гаспадарчы разрахунак дазволіў-бы ўжыць гэтую адзінку вытворчых сродкаў (стар. 104). Цяпер нам застаецца разглядзець закон утварэньня цаны.

Асноўным законам утварэньня цэн зьяўляецца, подлуг навучэньня Бэм-Баверка, асабістая карысьць ці, іначай кажучы, пачуцьцё людзкога самалюбства, якое розным способам выяўляецца пры абмене аднаго гаспадарчага блага на другое. Адсюль аўтар устанаўляе тры ўмовы, пры якіх магчымы памен. 1-ая: кожны прыступіць да абмену толькі тады, калі абмен будзе яму карысны. 2-ая: будзе ўважаць за лепшае зрабіць абмен з большай, чымся з меншай выгадай. 3-яя: уважае за лепшае зрабіць абмен з меншай выгадай, чымся зусім адмовіцца ад яго (стар. 140)

Кіруючыся гэтым законам, мы маем магчымасьць прасачыць, як праяўляецца ён у рознастайных умовах суадносін рыначнае прапановы ды попыту. Першы і самы просты выпадак—гэта ўтварэньне цэн пры ізоляваным абмене. Уявім сабе, кажа Бэм-Баверк, што селяніну А патрэбен конь і прытым ён знаходзіцца ў такіх умовах, што лічыць яго па вартасьці роўным 300 руб. Тады ён ідзе да суседа В., які мае каня на продаж. Каб сусед В таксама лічыў каня па вартасьці роўным 300 руб., дык абмен, мабыць, паміж сялян не адбыўся-б. Але дапусьцім, што гаспадар каня цэніць яго ў 100 руб.; тады, найперш, мы прымушаны сьцьвердзіць поўную магчымасьць умовы і карысьць яе для абодвух. Так, у выніку барацьбы абодвух контрагэнтаў цана на каня ўстанаўляецца ў 200 руб., дык абодвы контрагэнты атрымліваюць карысьці па 100 руб. кожны. Бо А цэніць каня ў 300 руб., а атрымае яго за 200 руб., а В цэніць свайго каня ў 100 руб., а прадае яго за 200 руб. Якавы-ж конкрэтны выпадак закону цаны пры адзначаных акалічнасьцях? Правіла тэорыі гранічнай карыснасьці кажа, што пры ізоляваным памене паміж дзьвюма асобамі цана ўстанаўляецца ў межах між суб'ектыўнай ацэнкай

тавару збоку купца, як максымум, і суб'ектыўнай ацэнкай тавару збоку прадаўца, як мінімум (стар. 145). Правіла гэта ў дапасаваньні да разгледжанага выпадку кажа, што цана можа хістацца ў межах ад 100 р. да 300 р., г. зн. зноў-ткі амплітуда хістаньня цаны ў адзначаным прыкладзе роўна 200 руб.

Другі выпадак, больш складаны, мае ў сабе конкурэнцыю паміж купцамі за ўладаньне аднэй і тэй самай рэчай. Тут разгледжаны намі самы просты выпадак абмену ўскладняецца паяўленьнем другага купца. $A_1$, які, згодна свае патрэбы, ацэньвае каня ў 200 руб. Пры такіх умовах становішча прадаўца В непараўнана паляпшаецца, бо цана ўжо аніяк ня можа зьнізіцца менш як 200 руб. з прычыны конкурэнцыі $A_2$. У такім выпадку разьмер хістаньня цаны абмяжоўваецца ўжо ня ў 200 руб. (300—100), але ў 100 руб. (300—200). Але дапусьцім, што конкурэнтамі купцам зьявяцца яшчэ $A_3$, які цэніць каня ў 250 руб.; $A_4$—у 260 руб. $A_5$—у 270 руб.; $A_6$— у 280 руб. і $A_7$—у 290 руб... Тады прадавец апынецца ў вельмі выгодным становішчы, і цана на каня ўстановіцца паміж 290 руб. і 300 руб., г. зн. межы хістаньняў цаны будуць роўны 10 руб. Пераважыць у даным выпадку купец А, але дзякуючы таму, што маецца конкурэнт $A_7$, які ацэньвае каня ў 290 руб., дык ён прымушаны будзе абавязкова падвысіць цану, прынамсі, да 290 руб., каб пазбавіцца ад свайго конкурэнта $A_7$. Калі цана ўсталюецца на 295 руб., дык купец выгадае ад абмену ўсяго 5 руб. (300—295)., але затое прадавец выгадвае 195 руб. (295—100). Тое самае можна бачыць і пры аднабаковай конкурэнцыі збоку прадаўцоў, але толькі ў адваротным парадку, у процілежным кірунку.

Нарэшце мы прыходзім да самага складанага выпадку ўтварэньня цэн—гэта пры конкурэнцыі з абодвух бакоў. Больш відавочнае прадстаўленьне данае зьявы магчыма атрымаць пры дапамозе схэмы гэтае тэорыі, якую я падаю. Гэтая схэма прадстаўляе 10 купцоў, кожны з якіх жадае купіць аднаго каня, і 8 прадаўцоў, якія, у сваю чаргу, жадаюць прадаць па адным кані. Лічбы паказваюць зьмест ацэнкі. Усе конкурэнты знаходзяцца на адным рынку, усе коні маюць аднолькавыя якасьці і ўсе ўдзельнікі так добра ведаюць рынак, што яны ў поўнай меры здолеюць дамагацца сваіх адносных інтарэсаў:

| Купцы | | Прадаўцы | |
|---|---|---|---|
| $A_1$, ацаніўшы каня ў | 300 руб. | $B_1$, ацаніўшы каня ў | 100 руб. |
| $A_2$ „ „ „ | 280 „ | $B_2$ „ „ „ | 100 „ |
| $A_3$ „ „ „ | 260 „ | $B_3$ „ „ „ | 110 „ |
| $A_4$ „ „ „ | 240 „ | $B_4$ „ „ „ | 170 „ |
| $A_5$ „ „ „ | 220 „ | $B_5$ „ „ „ | 200 „ |
| $A_6$ „ „ „ | 210 „ | $B_6$ „ „ „ | 215 „ |
| $A_7$ „ „ „ | 200 „ | $B_7$ „ „ „ | 250 „ |
| $A_8$ „ „ „ | 180 „ | $B_8$ „ „ „ | 260 „ |
| $A_9$ „ „ „ | „ | | |
| $A_{10}$ „ „ „ | „ | | |

Па цане за 130 руб. згадзіліся-б усе 10 купцоў купіць коняй, але прадаць маглі-б двое. Пры павялічэньні цаны за каня да 150 руб. адпадае купец $A_{10}$. Пры цане ў 170 руб. пакідае рынак купец $A_9$, але затое прыбывае на рынку прадавец $B_3$. Калі цана павялічыцца да 180 руб., тады адпадае купец $A_8$. Пры цане ў 200 руб. мусіць адмовіцца і $A_7$. Пры цане ў 210 руб. пераможаным будзе ў гэтай конкурэцыйнай барацьбе і $A_6$, але затое на рынку зьяўляюцца прадаўцы $B_4$ і $B_5$. Цяпер выходзіць, што попыт і прапанова ўроўнаважыліся. Збоку купцоў выступаюць $A_1$, $A_2$, $A_3$, $A_4$, $A_5$, а збоку прадаўцоў—$B_1$, $B_2$, $B_3$, $B_4$, $B_5$. На якой вышыні павінна сталявацца пры гэтых умовах рыначная цана на коняй? Зразумела, што, згодна данае схэмы, цана ня можа стаць вышэй за 220 руб. ці нават спыніцца на 200 руб., бо ў такім разе пакінуў-бы рынак купец $A_5$, а ў якасьці прадаўца выступіў-бы тады і $B_6$. Тады збоку прадаўцоў было-б 6 чалавек, а збоку купцоў—4. У выніку гэтага сярод прадаўцоў зьявілася-б конкурэнцыя, якая вельмі хутка зьбіла-б цану на коняй. Але зьяўляецца пытаньне, у якой меры цана магла-б зьнізіцца? Зразумела таксама, што, згодна схэме, яна не магла-б зьнізіцца больш, чым да 200 руб. ці нават спыніцца на гэтым роўні, бо пры такой цане прадаўцы страцілі-б $B_5$, а збоку купцоў прыбыў-бы $A_6$. Тады тая самая конкурэнцыя, але ўжо збоку купцоў, павінна была-б зноў павялічыць цану. Такім чынам, цана, подлуг данае схэмы, павінна ўсталявацца паміж 210 руб., як мінімум, і 215 руб., як максымум. Граніца хістаньня рыначных цэн на коняй роўна 5 руб. Разглядаючы даны выпадак, мы бачым, што вышыня цаны залежыць ад суб'ектыўных ацэнак $A_5$ і $B_5$. Гэтая пара, подлуг Бэм-Бавернскай тэрмінолёгіі, носіць назву гранічнай пары. Вось чаму ён і кажа, што вышыня рыначнае цаны абмяжоўваецца і азначаецца вышынёй суб'ектыўных ацэнак тавару двума гранічнымі парамі (стар. 157). На гэтай самай аснове ён на стар. 160 кажа, што прысутнасьць пераможаных конкурэнтаў можа толькі павялічыць на рынку даўкату, але яна ня робіць актыўнага ўплыву на цану.

Такім чынам, мы выклажылі агульныя пачаткі вартасьці й цаны Аўстрыйскае школы. Разам з гэтым, у асобных выпадках мы крытычна адносіліся да тых ці іншых яго палажэньняў і вывадаў. Цяпер нам застаецца кінуць агульны крытычны погляд на ўсю яго тэорыю ўцалку. З аналізу пазнаньня і з сьведчаньняў навукі мы ведаем, што да выўчэньня грамадзянскіх зьяў можна падыходзіць двояка. Можна разглядаць грамадзянства, як нейкае органічнае цэлае, усе зьявы ў якім адбываюцца ў строгай узаемнай залежнасьці і законазгоднасьці. Выўчыўшы гэтыя законы грамадзянскіх зьяў, мы тады пераходзім ужо да азначэньня месца і значэньня кожнае асобнае зьявы. Такім шляхам ішоў Кароль Маркс у выўчэньні featureазнастайных зьяў капіталістычнага сьвету. Ён сьпярша дасьледваў законы капіталістычнага грамадзянства, яго разьвіцьця, а потым на гэтых досьледах грунтаваўся пры разглядзе паасобных зьяў экономікі.

Але можна рабіць і наадварот. Сьпярша дасьледуюць уласьцівасьці асобных зьяў, скажам, асобы чалавека, а потым пераходзяць ад гэтых асоб да вялікіх тэорэтычных абагульненьняў і лічаць гэтыя абагульненьні гістарычнай сапраўднасьцю грамадзянства. У першым выпадку мы маем об'ектыўны мэтод, у другім—суб'ектыўны. Якраз апошні мэтод і ўжывае Бэм-Баверк ды ўся яго школа гранічнай карыснасьці.

Самы вялікі недахват і хіба гэткага падыходу палягае ў тым, што тут бяруцца пад увагу толькі псыхолёгічныя бакі індывідуальнай і адасобленай асобы і ня прымаецца пад увагу грамадзянскі характар вартасьці. Сапраўды, пададзеная вышэй схэма кажа аб тым, што Бэм-Баверк цэнтр свае тэорыі бачыць у розных перажываньнях чалавека з прычыны ўладаньня ці неўладаньня пэўным матэрыяльным дабром. Калі-б праз складаньне перажываньняў паасобных людзей магчыма было растлумачыць вялікую грамадзянскую зьяву, тады супроць такога падыходу ніяк нельга было-б пярэчыць, і сама тэорыя набыла-б вялікую доказальную моц. Але на шчасьце ці на жаль людзей грамадзянскія зьявы не зьяўляюцца простай сумай псыхічных перажываньняў індывідуумаў, але складаюць сабой галіну, дзе пануюць зусім іншыя законы, чымся закон індывідуальнай псыхікі. Гэтага мала; сама асоба чалавека зьяўляецца заняволенай, прыдушанай сілай і законамі грамадзянскіх зьяў. Калі гэта праўда, дык і мэтод абагульненьняў, які йдзе ад асобнага індывідууму, будзе зусім бязгрунтоўным з пункту погляду навуковых досьледаў, хаця і можа даць шырокі прастор для бескарысных схолястычных пабудаваньняў, прызначаных для салодкага заспакаеньня ўзрушаных голасам соцыяльнае завірухі буржуазных галоў. Адсюль выходзіць, што псыхолёгізм і ізоляваны індывідуалізм зьяўляюцца грунтоўным недахватам Аўстрыйскае тэорыі вартасьці, у чым праканаўся т. Бухарын.

Правіловым выходным палажэньнем для тэорыі вартасьці зьявіцца прадстаўленьне аб грамадзянстве, як аб натуральна-гістарычным процэсе з асабістымі законамі, з уласнай лёгікай, якія зьяўляюцца об'ектам дасьледваньня вучонага. Якраз такім шляхам падышоў Маркс, калі распрацаваў сваю тэорыю вартасьці. Задамо пытаньне: чаму мэтод Маркса больш мэтазгодны, чымся мэтод прыхільнікаў псыхолёгічнай тэорыі? Гэтае пытаньне магчыма вырашыць толькі тады, калі мы праканаемся, што адзін з гэтых поглядаў супярэчыць агульным прынцыпам навукі, а другі—наадварот: зусім да іх дапасоўваецца. Зразумела, што тэорыя, якая ў поўнай меры адпавядае навуковаму досьледу і вывадам, і будзе найбольш правіловай. Цяпер вельмі лёгка вырашыць і самую спрэчку. Сапраўды, навука ўжо даўно ўстанавіла, як непарушны прынцып—гэта зьменнасьць форм зьяў у часовай паступовасьці. Прычым гэта ў аднолькавай меры датычыць як паасобных зьяў акружаючае прыроды, так і ўсяе яе скупнасьці. Гэтак-жа сама, тая-ж самая навука, шляхам дакладных эмпірыч-

ных мэтодаў выўчэньня, устанавіла, што гэтая зьменнасьць форм датычыць і соцыяльных зьяў, а таксама і галіны моралі і эстэтыкі. Калі, такім чынам, гэты прынцып ахоплівае ня толькі прыроду, але й соцыяльныя зьявы і сыстэмы розмаітае ідэолёгічнае творчасьці чалавека, дык тым самым ён прымае ўсеагульную форму, з прыватнага эмпірычнага закону робіцца ўсеагульным унівэрсальным лёгічным законам, які азначае магчымасьць існаваньня наогул. Адгэтуль усякую зьяву, што не падпарадкуецца данаму закону, прыходзіцца прызнаць ненавуковай, неправіловай, бо яна супярэчыць шматвяковай гістарычнай практыцы чалавецтва.

Але ў якім-жа становішчы знаходзяцца абедзьве гэтыя тэорыі адносна высунутага мной непарушнага палажэньня? Тэорыя псыхолёгічнай вартасьці, выводзячы свае законы з адчуваньняў індывідууму, тым самым відочна супярэчыць гістарычнай практыцы ды навуковым вывадам зьменнасьці. Сапраўды, людзкія адчуваньні, якія зьяўляюцца асновай данае тэорыі, адносна магчыма лічыць велічынёй, што нязьменна знаходзіцца ў першапачатковай форме. Ня толькі людзям старажытнае Грэцыі, Рыму, Эгіпту, Асырыі, Бабілёну, але і людзям першабытных грамад уласьцівы амаль адны й тыя самыя адчуваньні. Пачуцьцё голаду, смагі, эгоізму, адчуваньні прыемнага і няпрыемнага, здаволенасьці і радасьці якоганебудзь вандруючага чалавека аднолькава з нашым. Розьніца іх—толькі ў ступені інтэнсыўнасьці, якая таксама вельмі нязначная. Адгэтуль, калі аснова грамадзянскіх зьяў (вартасьці, цаны, рэнты, прыбытку ды інш.), г. зн. асноўныя адчуваньні людзкога організму, не зьмяняецца ці зьмяняецца вельмі паволі, блізка што няпрыкметна, дык якім спосабам, дзякуючы гэтым прычынам, вартасьць і выплываючая з яе цана, рэнта, прыбытак і г. д. зьмяняюцца так хутка і радыкальна? Мы-ж наглядаем ужо не адну форму гаспадарчай грамадзянскай організацыі. На фоне гістарычнай рачаіснасьці іх мільгнула ўжо шмат, а тымчасам калі-б гэтыя формы мелі сваёй прычынай толькі людзкія адчуваньні і пачуцьці, дык і дагэтуль мы мусілі-б працаваць на самай нікчэмнай першабытнай гаспадарцы. Але мы далёка адышлі ня толькі ад старыжытных часоў гаспадараньня, але цяпер кожныя дзесяць год зьмяняюць увесь выгляд гаспадарчага жыцьця народаў.

Але гэтага яшчэ мала. Сучасная экспэрымэнталь-псыхолёгія ўсё больш згаджаецца з вывадам, што асноўныя формы адчуваньняў і паваньняў у чалавека амаль такія-ж самыя, што і ў жывёл. Асабліва гэта датычыць адчуваньняў асабістага эгоістычнага характару, г. зн. тых адчуваньняў, на якіх грунтуецца тэорыя псыхолёгізму. Але калі гэта праўда, дык мы павінны былі-б спадзявацца або на існаваньне капіталістычных форм у жывёл, або-ж, наадварот, бачыць у капіталізьме форму гаспадараньня жывёл. Але калі такое заключэньне мы можам зрабіць з пункту погляду моральнае ацэнкі капіталізму, дык па яго об'ектыўнай існасьці яго ўжо ніяк нельга падмяніць падобным парадоксам. Адсюль

сама сабой выплывае негістарычнасьць Аўстрыйскай тэорыі вартасьці, а ў выніку гэтага—і яе поўная бязгрунтоўнасьць у навуковым стасунку.

Калі-ж мы цяпер паглядзім на працоўную тэорыю вартасьці, дык пабачым, што яна ўся пабудавана на зьмене форм грамадзянскіх адносін, г. зн., што яна ўвасабляе ўсю гістарычную практыку чалавецтва, а не супярэчыць ёй. Довады гэтаму знойдзе кожны, хто ўдумна будзе чытаць тэорыю працоўнай вартасьці, і падаваць тут іх я лічу непатрэбным, бо гэта не датычыць майго заданьня.

Але адначасна трэба адзначыць яшчэ, што суб'ектыўнай карыснасьці ў сучаснай капіталістычнай гаспадарцы зусім амаль ня відаць унутры аднаасабовых гаспадарак, якія выпрацоўваюць продукты не для ўласнага спажываньня, але на рынак. У той-жа самы час у разьдзеле аб субстытуцыйнай карысьці Бэм-Баверк заўсёды ўжывае рыначную цану: ён кажа, купіў ці прадаў за столькі вось флёрынаў, але чаму якраз за паказаную велічыню? Мабыць таму, што на рынках усталявалася такая, а ня іншая цана. Значыць, дзеля таго, каб псыхолёгізм ацэнак вышаў на сцэну, дык раней патрэбна налічнасьць рыначнай цаны, што супярэчыць ужо асновам паказанай тэорыі, якая выводзіць рыначную цану з суб'ектыўных ацэнак. Адгэтуль зьяўляецца моцнае лёгічнае кола (petitio principii). Об'ектыўная вартасьць тлумачыцца суб'ектыўнымі ацэнкамі, якія ў сваю чаргу тлумачацца об'ектыўнымі ацэнкамі,—і гэта сталася ў той момант, калі аўтар пачаў тлумачыць сапраўды існуючую менавую гаспадарку, як кажа Бухарын.

У канцы мы хочам паказаць, да якіх недарэчных вывадаў можна дайсьці, стоячы на гэтай памылковай тэорыі вартасьці, у стасунку прыбытку і проценту.

Наступная схэма вельмі выразна сама сьведчыць аб багатай фантазіі Бэм-Баверка.

| | 1916 | 1917 | 1918 | 1919 | 1920 | 1921 | 1922 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1916 | 100 | — | — | — | — | — | — |
| 1917 | 150 | 100 | — | — | — | — | — |
| 1918 | 200 | 150 | 100 | — | — | — | — |
| 1919 | 250 | 200 | 150 | 100 | — | — | — |
| 1920 | 300 | 250 | 200 | 150 | 100 | — | — |
| 1921 | 350 | 300 | 250 | 200 | 150 | 100 | — |
| 1922 | 450 | 350 | 300 | 250 | 200 | 150 | 100 |

Подлуг гэтае табліцы, выходзіць, што досыць палажыць нейкі капітал, як ён праз пэўныя гаспадарчыя пэрыоды што раз, то больш павялічваецца, і чым даўжэйшы гэты пэрыод, тым большы прыбытак ад капіталу; гэта напамінае сабой фантастычную пабудову сярэднявяковых экономістых аб самаўзрастаючым % на капітал, праз які магчыма назьбіраць бяз меры вялізнае багацьце. Так, гэтыя вучоныя людзі запаўняюць, што досыць было палажыць у банк на пачатку нашае эры невялі-

кую суму, як яна дагэтуль дасягнула-б каштоўнасьці некалькіх залатых куль, прычым кожная з іх па сваім аб'ёме была-б роўнай земнай кулі. Спатыкаліся нават такія гарачыя галовы, якія раілі ангельскім дзяржаўным дзеячом пазбыць свой нацыянальны доўг шляхам гэтай таемнай і ўсё падпарадкуючай сабе сілы самаўзрастаючай вартасьці капіталаў. Хаця сам Бэм-Баверк і адхіляе самаўзрастаньне проценту, але ён ад гэтага ні ў якім разе ня можа пазбавіцца, калі ён стаіць на пункце погляду розьніцы расцэнак у часе здавальненьня патрэб. Калі ён гэта робіць, дык толькі таму, што ў супярэчаньні пераходзіць на іншы грунт, чым ён яшчэ больш скомпромэтаваў сваю тэорыю, выявіўшы і непаступовасьць, і неадпаведнасьць рачаіснасьці, а тым самым паскорыў пераход да пануючага палажэньня працоўнай тэорыі Маркса.

Тое самае датычыць і ўсіх іншых частак вартасьці і цаны. Апошнія, таксама грунтуючыся на неправіловай падставе, маюць у сабе і агульны грэх самае падставы—гэта суб'ектывізм, негістарычнасьць і спажываньне, як выходны пункт пабудовы грамадзянскіх экономічных зьяў.

# ДА ПРОБЛЕМЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА РЭВОЛЮЦЫИНАГА РУХУ Ў ІНДЫІ

Л. Каган

I

Распаўсюджана думка, што Індыя ёсьць фэўдальная „краіна цудаў“ сярэднявяковага тыпу, але гэта ня зусім гэтак,—у сучасны момант яна такою не зьяўляецца. Фэўдалізм Індыі атрымаў першы зьнішчаючы ўдар у сярэдзіне XVIII сталецьця,—гэта быў момант ангельскага заваяваньня, калі палітычная ўлада пачала пераходзіць у рукі чужаземнага торговага капіталу. Апошні ўдар быў зроблен фэўдалізму ў 1857 годзе, калі было прыдушана так званае „паўстаньне сіпаеў“ (сіпай—гэта тутэйшы жаўнер, які знаходзіцца на пасадзе ў ангельцаў у Індыі). Паўстаньне зьяўлялася спробаю фэўдальных гаспадароў (страціўшых свой трон) вярнуць страчаную ўладу, але спроба не ўдалася і была апошняю. З гэтага моманту капіталістычная эксплёатацыя шпарка распаўсюджваецца па ўсёй краіне, і Індыя пачынае набываць у пераважнасьці характар прамысловае краіны. Насельніцтва прамысловых яе гарадоў узрастае амаль што амэрыканскім тэмпам; вугалю Індыя ўжывае ня менш, чым Японія. За часы вайны значна скарачаецца вываз з Індыі баваўнянага і джутавага сырцу (неапрацов. матэрыял.), затое ўдвойваецца вываз гатовае тканіны. Шпарка расьце даўжыня чыгуначнае сеткі ў краіне, а ў 1919 годзе яна дасягае 55 тысяч вёрст. Гэткая даўжыня чыгункі была ўва ўсёй Эўрапэйскай Расіі да вайны або яна роўна $^{2}/_{3}$ усіх чугунак Нямеччыны да вайны.

Замежны гандаль Індыі (сума ўвозу і вывазу) складаў у 1919 годзе 1,3 мільярды доляраў, прыблізна, гэтулькі, колькі складаў замежны зварот Расіі ў 1912 годзе. За 150 год ангельскага гаспадараньня (наперакор ангельцам) здарылася зьліяньне некалькіх дзесяткаў народаў, якія насяляюць Індыю, у адну „нацыю“. Але, дзякуючы разьвіцьцю тамтэйшага капіталу, пасьпелі і прадпасылкі для клясавай барацьбы. У сучасны момант у Індыі (па даных перапісу ў 1911 годзе з прыблізнай процантнай дабаўкаю) каля 20 мільёнаў чалавек насельніцтва займаецца прамысловасьцю і рамяствам, 10 мільёнаў з іх зьяўляюцца гарадзкімі рабочымі. У аднэй толькі буйнай прамысловасьці ў Індыі занята каля 4 мільёнаў чалавек. Жыхароў вёскі, якія жывуць ад земляробства, налічваецца каля

224 мільёнаў, на зямельную рэнту з іх жывуць толькі 9 мільёнаў, рэшта—дробныя земляўласьнікі і каля 40 мільёнаў безьзямельных сялян і батракоў. Такім чынам расьце рабочы рух у горадзе і аграрны—у вёсцы.

Гэта не небясьпечна для Індыйскае буржуазіі і наводзіць на яе страх і пагрозу.

II

Каб лепш уявіць сабе ход разьвіцьця нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў Індыі, дазволім сабе зрабіць сьціслы агляд соцыяльных і палітычных падзей даангельскага пэрыоду. Ангельцы не зьяўляюцца першымі пераможнікамі Індыі, бо ўжо з XII сталецьця Індыя знаходзіцца пад чужаземным гаспадараньнем. Да ангельцаў Індыяй кіравалі перамогшыя яе магомэтане. Гэтае панаваньне магомэтан перашкодзіла стварыць у Індыі нацыянальную дзяржаву. Справа ў тым, што магомэтане перамаглі Індыю ў момант поўнага разьвіцьця фэўдальнае монархіі—раджпуту—толькі ў паўночнай Індыі, а ўся астатняя краіна складалася яшчэ з шмат дробных патрыярхальных і тэократычных княстваў. Праўда, асобныя раджпуты вялі гэроічную барацьбу з мусульманскімі здраднікамі, але гэта была барацьба не за нацыянальнае вызваленьне ўсяе краіны, а толькі змаганьне супроць мусульманскага ўціску ў сваёй вобласьці, каб вызваліць з-пад мусульман свае сьвяшчэнныя „раджасталы“ (памяшканьні цароў). Тэократычныя і патрыярхальныя княствы, якія складалі большасьць краіны, пры другіх умовах павінны былі ў сваім разьвіцьці дайсьці да фэўдальнае монархіі. З прычыны-ж панаваньня мусульман, княствы гэтыя былі зроблены царскімі провінцыямі і кіраваліся іх прысьпешнікамі пры дапамозе наёмнага войска.

Выходзіла штучна створаная больш высокая форма дзяржавы, але яна толькі затрымлівала соцыяльны прогрэс. Праўда, ня гледзячы на ўціск пераможнікаў, тамтэйшы фэўдалізм усё-ж такі разьвіваўся, зьбіраў сілы і не адзін раз уздымаўся супроць дзяржаўнага фэўдалізму прышлых мусульманскіх здраднікаў. Але ў гэтай барацьбе ня было яшчэ выяўленьня нацыянальнага пачуцьця ў шырокім сэнсе гэтага слова. „Нацыянальна-палітычнае сузнаваньне прадстаўляе даволі новы момант у гісторыі. Яно зьяўляецца толькі ў пэўнай стадыі экономічнага разьвіцьця грамадзянства тае ці іншае краіны. Жывучы поруч, розныя групы насельніцтва пад уціскам экономічнае неабходнасьці прасякаюцца сузнаваньнем нацыянальнага адзінства. Але да таго часу, пакуль гэтыя сілы не разьвіліся ў належнай меры, сузнаваньне нацыянальнага адзінства народу невядома. Індыя ў даным выпадку не зьяўляецца выключэньнем. Сама па сабе яна ёсьць толькі географічнае паняцьце.

Гэта вялізны поўвостраў, выразна адмежаваны прыроднымі межамі ад сухазем'я Азіі. Але гэтых географічных асаблівасьцяй яшчэ не хапае, каб стварыць пачуцьцё нацыянальнага адзінства між рознымі

пляменьнямі, якія насяляюць Індыю. Згуртаваньне ў адзіную нацыю розных народаў, якія адрозьніваюцца адзін ад другога моваю і стопнем культуры, магчыма толькі пры прадпасылках экономічнага разьвіцьця. Пакуль-жа вытворчыя сілы краіны знаходзяцца ў пачатковым стане і пакуль розныя групы насельніцтва могуць жыць асобна адна ад другое,—гэтыя групы ня створаць нацыю, ня гледзячы на тое, што яны жывуць на аднэй тэрыторыі, аддзеленай ад іншага сухазем'я. Толькі экономічнае разьвіцьцё прымусіць гэтыя асобныя групы ўтварыць між сабою сувязь і ўзаемаадносіны. У залежнасьці, ад розных варункаў, гэтыя ўзаемаадносіны прымуць і розную форму: ці згоднасьці, ці форму вайны. У пэрыод барбарства асобныя пляменьні і селкі бываюць ў варожых адносінах між сабою за плодаздольную зямлю. Паступова больш магутнейшыя перамагаюць слабейшых, а ў выніку гэтага ствараецца тэократычная фэўдальная монархія. У гэтым выпадку народ яднаецца ня з прычын сузнаваньня нацыянальнага адзінства, а з прычын агульнага падданства каралю ці вышэйшаму духоўнаму ліцу, або таму й другому разам. Тыя-ж сілы экономічнага разьвіцьця, якія выклікаюць у насельніцтва паўстаньне, будуць спрыяць і абуджэньню нацыянальна-палітычнага сузнаваньня. З цягам часу гэта дзяржаўная ўлада—тэократычная ці фэўдальная монархія—становіцца тормазам соцыяльнага разьвіцьця. Тады больш выдатныя элемэнты грамады ствараюць тэорыю нацыянальнага аб'яднаньня. Сутнасьць гэтае тэорыі зьмяшчаецца ў тым, што вышэйшая ўлада павінна быць у руках усяго народу, які складае гэту нацыю, але ня ў руках аднэй асобы. Такім чынам, на сцэну, дзяржаўнага жыцьця выходзіць цэлая кляса, якая кіруе вытворчым жыцьцём грамады,— гэта кляса буржуазіі. Яна ставарае нацыянальную дзяржаву, якая вельмі значна адрозьніваецца ад свае папярэдніцы—фэўдальнае дзяржавы. Экономічныя адносіны між народамі, якія насяляюць гэту дзяржаву, зьнішчаюць як расавыя, так і родавыя перашкоды. Панаваўшая дагэтуль ізоляванасьць асобных груп насельніцтва пачынае зьнікаць, а замест яе вынікае нацыянальная організаванасьць і спайнасьць [1]). Гэтых прадпасылак для нацыянальнага аб'яднаньня, аб якіх гаворыцца ў прыгожай вытрымцы з Роя, у Індыі ў пэрыод мусульманскага ўціску якраз ня было. Такім чынам, к моманту заваяваньня Індыі Ангельшчынай у палове XVIII сталецьця, насельніцтва Індыі не стварала адзінай нацыі, а зьяўлялася поўналікам асобных груп.

У пэрыод мусульманскага ўціску асобныя групы насельніцтва Індыі заставаліся ўвесь час ізоляванымі адна ад другое. Гандлёвая кляса і інтэлігэнцыя, якія павінны былі заснаваць нацыянальную дзяржаву, у першыя гады XVIII сталецьця знаходзяцца ў пачатковым становішчы і ня маюць ніякае політычнае значымасьці. У першыя дзесяцігодзьдзі XVIII ста-

---

[1]) Рой—„Новая Індыя", 116.

леццяя фэўдальны імпэрыялізм мусульманаў рухнуў, і Індыя на кароткі час вызвалілася з-пад замежнага ўціску. Што-ж разбурыла імпэрыю монголаў? Тут было некалькі прычын. Першая—узрастаньне гандлёвае клясы ў краіне і клясы рамесьнікаў, якім робіцца цесна ў межах фэўдалізму бацькаўшчыны і монгольшчыны.

Зьяўляюцца буйныя гарады. Гандляры і заможнікі імкнуцца да вышэйшае формы дзяржаўнасьці. У сувязі з прыгнечаным сялянствам і рамесьніцтвам пачынаюць абурацца супроць ненавіснае ўлады монголаў. Другая прычына і галоўная—хатняе распадзеньне імпэрыі. Зьяўляецца хатняя нязгоднасьць—асобныя прысьпешнікі імпэрыі абвяшчаюць сябе ў сваіх краінах назалежнымі ад імпэрыі. Войска іх прымае бандыцкі характар і займаецца грабеествам мірнага насельніцтва. Распадзеньне імпэрыі монголаў супадае з узрастаньнем індускага фэўдалізму—сікхаў, раджпутаў, маратхаў.

Насельніцтва Індыі аддае перавагу фэўдалам бацькаўшчыны перад замежнымі фэўдаламі. Такім чынам, фэўдалы Індыі пачынаюць барацьбу супроць монголаў, і іх падтрымліваюць шырокія колы насельніцтва. Барацьба канчаецца поўнаю перамогаю індускага фэўдалізму. На некалькі дзесяткаў год улада пераходзіць да дынастыі маратхаў—тамтэйшае фэўдальнае ўлады. У краіне ўжо ўзрастае моцная гандлёвая кляса, якой па сутнасьці і патрэбна было ўзяць у свае рукі ўладу, але для гэтага ў яе яшчэ не хапала сілы. Маратхі—пераможнікі монголаў—пад сваім кіраўніцтвам яднаюць усю краіну. Але экономічныя прадпасылкі для панаваньня фэўдалізму ў Індыі ўжо зьніклі. Вось дзеля гэтага ў сярэдзіне XVIII сталецьця самаўладзтва рушыцца і, замест адзінае монархіі, зьяўляецца шмат самастойных княстваў. Потым гэтыя асобныя княствы распачалі між сабою барацьбу.

Усё гэта значна паслабіла монархічную Індыю, і яна не магла даць адпор нападаючым ангельцам. Такім чынам, Індыя зноў аказалася пад чужаземным уціскам, але ў гэты раз ужо ангельскім.

III

Гістарычны парадокс: экономічныя інтарэсы насельніцтва Індыі і яе пераможнікаў—ангельцаў спачатку супадаюць. Пад націскам ангельцаў фэдэрацыйная монархія Індыі, дынастыі маратхаў, у сярэдзіне XVIII сталецьця была зьнішчана канчаткова. Заваяваньне ангельцамі дало заспакаеньне краіне, якая была ўстрывожана і нішчылася барацьбою асобных княстваў між сабою. Гэта задаволіла насельніцтва, і яно вітала новую ўладу, сваіх пераможнікаў—ангельцаў. Улада ангельцаў зьявілася якраз у той момант, калі фэўдалізм Індыі стаў тормазам далейшага соцыяльна-экономічнага разьвіцьця краіны. Буржуазія-ж Індыі ў той момант была яшчэ маладая, каб захапіць у свае рукі ўладу і ня мела даволі сілы для гэтае рэволюцыйнае ролі. Гэтую ролю і выпаўніў гандлёвы ангельскі

капітал праз Ост-Індзкую кампанію. Ангельцам удалося лёгка, бяз усякіх перашкод заўладаць усёю Індыяй і добра замацавацца ў ёй. Здарылася гэта затым, што ангельцы скарысталі тамтэйшых сялян, рамясьнікоў і гандлёвы капітал, якія былі абураны супроць тамтэйшага змарнелага бандыцкага фэўдалізму; ангельцы нават набіралі сабе войска з тамтэйшага жыхарства для абароны свае ўлады. У далейшым роля ангельскае перамогі становіцца рэакцыйнай. З цягам часу ўзрастае індыйская буржуазія і становіцца небясьпечным конкурэнтам і супрацiўнікам Ангельшчыне.

І ангельская ўлада ў Індыі непакоіцца, робіць рэакцыйны ўхіл—штучна падтрымлівае ўжо зьнікаючы індыйскі фэўдалізм. У Індыі яшчэ й цяпер з 17.328 буйных зямельных уладаньняў—700 фэўдальных княстваў; кіруюцца яны гаспадарамі—васаламі ангельцаў (Feudotory or Protected Wardens). Пад кіраўніцтвам гэтых гаспадароў–марыянэтак ангельскага ўраду–знаходзіцца 1.740 тысяч кв. клм.—трэцяя частка ўсяе прасторы поўвостраву. З гэтых княстваў самае буйное—„Гайдэрабад“; яно мае 13,5 мільёнаў чалавек, а па зямельнай плошчы роўна Італіі. Самае-ж дробнае складаецца ўсяго з 5 вёсак.

Адным словам, ангельцы спачатку скарысталі індыйскую буржуазію, а потым яе ашукалі: калі яна стала ім пагрозаю, ангельцы штучна пачалі насаджаць фэўдалізм, каб спыніць яе далейшае разьвіцьцё. Ангельцам гэта лёгка далося затым, што ў момант іх заваяваньня індыйская буржуазія была яшчэ слабая, а першае сталецьце пасьля перамогі разьвіцьцё яе штучна тармазілася.

Сам-жа ангельска-індыйскі ўрад складаўся з хаўрусу мэтропольнае буржуазіі і найбольш рэакцыйнага элемэнту краіны. Хаўрус гэты супроцьнатуральны; утварыўся ён з мэтаю прыдушыць тамтэйшы гандлёвы капітал, які раней быў хаўрусьнікам ангельцаў. З сярэдзіны XVIII веку да сярэдзіны XIX веку Індыя зьяўляецца бяспомачнаю, паралізованаю краінаю. Супроць-натуральна была пакіравана яна ад прамысловага разьвіцьця да становішча аграрнае (зямельнае) краіны. Гэтага жадаў колёніяльны ўрад Ангельшчыны, так яно і рабілася.

У 1857 годзе адбываецца паўстаньне сіпаяў. Паўстаньне гэта—апошняя спроба канаючага фэўдалізму вызваліцца з-пад уціску ангельцаў.

Ніхто з інтэлігэнцыі і гандлёвае клясы не падтрымаў паўстаньня, не падтрымалі яго і сяляне, бо перамога паўстаньня несла за сабою зварот фэўдалізму—уціск маратхаў ці монголаў, а прыгнечаньне іх было ў тысячу раз горшае, чым ангельцаў. Але для саміх ангельцаў паўстаньне гэта было нечаканым і буйным фактам. Яны зразумелі, што спадзявацца далей на рэакцыйны элемэнт грамадзянства няма сэнсу; ангельцы зразумелі, што рэакцыйны элемэнт захоўвае мэту прагнаць пераможнікаўчужаземцаў, і каб не пасыўнасьць і, нават, не варожасьць шырокіх колаў насельніцтва да паўстаньня, то напэўна індускія консэрватары дасягнулі-б свае ідэі. Дзеля гэтага, з другое паловы XIX веку пачынаюцца новыя,

больш прогрэсыўныя мерапрыемствы ангельцаў у Індыі. Уводзіцца эўропэйская асьвета, каб даць выхад больш прогрэсыўным сілам тамтэйшага грамадзянства. Ангельцы думалі, што гэта ня зробіць ім ніякае небясьпекі, бо, слабыя экономічна, яны ня змогуць супраціўнічаць політычна. Ангельцы нават думалі знайсьці сабе ў гэтым прогрэсыўным элемэнце падмогу ў барацьбе супроць магчымых фэўдальна-рэакцыйных паўстаньняў. Пасьля задушэньня паўстаньня сіпаяў, у сувязі з гэтым, была выдадзена характэрная дэклярацыя ангельскага ўраду: „Брытанскія падданыя незалежна ад нацыянальнасьці і веры, будуць свабодна і бяз усякае перашкоды дапускацца на пасады *каралеўскае* службы, калі толькі яны па сваёй асьвеце, здольнасьцях і чэснасьці будуць прыгодны спаўняць свае абавязкі“.

Далей заспакаеньне консэрватыўных элемэнтаў: „Пры выданьні законаў і правядзеньні іх у жыцьцё будзе рабіцца належная ўвага старажытным правом і звычаям індыйскага народу“. Увядзеньне эўропэйскае асьветы ў Індыі на першы погляд здаецца нязначнаю ўступкаю, але вынікі былі вялізарныя. Індыйская моладзь больш багатае сярэдняе клясы з захапленьнем накінулася на асьвету. Шмат моладзі не здавальнялася ангельскімі школамі ў Індыі і накіроўвалася вучыцца ў Эўропу. Зварочвалася на бацькаўшчыну гэта моладзь з буржуазнаю ідэолёгіяй, тэй ідэолёгіяй, якую немагчыма было ўтварыць на бацькаўшчыне індыйскаму грамадзянству, дзякуючы экономічным перашкодам.

Зварочваючыся на бацькаўшчыну, гэта вучоная моладзь заўважвала супярэчнасьць між політычнай тэорыяй ангельскай буржуазіі і яе практыкай у Індыі. Натуральна, што гэта абуджала ў іх розуме глыбокае нездавальненьне і мары аб прадстаўніцкім строі і ў сябе на бацькаўшчыне. Два грамадзянскіх слаі ў II палове XIX сталецьця пачынаюць відавочна не здавальняцца існуючым у Індыі ладам. Слаі гэтыя: тамтэйшая інтэлігэнцыя і буржуазія. Інтэлігэнцыя нездаволена была за тое, што ангельцы ставілі ёй усялякія перашкоды да атрыманьня пасады ў дзяржаўных установах. Буржуазія нездаволена была за тое, што дзяржаўная ангельская монополія душыла яе экономічна і перашкаджала ёй разьвівацца. Дзякуючы гэтаму нездаволеньню, і выбухае ў Індыі барацьба ў першы раз пад агульна нацыянальнымі лёзунгамі; барацьба, вядома, была лояльная і ўстрымакая. Патрабаваньні іх былі больш чым скромныя. Яны дамагаліся прадстаўніцтва ва ўрадзе краіны і ад мясцовае прогрэсыйнае інтэлігэнцыі. І больш выдатныя, перадавыя дзяржаўныя дзеячы Ангельшчыны ўпэўніваюць свой урад пайсьці насустрач індыйскай інтэлігэнцыі і буржуазіі—даць ім хоць відочную магчымасьць прымаць удзел у кіраўніцтве сваёю краінаю. У выніку гэтага ў 1885 годзе ствараецца нацыянальны конгрэс. Ідэйным кіраўнікам яго быў адстаўны ангельскі чыноўнік А. О. Юм, які зрабіў уплыў на тагочаснага віцэкараля Індыі, лёрда Дэфэрына, каб ён прызнаў конгрэс і прыдаў яму ролю

тамтэйшае „опозыцыі каралеве Ангельшчыны“. Спачатку конгрэс быў поўнасьцю лёяльным інстытутам. Характэрна, што на першае яго пасяджэньне ў Бомбеі быў запрошаны ў прэзыдыум ангельскі губарнатар провінцыі. Але з цягам часу патрабаваньні конгрэсу становяцца ўсё больш і больш радыкальнымі. Асабліва ўпарта і паступова конгрэс пачынае дамагацца „прадстаўніцкага ладу“ („а не дарадчых устаноў“, як гаворыць адна з пастаноў конгрэсу). Дзякуючы гэткай упартасьці конгрэсу, Індыя атрымала ў 1888 г. акт ангельскага ўраду аб мясцовым самакіраўніцтве (The local gonvernement Act). Затым быў выдадзены акт аб саветах у Індыі (The Indian council Act), у якім вызначана думка, што на будучы час урад будзе лічыцца з вопытам і жаданьнем адказных індыйцаў. Тым ня менш, політыка конгрэсу першага пэрыоду наскрозь опортуністычная. Няма і думкі аб адмаўленьні ад ангельскае ўлады.

Імкненьні дзеячоў конгрэсу абмяжоўваліся дамаганьнем удзелу індыйцаў у кіраваньні краінаю, а таксама дамагаліся лепшых варункаў для разьвіцьця тамтэйшае буржуазіі. Але іншага чаго-небудзь і прыдумаць было нельга.

Скінуць уладу ангельцаў ня было ніякага сэнсу, бо іх ня было кім замяніць, і гэта было-б крокам назад—да ўлады актыўных сіл рэакцыі. Аднак, об'ектыўна-нацыянальны рух гэтага пэрыоду—рэволюцыйны. Ён спаважна, але з пэўнасьцю рве перашкоды разьвіцьця тамтэйшага капіталу; зьніштажае рэлігійную і каставую цемру, на якіх трымалася ангельскае заваяваньне; зьнішчае няпісьменнасьць мас і ўзьнімае яе культурны ўзровень. Лёзунг яго—„стварэньне нацыі“ (іначай гаворачы, тамтэйшага капіталу, ідэолёгічным выявіцелем якога і быў конгрэс). Адным словам, індыйскі капіталізм ужо нарадзіўся, і гэты нацыянальны рух быў прадпасылкаю для будучага, больш бурлівага пэрыоду барацьбы супроць капіталізму ангельцаў. Карыстаючыся ўсякімі паслабленьнямі мэтропольнага капіталізму, індыйскі капіталізм пачынае расьці ўсё шпарчэй і шпарчэй. Гэтак, у 1880 годзе ў Індыі было 58 баваўняна-папяровых фабрык з выплачаным капіталам у 3.832 тысячы ф. стэрл. і 22 фабрыкі джутна-тэкстыльных—з аплачаным капіталам у 2.246 тысяч ф. стэрлінгаў. Рабочых на гэтых фабрыках было 68 тысяч. Праз 25 год да 1905 году малюнак рэзка мяняецца. Тамтэйшых прамысловых прадпрыемстваў ужо 2.668, амаль што ўсе яны працуюць электрычнасьцю і парам. У гэтым ліку 178 ткацкіх фабрык, яны маюць 10.762.000 ф. стэрл. і 750 фабрык для апрацоўкі джуту. Агульная сума індыйскага капіталу, укладзенага ў прамысловасьць у 1905 годзе, роўна 57 мільёнам ф. стэрл. У канцы XIX веку на сцэну барацьбы ў Індыі выходзіць так званая экстрэміцкая плынь на чале з Гілакам.

Плынь гэтая высунула шмат выдатных ідэолёгаў: Арабінду Чхоз, Бэніка Чандру, Паль, Нарыадру Нат Дутта; лёзунгам яго было: „Назад да Ведаў“. Хоць яго лёзунгі былі за вызваленьне з-пад ангельскага ўціс-

ку, але гэта была толькі надворнасьць. Па сваёй сутнасьці плынь гэтая імкнулася да звароту старажытнага ладу з тамтэйшымі князямі на чале.

Па адным гэтым „інтэгральны нацыяналізм“ (як іначай называюць гэтую плынь)—зьявішча рэакцыйнае, хоць мэтоды барацьбы з ангельскім уладарствам у яго былі больш рашучыя, чым у лібэральнае буржуазіі; напрыклад, яны заахвочвалі тамтэйшую вытворчасьць і гандаль, а ангельскіх—наадварот, бойкотавалі (г. наз. Свадэшы). У 1905-6 гадох у Індыі былі хваляваньні, галоўным чынам, пад уплывам Цілокаўцаў. Хоць пропаганда „Свадэшы“ сустракалася Індыйскімі масамі і холадна, але яна дала свае вынікі. Яны спрыялі далейшаму разьвіцьцю індыйскага капіталу (аб дасягненьнях 1905 году глядзі вышэй) і далейшым паслабленьням ангельцаў.

У 1909 годзе праводзіцца рэформа Марлі-Манро, якая абазначае „політыку хаўрусу з умеранымі“. Затое з экстрэмістымі ангельцы чыняць рашучыя расправы. Бо экстрэмістыя ня мелі ніякага экономічнага і соцыяльнага базісу (адзіны соцыяльны іх базіс—гэта беспрацоўная частка індыйскае інтэлігэнцыі).

## IV

Рух нацыянальнага вызваленьня ў Індыі мае тры віды: 1) умераных, 2) экстрэмістых і 3) пролетарскі рух.

Умераны рух об‘ектыўна-рэволюцыйны, паколькі ён падтрымлівае разьвіцьцё тамтэйшага капіталу.

З другога боку—ён суб‘ектыўна-згодніцкі, паколькі ён імкнецца, скінуўшы прыгнечаньне ангельцаў, пасадзіць сваіх капіталістых і на гэтым спыніцца. Сярод пролетарскіх мас рух гэты ня мае сымпатыі за яго „згодніцтва“, бо пролетарыят наогул нездаволен капіталістычным ладам—ці гэта будзе замежны ці тамтэйшы.

Рух экстрэмістых па сваёй сутнасьці глыбока рэакцыйны; гэта клерыкальна-фэўдальны рух „назад да Ведаў“, да прыгнечаньня фэўдалізму на чале з князямі. Рух гэты карыстаецца сымпатыямі прыгнечанага пролетарыяту, паколькі мэтоды барацьбы яго з ангельскім уладарствам больш рашучыя. Але рух гэты пачынае зьнікаць, паколькі народныя масы зразумелі ашуканства гэтага руху, які з надворнага боку хоць і прывабны, але які па сваёй сутнасьці нясе яшчэ большае прыгнечаньне пролетарыяту фэўдалізмам. Поруч з ашуканскімі плынямі, нараджаецца рэволюцыйны рух індыйскага пролетарыяту. Абуджаецца пролетарыят і яго клясавая сьвядомасьць, і ён бярэцца за зброю супроць свайго клясавага ворага—як супроць ангельскае, так і супроць мясцовае буржуазіі. З трох гэтых плыняй гандызм—самая цікавая і на ім варта затрымацца асобна. Сапраўднае імя правадыра гэтагае плыні Мохандас Карамшанд Ганді. Махарма ад Macha—вялікі і Atma—душа, вялікая душа, гэта яго новае імя, якое далі яму яго ўшанавацелі. Нарадзіўся ён у Парбандары пры Оманскім моры, 2 кастрычніка 1869 году. Калі яму было

19 год, ён паехаў у Лёндон, каб закончыць адукацыю ў унівэрсытэце і школе правазнаўства. Дзейнасьць Ганді, як грамадзкага дзеяча, пачынаецца з 1893 году і падзяляецца на два пэрыоды: 1) да 1914 году ў Паўднёвай Афрыцы і 2) з 1914 году ў самой Індыі. Выпадкова папаўшы ў Афрыку, Ганді зьвярнуў увагу на 150 тысяч індусаў, якія там жылі пад уціскам капіталу ў страшэнным становішчы і застаўся там аж да імпэрыялістычнае вайны. Якія-ж мэтоды барацьбы за чалавечыя правы раіць Ганді сваім аднапляменьнікам у Паўднёвай Афрыцы, а потым і ў Індыі? Сваё credo Ганді выказвае ў 1908 годзе ў сваёй кнізе „Ханд Сварадж" (Індыйскі гашруль). І аж да 1921 году ў яго палітычных поглядах нічога па сутнасьці не зьмянілася. Вось вытрымка з яго прадмовы да трэцяга выданьня яго кнігі, якая надрукавана ў 1921 годзе: „Гэта ёсьць эвангэльле любві, замест вучэньня ненавісьці. Гвалт заменьваецца самаахвярою; насупроць грубой сіле ставіцца моц духу. У гэтым выданьні я нічога не выкідаю, але я хацеў перасьцерагчы чытача ад думкі, што сваёю мэтаю я стаўлю „Сварадж" (самакіраваньне). Я ведаю, што Індыя для гэтага яшчэ не падрыхтавана. Мая ўпэўненасьць цяпер крапчэй, чымся калі-небудзь. Я адчуваю, што калі Індыя цяпер-бы адмовілася ад сучаснае цывілізацыі, яна толькі-б выйграла". Такім чынам, адмаўленьне цывілізацыі, рамантычныя мары аб звароце да „залатога ідылічнага старога", барацьба ня столькі супроць ангельскага прыгнечаньня, колькі супроць культуры й цывілізацыі наогул—вось сэнс вучэньня Ганді. У сваіх прамовах і кнігах Ганді дае досыць правіловую і тонкую крытыку сучаснай цывілізацыі, але прапанова яго для лекаў зусім няжыцьцёва і немагчыма. Больш таго, гандызм, ня гледзячы на пераважнасьць асабовых якасьцяй свайго правадыра, па сваёй сутнасьці спрыяе рэакцыйнасьці, як і яго крыніца—талстоўства. У гэтым упэўніць нас выкладаньне далейшых фактаў гісторыі вызваленчага руху ў Індыі. Пачынаецца вайна 1914-18 год. Капіталістыя Індыі пакуль што зьяўляюцца галоўнымі ўдзельнікамі нацыянальна-вызваленчага руху. Але з пачаткам вайны рух гэты заціхае, бо мэтраполія ня толькі нездавальняе фабрыкатамі патрэб Індыі, а наадварот—сама карыстаецца вытворчымі яе сіламі. Такім чынам, была паслаблена экономічная апека ангельцаў над індыйскім капіталам, і за часы вайны ён шпарка ўзмацняецца і пашыраецца.

Наступная табліца яскрава даводзіць тэмп разьвіцьця тамтэйшае індыйскае прамысловасьці за часы вайны:

| | 1914 г. | 1917 г. | 1920 г. |
|---|---|---|---|
| Джут. прамысл. | 100 % | 311 % | 563 % |
| Баваўняная . . | „ | 132 „ | 388 „ |
| Ваўняная . . . | „ | 106 „ | 187 „ |
| Вугальная . . | „ | 136 „ | 149 „ |
| Мэталюргічная . . | „ | 232 „ | 297 „ |
| Мукамольная . . | „ | 137 „ | 406 „ |

Капітал усіх акцыянэрных таварыстваў у 1910 годзе складаўся з 72 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў; да 1913-14 году ён узрос у 135 мільёнаў ф. ст., а да 1920 году ўзрос ў 275 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. У 1914 г. індыйская прамысловасьць траціць 9 мільёнаў тон вугалю,— столькі, колькі Японія.

Дзякуючы гэткаму посьпеху ў разьвіцьці індыйскае прамысловасьці, тамтэйшыя буйныя капіталістыя былі задаволены сваім становішчам. Гэтым і тлумачыцца згодніцкая політыка тамтэйшага Нацыянальнага Конгрэсу ў 1914-15 гадох. Але нездаволена дробная буржуазія і пролетарыят, бо становішча іх, як і ўсюды ў час вайны, пагоршала. На дробную буржуазію, а яшчэ больш на пролетарыят падаў увесь цяжар пазыкі, дарагоўлі і недахвату хлеба, вываз якога ўзрос к гэтаму часу. А гэта ў сваю чаргу спрыяла ўзросту рэволюцыйнага настрою пролетарыяту і малазаможнае буржуазіі. У той час, калі ўмераны рух адступіў ад ідэі нацыянальнага вызваленьня з-пад ангельскага ўціску, экстрэмістыя трымаліся нязгодніцкае політыкі і гэтым уцягнулі ў свае рады рэволюцыйны элемэнт. Але з цягам часу індыйская буржуазія, узмацняючыся экономічна, становіцца ўсё больш радыкальна ў адносінах да мэтрополіі і патрабуе самакіраваньня.

„Мы зрабілі нязьлічоныя паслугі мэтрополіі", гаворыць буржуазія, і ў нагароду за гэту вернасьць мы патрабуем поўнага вызваленьня ад мэтропольнай апекі, жадаем selt—gouvernement dominion status, fiscal autonomy (самакіраваньня, грашова-бюджэтная аўтономія). А „крайнія" ідуць яшчэ далей. Шэрагі іх паступова ўзрастаюць. І яны складаюць большасьць Конгрэсу ў Люкнау ў 1916 годзе (у першы раз). Вядомая рэч, што індыйская буржуазія загаманіла сьмялей не затым толькі, што яна ўзмацнілася экономічна, але і затым, што бачыла рост рэволюцыйнасьці мас. Рост гэты буржуазія імкнулася скарыстаць для свае карысьці і накіроўвала яго на шлях барацьбы за „Сварадж" (самакіраваньне). Гэта ўдавалася ёй дзеля таго, што пролетарыят клясава сябе яшчэ не ўявіў і не разбурыў расавых і рэлігійных забабон. Буйнейшым фактам гэтага часу было аб'яднаньне двох варожых сіл, якое адбылося ў 1917 годзе—гэта „Мусульманскае лігі" і Конгрэсу. Здарылася гэта па тэй прычыне, што капіталістычнае разьвіцьцё як індыйскае, так і мусульманскае буржуазіі дашло да стопню, які зьнішчае нацыянальную розьніцу асобных груп грамадзянства, калі выплывае розьніца комэрцыйная.

Такім чынам, мэталязаводчык Бомбею, купец Марвары, і патомак брамінаў—Бэнгала, працуючы ў Калькуце па фабрыкацыі баваўняна-папяровай тканіны, зразумелі, што ў іх між сабою больш інтарэсаў, чым з ангельцамі і што яны могуць хаўрусаваць між сабою, каб разам, монопольна эксплёатаваць прыродныя багацьці краіны; адсюль іх аб'яднаньне для барацьбы з чужаземным конкурэнтам.

На працягу цэлых вякоў штучна падтрымлівалася ангельцамі сьцяна між мусульманамі і індыйцамі па прынцыпе „divide et impera“ (разьдзяляй і уладай),—а мусульман у Індыі 90 мільёнаў з 320 мільёнаў агульнае масы насельніцтва.

І вось сьцяна гэта між мусульманамі і ўсяіндыйскім рухам зьнікла. Усе рознародныя элемэнты руху—„умераныя“, „прававерныя“, мусульмане—аб‘ядналіся к 1917 году ў барацьбе за „Сварадж“. А ў жніўні 1917 г. была апублікавана „програма Конгрэсу і Лігі“ (Congress League Scheme), у якой высоўвалася катэгорычнае патрабаваньне самакіраваньня Індыі ў межах Брытанскае імпэрыі, а таксама бюджэтнае аўтономіі. Індыйскі нацыянальна-вызваленчы рух становіцца на шлях рашучае барацьбы.

У выніку ўсяго гэтага ангельскі ўрад робіць некаторыя крокі насустрач тамтэйшаму індыйскаму капіталу. Першым крокам было павялічэньне мытнага збору на ўвоз баваўняна-папяровых фабрыкатаў у Індыю, якога даўно ўжо дамагаліся тамтэйшыя капіталістыя. За гэта, у відзе падарунку Ангельшчыне, буржуазія, ахвотна й хутка распаўсюдзіла вайсковую пазыку ў 100 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Потым былі выдадзены дэкларацыі Монтэгю ў „палаце абшчын“ і віцэ-караля Індыі лёрда Чэльмэфорда ў Сімле, у якіх абяцалі павялічыць удзел індыйцаў у кожнай адміністрацыйнай галіне, а таксама спрыяць самаму шырокаму ажыцьцяўленьню самакіраваньня, з метаю стварэньня ў Індыі ўраду, як у складанай частцы Брытанскае імпэрыі.

У канцы 1917 году Монтэгю прыехаў у Індыю і апублікаваў перад Конгрэсам сваю дэкларацыю.

Гэта выклікала раскол у шэрагах нацыяналістых: умераныя ўхвалілі проэкт, як значны крок наперад, крайнія адкінулі яго цалком, бо лічылі яго нездавальняючым. Скончылася гэта тым, што ўмераныя зусім адвярнуліся ад Конгрэсу. А небясьпека масавага руху рабілася ўсё мацней і рэальней.

Экономічны й вайсковы ўціск змарыў пролетарыят, і ён пачаў набываць клясавую сьвядомасьць, так што згодніцкая політыка ўмераных ужо не магла стрымаць небясьпеку пролетарскага руху для буржуазіі У пачатку вайны з Амэрыкі зьвярнулася некалькі тысяч чалавек індыйскіх рабочых, якія эмігравалі туды, шукаючы лепшага жыцьця. Потым з фронту зьвярнулася больш мільёну індусаў-жаўнераў. Адны й другія былі зьдзіўлены тым страшэнным прыгнечаньнем, пад якім знаходзілася іх бацькаўшчына і тамтэйшы пролетарыят, і яны пачалі агітаваць за клясавую барацьбу, за такую барацьбу, якую адны бачылі ў Амэрыцы, а другім гаварылі тайныя пропагандыстыя ў акопах.

Вядома рэч, што гэта зьявілася небясьпечным для ангельскага ўраду; ён праводзіць дваістую політыку: з аднаго боку, палёгкі ў выглядзе рэформы Монтэгю-Чэльмэфорда, з другога—ажыцьцяўленьне білю Раулета

(the Rowlett Bill), згодна якога ў Індыі пачаў праводзіцца ў дзейнасьць вайскова-палявы суд.

Гэты біль Раулета ёсьць апошняя капля, якая перапоўніла цярплівасьць індыйскіх мас. Заядлая агітацыя Ганді супроць біля высоўвае яго наперад. Ганді становіцца правадыром нацыянальнага руху. Ён ідзе далей мітынгаў з іх рэзолюцыямі абурэньня і протэсту, дзеля гэтага масы ідуць з ім, а ня з умеранымі і іншымі правадырамі „правоверных“. Лёзунгі яго: „сатыяграк“ (пасыўнае супраціўленьне злу) і „хартал“ (усеагульная нацыянальная стачка). Ганді—заядлы вораг „Шатанскае заходняе цывілізацыі“, ён заклікае народ „адмаўляцца выпаўняць усякія законы, але, поруч з гэтым, ён шчыра імкнецца да праўдзівасьці і ўстрыманьня ад усякага гвалтаваньня асобы, жыцьця і ўласнасьці“. На гэткім дзэёвым грунце Ганді стварае комітэт, які на біль Раулета адказаў заклікам „харталу“. Кожны павінен быў кінуць працу, усе магазыны павінны зачыніцца, усякія справы спынены. Масы з захапленьнем падхапілі заклік да „харталу“, і на падставе гэтага выбухлі крывавыя стычкі ў Пенджабе і бойкі ў Амрытсары. Стыхія, якую ўзварушыў Ганді, пашла далей тых меж, якія вызначыў ён—правадыр руху. І ўмераныя і Ганді ідуць супроць адкрытае грамадзянскае вайны. У гэтым пытаньні яны сходзяцца, але глядзяць на яго з розных бакоў: умераныя з пункту погляду аховы свае капіталістычнае ўласнасьці, Ганді—з рэлігійна-моральнае. Ганді вораг капіталізму не рэволюцыйны, а нацыянальны. Ён прызнае прыватную ўласнасьць, але ня хоча дапусьціць разьвіцьця яе да капіталізму. Ён хоча пакіраваць назад кола экономічнага разьвіцьця, ён зьмяшчае ў сабе і рэволюцыю й рэакцыю, і дзеля гэтага гандызм ёсьць плынь, асуджаная на зьнікненьне.

Масы расчараваліся ў Ганді і ў Пенджабе, і ў Ахмэдабадзе—родным горадзе Ганді,—і ў Амрытсары. Наогул расчараваліся ўсюды, дзе „хартал“ прыводзіў да жорсткіх рэпрэсій і бойкі, бо правадыр у гэты час не асуджваў ангельскіх палачоў, а ў момант найбольшага рэволюцыйнага ўздыму заклікаў масы да пакорнасьці[1]). „Пэўны клясавы інстынкт уладае і над прарокам духоўнае цывілізацыі“. Каштоўная ўласнасьць Гуджарацкіх капіталістых, гэтых вядомых крывапіўцаў і вымагацеляў, папала пад небясьпеку „ўзбуранай чэрні“.

Ці мог хоць адзін паважаючы сябе буржуй, які прызнае недатыкальнаю прыватную ўласнасьць, застацца збоку? Ганді кінуўся ім дапамагаць. І комітэт „Сатыяграк“ (пасыўнага супраціўленьня) пад яго старшынством вырашыў часова спыніць „супраціўленьне ўладзе“ (civil disobedience); і зрабіў прапанову кожнаму патрыоту па прыкладу свайго правадыра дапамагчы ўраду „аднавіць парадак“. Гэтак характарызуецца Ганді індыйскім комуністым Нат Роем.

---

[1]) Рой—„Новая Індыя“, 192.

## V

Якія-ж з усяго гэтага можна зрабіць вывады?

Індыйская буржуазія знаходзіцца цяпер паміж двох агнёў. З аднаго боку, ангельскі імпэрыялізм, з другога—рабоча-сялянскі рух, які пачаў нараджацца ўнутры краіны. Буржуазія, вядомая рэч, выбярэ лепшае для сябе: яна аб'яднаецца з буржуазіяй Ангельшчыны супроць рабочых і сялян Індыі, як гэта ўжо зроблена ёю ў год „харталу" (1919 год). Але яна ня зможа стрымаць буры, сапраўднай рэволюцыйнай буры, якая ў хуткім часе там узьнімецца. А бура гэтая ўзьнімецца, бо гэтага вымагае нявыказана цяжкае становішча 10 мільёнаў пролетараў і 40 мільёнаў батракоў Індыі. І пойдзе тады барацьба ня шляхам гілакізму або гандызму, а пад кіраваньнем Індыйскае Комуністычнае Партыі, пад правадырствам Макабэндры Нат Роя і шэрагу яго энтузыястых-сяброў які зьяўляюцца піонэрамі марксызму ў Індыі. Гэта Індыйская „Група вызваленьня працы" мае там добрую глебу для свайго разьвіцьця і пашырэньня. Глебу гэтую стварылі, нечакана для сябе, і самі ангельцы, і „ўмераныя", і „прававерныя" розных адценьняў. Ураджай-жа сажнуць не яны.

# „ЧОРНЫ ПЕРАДЗЕЛ“ У МЕНСКУ

## С. Вольфсон

Як ведама, пасьля расколу „Зямлі і Волі“ на дзьве організацыі—„Народную Волю“ і „Чорны Перадзел“, які адбыўся ў 1879 годзе, „Чорны Перадзел“ спрабаваў організаваць выпуск свайго ўласнага друкаванага органу, якому была дадзена тая-ж назва „Чорны Перадзел“. Аднак, гэтая спроба была няўдачнай. Організаваная ў Пецярбургу друкарня „Чорнага Перадзелу“ адразу-ж пасьля яе організацыі была выкрыта паліцыяй. Правал адбыўся ў час друкаваньня першага нумару. Арыштаваны член групы наборшчык Жаркоў удаў паліцыі ўсіх удзельнікаў друкарні, частка якіх была арыштавана, а другая частка, у тым ліку Г. В. Пляханаў, зьбегла заграніцу.

Цераз некаторы час пасьля разгрому друкарня „Чорнага Перадзелу“ была, аднак, адбудована і з-пад яе варстату вышаў шэраг выданьняў, якія адыгралі вялікую ролю ў справе разьвіцьця рэволюцыйнае сьвядомасьці народных мас Расіі.

Пытаньне аб тым, як была адбудована друкарня і дзе іменна адбудавалі яе, да апошняга часу было нявысьветлена. Толькі ў 1924 годзе быў кінут сьвет на гэты цікавы момант нашага рэволюцыйнага руху.

У 24-ай кнізе часопісу „Былое“ вядомая народніцкая дзеячка О. Н. Буланава-Трубнікава надрукавала свае ўспаміны, у якіх, між іншым, зазначыла, што „пасьля разгрому друкарні „Чорнага Перадзелу“ і арышту № 1 чорнаперадзельнікі наладзілі новую друкарню ў Менску, адкуль новую газэту і проклямацыі перавозілі ў Пецярбург“ [1]).

Падрабязныя весткі аб менскай друкарні „Чорнага Перадзелу“ былі пададзены ў тым-жа 1924 годзе наборшчыкам гэтае друкарні Язэпам Гецавым, сынам уласьніка півагоннага заводу, адным з першых народнікаў Менску, які ў 1882 г. эміграваў з Расіі—спачатку ў Нямеччыну, а потым у Амэрыку, дзе ён жыве і цяпер. Весткі гэтыя былі напісаны, згодна просьбы Л. Г. Дэйча, у выглядзе пісьма, якое й было надрукована ў № 1 зборніку групы „Освобождение Труда“ [2]).

---

[1]) О. Буланава-Трубнікава „Странички воспоминаний“. Былое. 1924 г. № 24, ст. 73.

[2]) Група „Освобождение Труда“ (из архивов Г. В. П-ва, Л. Г. Дейча). Сборник № 1, Гиз. М. 1924. ст. 123-132.

У час аднаго з маіх з ім спатканьняў тав. Дэйч прапанаваў мне папрабаваць высьветліць у Менску больш падрабязныя весткі па пытаньні, якое асьветлена ў пісьме І. Н. Гецава. Ахвотна згадзіўшыся на гэту прапанову, я зрабіў належныя крокі. Крокі гэтыя нечакана закончыліся посьпехам. Мне ўдалося занатаваць, што ў Менску ёсьць некаторыя асобы, якія мелі беспасрэдныя адносіны да пытаньня, якое мяне цікавіла. Гэта: Яхім Абрамаў Гальперын—адзін з першых народнікаў Менску, прымаўшы блізкі ўдзел у працы Менскай арганізацыі чорнападзельнікаў; Казімір Вінцукоў Парфіяновіч—член Менскай групы „Чорнага Перадзелу"; Разалія Вінцукова Парфіяновіч—вядомая рэволюцыянэрка і тэхнічны організатар пачатку 80-х гадоў; Анатоль Язэпаў Бонч-Асмалоўскі—член Пецярбурскай організацыі „Чорнага Перадзелу", які меў блізкае дачыненьне да менскае друкарні; нарэшце, Ерамей Ляўкоў, меўшы наўкосныя адносіны, як брат аднаго з організатараў друкарні—Савула Ляўкова. Дзякуючы тэй выключнай прыхільнасьці, з якой аднесьліся да майго звароту гэтыя вэтэраны рэволюцыі, мне ўдалося на падставе гутарак з імі намаляваць адносна поўны малюнак першага этапу рэволюцыйнага руху ў Менску. Зраблю спробу падаць яго ў зьвязку з тымі вышэйадзначанымі данымі, якія апублікаваны ўжо ў друку.

Пачатак рэволюцыйнага руху ў Менску адносіцца да канца 1875—пачатку 1876 году і мае сувязь з іменьнямі двох студэнтаў, якія прыехалі ў Менск з Вільні для народніцкай агітацыі: Рабіновіча і Давідава. Апошні ведаў шавецкую справу і застаўся на працу ў адну з шавецкіх майстэрань, дзе наладзіў сувязь з рабочымі.

Гэтыя-ж два студэнты заразілі народніцкімі ідэямі некалькі мясцовых інтэлігэнтаў, утварыўшых народніцкі гурток, які спачатку меў толькі самаадукацыйны характар. Толькі з 1878 г. большасьць удзельнікаў гуртка распачала актыўную політычную дзейнасьць. Найбольш значнымі ўдзельнікамі гуртка зьяўляліся наступныя асобы: Рогалер (мянюшка „Франт"), Грынфэст (мянюшка „Зялёны"), фармацэўт Ляўкоў, каморнік Насовіч, студэнт Велер, К. В. Парфіяновіч (мянюшка „Казюк"), Р. В. Парфіяновіч („Роза"), Е. А. Гальперын („Сьляпы"), Е. Хургін („Дронг", „Сьвірэпы"), Е. Кушалеўская („Елена"), Іцхок-Айзік Гурвіч, Е. А. Гурвіч („Жэня"), Дар'я Насовіч, Літвінаў, Вігдорчык, Клячкін і нейкі „Іоська Цыбульнік", прыежджы з Магілеву, які адрозьніваўся вялікай консьпіратыўнасьцю, прозьвішча яго выкрыць мне не ўдалося. Склад гуртка быў інтэлігэнцкім за выключэньнем брата і сястры Парфіяновіч. Ён быў мэталісты, а яна—краўчыха. Сходы гуртка адбываліся ў доме іх бацькі—муляра, на краі гораду,—цяпер І Шпітальны завулак, хата № 18. Хата гэтая, якая была першай рэволюцыйнай штаб-кватэрай Менску, існуе і цяпер, і ў ёй я меў здавальненьне гутарыць з абодвымі старымі Парфіяновічамі.

У 1879 г., калі ў сярэдзіне „Зямлі і Волі" адносіны між прыхільнікамі старое тактыкі і прыхілнікамі пераходу да новае, тэрорыстычнае

тактыкі сапсуліся, рознамоўе датыркнулася і Менскай організацыі. Надзвычайна цікава адзначана, што, каб узгодніць рознамоўе, у Менск прыяжджаў Г. В. Пляханаў. Прыехаўшы ў Менск, Пляханаў клапаціўся ўхіліць раскол у Менскай організацыі і разам з тым асьцерагаў яе членаў ад захапленьня політычнымі тэндэнцыямі. Пры яго ўдзеле адбыўся сход менскай землявольскай організацыі. Сход адбыўся ў кватэры Клячкіна і Вігдорчыка у завулку, межаваўшым з Турэмнай, потым Праабражэнскай, цяпер Інтэрнацыянальнай вуліцай (цяпер ІІ-гі Савецкі завулак). На сходзе мелі месца даволі ажыўленыя дэбаты, аб якіх расказвала мне ўдзельніца іх тав. Е. А. Гальперын. Прозьвішча Пляханава большасьць членаў організацыі ня ведала. Яго звалі „высокім народнікам“.

Разам з гэтым, адзначым тут наступны кур'ёзны факт. Г. В. Пляханаву, мабыць, давялося жыць у Менску ў якойсьці гасьцініцы ў зусім не комфортабэльных умовах. Старая соцыял-дэмократка Вольга Язэпаўна Лунц-Кабылянская, якая нядаўна памерла ў Менску, расказвала, што калі аднойчы, ад'яжджаючы з Італіі ў Расію, яна сказала Пляханаву, што едзе ў Менск, дык Г. В. заўважыў: „Калі вы заедзеце ў гасьцініцу, абавязкова вазьмеце рушнік і прасьцірадла. Мне давялося выціраць твар газэтай і спаць на сяньніку без прасьцірадла“. Гутарка мела месца, калі прашло трыццаць год пасьля таго, як Пляханаў быў у Менску...

Але вернемся да нашае тэмы.

Гэткім чынам, у Менску была даволі паважная землявольская організацыя.

У 1880 г. організацыі ўдалося зьдзейсьніць значную справу—уцёк афіцэра Фаміна з Віленскай цытадэлі.

Аляксей Аляксандраў Фамін—прапаршчык, які служыў у адным з палкоў віленскага гарнізону, быў арыштаваны, як вінаваты ў антыўрадавай пропагандзе сярод войска. Да суду яго трымалі ў Віленскай цытадэлі (вядомым „чатырнаццатым нумары“), дзе ў суседзтве з ім сядзела і Разалія Вінцукова Парфіяновіч—тады маладзенькая дзяўчынка, прыняўшая ўдзел у рэволюцыйным руху ў Кіеве і потым арыштаваная ў Вільні. Р. В. Парфіяновіч падала Фаміну думку ўцячы, карыстаючыся тым, што ён да суду знаходзіўся ў афіцэрскай форме. Калі плян уцёку быў апрацаваны, яна з дапамогай назірачага Мухліна давяла аб гэтым да ведама свайго брата Казіміра Вінцуковага Парфіяновіча, які павінен быў стварыць умовы, пры якіх Фамін, вышаўшы з турмы, здолеў-бы адразу схавацца.

Плян быў распрацаваны Парфіяновічам разам з прыехаўшымі спэцыяльна для гэтае мэты з Менску членамі Менскай організацыі—Вольманам і Іоселевічам.

Уцёк удаўся бліскуча.

У час зьмены караулу Фаміну ўдалося выйсьці з нумару. Прашоўшы міма вартаўніка, які аддаў яму чэсьць, ён вышаў праз турэмную

браму. Каля турмы Фаміна чакалі Парфіяновіч і Вольман. Тут-жа, на беразе рэчкі Вільлі, яго пераапранулі, а потым завялі ў абранае месца—на кватэру аднаго каморніка, дзе ён і схаваўся на гары. Фамін тут чуць ня быў выкрыты, бо паліцэйскі, які праходзіў міма, зьвярнуў увагу на кашаль, што быў чуцен з гары. Калі небясьпека прашла, Фаміна хутка перавялі ў другое больш бясьпечнае месца,—гэта была баня, дзе ўцекача схавалі ў кучы венікаў. Такія надзвычайныя крокі былі ўжыты ў зьвязку з тым, што пасьля ўцёку Фаміна была ўзьнята на ногі ўся паліцыя, жандары і нават войска. Толькі праз тыдзень удалося вывезьці Фаміна з гораду.

Яго правёз Казімір Парфіяновіч у вагоне, які знаходзіўся пад яго загадам, як дарожнага майстра, і ў якім ён неаднакраць перавозіў нелегальшчыну, зброю і асобных рэволюцыянэраў. Фамін быў апранут за сялянку, прычым на шчацэ была зроблена перавязка. Каля станцыі Кашадары Парфіяновіч даведаўся, што прызначана рэвізія вагону. Прышлося Фаміна адразу-ж ссадзіць і накіраваць яго ў Менск на конях. У Менску Фаміна спаткаў Язэп Гецаў і Саул Грынфэст. Яго прытулілі спачатку на кватэры каморніка Насовіча, а потым перавялі на вышэй адзначаную кватэру Парфіяновічаў па Шпітальным завулку. Праз тыдзень яго даставілі на граніцу і здалі контрабандыстым, якія і пераправілі яго ў Нямеччыну.

А. А. Фамін жывы да гэтых часоў і жыве цяпер у Чыце.

Як відаць, Менская організацыя праявіла сябе, як даволі моцная. І вось, калі пасьля разгрому пецярбурскай друкарні, „Чорны Перадзел“ стаў перад неабходнасьцю адбудаваць яе, і паўстала ідэя асталявацца ў Менску.

З мэтай рэалізаваньня гэтае ідэі і прыехаў у Менск Савул Грынфэст, які часова жыў у Маскве. Пасьля гэтага быу командыраваны з Менску ў Горадню Язэп Гецаў, каб там вывучыць друкарскую справу і набыць неабходныя друкарскія прыналежнасьці. Як відаць, гэта было зроблена таму, што ў Горадні ўладаў друкарняй нейкі Гурвіч (потым так званы „вучоны жыд“ пры менскім губарнатары і настаўнік закону божага ў менскай гімназіі). Сын-жа гэтага самага Гурвіча—Ільля лічыўся членам чорнаперадзельніцкай організацыі і пры яго дапамозе спадзяваліся выканаць задум. Неўзабаве ў Горадню накіраваўся таксама Грынфэст і Яхім Гальперын. У Горадні знашлася магчымасьць наладзіць патрэбныя для організацыі менскай друкарні сувязі. Найбольш услужыў з гэтага боку Ксавэры Янчэўскі (мянюшка „Задунайскі“),—наборшчык, высланы з Пецярбургу ў Горадню пад нагляд паліцыі. Янчэўскі дастаў у віленскай вайсковай друкарні некаторую колькасьць шрыфту, шмат што здабыў Ільля Гурвіч у друкарні свайго бацькі. Апрача гэтых асоб, прымалі ўдзел у гэтай справе члены Горадзенскай організацыі—наборшчык Ясь Грынкевіч, акушэрка Пумпянская і інш. Усё, што здабывалася, па-

троху перавозілася ў Менск пры дапамозе названых вышэй Казіміра Парфіяновіча і Савула Ляўкова. Такім чынам, зьявілася магчымасьць праз некаторы час абсталяваць даволі добрую друкарню.

Друкарня была зроблена ў спэцыяльна зьнятым для гэтае мэты памяшканьні на краі гораду—супроць жыдоўскіх могілак. Хата, у якой яна знаходзілася, захавалася да гэтых часоў. Яна стаіць на рагу Унівэрсытэцкай і Комсамольскай вуліцы № 43/21.

Загадваньне друкарняй было даручана члену гуртка Чартову (мянюшка „Халімон“ або „Халоманія“). Чартоў пад прозьвішчам комісыянэра Левіна заарандаваў кватэру, у якой і наладзілі друкарню. Працавалі ў ёй Грынфэст, Ляўкоў і Гецаў.

У якасьці прадстаўніка Пецярбурскай організацыі „Чорнага Перадзелу“ наведваўся ў Менск вядомы рэволюцыянэр, б. марскі афіцэр Анатолі Пятровіч Буланаў. Буланаў, між іншым, быў зьдзіўлены тымі звычаямі, якія панавалі ў менскай друкарні. „Анатолі Пятровіч, паехаўшы за чарговым нумарам“, успамінае О. Буланава-Трубнікава,—з жахам расказваў, што ў Менску пануюць зусім першабытныя звычаі. У кватэры, дзе друкуецца газэта, жыве кватарант—афіцэр з дзяньшчыком, якому гаспадары кватэры, яны-ж друкары... бяз лішняй гаворкі забаранілі ўваходзіць у свае пакоі, і гэта нікому не здавалася падазрэнным. Далей, на свой жах, Анатолі Пятровіч угледзеў, што дзеці на вуліцы пушчалі папяровага зьмея з папсутых аркушоў „Чорнага Перадзелу“ [1]).

У мэтах асьцярогі, якая, ня гледзячы на гэтыя дзіўныя звычаі, усё-ж такі наглядалася, выданьні, што друкаваліся ў Менску, тут не пашыраліся. Яны цалком адвозіліся ў Пецярбург, адкуль і пашыраліся. Перавозілі літаратуру з Менску ў Пецярбург у чамаданчыках, а разы са два—у кадушцы з маслам. Каб ня выявіць, у выпадку правалу, сувязі Менску з Пецярбургам, білеты купляліся не на ўвесь шлях, а на асобныя вучасткі.

У канцы 1881 г. ў Менску адбыліся шматлікавыя арышты, якія, як потым высьветлілася, зьявіліся вынікам арышту ў Маскве чорнаперадзельца Якавенкі, у якога былі адабраны адрасы шмат якіх провінцыяльных працаўнікоў. У ліку іх былі арыштаваны прыехаўшы з Масквы, даволі вядомы на Беларусі працаўнік—„Гарбаты Ром“, сваячка Язэпа Гецава—Іда Гецава, каморнік Насовіч, служачы банку—Турбовіч і інш. Гецаў-жа, Ляўкоў, Грынфэст і Чартоў пасьпелі схавацца, перашоўшы на нелегальнае становішча.

Дзеля таго, што паўстала небясьпека, што адрас друкарні можа стаць вядомым паліцыі, было пастаноўлена перакінуць друкарню ў другое месца. Гэта, зразумела, была даволі складаная опэрацыя, але зьдзейсь-

[1]) О. Буланава-Трубнікава. „Странички воспоминаний“. Былое. 1924. № 24, ст. 73.

ніць яе ўдалося. Друкарню прыпынілі ў невялікім памяшканьні на рагу быўшых Крашчэнскай і Поліцэйскай вуліц.

Аднак, друкарня праіснавала нядоўга. Распад організацыі „Чорнага Перадзелу" і неабходнасьць эміграцыі Гецава, Грынфэста, Ляўкова вырашылі яе лёс. Казімір Парфіяновіч, які прывозіў прыналежнасьці і складаў друкарню, павінен быў і зруйнаваць яе. Ён на працягу шмат часу выконваў гэтую справу, кідаючы шрыфт, часткі варстакоў і друкарскія прыналежнасьці ў Сьвіслач... Так загінула друкарня.

З-пад яе варстаку зьявіліся: 3, 4 і 5 нумары „Чорнага Перадзелу", 3, 4, 5 і 6 нумары рабочай газэты „Зярно", „Зямля і Воля"—проклямацыя, прысьвечаная І сакавіка 1881 г., проклямацыя да войска Віленскай вайсковай акругі, разьмешчанага ў Горадзенскім лягэры.

Аб далейшым лёсе галоўных асоб гэтае старонкі нашага рэволюцыйнага руху, думаю, ня будзе лішнім падаць наступнае.

Грынфэст уцёк з Расіі ў сакавіку 1882 г., некаторы час жыў у Кёнігсбэргу, а потым застаўся ў Цурыху. Тут ён пасябраваў з П. Б. Аксельродам. У 1883 г. яму была даручана вельмі адказная справа, а іменна: ён быў дэлегаваны ў Расію, як першы дэлегат толькі што організаванай групы „Освобождение Труда". Леў Дэйч у сваіх успамінах „Першыя крокі групы „Освобождение Труда" расказвае аб місіі, даручанай Грынфэсту (Фінстэру), наступнае: „Галоўнай мэтай яго паездкі была організацыя контрабанднай пераправы цераз граніцу нашых выданьняў. Праўда, адна ўжо гэтая задача была цяжкой, бо для яе зьдзейсьненьня вымагалася здольнасьць прыцягнуць людзей, знайсьці сувязі, здабыць сродкі, але, як мы пасьпелі за кароткі час жыцьця Фінстэра ў Жэнэве азнаёміцца з ім, яна для яго была даступнай... Выстарчаюча падрыхтаваны, „падкуты на паўтары нагі", як хтосьці пажартаваў, з неабходнай сумай грошай, невялікім транспортам марксысцкіх брошур, а таксама пісьмамі без адрасоў да моладзі,—Фінстэр узімку накіраваўся ў Расію" [1]).

Між іншым, згодна намаганьняў Грынфэста, выехаў у Расію з транспортам нелегальнай літаратуры Леў Дэйч, які адседзеў за гэта 16 год у Сібіры.

Потым, зьвярнуўшыся ў Швайцарыю, Грынфэст упісаўся ў Швайцарскую соцыял-дэмократычную партыю, быў сакратаром профэсыянальнага саюзу. Памёр ен у 1901 г. ў Швайцарыі.

Савул Ляўкоў (які ў эміграцыі меў мянюшку „Рольнік") уцёк з Менску хутка за Грынфэстам. У Жэнэве ён працаваў, як наборшчык, у дру-

---

[1]) Л. Г. Дэйч. „Первые шаги группы „Освобождение Труда". Сборник № 1 „О. Т." Москва, Гиз. 1924, ст. 21.

карні „Освобождение Труда“, а потым і загадваў ёю. Быў у блізкіх адносінах з Г. В. Пляханавым. Жыве да гэтых часаў у Швайцарыі.

Язэп Гецаў таксама накіраваў ў Швайцарыю, дзе працаваў у друкарні „Вестника Народнай Воли“. Пасябраваўся з П. Б. Аксельродам, сумесна з якім і прыгатаўлялі кефір. У 1890 г. выехаў у Амэрыку, дзе актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным руху ня прымаў, але ўсё-ж такі з таго аж да гэтага часу знаходзіцца ў шэрагах соцыял-дэмократычнай партыі.

Гальперын і Парфіяновіч, як ужо я казаў, жывуць у даны час у Менску.

# МОВА, ЯК ІДЭАЛ

**А. Харэвіч**

> Мова ёсьць архіў і орган нацыянальных думак, адбітак жыцьця народнага духу. Выўчыць родную мову ўва ўсёй яе шырыні й глыбіні складае нацыянальны абавязак.
>
> *Лас.*

Чалавек пэражываў, пэражывае й будзе пэражываць розныя кругабегі свайго разьвіцьця ўва ўсіх стасунках. Як паасобны індывід, чалавецтва прашло ў свой час і дзіцячы ўзрост у сэнсе свайго разумовага і моральнага разьвіцьця, а з тых часоў і слова, як знак чалавечай думкі і пачуцьця, прашло вялізную гісторыю перш, чымся зьявілася ў сучаснай сваёй форме. Калі з гэтага боку глянуць на мовы народаў, то яны зьяўляюцца вынікам усяго таго, што прышлося пэражыць гэтым народам; кажучы словамі сучасных лінгвістых, мова—гэта няпісоўная летапісь і з такіх даўніх часоў, аб якіх пісоўная гісторыя і марыць не адважыцца. Чытаючы гэтую летапісь, мы знаёмімся і з жыцьцём, узростам самых моў і з старадаўнімі ступенямі разумовага і культурнага разьвіцьця тых народаў, якія гавораць на гэтых мовах. Навучыцца чытаць гэтую летапісь вельмі важна: яна лепш за ўсё знаёміць нас з тым, што мы звычайна завём „душой народу“ і што нам так патрэбна ведаць, калі мы жадаем сярод яго працаваць.

Апрача таго, гэтае чытаньне вельмі цікавае і наўчальнае. Яно пашырае нашае сьветаразуменьне, паглыбляе нашае пазнаньне прыроды чалавека наогул і таго ці іншага народу ў прыватнасьці; жывіць наш розум, адбуджаючы цэлы шэраг ідэй і прадстаўленьняў.

Гэтым і тлумачыцца тая цікавасьць да пытаньняў лінгвістыкі, якая ў сучасны момант становіцца агульный, як у Заходняй Эўропе, так і ў СССР. Толькі дзякуючы посьпехам навуковага мовазнаўства за апошнія часы, гісторыкам удалося высьветліць з сівой мінуўшчыны шмат таго, што да гэтага часу было прыкрыта змрокам невядомасьці.

У сьветлых, яскравых глыбінях роднага слова захоўваюцца і „вобразы мілыя роднага краю“ і вынікі жыцьця „дзядоў адвечных“, у ім чуюцца сьляды і пэражытай радасьці і пэражытага гора.

Прыслухайцеся ўважліва да сумнай, цягучай песьні беларускага селяніна, і яна вам адразу напомніць яго мінулае, ня менш сумнае й цягучае.

Затрымайце сваю думку на сакавітых, вабячых вуха сваёй пяшчотнасьцю гуках жывой народнай мовы (тут звычайна прынята коўзацца толькі па версе), і вы адчуеце ня менш вабячую вока сваімі хварбамі і тонамі беларускую прыроду.

Тут часам шумлівы, загартаваны „ў горне цяжкай прошласьці гук зьмяняецца сакавітым пяшчотным гукам, як тыя шумлівыя лясы-бары і адвечныя курганы чаргуюцца часта з „бруяшчайся срэбам рэчкай“ і „мядамі пахнучай грэчкай“.

Тут часам ён набярэцца шырокага размаху, а часам і вельмі звузіцца, як тыя лугі і нівы звужаюцца часта шырокім прасторам пяскоў ды балот.

Наогул:

Тут кожны крок абвеен казкай сівай,
Што ручаёк—жалезных сьпеваў жмут“.
(З. Бядуля. „Беларусь“).

У гуках „песьні роднай“ мы пачуем і сумны элегічны настрой беларускага народу, чаргуючыйся з вясёлым гумарам, і яго філёзофскія разважаньні з частым імкненьнем да хараства.

Гэй, родныя песьні! У вас адаб‘ецца нядоля і доля,
Уздыханьні, што ходзяць з сахою, з сякерай
І холад і голад, няволя і воля,
І ў будучнасьць ясну надзея і вера.
(Я. Купала. „Родныя песьні“).

Гэтых слоў даволі, каб згадзіцца з прыведзенай у пачатку думкай Ласа. У нашы дні яна, праўда, стала ўжо вельмі відавочнай, і я на ёй спыніўся толькі дзеля яснасьці далейшага ўкладаньня.

Мэта мая падыйсьці да мовы, як да ідэалу і прывесьці ў сыстэму тыя погляды на яе, якія сярод большай часткі грамадзянства яшчэ і дагэтуль досыць пераблытаны.

Перш за ўсё спынімся на самым падходзе да вывучэньня якога-небудзь прадмету. Тут мы можам падыходзіць або об‘ектыўна або суб‘ектыўна. Калі ў нас маецца толькі адзін пазнаваўчы стасунак і няма эмоцыяльнага і валявога, то гэта будзе об‘ектыўны падход. Зразумела, што ні пачуцьцё ні воля пры гэтым ня зьнікаюць, але яны як-бы цалкам пераліваюцца ў пазнаньне. Чалавек нічога ня хоча ад вывучаемага прадмету ні для сябе ні для другіх, а ён хоча толькі яго пазнаць. Ён не адчувае ад яго ні прыемнасьці ні няпрыемнасьці, а адчувае толькі адну вялікую прыемнасьць ад яго пазнаньня. Дзеля таго, што эмоцыянальна-валявы стасунак сьцісла зьвязан з ацэнкай прадмету, то адсутнасьць ацэнкі ёсьць першая і галоўная адзнака об‘ектыўнага вывучэньня прадмету.

Такі, прынамсі, пункт гледжаньня навук матэматычных і прыродазнаўчых. Паняцьце прогрэсу й дасканаласьці зьяўляюцца немагчымымі ў навуках матэматычных. У прыродазнаўчых яно, праўда, мае ўжытак, але ў чыста эволюцыйным сэнсе. Калі кажуць, што кветкавыя расьліны

дасканалей, чымся папараці, а папараці, чымся ймхі, то тут маюць на мэце, што ў іх часткі (органы, каморкі) больш дыфэрэнцыяваны, а ніяк ня тое, што першыя ў якім-небудзь стасунку лепей, чымся другія. У прыкладных галінах прыродазнаўства мы ўжо сустракаем элемэнт суб'ектыўнага погляду, тут мы ўжо зңаходзім ацэнку прадметаў вывучэньня з падзеламі іх на добрыя і дрэнныя, як, напрыклад, карысныя і шкадлівыя расьліны і жывёлы. Што тычыцца навук гуманітарных, то тут справа йдзе яшчэ далей, тут мы напатыкаемся на суб'ектывізм у сьцісьлым значэньні гэтага тэрміну, на суб'ектывізм індывідуальны, асабісты. Амаль што ні адзін кірунак гуманітарнай думкі ня можа адмовіцца ад этычнага ідэалу і ад этычнай ацэнкі вывучаемага, а якраз адзінага этычнага ідэалу ў чалавецтва пакуль што няма; значыцца, тут суб'ектыўны погляд вынікае з істоты самае справы.

Пераходзячы да навукі аб мове, трэба заўважыць, што апошняя ў сучасны момант адсоўваецца лінгвістымі не да гуманітарных, а да прыродазнаўчых навук. Паняцьце прогрэсу мовы замяняецца ў ёй паняцьцем эволюцыі мовы. Калі раней і былі спрэчкі сярод лінгвістых аб тым, якія мовы лепшыя, як, напрыклад, аналітычныя ці сынтэтычныя, то цяпер усе гэтыя спрэчкі сьціхлі.

Кожная мова зьяўляецца дасканальствам у сваім сэнсе, у сэнсе ідэальнага дапасаваньня да свайго нацыянальнага стану. Апрача таго, эволюцыя мовы цалкам адбываецца па дарвінаўскай схэме. Галоўнай асаблівасьцю яе лічыцца так званая дыфэрэнцыяцыя моў, па якой кожная гаворка імкнецца адасобніцца ад іншых гаворак, распасца, у сваю чаргу, на гаворкі і зрабіцца дыялектам; кожны дыялект імкнецца зрабіцца мовай; кожная мова—суцэльнай групай блізкіх паміж сабою моў і г. д. Адным чынам, эволюцыя зусім падобна эволюцыі жывёл і расьлін: рознавіднасьці робяцца відамі, віды—родамі, роды—сем'ямі і г. д.

Як-бы там ні было, у сучасны момант лінгвісты, як такі, ня толькі да паасобных моў, але й да паасобных фактаў тае ці іншае мовы можа адносіцца толькі об'ектыўна-пазнаваўча. У процэсе вывучэньня для яго няма і ня можа быць ні правільнага ні няправільнага, ні прыгожага ні брыдкога, ні ўдалага ні няўдалага. І як-бы ні была сумнай песьня, якую яму, быць можа, здарыцца пачуць, напрыклад, у час, калі:

Ідуць ад працы ў вёску людзі—
Дзяўчаты, хлопцы, старыкі—
І гукі песьні роднай льлюцца,
Як хвалі быстрай тэй ракі.

(М. Чарот. Верш „Вечарам").

Ён ніводнага факту „песьні роднай" ня высьмее і не асудзіць, а толькі вывучыць. Усялякія народныя дыялекты і гаворкі ня толькі не выключаюцца лінгвістым, а наадварот—яны складаюць для яго самы цікавы, самы галоўны і найбольш расчыняючы таямніцы жыцьця мовы об'-

ект досьледу ў параўнаньні з мовай літаратурнай. Усё роўна, як ботанік заўсёды лепей згодзіцца вывучаць луг, чымся оранжэрэю, так і лінгвісты звычайна аддасьць больш увагі мове жывой, народнай, а не літаратурнай.

У кожным разе якое-небудзь слова „айцец“ ня будзе для яго псаваньнем ні польскага ні расійскага, а вытварэньнем з агульна-славянскага слова „отьць“, а гэта ў сваю чаргу—праславянскага кораня „от“.

Якія-небудзь словы „салодкі“, „серада“, „вораг“, „сорам“ і г. д. ня будуць псаваньнем слоў „сладкий“, „среда“ ці „słodki“, „sroda“ і г. п., а напомняць старaславянскае поўнагалосьсе.

Такія выразы, як, напрыклад: „У нас такая правіла“ „цёплая малако“ „нашая поле“ ня выклікаюць у лінгвістага насьмешкі ў вуснах, а прывядуць да глыбокіх разважаньняў над процэсам выміраньня ў сучасны момант форм ніякага роду, у якіх мысьленьне народу перастае мець патрэбу.

У выразе: „Раве на чым сьвет стаіць“, ён пачуе адбітак народнага сьветапагляду, а выраз: „сьпіць у шапку“ напомніць яму матэрыялістычнасьць народнага светаразуменьня.

Таксама словы „напіўса“, „памыўса“, „перакуліўса“ і г. д. абудзяць у лінгвістага ня сьмех і не зьнявагу, а прывядуць да думкі аб уплыве скарачэньня давальнага склону займеньня „сабе“, замест скарачэньня роднага склону „сябе“ і аб агульных законах замены адных форм другімі.

Ёсьць, зразумела, у народных гаворках і не самародныя факты, а запазычаныя з літаратурнае мовы, якая дзеля сваёй культурнай перавагі заўсёды робіць моцны ўплыў на народныя гаворкі. Сюды можна аднесьці такія факты: „самабіль“, заместа літаратурнага „аўтомобіль“ „шпэктар“, заместа „інспэктар“, „дарэхтар“, заместа „дырэктар“ і г. п. На першы погляд ужо гэтыя факты быццам павінна разумецца, як псаваньне літаратурнай мовы. Але і тут навука падыходзіць з об‘ектыўнай меркай і азначае іх, як факт зьмешваньня моў і дыялектаў (у даным выпадку, як зьмешваньне літаратурнай мовы з мясцовай, гаворкай), і разглядае само зьмешваньне, як адзін з найбольш агульных і асноўных процэсаў жыцьця мовы.

Але гэты об‘ектыўны пункт гледжаньня сучаснага лінгвістага зусім супроцьлежны таму звычайнаму жыцьцёваму погляду, згодна якому мы над кожным фактам мовы ствараем або, прынамсі, імкнемся стварыць суд, дакладней самасуд. Мы або лічым за фактам правы грамадзянства, або зусім выкідваем яго з абшараў мовы. Суд гэты звычайна „хуткі“, „несправядлівы“ і „неміласэрны“, дзеля таго што судзьдзя кіруецца перш за ўсё сваім уласным густам, сваімі ўласнымі ўспамінамі аб нейкіх законах і правілах, якія існуюць для кожнага паасобнага факту мовы.

Мне самому прыходзілася бачыць настаўніка, які аж за галаву ўзяўся, калі пры ім сказалі „тым балей“. „Я беларусін“, кажа ён: „30 год жыву і працую ў Беларусі, радзіўся і ўзгадаваўся ў самым яе ася-

родку, але ніколі ня чуў такога псаваньня. Заўсёды „тым болей“, а ня „тым балей“.

Вось гэтае пракананьне ў існаваньні об'ектыўнага агульна-абавязковага правіла „пэўнай нормы“ для кожнага паасобнага факту мовы складае буйную адзнаку жыцьцёва-інтэлігэнцкага разуменьня мовы. Такі погляд, кажучы словамі сучасных лінгвістых, завецца поглядам нарматыўным. Ня гледзячы на сваю сьмяхотнасьць і часамі ненормальнасьць, ён, аднак, для літаратурнай мовы вельмі неабходны.

Справа ў тым, што навука аб мове з яе об'ектыўным пунктам гледжаньня ня мае і ня можа мець крытэрыуму для разважаньняў аб тым, што правільна і што няправільна, што ў мове ўсё цячэ і цячэ, падобна рацэ, і тое, што было ўчора „правільным“, сёньня можа стаць няправільным— і наадварот. Для навукі жывая народная мова—вялізная стыхія, якая жыве па сваіх законах; стыхійнасьць яе ня любіць індывідуальнага ўмешваньня і амаль заўсёды надасьць гэтаму выгляд донкіхоцтва. Толькі пазнаць яе законы, яе гісторыю, вывучыць тыя сьляды народнага жыцьця, якія ў ёй захаваліся,—вось што зьяўляецца галоўнай задачай навукі.

Ня тое зусім у літаратурнай мове. Тут гэтая цякучасьць моцна стрымоўваецца, і лепшай заставай у гэтым ёсьць наіўны нарматывізм інтэлігэнта-абывателя.

Сярод розных адзнак літаратурнай мовы ад народных дыалектаў і моў якраз самай галоўнай адзнакай і ёсьць іменна гэтае імкненьне гаворачага так ці йначай нормаваць сваю мову, гаварыць ня „проста“, а „неяк“. Селянін, які ня быў у школе і пазбавіўся яе ўплываў, ня мае ніякага паняцьця аб тым, што можа быць той ці іншы факт мовы правільны або няправільны. Ён гаворыць, як зязюля кукуе. Калі хто яго не зразумее, дык ён перакажа—і толькі, ніколькі не затрымоўваючы думкі на самых фактах.

Іншая зусім справа, калі чалавек хоць на хвіліну даткнуўся да вывучэньня літаратурнай мовы. Ён зараз даведаецца, што ёсьць мова ўзорная і адхіляючаяся ад узору, што „дырэктар“ дык правільна, а „дарэхтар“ дык няправільна і што дзеля посьпехаў на арэне жыцьцёвай барацьбы трэба сваю хатнюю штодзенную мову замяніць мовай літаратурнай, як нейкай нормай. Існаваньне *ідэалу мовы* ў гаворачых—вось галоўная і буйная адзнака літаратурнай мовы ад народнай. З пункту гледжаньня натуральнага працэсу мовы, дакладней кажучы, з пункту гледжаньня „фізыолёгіі“ і „біолёгіі“ мовы, гэтая адзнака так ненатуральна, як ненатуральна дыханьне факіра ў параўнаньні з звычайным дыханьнем, або як „ножка“ кітаянкі ў параўнаньні з звычайнай жаночай нагой. Але вось гэтая ненатуральнасьць і ёсьць якраз галоўная ўмова існаваньня самой літаратурнай мовы.

Уявім сабе, што мы хаця-б на хвіліну адмовіліся ад пэўных, агульных норм, дык тады літаратурная мова зараз-жа ўвальлецца ў рэчышча

народнай мовы і пачне таксама цячы, таксама мяняцца. А гэта ў справе нацыянальнай культуры створыць, бясспрэчна, вялікую шкоду. Калі мяняецца разгаворная мова, то бяды ў гэтым няма, бо мы гаворым з сваім бацькам, дзедам—і ня болей. Але, чытаючы Марцінкевіча, мы ўжо гаворым з прадзедам, а што гаварыць пра ангельца, чытаючага Шэкспіра, або пра італьлянца, чытаючага Дантэ?! Сучасны італьлянскі селянін наўрад ці зразумеў-бы мову сваёй роднай вёскі XIII стагодзьдзя, а адукаваны італьлянец чытае лёгка літаратурную мову гэтага часу.

Калі-б літаратурная мова зьмянялася хутка, то кожнае пакаленьне магло-б карыстацца толькі літаратурай свайго ды папярэдняга пакаленьня. Але пры такіх умовах ня было-б і самой літаратуры дзеля таго, што літаратура кожнага пакаленьня ствараецца ўсёй папярэдняй літаратурай. Каб, скажам, Янка Купала не разумеў Марцінкевіча, то магчыма, што ня было-б і Я. Купалы. На пустыннай глебе не ўзгадавалася-б буйная расьліна.

У кожным разе ідэал мовы ў літаратурна-гаворачых і пішучых прымушае трымацца пэўных норм і гэтым самым надае літаратурнай мове пастаянства, перашкаджае ёй паддавацца тэй зьменчывасьці, якой адзначаецца разгаворна-народная мова.

Цікава заўважыць, што з усіх ідэалаў гэта, мабыць, адзін, які цалком ляжыць не паперадзе, а *назад*. Нормай лічыцца ня тое, што будзе, а тое, што было, і часткаю тое, што ёсьць. Мы перш за ўсё стараемся браць нормы з мінулага, стараемся прыслухоўвацца да таго, як гаварылі нашы дзяды і прадзеды. Гэта, аднак, мае вялікае значэньне. Толькі дзякуючы такой консэрватыўнасьці, магчыма аб'яднаньне ў часе з мінулымі пакаленьнямі і стварэньне адзінай нацыянальнай шматвяковай літаратуры.

Але для гэтага будзе мала толькі прыслухоўвацца да таго, як гаварылі *раней*, трэба яшчэ мець той узорны нацыянальна-культурны асяродак, куды-б пакіроўваць свой слух *цяпер*. Такім асяродкам у расійцаў зьяўляецца Масква і ў прыватнасьці сцэны Малога і Мастацкага тэатраў, у французаў—невялічкая плошча сцэны Komedie Francaise, а ў нас, беларусаў, пры сучасных палітычных умовах, такім павінен стаць і ўжо становіцца Менск з яго Інстытутам Беларускай Культуры, Дзяржаўным Тэатрам і г. д.

Першы сваёй выпрацоўкай тэрмінолёгіі па розных галінах навукі і мастацтва, апошні сваімі гастролямі па Беларусі ўжо зрабілі не малую працу ў справе нормаваньня беларускай літаратурнай мовы, і задача грамадзянства—усім аднолькава імі кіравацца.

Калі орыентацыя на мінулае, на мову дзядоў і прадзедаў яднае народ *у часе*, то орыентацыя на нацыянальны асяродак яднае народ *тэрыторыяльна*.

Трэба заўважыць, што той процэс дыфэрэнцыяцыі па дарвінаўскай схэме, аб якім гаварылася вышэй, тычыцца пераважна аднэй народнай

мовы. Літаратурная-ж мова, наадварот, ня толькі яднае розныя часткі народу, гаворачыя на розных дыялектах, але і непасрэдна робіць уплыў на мясцовыя гаворкі, нівэлюючы іх сваім уплывам і стрымоўваючы гэты процэс дыфэрэнцыяцыі, як аб гэтым ужо ня раз і зазначалася ў нашых часопісях (бач, напрыклад, „Нацыянальная політыка і нацыянальная літаратура“, „Савецкая Беларусь“ 1925 г. № 39). Кажучы ясьней, калі жыхары Горадзеншчыны, Магілеўшчыны, Віленшчыны і г. д. ня стануць прыслухоўвацца да аднаго пэўнага асяродку, то ў іх на месцы сучасных дыялектаў і гаворак створацца ў хуткім часе свае горадзенская, магілеўская, віленская і г. д. мовы і нацыянальнасьці., а беларуская нацыянальнасьць, як такая, загіне.

Як бачым з вышэйсказанага, галоўная асаблівасьць літаратурнай мовы—гэта існаваньне ў ёй агульных для ўсёй нацыі норм, што дае магчымасьць разважаць аб тым, што правільна і няправільна і чаго нельга сказаць адносна народнай мовы, паколькі там усё цячэ і мяняецца.

Дзеля гэтага ня дзіва, што мы часта сустракаем асаблівасьці ў асобных фактах тэй ці другой мовы. Але будзе вельмі няправільным лічыць гэтыя асаблівасьці, як псаваньне літаратурнай мовы. З такім поглядам мы прыдзем да думкі, што народныя гаворкі ствараюцца з літаратурных, а гэтага цяпер ніхто ня можа сказаць. Вельмі ўжо відавочна, што і да зьяўленьня літаратур існавалі народы, што гэтыя народы і на якіх-та мовах гаварылі і што літаратуры пры сваім зараджэньні маглі скарыстаць толькі гэтыя мовы, а ні што іншае.

З другога боку, будзе няправільным і той погляд, па якім літаратурная мова павінна сьцісла супадаць з асаблівасьцямі ўсіх гаворак, існуючых на тэрыторыі тэй ці іншай нацыі. Гэта магчыма толькі тады, калі мы адмовімся ад агульных норм, але тады мы гэтым самым адмовімся і ад нацыянальнай, літаратурнай мовы. „Гэта няправільна, у нас так не гаворць“, вось хадзячы і пашыраны выраз такога погляду. Адгэтуль частыя нападкі асабліва на беларускія літаратурныя выданьні, а больш за ўсіх дастаецца газэце „Савецкай Беларусі“ („Мала ў ёй мужыцкіх слоў“, як часта кажуць). Адгэтуль таксама частыя спрэчкі над тым ці іншым фактам мовы.

Зразумела, што літаратурная мова нараджаецца і ўзгадоўваецца на глебе народнай мовы; яна заўсёды павінна жывіцца яе сокамі, без чаго ня будзе жыцьцёвай і дзейнай. Але калі ў маёй мясцовасьці і нідзе болей гавораць „вусьпіца“, замест літаратурнага „збан“, то гэта яшчэ ня значыць, што „вусьпіца“ правільна, а „збан“ няправільна.

Як у барацьбе за існаваньне бярэ, звычайна, верх той, хто магутней, так і ў барацьбе за норму бяруць верх тыя факты, якія пасьпелі атрымаць большае пашырэньне.

У такім сэнсе і трэба разумець правільнасьць фактаў літаратурнай мовы, па такім шляху (менска-віленскі дыялект+больш пашыраныя фак-

ты гутарак другіх мясцовасьцяй) і адбыўся, прынамсі, у нас, на Беларусі, процэс нормаваньня літаратурнай мовы.

Аднак, аднэй правільнасьці будзе мала. Ідэал нашай мовы патрабуе яшчэ шмат чаго і на першым месцы, побач з правільнасьцю,—*яснасьць* мовы. Яе мы патрабуем нязьменна і няўхільна, усюды і заўсёды. Наш сябра можа мямліць, гаварыць расьцягнута,—усё гэта мы церпім. Але, калі ён будзе гаварыць няясна, мы проста спынім гутарку. Магчыма падумаць, што яснасьць патрабуецца і ў народнай мове, што яна ёсьць неабходная ўмова усялякай мовы, як процэсу соцыяльнага, і, што ў гэтым стасунку, вядомага роду „норма“ малюецца ў розуме нават дзікуна: гаворачы незразумела, здасца яму іменна ненормальным.

Але справа ў тым, што ў натуральных умовах гэтай нормы ніколі ня прыходзіцца патрабаваць, нават не здараецца аб ёй падумаць. Там усе, апрача хіба здурэўшых і дурэючых (шаптуны, знахары, чараўнікі і г. д.), гавораць зразумела.

У літаратурнай мове—наадворат: усе ў той або іншай ступені гавораць незразумела. Гэта адразу можа задзівіць, але варта прыслухацца да нашых сходаў і конфэрэнцый. Ці ня раз мы чулі і чуем: „Вы мяне не зразумелі“. Ці ня раз пасьля якога-небудзь дакладу задаюць пытаньні, з якіх можна ўгледзець поўнае неразуменьне тых, хто пытаецца. А колькі часу траціцца ў судох на выясьненьне сэнсу таго ці іншага паказаньня сьведкі, таго ці іншага закону? Колькі людзей у навуцы, поэзіі, філёзофіі, рэлігіі заняты выключна тлумачэньнем чужых думак? Як кажа расійскі лінгвісты А. Пяшкоўскі: „Дзікун *проста* гаворыць, а мы ўвесь час нешта *хочам* сказаць. Мы, як сьляпцы, хапаем выцягнутымі рукамі адзін аднаго ў паветры“. Кожны зусім добра разумее толькі сваю ўласную мову, і дзеля гэтага патрабаваньне яснасьці ў літаратурнай мове ёсьць вельмі важнае патрабаваньне. Самую правільнасьць мы фактычна ацэньваем так высока, як неабходную ўмову яснасьці.

Такім чынам, правільнасьць і яснасьць ёсьць асноўныя патрабаваньні; гэта ёсьць пытаньні „жыцьця і сьмерці“ літаратурнай мовы.

Тымчасам, яснасьць мовы знаходзіцца ў сьціслай сувязі з агульнай складанасьцю культурнага жыцьця: чым большага яна ўзросту і разьвіцьця, тым часьцей магчыма ўзаемнае непаразуменьне. Выясьнім гэта падрабязьней.

Навуковым мовазнаўствам даведзена, што народная, а таксама і літаратурная мова па прыродзе сваёй вельмі сьціслая. У ёй дзейнічае пастаянны закон экономіі сіл, дзякуючы якому мы робім ня толькі літаратурныя скарачэньні (Наркамасьветы, белпэдтэхнікум, райкультаддзел і г. д.), але яшчэ большы размах даем яму ў хатнім ужытку.

Мы, звычайна, заўсёды недагаварваем сваіх думак, выпушчаем з мовы ўсё тое, што дадзена ў абставінах або ёсьць у папярэднім досьледзе: Так, бачачы, што ў гаспадыні папсавалася мятла, мы скажам: „А вы ве-

нікам!“ Стрэўшы знаёмага, запытаем: „Ты куды?“ Угледзеўшы ката, які забраўся ў каўбасы, крыкнем: „Я-ж цябе!“ (гэты выраз нават кот зразумее і пабяжыць, задраўшы хвост). Чакаючы цягніка на пляцформе вакзалу і ўбачыўшы яго, паведамім другіх „Прыбывае!“ Пачуўшы надаедлівы плач дзіцяці, скажам: „Ізноў!“ Бачачы, як сабака прывязаўся, парапім свайму сябру: „Палкай яго!“ і г. д., і г. д.

Такія выпадкі, калі наш сябра скажа: „А вы праганеце яго палкай“, або мы запытаем: „Ты куды, Янка, ідзеш?“—належаць бясспрэчна да рэдкіх сказаў.

Наогул, мова вельмі экономна ў сродках. Лёгка ўгледзець, што экономія гэта магчыма толькі пры двух ужо зазначаных умовах: 1) агульнасьць абставін (падмятаньне пакою, стрэча на дарозе) і 2) агульнасьць папярэдняга досьледу (плач дзіцяці, чаканьне цягніка).

Кожны з гэтых сказаў сам па сабе зусім незразумелы і можа мець шмат розных значэньняў у залежнасьці ад гэтых двух фактараў. Венікам магчыма ня толькі падмесьці хату, ім можна зьняць павуціньне са сьцяны, папарыцца ў лазьні, пакрапіць падлогу ці градкі і г. д. Адпаведна гэтаму выраз: „Вы венікам“ можа мець вялікую колькасьць значэньняў. Таксама сказ: „Палкай яго!“ мае ў вуснах хлапцоў, якія дзяруцца, адно значэньне, у вуснах людзей, на якіх напала сабака,—другое, у вуснах гаспадыні, выбіваючай пыл з кажуха,—трэцяе і г. д. І ўсё гэта хутка і бяз ніякай натужнасьці пазнаецца, дзякуючы агульным абставінам і агульнаму досьледу. Нават самы сьціснуты, недагавораны з папярэдніх прыкладаў—выкліч: „Ізноў!“, які можа мець ужо сапраўды бясконца вялікую колькасьць значэньняў, на практыцы заўсёды будзе зразумелым і пры тым найбольш дакладна. Можна нават сказаць, што дакладнасьць і лёгкасьць разуменьня ўзрастаюць па меры зьмяншэньня слоўнага складу сказу і павялічэньня яе бясслоўнай глебы. Карацей—чым меней слоў, тым меней непаразуменьняў. Гэта блізка нас прыводзіць да прычын няяснасьці ў літаратурнай мове.

Каб лепш уявіць гэта, параўнаем гутарку селяніна з жонкай аб іх гаспадарцы і прамову інтэлігэнта на якім-небудзь сходзе. Першыя гавораць толькі аб тым, што перад іх вачыма або перажываецца імі супольна ў працягу ўсяго жыцьця, штодзень; другі гаворыць аб ўсім, апрача гэтага. Абставіны, аб якіх гаварылася, у мове апошняга зусім адсутнічаюць, а папярэдні досьлед распадаецца на індывідуальныя досьледы сотні зышоўшыхся людзей.

Возьмем яшчэ другі факт. Двое сялян аднэй вёскі вядуць паміж сабою гутарку аб зямлі. Яны добра разумеюць адзін аднаго, бо гавораць аб тым, што іх акружае і што імі супольна перажывалася і перажываецца.

Цяпер уявім сябе, што дзяржаўная ўлада хоча скласьці законы аб зямлі. Як і ўсе законы, так і зямельныя ў прыватнасьці, пішуцца заўсёды ў агульных рысах і прадбачыць усе дробныя бакі справы закон ня

можа. У кожным разе, законы пішуцца для ўсяго сялянства і ў іх няма й ня можа быць тых абставін і таго папярэдняга досьледу, якія ёсьць у гутарцы сялян аднэй якой-небудзь вёскі. Адгэтуль зразумела ў колькі раз дзяржаўнай уладзе цяжэй пісаць законы ясна і ў колькі раз яна павінна старацца пісаць іх ясна, каб законы належна праводзіліся-б у жыцьцё (бач „Савец. Беларусь“, 1925 г., № 37. „Тлумачэньне зямельных законаў“). Можна сьмела зазначыць, *што цяжкасьць карыстаньня мовай у сэнсе лепшага ўзаемнага паразуменьня ўзрастае проста-пропорцыянальна лічбе тых, якія карыстаюцца ёю.* А ў кожнай друкаванай мове гэта так і ёсьць: кнігі друкуюцца для няпэўнага мноства асоб.

Зразумела, што ў супроцьлегласьць гэтай нязьбежнай цяжкасьці ўзаемнага паразуменьня павінен у культурным грамадзянстве ствырыцца „культ слова“, культ уменьня гаварыць. Для народнай мовы ў яе натуральных умовах гэта гучыць неяк сьмешна, але для мовы літаратурнай— ёсьць рэч неабходная. Як толькі мы выйдзем за межы хатняга ўжытку, як толькі загаворым аб тым, чаго няма і ня было раней перад вачыма нашага сябра, мы павінны сумець карыстацца роднай мовай, сумець гаварыць, каб нас зразумелі другія.

У жыцьці тэй ці іншай дзяржавы гэты „культ слова“ мае надзвычайна вялікае значэньне. Там, дзе людзі ўмеюць гаварыць, там, звычайна, ня трацiца шмат часу на адшуканьне галоўнай думкі таго, хто гаворыць, там менш крыўдзяць адзін аднаго, бо лепш разумеюць адзін аднаго, там менш судзяцца, бо складаюць больш ясныя контракты, там нагул праца большай продукцыйнасьці, бо там, звычайна, „меней слоў, а болей справы“. Уменьне гаварыць ёсьць тая пружына, дзякуючы якой лепей працуе культурна-дзяржаўная машына. Калі для зносін людзей нагул неабходна мова, то для культурных зносін неабходна мова ў квадрацe, мова, як штукарства, як прадмет, нормуемы ў тым паняцьці правільнасьці і яснасьці, аб якіх гаварылася вышэй, і што, поруч з тым, так моцна патрабуе ідэал літаратурнай мовы ў гаворачага ці пішучага.

Асноўная і найбольшая частка гэтага ўменьня даецца звычайна ў школе. Жыцьцё, у параўнаньні, мала дадае да таго, што атрымана ў школе. Адгэтуль другая вялікая і адказная роля школьнага настаўніка, якую на яго ўскладае дзяржава і якую яму прыходзіцца выконваць, навучаючы дзіця роднай мове, як прадмету *нарматыўнаму,* як мове літаратурнай з пэўнымі агульна-нацыянальнымі нормамі.

Але тут можа паўстаць пытаньне: а як-жа навука з яе об‘ектыўным пунктам гледжаньня? Справа вядомая, што нарматыўны погляд не навуковы. Ці ня будзе ўсё гэта супярэчыць выкладаньню роднай мовы ў школе, як навукі, што так моцна патрабуецца ў сучасны момант? Напрыклад, назіраньні над жывой дзіцячай мовай патрабуецца праводзіць пачынаючы нават з першага-ж году навучаньня.

Трэба заўважыць, што тут ня толькі не супярэчыць адно другому, але нават і патрабуе адно другога. Супярэчнасьць гэта здаецца з першага погляду. Тут той самы існуе мост, які цяпер перакінуты паміж жыцьцём і навукай: навука выўчае, а жыцьцё творыць. Палітычная эканомія, напрыклад, выўчае законы гаспадарскага жыцьця, як яны дадзены самым жыцьцём, гэта значыць об'ектыўна, а экономічная палітыка пакіроўвае гэтае жыцьцё ў пажаданы бок, гэта значыць дзее суб'ектыўна на аснове об'ектыўных умоў экономічнай навукі. Навука аб грошах выўчае законы грашовай эволюцыі дзяржавы, а грашовая палітыка бярэ з гэтага выўчэньня ўказаньні для пакіроўваньня грашовага жыцьця дзяржавы на пажаданы шлях і г. д. Наогул, у кожнай галіне дзяржаўнага жыцьця патрабуецца, каб практык быў хоць крыху тэорэтыкам, каб дзяржаўны дзеяч ведаў патрэбныя для гэтага навукі, якія яму толькі дапамагаюць. У сваю чаргу і тэорэтыкі заўсёды прымаюць удзел у практыцы, даюць раду, зьяўляюцца прыхільнікамі пэўных дзяржаўных плянаў, адпаведна сваім навуковым поглядам і пераконаньням.

Тое самае і адносна мовы. Як ужо гаварылася вышэй, лінгвісты ня ведае ацэнкі фактаў мовы, для яго ў процэсе выўчэньня ўсе факты зьяўляюцца прыгожымі. Але лінгвісты не як лінгвісты, а як удзельнік процэсу мовы, як сябра тэй ці іншай разгаворнай суполкі, ацэньвае факты мовы аднолькава з усімі іншымі адукаванымі людзьмі, з тэй толькі розьніцай, што ў яго для гэтай расцэнкі значна больш спэцыяльных вед. Таксама і кожны грамадзянін, паколькі ён назірае мову і цікавіцца ёю, зьяўляецца да некаторай ступені лінгвістым, а паколькі крывіцца ад якіх-небудзь „тым балей“, „дарэхтар“, „піскулянт“ (спэкулянт)—палітыкам мовы, чалавекам, прымаючым удзел у нормаваньні яе.

У школе гэтыя два бакі—об'ектыўны і нормативны—павінны ўвайсьці ў сьціслае дачыненьне. Выўчэньне адных сухіх норм, без тлумачэньня адкуль яны ўзяліся, наколькі супадаюць з разгаворнай рачаіснасьцю і наколькі адрозьніваюцца ад яе, было-б вельмі нудным.

З другога боку, адно толькі назіраньне над мовай без усялякага практычнага ўжываньня гэтага назіраньня было-б, прынамсі, для вучня першых гадоў навучаньня занадта цяжка і няцікава. Дзіця павінна ясна разумець, што яно вучыцца *добра гаварыць*, але для таго, каб гэтаму навучыцца, трэба прыслухоўвацца да таго і падумаць над тым, *як людзі гавораць*. Кажучы словамі Н. Крупскай: „*Павінна быць сьціслая сувязь паміж тэорыяй і практыкай*“; тэорэтычную цікавасьць трэба падтрымоўваць практычнай, а практычную—тэорэтычнай.

У такіх формах і павінна адбывацца ўзаемадзейнасьць „ідэалу“ і „рачаіснасьці“, нормативнага і об'ектыўнага пункту гледжаньня на мову.

Але тут нельга не зазначыць, як факт, што мы, звычайна, на падставе прысутнага нам ідэалу мовы, стараемся адносіцца нормативна ня толькі да сваёй, а нават і да чужой мовы. Той самы суд, аб якім гава-

рылася вышэй, суд несправядлівы, неміласэрны і тут мы часта ствараем. Вось ад такога нарматыўнага падыходу да мовы іншай нацыі трэба моцна асьцерагацца. Казаць, напрыклад, што адна мова (або тыя ці іншыя паасобныя яе факты) у якім-небудзь стасунку лепей, чымся другая, мы ні ў якім разе ня можам.

Па словах нямецкага вучонага Гумбольта, кожная мова ёсьць сваявобразны сьветапагляд і зьяўляецца ў самым шырокім сэнсе ўнівэрсальным рэфлексам духу на раздражэньні і адбуджэньні збоку сьвету.

Далей, расійскі вучоны Патэбня кажа: „Ня ўсім мовам прыналежаць усе гукі, як ня ўсім інструмантам—усе тоны; у кожнай мове ёсьць свая сыстэма гукаў“ („Мысль и язык“).

Кожны народ, як і асобны чалавек, прывыкае з дзяцінства да сваёй „сыстэмы гукаў“. Яна для яго ня толькі гучыць прыгожа, ня толькі няпісоўны духоўны летапіс мінулага жыцьця, але й лепшы сродак у справе ўзаемнага паразуменьня.

Калі з гэтага боку мы разгледзім чатыры галоўных групы моў, існуючых на земнай кулі, як, напрыклад, мовы сынтэтычныя, аналітычныя, аглютаніруючыя і карнявыя, дык будзем прымушаны прызнаць, што кожная з іх зьяўляецца добра прыстасаванай у справе перадачы думак і пачуцьцяў. Нават такая карнявая мова, як кітайская, дзе формаў слоў зусім няма, а засталіся адны толькі карэньні, і то рознымі злучэньнямі іх перадае думкі так ясна і так дакладна, як, напрыклад, сынтэтычная беларуская мова з яе багацьцем формаў слоў.

Адгэтуль зразумела тая цяга, тое моцнае імкненьне кожнага народу да сваёй роднай мовы, на якой гаварылі яго бацькі й дзяды. Адгэтуль і прыгнечаньне мовы якой-небудзь нацыянальнасьці будзе ня толькі тэй несправядлівай і брыдкай забаронай на вольнасьць слова, што так мастацкі абмалёвана расійскім пісьменьнікам А. Талстым у яго поэме „Ян Дамаскін“, але створыць шкоду і наогул для культуры чалавецтва. Каб лепей гэта ўявіць, зьвернем увагу на той факт, што сходныя словыпаняцьці ў розных мовах прадстаўляюць часта розьніцу ня толькі па сваім вытварэньні, але і па адценьні або нюансу думкі. Так, напрыклад, беларускае слова „прычына“ і нямецкае „ursache“ не пакрываюцца зусім адно другім, яны маюць некаторую розьніцу па сваім, так сказаць, сэнсавым тэмбры. Прычым розьніца гэта здольна адбуджаць сваю асабовую вобразнасьць у кірунку думкі.

Такім чынам, разнаітасьць моў прымушае чалавецтва йсьці ў адшуканьні ісьціны як-бы рознымі шляхамі, высьвятляючы яе з розных пунктаў гледжаньня, а гэта зьяўляецца лепшай забясьпекай найбольш поўнага і ўсебаковага, а не аднабаковага дасягненьня ісьціны.

Нездарма адзін вучоны сказаў: „У нашы часы, пры сучасных міжнародных і міжчалавецкіх адносінах, прыгнечаньне якой-бы ні было мовы зьяўляецца вялікай несправядлівасьцю і нават вар‘яцтвам“. У вялікай

сям'і нацыянальных моў, як і ў вялікай сям'і жывёл і расьлін, кожная з іх у паасобку ёсьць „хараство“ для сябе.

Як усялякі ботанік або зоолёг прымушаны залічыць кожную жывёлу ці расьліну дасканаласьцю ў сваім родзе, так і ўсялякі лінгвісты лічыць кожную мову дасканаласьцю ў дапасаваньні да таго нацыянальнага духу які ў ёй адбіўся. Дзеля гэтага на мову тэй ці іншай нацыянальнасьці мы можам глядзець *толькі об'ектыўна*, а не норматыўна.

Прысутны нам ідэал мовы паколькі патрабуе пэўных нормаў ад сваёй літаратурнай мовы і гэтым самым падтрымлівае яе існаваньне, пастолькі здаровы і патрэбны, але мы ні ў якім разе ня можам з густам сваіх нормаў разважаць аб вартасьцях і заганах мовы іншае нацыі.

Тут, аднак, могуць паўстаць пытаньні: а нашто патрэбна мноства моў, тым болей нашто патрэбна даваць магчымасьць разьвівацца тым мовам, якія былі раней у заняпадзе, „жыцьцё якіх надта няцікава,

пра іх нідзе ня ходзіць слава,
аб іх гісторый не складаюць,
пра іх і песень не сьпяваюць?

Ці ня лепей, замест 3.424 дыалектаў або моў, якія існуюць на зямной кулі, стварыць адну сусьветную мову, на якой усе цывілізаваныя народы маглі-б зносіцца паміж сабою вусна і пісоўна? Вось пытаньні, якія ў нашыя дні, дні бурнага імкненьньня да інтэрнацыянальнага ідэалу становяцца вельмі пашыранымі. Амаль заўсёды, як толькі мы дамо міжнародны размах сваім думкам, у нашай сьвядомасьці паўстае ідэал сусьветнай мовы.

Зразумела, што самастойнае політычнае і духоўнае разьвіцьцё і адраджэньне розных дробных нацыянальнасьцяй, якія раней ня мелі ніякай ролі ў разумовым жыцьці цывілізаванага сьвету, побач з усё больш і больш узрастаючай неабходнасьцю ў міжнародных зносінах, паняволі штурхае на думку аб якой-небудзь аднэй мове, як сродку ўзаемнага паразуменьня для ўсіх культурных народаў.

Адны прапануюць выбраць для гэтай мэты якую-небудзь з найбольш распаўсюджаных жывых моў; другія жадалі-б аджывіць адну з памершых моў (грэцкую або лацінскую, з якіх апошняя яшчэ нядаўна выконвала ролю міжнароднай навуковай мовы); трэція мараць аб стварэньні якой-небудзь штучнай мовы, якая не прадстаўляла-б граматычных і фонэтычных перашкод і дзеля гэтага магла-б з большай зручнасьцю замяніць іх. Але пры існуючым пераважна буржуазна-капіталістычным складзе грамадзянства ніяк нельга згадзіцца з тым, каб адна з гэтых мар ажыцьцявілася.

Нацыянальна-буржуазныя забабоны не дазволяць сучасным культурным народам добраахвотна прыняць за агульную мову якую-небудзь з існуючых.

Амаль поўная сьмерць лацінскай, як міжнароднай, навуковай мовы, таксама выразна даводзіць аб тым, што і гэтая мара ня збудзецца. І не

адны толькі нацыянальныя імкненьні XIX веку пазбавілі лацінскую мову яе сусьветнага значэньня; галоўнай прычынай канчатковай сьмерці яе было хуткае разьвіцьцё навукі і тэхнікі ў XIX веку, што патрабавала больш сьціслага і ў той-жа час больш багатага ў лексычным стасунку і больш гібкага сродку выражэньня, чымся напханая складанымі й заблытанымі стылістычнымі фігурамі і ўмоўнымі зваротамі мова старадаўніх рымлян, ня ведаўшая ні пары, ні электрыкі, ні $^9/_{10}$ земнае кулі. Шмат новых паняцьцяў, выкліканых да жыцьця хуткім узростам навукі і культуры ў XIX веку не магло быць выяўлена лацінскай мовай, якая, такім чынам, прымушана была ўступіць месца другім, больш маладым і больш багатым мовам.

Таксама мала ёсьць надзеі на сусьветнае распаўсюджаньне якой-небудзь штучнай мовы, проэкты якой зьяўляюцца ўсё часьцей і часьцей пачынаючы з XVII веку. Яшчэ Дэкарт займаўся ідэяй агульнай мовы і знашоў сабе прыхільніка ў асобе ангельскага біскупа Вількенса. З больш новых спроб трэба зазначыць „Ідэографію“ француза дона Сінібальдо-де-Мас, маючую выключна оптычны характар. Наогул, спроб гэтых было шмат і тут ня месца іх пералічваць.

Цікава толькі адзначыць, што ў апошнія часы пытаньне аб агульнай мове перашло да новай ступені свайго разьвіцьця і зьявілася некалькі спроб, якія маюць некаторае практычнае значэньне. Большасьць з іх прадстаўляе сабою ў вядомым сэнсе ўпрашчэньне існуючых моў, галоўным чынам—романскай групы. Сюды трэба аднесьці так званы „Воляпюк“ (Wola=род. склон ад wol=ангел. world=сьвет і pük=мова: сусьветная мова), прыдуманы ў 1880-гадох пастарам І. М. Шлейэрам.

У свой час ён меў значны посьпех у Эўропе, а асабліва ў Нямеччыне, дзе налічваў сабе тысячы прыхільнікаў. Было адчынена шмат гурткоў і клюбаў воляпюкістых, выдавалася ў розных мясцох каля 20 часопісяў, прысьвечаных гэтай мове.

Але ў сучасны момант захапленьне „Воляпюкам“ пачынае слабець і яго месца займаюць другія падобныя прыдумваньні, як, напрыклад, Pasilingua проф. Штэйнэра, „Космос“—Лаўды і „Эспэранто“—Самэнгофа. Сыстэма апошняга вызначаецца большай граматычнаю простасьцю і сьцісласьцю, што робіць „Эспэранта“ досыць пашыраным і дужым ворагам „Воляпюку.“

Але найбольш дасьціпным з усіх гэтых новых проэктаў лічыцца Lengua católica Чылійскага морскага доктара А. Ліптэя. Ня будучы вучоным лінгвістым, ён, аднак, адчыніў тую асаблівасьць сучасных культурных моў, якая, у другім толькі асьвятленьні, ужо была зазначана ў навуцы, а іменна—прысутнасьць у іх цэлай масы „інтэрнацыянальных слоў“, большаю часткаю грэцка-романскага пахаджэньня, якія ўсюды маюць адно й тое-ж значэньне. Без усялякіх хітрыкаў ён бярэ міжнародныя чужаземныя словы ў тых формах, у якіх яны зьяўляюцца ў большасьці романскіх

моў. Прычым граматыка мовы вызначаецца простасьцю і лёгічнасьцю ня менш, а нават і больш, чымся граматыка „Эспэранто“. Наогул, проэкт Ліптэя і па асноўнай ідэі, і па выкананьні лічыцца найбольш удалым з усіх існуючых спроб стварэньня сусьветнай мовы. Але ён дае толькі схэму сваёй міжнароднай мовы, абяцаючы поўную яе распрацоўку ў будучым.

З цяжкасьцю, аднак, даецца вера ў тое, каб і гэта спроба ажыцьцявілася, хаця за ёю болей шансаў, чымся за ўсімі іншымі. Пры сучасных міжнародных умовах усе пералічаныя спробы напамінаюць сабою ні што іншае, як танец на аднэй назе.

Зразумела, што агульная сусьветная мова ажыцьцёвіцца рана ці позна, але будзе гэта *не раней таго часу, як ува ўсім сьвеце ўсталюецца СССР.* Тады апошняя створыцца стыхійна ці на грунце аднэй якой-небудзь жывой нацыянальнай мовы (як, напрыклад, расійская ў Саюзе ССР), ці існуючыя мовы самі па сабе шляхам так званага натуральнага падбору бесьсьвядома выпрацуюць міжнародны слоўнік, нешта напамінаючы сучасны ліптэеўскі. Адным чынам, адбудзецца процэс, падобны да процэсу стварэньня агульна-нацыянальнай, літаратурнай мовы з асобных мясцовых гаворак і дыалектаў.

Тут вельмі цікавым зьяўляецца самы факт такога заўсёднага зьяўленьня проэктаў сусьветнае мовы. Расійскі лінгвісты Буліч у свой час зазначыў, што гэта сьведчыць ня толькі аб вядомых грамадзкіх патрабаваньнях, але і ёсьць прымета нейкае няяснае будучае эволюцыі грамадзянства. Аднак, у нашыя дні ўжо выразна становіцца, у які бок гісторыя кіруе гэтую эволюцыю. У кожным разе, мы пэўны, што ідэал аб міжнародным братэрстве працоўнага люду ўжо ня ёсьць „салодкая мара“, а што ён ажыцьцёвіцца рана ці позна; мы пэўны, што і шлях да гэтага ідэалу адзіны і сапраўдны—гэта шлях нацыянальны.

Бясспрэчна, што шлях і да сусьветнай, інтэрнацыянальнай мовы таксама адзіны—гэта шлях вольнага разьвіцця нацыянальных моў. Прынамсі, у СССР так яно і ёсьць, але так яно й павінна быць, бо йначай быць ня можа.

# ПАНШЧЫНА НА БЕЛАРУСІ[1])

*Сялянскія бунты за прыгонам на Віцебшчыне 1832-1855 г. г.*

**М. Мялешка**

## I Віды змаганьня з прыгонам і спосабы ўсьцішэньня сялян

На працягу ўсёй паншчыны ў XIX стагодзьдзі беларускі народ вёў непрымірымую барацьбу са сваімі панамі за сваё вызваленьне з паншчыны. Пролетарызаванае сялянства тых часоў было закабалена панскай няволяй і пастаўлена ў такія цяжкія экономічныя ўмовы жыцьця, якія яго пастаянна штурхалі шукаць сабе лепшую долю. Ні веліч і строгасьць вышэйшай улады, ні поліцэйскія рэпрэсіі, ні адурачаньне сялян духавенствам—цярпець на гэтым сьвеце, каб памершы ўбачыць рай, не маглі стрымліваць імкненьня сялянства Беларусі да свайго вызваленьня ад панскага ярма.

Праўда, цёмнае, адурманенае рэлігійнымі забабонамі прыгоннае сялянства не магло організаванай сілай выступіць на барацьбу. У большасьці сялянскія паўстаньні на Беларусі насілі характар неорганізаваных выступленьняў і протэстаў проці рэжыму паншчыны, а таксама індывідуальных тэрорыстычных актаў. Дробныя паўстаньні, якія захоплівалі адзін двор сялян, бязупынна выбухалі то ў адным, то ў другім месцы на абшарах Беларусі. Але ня раз у гісторыю беларускі селянін упісаў і слаўныя старонкі гэроічнай барацьбы з сваімі клясавымі ворагамі. Мы ведаем на Віцебшчыне некалькі паўстаньняў, дзе беларускі селянін выступіў, як непрымірымы вораг паноў, распачынаючы масавую гэроічную барацьбу, уступаючы ў сьмяртэльную бойку з сваімі эксплёататарамі. Вядома, пры дапамозе ўзброенага войска лёгка было справіцца царскаму ўраду з непакорлівым сялянствам. Аружжа, якім часам узбройвалася сялянства, як калы, косы з ручкамі і часамі стрэльбы, магло здавацца страшным толькі самым сялянам. Пагэтаму сялянскія паўстаньні без вялікай цяжкасьці ўсьцішаліся войскам, хаця пры першай магчымасьці ізноў падымалі бунт.

Відаў змаганьня сялян з прыгонам было шмат. Гэтыя віды залежалі ад тых умоў, у якія ставіў сялян дворны прыгон, ад тых штодзенных

---

[1]) Глядзі „Полымя“ за 1924 г. № 4 (12).

зьявішчаў, якія станавіліся немагчымымі і якія ўздымалі сялян проці паншчыны. Гэтыя ўмовы і падказвалі сялянам спосабы змаганьня з прыгонным жыцьцём. Як мы ўжо бачылі з нашага першага нарысу [1]), на Меншчыне, як сродак збаўленьня ад паншчыны, прыгонныя сяляне вельмі часта накладалі на сябе рукі. Рашаліся на гэта сяляне перад жахам кары і ў выніку розных панскіх зьдзекаў. Але больш за ўсё ў індывідуальным змаганьні з паншчынай вызначаецца побег сялян з двара. У памяці беларускіх сялян жылі казацкія вольніцы. Чуткі, якія здалёк далятаялі да Беларусі аб вольных землях, краталі сялянскае пачуцьцё, і наш селянін часам марыў, у смутку выяўляючы сабе другі край, дзе няма паноў. Вось чаму пры некаторых паўстаньнях сяляне, кідаючы паноў і свае хібаркі, казалі, што пойдзем у „Таболь" і „Хэрсонь". Побег ужываўся вельмі часта і захопліваў вялікія грамады людзей. Напэўна былі і на Беларусі такія месцы, куды зьбіраліся ўцёкшыя ад прыгону сяляне. Але пакуль што аб іх нам нічога невядома. Цікавей за ўсё—гэта ўступленьне сялян у барацьбу з панамі на месцы, выстаўляючы сябе, як сілу, мужыцкую прыгнечаную клясу, процілеглую панскай, эксплёататарскай. Казаць аб клясавай сьвядомасьці сялян у той час ня прыходзіцца. Яе ня было. Само жыцьцё селяніна было пастаўлена так, што ён несьвядома павінен быў выступаць, як прыгнечаная кляса проці сваіх эксплёататараў. Выступаючы проці паноў, сяляне ўжывалі тут розныя сродкі. Часам яны забівалі сваіх паноў, каб пазбавіцца ад цяжкога прыгону; палілі панскія двары і маемасьць, адмаўляліся служыць прыгоншчыкам і даваць двару падаткі, пісалі скаргі вышэйшаму начальству на зьдзек паноў над імі, маючы веру, што вышэйшае начальства і цар „белы" не дадуць іх у крыўду паном.

Сяляне выступалі вельмі дружна. Звычайна яны зьбіраліся на патайныя сходкі, дзе абгаварвалі тыя крыўды, якія яны мелі ад двара і аб тых сродках, якімі яны павінны змагацца за свае правы. Тутака-ж рабілі складчыну на расходы па пісаньні заяў і давалі адзін аднаму клятву не выдаваць нікога і стаяць да апошняга на сваім. Асабліва страшнымі для сялян былі адзіночныя допыты, якія рабіліся паліцэйскімі і чыноўнікамі, што прыяжджалі разьбіраць справу сялян. Пры гэтых допытах ужываліся і розгі, і сяляне лічылі сваім абавязкам нізашто не дапускаць сваіх суседзяў адлучацца з грамады. Калі здаралася, што паліцыя возьме каго-небудзь на дапрос, то сяляне ўрываліся ў дом і адбіралі ахвяру з рук паліцыі.

Усякае нездавальненьне сялян парушала парадак прыгону ў двары, служыла дрэнным прыкладам для другіх сялян і было процідзяржаўным учынкам. Дзеля гэтага як сам абшарнік, так і ўрад былі зацікаўлены, каб як мага скарэй усьцішыць нездаволеных сялян і падтрымаць

[1]) Паншчына на Беларусі. „Полымя" № 4 (12) 1924 г.

правы і ўладу абшарніка над сваімі сялянамі. Пайсьці хаця на некаторае здавальненьне сялян—гэта значыла-б падарваць панскую ўладу над імі і даць ім дрэнны прыклад. Заставалася адно—усьцішыць іх сілай і карамі, каб яны ад страху ў далейшым баяліся працівіцца панскай волі. Дзеля гэтага дворная адміністрацыя, у бо льшасьці з удзелам самога абшарніка[1]), старалася спыніць заўважаныя нездаваленьні лютым сячэньнем розгамі, закоўваньнем у калодкі і другімі сродкамі, якія дазвалялася пану ўжываць законам[2]). Бязумоўна, трэба думаць, што абшарнік прымаў самыя рашучыя меры, каб утрымаць сваіх рабоў у паслухмянстве. Мала таго, што паны мучылі сялян, сякучы іх розгамі і другімі спосабамі,— галоўных непакорлівых маладых яны аддавалі ў рэкруты ў лік будучага набору, належнага да двара, а старых непаслухмяных часта самі адпраўлялі ў астрог.

Але калі такія захады не дасягалі сваёй мэты, тады на дапамогу заклікалася паліцыя і духавенства. Духавенства старалася ўгаварыць сялян, пагражаючы страхам бога, служыць пану. На ўгаворы духавенства сяляне не зьвярталі ўвагі. Тады выступалі паліцэйскія, выпытваючы вінаватых і стараючыся розгамі і арыштамі прымусіць сялян адмовіцца ад сваіх дамаганьняў і служыць прыгоншчыку. Толькі там, дзе паліцэйскіх у двор зьяўлялася шмат, а лік сялян быў малы, паліцыі ўдавалася „пра-канаць“ сялян пакарыцца пану. Калі-ж паліцыя прыступала да сячэньня каго-небудзь розгамі, то сяляне адбіралі свайго суседа з рук паліцыі і разыходзіліся дамоў, а часамі, узбурыўшыся, разганялі самых паліцэйскіх. Пасьля такіх выпадкаў абшарнікі або паліцэйскі чыноўнік данасіў у павятовы суд аб сялянскім паўстаньні ў двары. Данасілася і павятоваму маршалку, на якога па „царскай міласьці“ з 1826 г. ўскладаўся абавязак наглядаць, каб паны занадта ня зьдзекваліся над сваімі сялянамі. Павятовы суд для разбору справы аб непаслухмянстве сялян пану і ўладзе вызначаў так званае „часовае аддзяленьне суду“, якое выяжджала на месца дзеля сьледзтва. Выяжджаў і маршалак, які ўсімі магчымымі сродкамі стараўся прымусіць сялян слухаць пана і адбываць дворныя павіннасьці. Калі-ж справа даходзіла да губарнатара, на месцы пасылаліся жандарскі афіцэр і губэрскі чыноўнік, якім даручалася спыніць сялянскія беспарадкі. У больш значных выпадках выяжджаў на месцы сам губарнатар і пасылаліся другія чыноўнікі і вайсковыя афіцэры. Пры дапамозе паліцыі, інвалідных вайсковых каманд, катаваньнем і страхамі наганялі на

[1]) Устаноўлены погляд, які выказан у творах Дуніна-Марцінкевіча, што зьдзекваліся над сялянамі не паны, а іх упраціцелі і арандатары, зьняпраўджвае шматлікі шэраг дакумантаў, па якіх відаць, што ў карах прымалі ўдзел самі паны і вельмі добра ведалі, як распраўляюцца з сялянамі іх войты і ўправіцелі. Бліскучым прыкладам у гэтым служыць абшарнік Сьвентаржыцкі—актыўны польскі паўстанец 1863 г.,—які ўласнаручна біў сваіх сялян.

[2]) „Полымя“ 1924 г. № 4 (12) стар. 117.

сялян жудасьць кары, якія часам адмаўляліся ад сваёй упартасьці і згаджаліся на ўсё. Але, як ня дзіва, у вельмі многіх выпадках ніякія ўжытыя сродкі не памагалі. Сяляне заставаліся на сваім і ўсьцішаць іх можна было толькі паслаўшы войска для экзэкуцыі.

Пасланыя жандарскія і грамадзянскія чыноўнікі з ваеннымі афіцэрамі пры ўзброеных салдатах распраўляліся з сялянамі самым жудасным спосабам. Пры ваенным усьцішэньні таксама зганялі сялян у двор, запрашалі духаўнікоў, якія павінны былі ўгаварваць сялян пакарыцца.

Угаварвалі і чыноўнікі, і, калі сяляне заставаліся на сваім, вызначалася ваенна-судовая комісія, якая судзіла сялян. Самай цяжкой карай была тут—пропуск праз строй. Асуджанаму зьвязвалі рукі, здымалі кашулю і пускалі праз выстаўленыя ў два рады салдат, якія мелі ў руках па пруту (шпіцрутэны). Кожны салдат павінен быў біць прутам прахадзіўшага каля яго вінавайцу. Прысуджалі па 8.000 udараў, якога ліку, вядома ніхто ня мог перанясьці. Пасьля праходу некалькі раз, засечаны прутамі, у крыві, чалавек траціў сілы і валіўся пад ногі. Яго адлівалі вадой і часам білі да сьмерці. Кара адбывалася на віду ўсіх сялян. Бывала і так, што сяляне, узброеныя сваім прымітыўным аружжам, уступалі ў бойку з салдатамі.

За прыгонам у XIX стагодзьдзі Беларусь была краем, дзе бязупынна бурліла сялянская прыгнечаная маса, змагаючыся проці дзяржаўнага і экономічнага ўкладу таго часу. Толькі ўзброеным войскам можна было трымаць у паслухмянстве сялян. Пастаянныя няціхоты на Беларусі прымушалі ўрад адшукаць сродкі да спыненьня іх. З гэтай мэтай, у часы Аляксандра І, пры ўводзе ваенных пасяленьняў у Расіі і Украіне, былі зроблены ваенныя выселкі і на Беларусі. Урад меў на мэце скарыстаць ваенных пасяленцаў пры паўстаньнях.

Але і гэтая мера на Беларусі не дала ніякіх вынікаў. Сяляне не маглі стаць нявольнікамі і, не зважаючы на дзікія расправы і сыстэматычныя мукі сялян збоку „культурных“ паноў, упарта дабіваліся сваёй волі [1]).

## II Паўстаньне сялян Люцынскага староства [2])

### Прычыны паўстаньня

У Люцынскім павеце б. Віцебскай губ. знаходзіўся маёнтак графа Борха пад назвай „Люцынскае староства“. Гэта староства абхоплівала тры воласьці: Міхайлаўскую (у старыну—Пудзінаўская), Янавольскую і Нерзінскую, дзе было каля 11.000 прыгонных сялян. Пры падзеле Польшчы ў 1772 г. гэты маёнтак быў узяты ад падканцлера Кароны

1) Перад абшарнікамі і ўрадам стаяла заўсёды неразьвязнае пытаньне: які лепшы спосаб усьцішаць сялян? Ці ўжываць масавую кару, ці на віду ўсіх люта, да сьмерці, караць толькі больш непаслухмяных.

2) Артыкул напісан па дакумантах архіву б. канцэлярыі гэнэрал-губарнатара Смаленскага, Віцебскага і Магілеўскага.

Польскай графа Борха з усёй маемасьцю ў казну. Пасьля, па царскаму загаду 21 мая 1778 г. гэтае староства з усёй маемасьцю было зьвернута графіні Борх і сыну яе Язэпу ў пажыцьцёвае іх карыстаньне [1]). Пасьля сьмерці Язэпа Борха, 1836 г., староства ізноў адышло пад казну, а ў 1840 сын Язэпа Міхаіл Борх атрымаў у сваю ўласнасьць Янавольскую і частку Нерзінскай воласьці [2]).

Сяляне Люцынскага староства знаходзіліся ў бязьлітаснай эксплёатацыі свайго ўладара графа Борха. Гэта эксплёатацыя да таго ўзмацнялася, што, урэшце, сяляне не маглі яе зносіць і вышлі з паслухмянства дворнай адміністрацыі. Яшчэ 21 студзеня 1832 г. мінстар фінансаў гр. Канкрын пісаў гэнэрал-губарнатару Смаленскаму, Віцебскаму і Магілеўскаму, што па вестках, якія дашлі да яго, сяляне Люцынскага староства „ўсякі год адпраўляюцца на працу ў другія губэрні лікам ад 300 да 700 чалав. і што гэтыя людзі, вярнуўшыся дамоў, ня ведаюць, за якую плату яны рабілі, а чуюць толькі, што заробленыя грошы залічаюць ім за даўгі, з гэтых даўгоў яны ніколі ня могуць выйсьці, як стаў арандаваць маёнтак Яўхім Злотнікаў“ [3]). Падпалкоўнік Матаў, які быў накіраван праверыць гэту заяву міністра фінансаў, знашоў сялян у самым дрэнным стане. Ён упэўніўся, што сялян вялікімі партыямі пасылаюць у другія губэрні на заработкі і дзеля гэтага сяляне ня могуць абсеяць сваё поле і скасіць свае сенажаці, што з 1832 г., па сканчэньні працы ў полі, кожны гаспадар павінен плаціць рубель у тыдзень двару, сяляне-ж бедныя, ня маюць сабе кавалка хлеба, то ня ўсе двару могуць плаціць; што зімой па дворных падрадах сяляне бяз усякай платы возяць у Рыгу продукты з другіх двароў [4]).

Было паслана яшчэ некалькі чыноўнікаў, якія гэтак сама знашлі непарадкі па ўпраўленьні староствам. Матэрыял сьледзтва быў накірован міністру фінансаў, які гэтак сама прызнаў незаконную дзейнасьць адміністрацыі. Але для спыненьня гэтых непарадкаў ня было нічога зроблена, і лёс сялян заставаўся такім-жа цяжкім. Да гэтага яшчэ на Віцебшчыне падрад тры гады 1832, 33 і 34 былі неўраджайныя, і сяляне зусім галадалі. Голад быў настолькі вялікі, што хлеб мелі толькі паны і дворная чэлядзь [5]). Бачачы сваё немагчымае жыцьцё, сяляне сталі скардзіцца губэрскаму начальству. З паданых імі скаргаў мы бачым, у якім цяжкім стане былі сяляне і што прымусіла іх адмовіцца выпаўняць загады дворнай адміністрацыі. У скаргах сяляне даводзілі, што за бурлакоў, якіх па кантракце пасылалі на працу кожны год за кожнага ча-

---

[1]) Дело о неповиновении крестьян Люцинского староства и о претензии их к владельцу графу Борху; часть II, л. 157.

[2]) Ibidem ч. III, л. 306.

[3]) Ibidem ч I, л. I.

[4]) Ibidem ч. I, л. 8.

[5]) Historja Domestica. „Z okolic Dźwiny“. Wilno, 1912 г. стар. 212.

лавека бралі 25-30 руб., рахункаў ніякіх не рабілі, грошы адміністратары бралі сабе і за падаткі не залічалі. За збожжа, якое давалася вясной, за два зерні адбіралі тры, а хто ня мог аддаць—таго цяжка каралі. Аб адпушчаных за 1812 год рэквізыцыйных грошах больш як 18.000 р.[1]) іх ніхто не паведаміў. Грошы гэтыя, замест таго, каб страціць на пражытак жыхарства, адміністратары прысвоілі сабе. З валасной скрыні ў 1831 г. галоўны ўпраўляючы Рэут узяў валасных грошай: першы раз—450 р. у другі раз—86 р. і ў трэці раз—1.200 р., і куды дзеў гэтыя грошы—невядома. У рабочы час і бездараж давалі немагчымыя нарады на падводы; бралі грошы з сялян на куплю дроў у той час, калі самі сяляне маглі дастаўляць дровы; няма ведама на што бралі грошы звыш падаткаў; адбіралі ў сялян скаціну для эканоміі і суб-арандатара Злотнікава дарма або за вельмі малую плату. Ссыпку збожжа ў магазыны бралі звыш устаноўленай меры, напр.: у Міхайлаўскай вол. замест 4 гарцаў—16, у Нерзінскай і Янавольскай замест 4 гарц.—24 гарцы з кожнай равіскай душы, а хто гэта збожжа карыстаў—невядома. Эканомія за грошы аддала сенажацiв. Блясы пад выган для вайсковых коняй, а грошы сялянам не аддала. Па загаду сяляне выбралі з палёў шмат каменьня і даставілі яго на шашу, а гэтак сама і працавалі на шашы, а грошай ім за гэта ніхто не заплаціў. Сяляне вазілі ў Янаволь свае бярвеньні, вазілі ў Рыгу дворны лён, у некаторых паздыхалі коні на дворнай працы і за ўсё за гэта сялянам ніякай узнагароды ня далі. Увялі падушны збор для двара па суботах 1 рубель з душы. Апрача гэтага, камісары Рэут і Кржэмянецкі прысвоілі сабе розныя сялянскія грошы. Бяз ведама сялян узята з магазыну шмат аўсу, з якога 500 пуд. па загаду сяляне адвезьлі ў сваіх мяшкох гвардзейскай кавалерыі і ні за дастаўку, ні за мяшкі ніякага рахунку ім не зрабілі.

„Аб гэтых абідах—скардзіліся сяляне гэнэрал-губарнатару—жаліліся мы асэсару казённай палаты Гарадзецкаму, але бязрэзультатна“. Пасьля таго, як выехаў з Міхалова Гарадзецкі, рэдка хто з сялян мог схавацца ад кары. Некалькі сялян сядзела ў Люцынскім астрозе; калі-ж іх выпусьцілі на волю, то яны ня могуць спакойна сядзець у сваіх хібарках,—каб ня зносіць кары, ім прыходзіцца туляцца па розных мясцох, а працу на прыгоне нясуць іх сем'і. У сяголетні галодны (1835) год уся вотчына прышла да крайняй беднасьці, ня маюць чаго есьці і людзі мруць з голаду“[2]). Ад адміністрацыі староства ніякай дапамогі сяляне не чакалі, а непакорлівых граф Борх пагражаў аддаць у салдаты. Спэцыяльная комісія для разбору гэтых дамаганьняў сялян да графа Борха

[1]) Пасланай у 1837 г. комісіяй устаноўлена, што за ўзятыя ў сялян у 1812 г. продукты і рэчы было пераведзена ў Люцынскае староства 35.489 р. 69 к. (ibidem, ч. III, л. 5).

[2]) Дело о неповиновении крестьян Люцинского староства и о претензиях их к владельцу гр. Борху; ч. I л. 59-60.

знашла справядлівымі прэтэнзіі сялян да экономіі на 58.757 р. 35 к.[1]). У сваю чаргу, граф Борх налічыў доўгу за сялянамі на 70.000 руб. Усе нездаваленьні сялян вынікалі на экономічным грунце і ў выніку бесчалавечнага абыходжаньня з сялянамі.

**Самаўладзтва Янавольскіх сялян і барацьба з гэтым ураду**

У далейшым сяляне, бачачы, што ніякія іх скаргі начальству не бяруцца пад увагу і што прыгон становіцца ўсё цяжэйшым, рашылі сваімі ўласнымі сіламі дабіцца сабе лепшага жыцьця. Яны сталі адмаўляцца выпаўняць загады дворнай адміністрацыі. Янавольскія сяляне пакінулі слухаць стараст і не дазволілі старшыням адлічаць $1^1/_2$ рублі на падаткі з выданых 10 р. сялянам, якія па кантракту ў 1836 г. аддаваліся на працу ў Шлісэльбург. Вызначаныя для перавозкі хлеба 416 падвод ехаць адмовіліся. Пасьля другога загаду зьявілася 258 падвод, якія, прывёзшы хлеб, не аддалі ў магазын, а падзялілі між сабой. Пакінулі выпаўняць фальварковыя павіннасьці. Адмовіліся на выбар старасты[2]). Адабралі ў валаснога пісара пячатку і самі сталі гаспадарыць у воласьці.

З дазволу міністра фінансаў, у 1836 г. была складзена комісія з саветніка Сокалава, чыноўніка Губастава і люцынскага страпчага для разбору справы аб непарадках у Люцынскім старостве. Дзейнасьць гэтай комісіі ня мела ніякага посьпеху. Сяляне ня бачылі нічога добрага ад комісіі і проста бойкотавалі яе. На сходкі па яе загадах не зьяўляліся і не падавалі ёй ніякіх сваіх скаргаў[3]). Прасілі толькі вызваліць з астрогу Андрэева, якога сяляне хацелі выбраць старастай.

Такое, ужо адкрытае непаслухмянства сялян стала прымаць форму паўстаньня і вымушала ўрад прыняць патрэбныя захады. Ні мясцовымі сродкамі, ні пасылкай комісіі нельга было ўсьцішыць сялян. Справа прымала сур'ёзны характар, і ў чэрвені 1836 г. на месца выехаў Віцебскі губарнатар Шрэйдар. Будучы яшчэ ў Люцыне, губарнатар прыняў заяву ад усіх старшынь і сялян Янавольскай вол., падпісаную 66 асобамі. Старшыні і сяляне прасілі ў заяве губарнатара зьмяніць старшынь, якія былі назначаны Борхам, пры разборцы скарг сялян іх дэпутатам назначыць абшарніка А. І. Львова і вызваліць з астрогу іх трох аднасялян.

26 чэрвеня 1836 году губарнатар прыехаў у Янаволь. На заўтрашні дзень ён загадаў склікаць сялян на сходку зраньня, але сяляне сталі зьбірацца днём і прышло ўсяго каля 200 чалавек. Іх кіраўнікі Цімафееў і Давыдаў на сходку ня прышлі. І прысутнасьць губарнатара не зрабіла на сялян ніякага ўплыву. „Пры першым поглядзе—даносіць ён гэнэралгубарнатару—на сабраную грамаду я ўбачыў, што ў сялян няма

[1]) Ibidem, ч. III, л. 19—21.
[2]) Ibidem, ч. I, л. 100.
[3]) Ibidem, ч. I, л. 201.

патрэбнай пакорлівасьці, якую яны звычайна выказваюць перад начальствам. Дзеля таго што сяляне гэтай воласьці па гаспадарчым праўленьні падзяляюцца на 16 чвэрцяй, то ім і абвешчана было, каб яны станавіліся асобна па чвэрцях. Але сяляне бесьперарыўна пераходзілі з аднэй чвэрці на другую, ня слухаючы загадаў мясцовай земскай паліцыі. З вялікім цяжарам змог я вызваць з грамады тых асоб, імя якіх было падпісана пад заявай"[1]).

На ўсякія запытаньні сяляне не хацелі адказваць, гаварылі аб тых справах, якія былі гадоў 20 таму ўзад, казалі губарнатару, што яны нічога ня ведаюць, што заяву пісалі іх старшыні. Было загадана духаўніком растлумачыць сялянам, якой кары яны заслужаць, калі будуць сваяволіць: ня зьбірацца па загаду на сходкі, назначаць бяз згоды начальства соцкіх і стараст, аддаваць у чужыя рукі свае сенажаці, мяняць бяз ведама начальства сваю зямлю, разьбіраць сваявольна хлеб і працівіцца на „беспристрастный" выбар стараст. „Але ўсе яны—кажа губарнатар—па голасу каго-небудзь аднаго з грамады, моцна і досыць абразьліва (дерзко) адхілялі ўгаворы і парады духаўнікоў. Аб прысязе і слухаць не хацелі. Пад канец, не дачакаўшы дазваленьня разыйсьціся, з гучнымі гутаркамі між сабой пакінулі зборнае месца"[2]).

Праз некалькі дзён быў выклікан себескі абшарнік Львоў і люцынскі маршалак граф Бржастоўскі. Была склікана зноў сходка сялян, на якой угаварвалі сялян Львоў і Бржастоўскі, але, ня гледзячы на сваю павагу да Львова, сяляне і іх не паслухалі і заставаліся пры сваіх дамаганьнях. Яны прасілі вызваліць з астрогу трох іх суседзяў, зьмяніць стараст і назначыць старастаю Андрэева.

Губарнатар не дабіўся ніякага ўсьціхаміраньня сялян і пакінуў Янавольскую воласьць упэўнены, што спыніць беспарадкі ў воласьці і прымусіць сялян выпаўняць прыгон можна толькі пры дапамозе вайсковай каманды[3]).

Было запрапанавана Полацкаму вайскова-павятоваму начальніку Агатонаву выехаць у Янаволь. Яму даручалася па сакрэту выведаць,— чаго сяляне хочуць[4]). Пабыўшы ў Янаволі, Агатонаў данёс гэнэрал-губарнатару, што сяляне нікога ня слухаюць і адносяцца адмоўна на ўсякія ўгаворы.

Аб сялянскіх беспарадках у Люцынскім старостве занепакоіліся ў Пецярбургу (цяпер Ленінград). 19 ліпня 1836 г. міністар унутраных спраў рашуча запрапанаваў гэнэрал-губарнатару Смаленскаму, Віцебскаму і Магілеўскаму злавіць падбухторшчыкаў сялянскага паўстаньня—Шастунова і Цімафеева, пакараць іх па ўсёй строгасьці законаў і „безадкладна

[1]) Ibidem, ч. I, л. 126.
[2]) Ibidem, ч. I, л. 127.
[3]) Ibidem, ч I, л. 135.
[4]) Ibidem, ч I, л. 203.

прыступіць да абавязковага прывядзеньня ў паслухмянства сялян начальству“ [1]).

**Пасылка ў Янаволь войска**

У верасьні месяцы быў накірован у Янаволь з Дынабурскай (Дзьвінскай) крэпасьці адзін узброены батальён прынца Вільгэльма прускага палка, 2-ой пях. дывізіі ў ліку 653 чалавек. Прыбыўшыя ў Янавольскую воласьць салдаты, былі разьмешчаны ў 260 сялянскіх хатах на сялянскім утрыманьні. Батальёну даручалася прывесьці ў паслухмянства прыгонных сялян у Янаволі, адшукаць галоўнейшых падбухторшчыкаў сялянскага паўстаньня і асоб, якія працівяцца ўладзе, і злажыць ваенны суд дзеля іх асуджэньня [2]). Разам з батальёнам прыехаў у Янаволь Віцебскі віцэ-губарнатар Дамброўскі. Але і на гэты раз сяляне засталіся пры сваіх поглядах. „На непакорлівых сялян ніякія праконаньні і ўразуменьні, якія рабіліся ў віду батальёна як асабіста віцэ-губарнатарам да страты сіл яго, гэтак сама праз духоўных айцоў, чыноўнікаў і ваенных афіцэраў батальёна, не зрабілі ніякага ўплыву на сялян. Сяляне пакідалі бяз увагі ўсе праконаньні, выказвалі ўпартасьць і непаслухмянства. Некаторыя з самага пачатку крычалі: „Няхай стараста нам прысягае“, пасьля аднагалосна абвяшчалі, што прысягі ня выпаўняць. Некаторыя проста адказвалі духаўніку: „Пакінь, бацюшка, не вядзі сябе і нас у грэх“. Другія казалі: „Мы ўсе пойдзем ў салдаты“ і пад канец усе рашуча, адмовіліся ад прысягі. Некаторыя галоўнейшыя зачыншчыкі і ўзмуціцелі, як селянін Андрэй Цімафееў, у доме якога пісаліся ўсе заявы, і які хаваўся ў лесе з двума другімі зачыншчыкамі, былі злоўлены і трымаліся пад вартай. Трымаўся пад вартай і б. валасны пісар, які перадаў валасную пячатку Цімафееву. Мешчанін Шастуноў, які пісаў сялянам заявы, і другія падбухторшчыкі, якія схаваліся, сталі адшуквацца. Віцэ-губарнатар Дамброўскі, каб не аддаваць вайсковаму суду ўсю воласьць, рашыў 2 кастрычніка склікаць сялян яшчэ на адзін сход, і калі сяляне засталіся такімі-ж упартымі, як і былі, то загадаў злажыць вайскова-судовую комісію і судзіць усю воласьць, падзяляючы вінаватых па праступках [3]).

Аб непарадках сялян староства Люцынскага і Трыпуцінскага [4]) міністар унутраных спраў далажыў цару, які загадаў скарэй аддаць вайсковаму суду вінаватых, каб такім страхам усьцішыць другіх сялян [5]).

Склікаючы другі сход сялян, Дамброўскі думаў, што арышты галоўных кіраўнікоў зробяць патрэбны ўплыў на сялян, і яны перад страхам адмовяцца ад сваёй упартасьці. Але як толькі з грамады, якая была сабрана ў двары, пазвалі ў хату аднаго селяніна, як уся грамада з кры-

---

1) Ibidem, ч. I, л. 178.

2) Ibidem, ч. I, л. 246—247.

3) Ibidem, ч. II. л. 1—2.

4) Трыпуцінскае—у б. Магілеўскай губ.

5) Ibidem, ч. II л. 6.

кам: „Як асьмеліліся вызываць нас па адным“, рынулася ў дом, дзе жыў Дамброўскі з другімі чыноўнікамі. Толькі батальённы камандзір, быўшы тут, змог утрымаць грамаду, якая магла расправіцца з прыехаўшымі чыноўнікамі. Паўторныя ўгаворы ня мелі ніякай значнасьці. Уся справа была зьведзена да аднаго пытаньня,—аб згодзе прысягнуць на выбар старастаў. Сяляне ўпарта адмаўляліся. Бачачы іх такую ўпартасьць, ім абвясьцілі, што іх усіх лічаць цяпер бунтаўшчыкамі і што яны будуць адданы вайскавому суду [1]). Было загадана батальённаму камандзіру расправляцца з віноўнымі па закону і прывясьці сялян у паслухмянства пры дапамозе „вайсковай дысцыпліны“. Зараз-жа была ўтворана і распачала сваю дзейнасьць вайскова-судовая комісія[2]).

**Першая расправа з сялянамі**

У гэты час быў назначаны Віцебскім губарнатарам Жыркевіч. Прыехаўшы ў Віцебск і даведаўшыся аб паўстаньні ў Люцынскім старостве, ён ураз-жа сам прыехаў у Янаволь, дзе пачаў жорстка расправляцца з сялянамі [3]). Да яго прыезду трымалася ў двух вялікіх гумнах 78 чалавек арыштаваных. Выклікаўшы да сябе ўсіх арыштаваных, ён загадаў закаваць у кайданы 5 сялян і абгаліць ім палову галавы і барады, а другіх адпусьціў. Назаўтра ён загадаў сабраць толькі самых гаспадароў. Яму прывялі 37 чалавек. Ён паставіў іх у два шэрагі, пад вайсковай ахранай, і кожнага, хто пасьмеў яму супярэчыць, тутака-ж сек розгамі ці закоўваў у кайданы і галіў галаву. Знашліся і такія, якія заўважылі губарнатару: „Плёткамі ды розгамі кожнага можна заставіць рабіць што хочаш“. Некаторыя казалі: „Хоць галаву адсячы, а прысягаць не хачу і ня буду“ [4]). З такімі губарнатар расправіўся па ўсёй строгасьці, апошнія згадзіліся прысягнуць. „Нязвычайную азартнасьць мужыкоў і баб“ адзначаў і Жыркевіч [5]).

Па ўказаньні губарнатара, усе адданыя пад суд сяляне вайсковасудовай комісіяй павінны быць падзелены на галоўных узмуціцеляў непакорлівасьці (8 асоб), падбухторшчыкаў да непаслухмянства ўладзе (8 асоб), такіх-жа падбухторшчыкаў сялян, заўважаных земскай паліцыяй (20 асоб) і чвяртковых дзесяцкіх, якія дрэнна наглядалі за фальварковай працай (13 асоб) [6]). Шмат хто з сялян хаваўся ў лясох і гэтым збавіўся ад суду [7]).

Галоўных вінавайцаў судзілі безадкладна. З іх былі два старэнькія дзядочкі—Міхайла Цімафееў і Пётра Уласаў, каторыя мелі па 70 год,

[1]) Ibidem, ч. II, л. 9-10.

[2]) Ibidem, ч. II, л. 10.

[3]) Записки Ивана Степановича Жиркевича, ч. IV „Русская Старина“ за 1890 г. 8 август, стр. 245—257. Запіскі Жыркевічам былі напісаны ў 1844—45 г.г.

[4]) Записки, стр. 254—255.

[5]) Дело канц. ген.-губ. Ibidem ч. II, л. 41.

[6]) Ibidem, ч. II, л. 18.

[7]) Ibidem, ч. II, л. 63.

былі зволены ад прагону праз строй і толькі сасланы ў Сібір. Андрэю Цімафееву, не зважаючы на яго 60 год, прысудзілі 1.000 ўдараў шпіцрутэнамі і саслалі ў Сібір. Другія сяляне гэтак сама адны былі прагнаны праз строй і сасланы ў Сібір, другія толькі высечаны розгамі [1]). Ужо пасьля таго, як формальна лічылі паўстаньне сялян усьцішаным, вайскова-судовая комісія прыцягнула да адказнасьці яшчэ чалавек 40, каторым гэтак сама была вызначана цялесная кара. Большая частка янавольскіх, нават багацейшых сялян была прагнана праз строй салдат [2]).

Закончылі паўстаньне дзікім брыдкім актам. Зьбітыя шпіцрутэнамі пасьля прагону праз строй, сьсечаныя розгамі, з акрываўленым, паранеым целам, з жахам мук і стогнаў былі сабраны панёсшыя кару ў прысутнасьці ўсіх сялян у двор, дзе яны прысягнулі на выбар старшыні, пасьля духаўнік адслужыў удзячнае госпаду богу набажэнства пры ўкленчаньні за ўстаноўлены ў воласьці спакой і высьвяціў усіх сьвянцонай вадой [3]).

**Вынікі паўстаньня 1836 г. і настрой сялян**

16 кастрычніка 1836 г. гэнэрал-губарнатар Дзякаў данёс цару, што паўстаньне зусім спынена, гаспадары з чыстасардэчнай гатоўнасьцю прысягнулі і аднадушна выбралі сабе галаву і выбарнага [4]). 14 лістапада батальён быў выведзен з Янавольскай воласьці і накірован у м-ка Перабродзы.

І без таго цяжкое жыцьцё прыгонных сялян стала яшчэ горшым і цяжэйшым. Вайсковы пастой прывёў у канчатковае разбурэньне сялянскую гаспадарку. Заўсёдныя комісіі, войска, самаўладзтва сялян прыводзілі да заняпаду і дворную гаспадарку. Пасьля пераходу ў 1836 г. Люцынскага староства ў казну, яно было аддана ў арэнду. Арандатар ня меў на ўвазе паляпшаць быт сялян, а наадварот: стаў яшчэ мацней іх уціскаць і даводзіць да адчаю. 28 кастрычніка 1836 г. Віцебская казённая палата разгледзела справу непарадкаў у Люцынскім старостве і вымушана была прызнаць правіловымі прэтэнзіі сялян да Борха [5]). З 1837 г. была йзноў паслана ў староства спэцыяльныя комісія для разбору прэтэнзій сялян. Комісія занялася выясьненьнем грашовых разрахункаў па старостве. Пачынаюцца ізноў бесканечныя сьледзтвы справы, што, аднак, нікольні не мяняе стану сялян. Сяляне ўжо праканаліся, што губэрскае начальства ніколі ня прыдзе ім на дапамогу. Ніякія расправы з сялянамі не маглі з іх зрабіць пакорлівых рабоў. Яны засталіся няпрымірымымі да існуючага парадку і пры кожным выпадку выказвалі сваю

1) Ibidem, ч. II, л. 44-45.

2) Ibidem, ч. II, л. 165.

3) Ibidem, ч. II, л. 203. Аб гэтым набажэнстве ўпамінае і Жыркевіч у сваіх „Записках“.

4) Ibidem, ч. II, л. 50.

5) Ibidem, ч. II, л. 139 і інш.

варожасьць да ўлады і паноў. Яшчэ была ў іх адна надзея—пажаліцца ў сталіцу. Яны думалі, каб цар даведаўся аб іх лёсе, то пакараў-бы іх прыгнятацеляў. 8 сакавіка 1837 г. яны падалі скаргу графу Бэнкендорфу, які з Пецярбургу якраз прыехаў на Віцебшчыну [1]).

У сваёй скарзе яны пералічылі зноў усе свае крыўды, жаліліся на неправіловыя дзеяньні мясцовай улады, на вайскова-судовую комісію, якая нявінна асудзіла іх аднасялан. Скаргу падпісалі янавольскія старасты і выбарныя.

У канцы 1837 г. яны яшчэ раз пажаліліся Бэнкендорфу [2]), а ў 1838 г паслалі скаргу самому цару [3]). Лёс усіх гэтых скарг быў такі-ж, як і ўсіх, паданых раней. Па іх утваралі сьледзтва, але патураць сялянам, прызнаць у іх вачох віну пана і ўлады было нельга. Яны павінны былі сваімі рукамі ўздымаць панскую гаспадарку, здабываць пану багацьце і быць паслухмяным быдлам, годным толькі для эксплёатацыі. Але сяляне думалі інакш.

### Нездаваленьне Міхайлаўскіх сялян

З вясны 1839 г. мясцовая ўлада стала заўважваць, што сяляне М. Тарасаў, М. Парфенаў і П. Панфілаў, якія ў 1836 г. схаваліся ад вайскова-судовай комісіі, сталі падбухторваць Міхайлаўскіх сялян да непарадкаў. Пасланыя для выведу гэтага здарэньня чыноўнікі данясьлі, што памянутых сялян жыхары скрываюць. Была спроба арыштаваць некаторых падбухторшчыкаў, але сяляне іх не далі. Справа зноў стала прымаць такі характар, што выехаўшыя чыноўнікі знашлі неабходным для ўспакою сялян скарыстаць казакоў, якія стаялі ў г. Люцыне [4]). З Віцебску выехаў на месца губарнатар Кляменцьеў, які перавёў з Себежа 38 казакоў у Міхайлаўскую вол. і 50 казакоў з м-ка Валынцаў у Янавольскую вол. Прыехаўшы ў староства губарнатар знашоў Міхайлаўскую воласьць у парадку. Сяляне ня выказалі ніякай непакорлівасьці начальству, толькі жаліліся яму на бязладзьдзе валаснога кіраўніцтва і выказалі нездаваленьне ў тым, што ўсе іх скаргі застаюцца бяз увагі. Усіленным нарадам поліцыі і, мусі быць, казакоў было преступлена да выкрыцьця захаваўшыхся падбухторшчыкаў, якія і былі злоўлены. Прычым адзін з іх, Ларывонаў, быў схвачаны з набітай стрэльбай у руках. Усе злоўленыя былі адасланы ў астрог [5]). Міхайлаўскія сяляне перад жахам цяжкіх кар адмовіліся ад актыўнага змаганьня за сваё лепшае жыцьцё. На гэты раз іх удалося лёгка і скора ўсьцішыць.

1) Ibidem, ч. II, л. 190.
2) Ibidem, ч. III, л. 65, 115-116.
3) Ibidem, ч. III, л. 141.
4) Ibidem, ч. III, л. 169.
5) Ibidem, ч. III, л. 173.

## Новае паўстаньне Янавольцаў

Тымчасам Янавольскія сяляне, якія з 1840 г. сталі ўласнымі Борха, сталі йзноў выказваць непаслухмянства двару і не выпаўняць абавязкаў прыгону [1]). Да іх далучыліся і сяляне Нерзенскай воласьці, каторыя гэтак сама былі адданы ва ўладу Борху.

Яны ня спынялі жаліцца аб сваіх крыўдах. Пісалі яшчэ цару, па якой іх скарзе быў высланы з Пецярбургу ў Янаволь чыноўнік уласнай канцэлярыі цара, Атрэшкаў для разбору скаргі на месцы [2]). Але ніякія наезды і разборы скаргаў, ніякія сьледзтвы і пагрозы не маглі праканаць сялян жыць так, як яны цяпер жывуць. Сяляне дабіваліся паляпшэньня свайго жыцьця, а ім казалі аб абавязку слухаць пана, што на гэта царская воля і г. д. Гэта толькі ўздымала ў іх варожасьць да паноў і ўлады.

28 верасьня 1840 г. Борх паведаміў лістом гэнэрал-губарнатара, што яго сяляне адмовіліся служыць прыгон, паднялі бунт і што бяз войска нельга будзе іх усьцішыць і зрабіць паслухмянымі [3]). 4 кастрычніка выехаў зноў Віцебскі губарнатар Кляменцьеў. Па дарозе ён даведаўся, што сялянскаму паўстаньню дапамагае абшарнік Себескага пав. П. Львоў, што ў яго лесе сяляне рабілі свае сходы і заўсёды грамадамі зьбіраліся ў яго карчме Падсееўцы і што за ўсякімі сваімі патрэбамі і парадамі сяляне зьвярталіся да Львова [4]).

Прыехаўшы ў Янаволь, губарнатар пачаў зноў склікаць сялян на сходы. Заклікаў духаўнікоў і стаў тлумачыць ім аб іх нядобрых учынках проці свайго пана. Сялянам абрыдлі ўжо гэтыя гутаркі, дый на сход хадзіць у двор было досыць страшна. На гэты раз сяляне вельмі цікаўным спосабам зьявіліся на сход. Праканаўшыся ўжо ня раз, якімі „довадамі“ іх праконваюць, сяляне зьявіліся на сход да губарнатара ў ліку 600 ч. *вярхом на конях*. Пачаліся звычайныя гутаркі аб паслухмянстве пану, але сяляне нічога не хацелі слухаць і на ўсякія пропозыцыі губарнатара адказвалі адмоўна, сяляне не хацелі служыць прыгоншчыку Борху. Каб даць магчымасьць размысьліць сялянам па тых пропозыцыях, якія ім запрапанаваў губарнатар, ім дазволілі на гэта некалькі часу, „замест гэтага не прашло і пяці мінут, як уся грамада сялян, нібы па адным умоўным гуку, з усім імпэтам паляцела да сваіх коняй і ўцякла бязузварот-

---

[1]) Абшарнікі, каб з большай карысьцю ўжыць сілу сваіх прыгонных людзей, стараліся свае маёнткі разьбіваць на фольваркі. Такі гаспадарскі падзел двароў прыгонныя сяляне заўсёды спатыкалі варожа. Пры сялянскіх паўстаньнях, кіраўнікі іх часта карысталіся гэтым, як лішнім аргумэнтам. Гэта самае заўважвалася пры паўстаньні сялян графа Борха, аб чым ён жаліўся гэнэрал-губарнатару.

[2]) Ibidem, ч. III, л. 294.

[3]) Ibidem, ч. III, л. 306.

[4]) Ibidem, ч. III, л. 337. У 1841 г. абшарніка Львова судзілі, знашлі яго віноўным у спачуваньні сялянам і прыгаварылі выслаць з Беларусі, але царскім указам ён быў пакінуты на месцы (Ibidem, ч. IV. л. л. 210, 262, 339).

на“ [1]). Да губарнатара толькі зьявіліся валасныя старшыні і заявілі яму аб тым, што яны ня маюць магчымасьці прывесьці ў паслухмянства ўзбунтаваных сялян [2]).

**Пасылка другі раз войска**

Пасьля гэтага начальства мела адну раду—гэта запрапанаваць камандзіру 2 пях. корпуса накіраваць у Люцынскае староства батальён войска дзеля ўсьмірэньня Янавольскіх і Нерзенскіх сялян. Батальён выбыў з м-ка Дрысьвяты і 23 кастрычніка прыбыў у Люцын. Кіраваць вайсковай экзэкуцыяй на гэты раз было даручана палкоўніку Арнольду, які вылічаўся сваёй лютасьцю. Пры ўсьцішэньні сялян яму дазволілі ўжываць цялесныя кары бяз суду [3]). Як толькі даведаліся сяляне, што на іх усьцішэньне йдзе ізноў батальён, яны ўстроілі дзьве сходкі, на якіх вырашылі, што неабходна, згаварыўшыся, выступіць у бойку з батальёнам. Было пастаноўлена, што, як толькі ўбачаць салдат, раніцай выйсьці ўсім разам з хат, узяць калы і пайсьці ў поле, маючы на ўвазе, што салдаты пойдуць іх браць, тады яны кінуцца на іх, пераламаюць штыхі і прагоняць салдат з воласьці [4]). Пры гэтай пастанове сяляне на сходцы прысягнулі не выдаваць адзін аднаго, трымацца да апошняй магчымасьці, хаця-б усіх іх у Сібір або ў салдаты саслалі [5]).

Хітры Арнольд праведаў пра намер сялян напасьці на батальён і папярэдзіў батальённага камандзіра, каб той зьмяніў час і дзень прыходу батальёна [6]). Батальён прышоў у нечаканы час і раптам заняў вёскі. Сяляне апынуліся ў салдацкім палоне. Арнольд разважаў, што не прасіць сялян трэба, а прымусіць пакарацца і рашыў самымі рашучымі мерамі з аружжам усьцішыць, „каб поўмерамі ня даць ім больш павадкі падбадзёрваць адзін аднаго і пачынаць буйстваваць“ [7]). Гаспадаром забаранілі спатыкацца між сабой, стараліся не дапускаць ніякага панібрацтва сялян з салдатамі, выставіць у вёсках вайковую варту, мець сьпіс усіх жыхароў вёскі і да т. п. [8]).

Было зноў паслана некалькі чыноўнікаў з Віцебску ў Янаволь гэтаксама прыехалі сюды з Пецярбургу граф Тызэнгауз і Атрэшкаў.

Арнольд пачаў пазьверску мучыць сялян пры дапамозе паліцыі і войска. Сяляне ўбачылі, што супярэчнасьцю адміністрацыі і войска, дамаганьнем сваіх праў, яны прывядуць сябе толькі да цяжэйшай кары, і яны рашылі пайсьці на ўсе запатрабаваньні ўлады і пакарыцца адміністрацыі Борха.

---

[1]) Ibidem, ч. III, л. 340.
[2]) Ibidem, ч. III, л. 341.
[3]) Ibidem, ч. III, л. 379.
[4]) Ibidem, ч. III, л. 384.
[5]) Ibidem, ч. III, л. 384.
[6]) Ibidem, ч. III, л. 386.
[7]) Ibidem, ч. III, л. 385.
[8]) Ibidem, ч. III, л. 387-388.

Каб яшчэ больш упэўніць у гэтым, сяляне выказалі сваё пакаяньне, нават пажадалі бачыць Борха, каб яго перапрасіць і пачаць зноў служыць двару і адбываць усе абавязкі прыгону[1]). Рабілася ўсё гэта дзеля таго, каб паказаць сябе паслухмянымі, каб ня было патрэбы трымаць тут далей войска. Гэткім парадкам сялянам удалося скора вызваліцца ад апекі войска. У самым канцы кастрычніка 1840 г. Арнольд данёс гэнэрал-губарнатару, што ён прывёў сялян Янаволя і Нерзы ў паслухмянства, сяляне сталі служыць прыгон, слухаць уладу. Зложаная вайскова-судовая комісія судзіла толькі трох сялян. Паўстаньне лічылася ўсьцішаным, і войска скора было выведзена. Сяляне толькі гэтага й хацелі.

**Выгнаньне паноў і паліцыі. Улада сялян**

Але не прашло пасьля ўсьцішэньня Арнольдам сялян Янаволя і Нерзы ў кастрычніку 1840 г. і чатырох месяцаў, як сяляне зноў паўсталі з поўнай рашучасьцю павясьці барацьбу. На гэты раз яны сталі дзейнічаць паінакшаму. Яны рашылі захапіць у свае рукі ўсю воласьць і зрабіцца самым уладарамі таго, што здабывалася іх рукамі з такімі мукамі і горам.

9 сакавіка 1841 г. палкоўнік Арнольд данасіў гэнэрал-губарнатару, „што Янавольскія сяляне нікога з прыежджых ня ўпускаюць у мызу Янаволь, *што там яны сваё кіраўніцтва арганізавалі*. Сабраных земскім спраўнікам паліцэйскіх служачых выгналі“ [2]). Сяляне заўладалі ўсім дваром і абвясьцілі сябе гаспадарамі ўсёй маемасьці. Падняўшы новае паўстаньне, яны „абабілі, зьвязалі і ўзялі пад варту старасту і выбарнага, якія былі назначаны ўправай гр. Борха. Разьбілі са збожжам панскую клець. Сілком уцягваюць казённых Янавольскіх і Нерзенскіх сялян да ўзделу разам з імі, калі-ж хто стане працівіцца, пагражаюць цяжкімі пабоямі. Некаторых казённых сялян сілком пацягнулі да сябе і прымусілі браць збожжа з разьбітай імі панскай клеці, а аднаго з іх моцна пабілі. У знак згоднасьці з імі прымушалі казённых сялян класьці крыж [3]). Сабраўшыся ў нерзенскую карчму, мелі намер узяць на нейкую параду валаснога старасту Андрэева й сматрыцеля магазыну Луропа і запатрабавалі іх ад адміністратара. Хацелі павязаць усіх мясцовых валасных старшынь. Луропа потым білі і падбілі яму левае вока. Некаторыя сяляне заяўлялі, што яны разаб'юць нерзенскую валасную хату і забяруць адтуль усе паперы. У самым Янаволі пісара Харкевіча арыштавалі і пасадзілі пад варту“ [4]).

„На вачох земскага спраўніка і выпаўняючага абавязкі акруговага начальніка дзяржаўнай маемасьці—Кітоўскага сілком выцягнулі з дому

[1]) Дело полк. Арнольда, л. 11.

[2]) Дело канц. ген.-губ. Ibidem ч. IV, л. 28.

[3]) Складаць накрыж рукі і запрысягаць быць ува ўсім згоднымі з паўстанцамі.

[4]) Дело полк. Арнольда, л. 25.

мясцовага станавога прыстава. Прыехаўшых з Кітоўскім валасных старшынь зьбілі, зьвязалі ім рукі і, моцна прывязаўшы да саней, адправілі вон з фольварка. Калі-ж п. Кітоўскі з пяцісоцкім і унцер-афіцэрам хацелі іх вызваліць, то сяляне, крыкнуўшы, грамадой кінуліся да саней, пяцісоцкага і унцер-афіцэра адкінулі прэч, а п. Кітоўскага цягнулі за сабой сажняў з дзесяць, пасьля пусьцілі яго і павязьлі сваіх арыштантаў далей“ [1]).

З панскага палацу выгналі ўсіх паноў і адміністратараў, палац замкнулі і ключ узялі сабе, каб прыежджым чыноўнікам ня было дзе спыніцца. За дворнай скацінай і ўсёй гаспадаркай сталі глядзець самі „*вобчаствам*“ [2]). Забаранілі ўсім сялянам бяз ведама „вобчаства“ хадзіць на панскі прыгон. Уся дворная адміністрацыя з жахам ноччу ўцякла ў суседні двор Марцінопаль. Асьмелілася застацца ў двары толькі адна пані Паўловічава, якой сяляне рашуча загадалі выехаць з двара ці, у праціўным выпадку, яны яе выганяць самі [3]), што ў далейшым і зрабілі.

„Па чутках—данасіў Арнольд гэнэрал-губарнатару,—якія даходзяць да казённых валасных старшынь праз карчмара і збоку ад сялян, галоўны бунтаўшчык Янавольскіх сялян ёсьць аднавотчынны з імі селянін Майсей Мацьвееў, каторы гаворыць сялянам, што ў яго ёсьць указ за дзевяцьцю пячаткамі і што яны могуць усё браць у панскім двары. Ён кіруе паўстаньнем, калі хто праціўіцца агульнаму настрою, па яго загаду таго бяруць і трымаюць пад вартай. Запатрабаваў ад пісара Харкевіча тлумачэньня, чаму ён бяз ведама Мацьвеева адважыўся перадаць паперы ў Нерзенскае валасное праўленьне, пасьля загадаў чатыром чалавекам узяць пісара Харкевіча і адвясьці яго ў асобую хату і трымаць пад вартай [4]). Усю ўладу над маёнткам Борха і ўва ўсёй воласьці сяляне захапілі ў свае рукі.

### Сялянскія мерапрыемствы па самакіраўніцтву

Узбунтаванымі сялянамі была прынята некаторая прадасьцярога, каб усе іх намеры не перадаваліся ўраду. З гэтай мэтай кіраўнікамі паўстаньня было загадана сялянам не дапускаць застанаўлівацца нікому чужому ў тых вёсках і корчмах, дзе самі сяляне знаходзяцца. Усякага праежджага чужога чалавека належала сялянам праводзіць за вёску і наглядаць, каб ён нічога не рабіў. Калі хто прыяжджаў у воласьць, яго мусілі абгледзець і абыскаць, і не дазваляць весьці ніякай гутаркі, каб ён ня выпытаў чаго-небудзь у сялян. Карчмаром і сялянам забаронена было адлучацца з месца, каб нічога не маглі нікому перадаць [5]).

Якая арганізацыйная дзейнасьць праводзілася паміж сялянамі, як думалі яны ўпраўляцца ў захопленай імі воласьці, дакладных вед не

[1]) Дело полк. Арнольда, л. 26.
[2]) Дело канц. ген.-губ. Ibidem ч. IV, л. 90.
[3]) Ibidem, ч. IV, л. 24-25.
[4]) Дело полк. Арнольда, л. 26-27.
[5]) Дело канц. ген.-губ. Ibidem ч. IV. л. 38.

захавалася. Бязумоўна, сяляне былі ўпэўнены, што на іх усьцішэньне зноў прышлюць войска, што іх таксама могуць мучыць, як і раней. Відаць, што яны рыхтаваліся спаткаць батальён і разагнаць яго. З гэтай мэтай яны вялі некаторую „вайсковую падрыхтоўку“, вядома, з каламі. Было пастаноўлена напісаць адозву да салдат, у якой яны зьвярталі ўвагу салдат на тое, што калі салдаты ідуць усьцішаць іх ад цара, то павінны мець значкі, а калі значкоў няма, то сяляне сустрэнуць іх са сваім войскам, якога яны маюць каля 800 чалавек. Відаць, сяляне ў воласьці ўсе былі няпісьменныя і проклямацыю да салдат пісаў у Себежы дзяк Збоеў . . . пад дыктоўку Мацьвеева [1]). Вызваліць сябе ад паноў, скінуць з сябе ярмо паншчыны было салодкай думкай у сялян. Яны моцна верылі ў свае сілы, верылі таму, што жыць так, як яны жывуць, было горка, немагчыма. За апошнія іх паўстаньні іх сталі бязьлітасна біць розгамі. Пяць чалавек было засечана на сьмерць. Аднаго селяніна, засечанага розгамі, яны не хавалі, каб паказаць чыноўнікам, якія да іх прыяжджаюць, як з імі абыходзяцца ў двары. Але нікому з прыежджых гэта ня было цікава.

### Абурэньне сялян і спроба іх усьцішыць

Прывёўшы ў двор Янаволь з сабой паліцэйскіх і духаўніка, Арнольду ўдалося сабраць на сход каля 300 сялян. Ён стаў угаварваць сялян, што цяпер ён прыехаў ня біць іх, а разабраць іх справу. Ён напомніў ім, што калі ў мінулым годзе ён прышоў да іх з батальёнам усьцішаць, то яны згадзіліся пакарацца графу Борху і служыць яму прыгон, цяпер-жа яны зноў паднялі бунт і не выпаўняюць таго, што дакляруюць. На гэта сяляне яму адказалі, што пад розгамі згодзішся прызнаць каго хочаш [2]). Некаторыя з іх сталі даводзіць Арнольду аб сваіх крыўдах, што адміністратары фальварку іх бязьлітасна білі за падаткі і нядоімкі, якія яны па беднасьці ня могуць заплаціць. Для двара ў іх сілком адабралі коняй, скаціну, лён і ўсё, што можна было ўзяць. А самавольна яны адчынілі магазын дзеля таго, што ня мелі чаго есьці [3]). Калі-ж Арнольд стаў ім пагражаць строгай карай і запатрабаваў аслабаніць чатырох чалавек, якія былі арыштаваны і сядзелі пад вартай сялян, то ўся грамада з гоманам і крыкам стала разыходзіцца са сходу, лаючы духаўніка Мархіля ўсякімі словамі за тое, што ён сунецца не ў сваю справу [4]).

Міністар дзяржаўнай маемасьці далажыў цару аб паўтарыўшыхся сялянскіх беспарадках у Янаволі, пасьля чаго йзноў быў пасланы ў Янаволь флігэль-ад'ютант цара, граф Тызэнгаузэн. Прыехаўшы ў Янаволь,

---

[1]) Ibidem, ч. IV. л. 154. Проклямацыі ў справах няма.

[2]) Ibidem, ч. IV. л. 41.

[3]) Ibidem, ч. IV. л. 39.

[4]) Ibidem. ч. IV л. 105. Духаўнік Мархілей вымушан быў прасіць перавод у другую парафію.

Тызэнгаузэн з Арнольдам рабілі спробу яшчэ ўгаварваць сялян. Але яны не хацелі слухаць ні Арнольда ні царскага пасланца, які царскім імем і богам ушчуваў сялян. Чым больш яны выступалі перад сялянамі на сходах, тым больш хваляваліся сяляне і прыходзілі ў азартнасьць. Іх толькі прымушалі слухаць паноў сваіх, а скаргі іх павінна было разабраць начальства, але сяляне ведалі, як разьбіралі іх скаргі.

На сходцы 26 сакавіка 1341 г. сяляне адабралі ад прыехаўшых чыноўнікаў ключы ад магазыну. Нездавольства сялян тут дасягнула вышэйшай напружнасьці. „Хваляваньне і гоман разьяранай чэрні былі так вялікі і азартны, што нельга і апісаць“, данасіў потым Арнольд [1]). Сабраўшыся, сяляне мелі намер сарваць з Тызэнгаузэна эполеты. Хацелі ўсіх прыехаўшых павязаць і прывязаць да засечанага і непахаванага селяніна. Пад канец пагражалі патапіць усіх прыехаўшых у возеры. Яны так захапіліся думкай, што вызваляцца ад паноў, што сталі выдаваць і свае тайны. Яны казалі сабраным чыноўнікам: „Мы ведаем, што вы йзноў хочаце прывясьці батальён, але цяпер ужо ня тое будзе, *вы досыць і так папілі нашай крыві*, а цяпер калі прыдзе батальён, то мы ўсёй воласьцю падымем бунт, прымем каламі, стрэльбы ўсе паламаем, вас павяжам і пашлем да цара“ [2]).

Прыехаўшыя на ўсьмірэньне чыноўнікі праканаліся, што ня толькі сялян не ўгаворыш, але і самым тут небясьпечна сядзець, і вымушаны былі пасьпешна пакінуць Янаволь і пераехаць у Люцын [3]). Паўстаньне пагражала захапіць і другія воласьці. Было ясна, што без вайсковай сілы бунт ня ўсьцішыць.

**Пасылка трэці раз у Янаволь войска і стычка з сялянскім атрадам.**

2 красавіка 1841 г. прыбыў у Люцын з Відзаў 4 батальён Валагодзкага пях. палка, а 9 красавіка батальён павінен быў заняць Янавольскую воласьць. Сяляне ведалі аб часе прыходу да іх батальёна. Як рыхтаваліся сяляне да спатканьня батальёна, якія ў іх былі намеры і як яны меліся ўстроіць жыцьцё сваё без паноў і паліцыі, вестак аб гэтым ня знойдзена. З спраў відаць, што сяляне мелі быццам-бы сваё войска, якое складала каля 1.000 сялян, узброеных дубінамі і каламі. Кіраваў гэтым атрадам дужы, здаровы селянін Баран, „якому аднаму мала было 100 салдат“ батальёна. Ведаючы аб часе прыходу салдат, сяляне раненька каля 1.000 чалавек сабраліся, узброеныя каламі, а некаторыя з іх мелі стрэльбы і зьмясьціліся на гары, каля слабадзкой царквы. Яны на гэты раз хацелі спаткаць батальён, зьнянацку напасьці на яго, перабіць салдат і заўладаць іх аружжам [4]).

[1]) Ibidem, ч. IV. л. 105.
[2]) Ibidem, ч. IV. л. 106.
[3]) Ibidem, ч. IV. л. 102.
[4]) Ibidem, ч. IV. л. 114 адв.

Арнольд і на гэты раз праведаў аб намерах сялян. Ён загадаў прыбыўшай раней 2 роце „заняць галоўнейшыя месцы дарог, мастоў і пераправў на мяжы двара Янаволю і р. Сінюхі на той выпадак, калі рассыпаная войскам грамада сялян бунтаўшчыкоў пачне ўцякаць, каб не дапусьціць іх выйсьці ў Себескі і Апочацкі паветы“ [1]). Арнольд, выведаўшы аб намерах сялян праз карчмароў, зрабіў наперад усё патрэбнае, каб учыніць належную бойню. Сялянская-ж прадасьцярога і плян іх барацьбы быў вельмі простыя. У іх, відаць, была слаба пастаўлена разьведка і саўсім невядомы былі пляны Арнольда. Пагэтаму яны вельмі скора апынуліся ў руках Арнольда. Значыць, 9 красавіка быў накірован батальён з Люцыну ў Янаволь. Па дарозе яны затрымалі селяніна, ад якога даведаліся аб засадзе сялян каля слабадзкой царквы.

Быў дан загад батальёну пайсьці па другой дарозе і атакаваць сялян. Сяляне гэтага не чакалі. Да атакаваных салдатамі сялян пад‘ехалі на конях Арнольд і Тызэнгаузэн. Арнольд абвясьціў ім, што цар прыслаў батальён на іх усьцішэньне і закамандваў ім зьняць шапкі, кленчыць і прасіць даравать ім сваю віну. Такі неспадзяваны паварот справы выклікаў у некаторых сялян замяшацельства. Але Баран з паднятай у гару дубінай хадзіў узад і ўперад каля выстраеных у шэраг сялян і падбадзёрваў іх. Калі-ж Арнольд закамандваў стаць ціха, кінуць калы, што ён з імі мае гаварыць і запрапанаваў усім тым, хто ня хоча быць бунтаўшчыком, каб адышоў у бок, то сяляне паднялі вялікі гоман і крык. Баран, падняўшы ўгару кол, кінуўся на Арнольда і адным ударам зьбіў з галавы батальённага камандіра ківер. За ім кінулася і ўся грамада сялян на бліжэйшыя дзьве роты проста да сьцягу [1]). Салдаты спачатку адступілі, пасьля, справіўшыся, сталі па сялянах страляць і прасьледваць іх. Скора салдатамі была занята вёска Слабодка і сялянская грамада расьсеена. Сяляне змагаліся да апошняй магчымасьці, нападаючы на салдат па адным. Але безаружная грамада не магла ўстаяць проці ўзброенага войска. На полі было знойдзена 21 забіты селянін і 24 сялян раненыя [3]). Раненымі, відаць, лічыліся тыя, хто яшчэ дыхаў, хаця безнадзейна. У гэтай бойцы быў забіты і Баран.

45 сялян прынясло жыцьцё сваё ў ахвяру абшарнікам і царызму.

Арнольд данасіў гэнэрал-губарнатару: „На жаль, сяляне панясьлі значны лік страт, хаця ўсімі мерамі мы стараліся адхіліць такое няшчасьце, але разьяроная чэрнь „в ужасном исступлении“ пагражала большаму няшчасьцю, каб ня былі прыняты падробныя меры. Але гэта будзе служыць прыкладам на цэлую акругу і спыніць падобныя свавольствы шмат якіх іншых сялян, каторыя толькі і чакалі, чым кончыцца ўсё гэта, каб на выпадак посьпеху Янавольцаў паўстаць і самым“ [1]).

[1]) Ibidem, ч. IV. л. 114.
[2]) Ibidem, ч. IV. л. 116.
[3]) Ibidem, ч. IV. л. 117.
[4]) Ibidem, ч. IV. л. 113.

**Вайсковы суд над сялянамі Янавольскай і Нерзенскай валасьцей.**

Для пакараньня віноўных у паўстаньні была зложана вайскова-судовая комісія. Былі адданы пад суд дзьве воласьці—Янавольская і Нерзенская,—якія прымалі ўдзел у паўстаньні. Цяпер сталі распраўляцца з сялянамі самым дзікім спосабам. Комісія вынесла каля 200 прыгавораў, па якіх амаль што ўсе асуджаныя былі прагнаны праз строй салдат і зьбіты шпіцрутэнамі. Некаторым сялянам было прысуджана па 8.000 удараў шпіцрутэнамі і засечаны на сьмерць, як Майсей Цімафееў—правадыр паўстаньня. Пасьля прагону праз строй, са зьбітым у раны целам, былі асуджаны на катаргу і пасяленьне. Сотні людзей, закутыя ў кайданы, замучаныя, павінны былі пайсьці ў далёкую Сібір.

Апрача асуджаных паіменна, вайскова-судовая комісія пастанавіла пакараць усіх сялян Янавольскай і Нерзенскай валасьцей і высеч *з дзесяці аднаго* селяніна. Ад гэткай кары былі зволены толькі дзеці і старыя, якія мелі звыш 60 год [1]). Кара па суду адбывалася публічна ў Янаволі пры згоне ўсіх сялян Янавольскай і Нерзенскай валасьцей. Трэба было паказаць сялянам, як цар сурова карае тых, хто асьмельваецца паўстаць проці панскай няволі.

Сяляне зноў былі ўпрэжаны ў ярмо. Мары аб волі, думкі жыць безпаноў ня збыліся. Але надзеі аб волі не маглі зьнікнуць у сялян, ня гледзячы ні на якія мукі. Цэлыя два гады паперамённа стаяла войска, прывёўшы сялян да поўнай бядоты і галечы. Нават сам Борх ужо ня мог спакойна глядзець на галечу сваіх сялян і пісаў гэнэрал-губарнатару, што сяляне яго прыведзены ў поўнае разбурэньне. Сяляне былі ізноў упрэжаны ў ярмо няволі, і граф Борх у гэты час павёў гутарку аб прадажы сваіх нявольнікаў ураду.

Далейшы лёс сялян Люцынскага староства нам невядомы.

*(Працяг будзе).*

1) Ibidem, ч. IV. л. 152-153.

# БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫХ УСТАНОЎ

**А. Баліцкі**

Савецкая ўлада з самага пачатку свайго існаваньня на Беларусі зьвярнула вялікую ўвагу на разьвіцьцё культуры працоўных гушчаў. Беларуская культура, як культура пераважнае большасьці беларускага сялянства і работнікаў, была вызвалена з таго заняпаду, у якім яна знаходзілася на працягу цэлых дзесяткаў год, і атрымала ня толькі права, але фактычную магчымасьць свайго самастойнага існаваньня і далейшага разьвіцьця. Хвалі рэволюцыі, дакаціўшыся да Беларусі, збаламуцілі ўвесь уклад жыцьця, яны ўскалыхнулі стаячае балота наноснае расійскае вялікадзяржаўнае культуры з яе насіцелямі-панамі ды чыноўнікамі. Падымаючы ўсё зьнізу дагары, яны, разам з беларускімі й жыдоўскімі работнікамі ды сялянамі, выкацілі на паверхню беларускую „мужычую культуру“, якая аказалася прымітыўнай, але прыстасаванай да беларускіх працоўных гушчаў. Мужычая беларуская мова становіцца аднэй з дзяржаўных моў у Савецкай Беларусі і, як мова значнае большасьці насяленьня, зьяўляецца пераважнаю ў зносінах паміж дзяржаўнымі, профэсыянальнымі й грамадзкімі ўстановамі ды організацыямі; на гэтую мову паступова пераводзіцца дзелаводзтва ва ўсіх інстытуцыях. Пачынае разьвівацца беларуская школа, літаратура, мастацтва; пытаньні, зьвязаныя з беларускаю культураю, зьяўляюцца прадметам вывучэньня і распрацоўкі ў вышэйшых навучальных ды навуковых установах.

Многавяковы нацыянальны ўціск і русіфікатарская політыка царскага ўраду не давалі магчымасьці нормальна разьвівацца беларускай культуры. Беларускай школы да рэволюцыі ня было, усе школы працавалі на расійскай мове; тых настаўнікаў, якія прабавалі ўвадзіць у школах матчыну мову, звальнялі, як крамольнікаў. Мова дзяцей калечылася, займацца было вельмі цяжка, і, урэшце, дзіцянё выходзіла з школы няпісьменным. Цемната беларускай вёскі ў значнай сваёй частцы зьяўляецца вынікам гэтае політыкі царскага ўраду, які не дазваляў адчыняць беларускіх школ, забараняў карыстаньне беларускай літаратурай, ганьбаваў беларускую мову, як мову мужычую, хамскую. Мільёны беларускага сялянства заставаліся ці зусім няпісьменнымі, ці навучаліся ў школах

на працягу некалькіх год толькі „расьпісацца“, застаючыся фактычна няпісьменнымі. Кніжак ды газэт беларускі селянін ня чытаў, бо, як напісаныя на расійскай мове, яны былі для яго незразумелымі, дый практычнай патрэбы ў гэтым ён не адчуваў.

## Сучасная чатырохгадовая беларуская працоўная школа

Школа ў роднай мове мае вялікае значэньне, асабліва пачатковая школа; толькі яна дае магчымасьць стала разьвінуць усе пачуцьці ды здольнасьці вучня, выявіць усе яго асаблівасьці, выкарыстаць яго мову ў мэтах далейшага разьвіцьця, навучыць карыстацца мовай, як сродкам, дзеля пашырэньня сваіх вед. Вось чаму савецкая пэдагогіка прынцып „матчынай мовы“ зрабіла адным з самых грунтоўных прынцыпаў новае працоўнае школы.

Першапачатковыя весткі дзіця атрымоўвае ад маткі, яго духоўнае жыцьцё разьвіваецца пры зносінах з маткаю і выяўляецца ў тэй мове, у якой гаворыць яго матка. Мова ў дзіцяці—гэта ўвесь яго духоўны зьмест. Школа ці настаўнік, які ня ведае ці ня можа падыйсьці да мовы дзіцяці, ня можа быць выхаваўцам; гэта „футлярны“ настаўнік. Той, хто бачыў працу школ на Беларусі пры Савецкай уладзе ды меў магчымасьць сачыць за вынікамі гэтае працы, той ведае, як добра йдзе гэтая праца, ды якія добрыя вынікі дае якраз у тым, што школа працуе ў матчынай мове. На адно толькі чытаньне па кніжцы ў расійскай мове колькі прыходзілася раней марнаваць часу. Трэба было тлумачыць кожнае слова, кожны выраз, кожны сказ, карыстаючыся ці беларускімі словамі, ці тымі расійскамі, якія дзіця ўжо зразумела. Толькі стала падгатаваныя настаўнікі, ды тыя, што ведаюць больш-менш беларускую мову (памужыцку), маглі за тры-чатыры гады навучыць чытаць, пісаць ды разумець прачытанае. Зусім іначай стаіць справа зараз; калі ў якога-небудзь вучня вясковай школы па старай прывычцы запытаеш, як вытлумачыць тое ці іншае слова з чытанкі на беларускай мове, то ён сьмяецца, бо дзеля яго сьмешна, што такое звычайнае слова, якое ўсе ведаюць, якое ён заўсёды карыстае ў сваёй гутарцы, і пытаць, што яно значыць. У гэтым сэнсе наша школа, пабудаваная на прынцыпе матчынай мовы, ня гледзячы на ўсе яе недахваты зьяўляецца вялізарным крокам наперад у параўнаньні з расійскімі школамі, у якіх навучаліся дзеці беларускіх сялян. Само сабою зразумела, што й зьмест і мэтоды працы нашай савецкай школы зусім іншыя, чым раней: замест закона божага ды цароў, якія сілком уганяліся ў галовы вучняў, мы памагаем дзецям вучыцца разьбірацца ў сучасным жыцьці, карыстаючыся комплекснаю сыстэмаю.

Сучасная сетка чатырохгадовых працоўных школ па прынцыпе матчынай мовы падзяляецца:

| НАЗВА АКРУГ | Лік чатырохгадовых школ па мове выкладаньня | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | бел. | жыд. | расійс. | польс. | лат. | эстон. | нямец. | Усяго |
| Менская . . . | 438 | 12 | — | 9 | — | — | — | 459 |
| Мазырская . . . | 252 | 10 | — | 3 | — | — | 1 | 266 |
| Слуцкая . . . | 211 | 9 | — | 14 | — | — | — | 234 |
| Барысаўская . . | 328 | 12 | 1 | 17 | — | — | — | 358 |
| Бабруйская. . . | 362 | 16 | 6 | 14 | 1 | — | — | 399 |
| Віцебская . . . | 438 | 12 | 27 | 14 | 5 | 1 | — | 497 |
| Полацкая . . . | 302 | 2 | 11 | — | 2 | — | — | 317 |
| Калінінская . . | 390 | 2 | — | 1 | 1 | — | — | 394 |
| Магілеўская . . | 485 | 7 | — | 16 | 2 | — | — | 504 |
| Аршанская. . . | 327 | 5 | — | 6 | 1 | — | — | 339 |
| УСЯГО . . | 3.533 | 87 | 45 | 94 | 12 | 1 | 1 | 3.767 |

Лік школ, якія працуюць на беларускай мове, досыць значны, прыблізна адпавядае ў процантных адносінах ліку жыхарства беларускае нацыянальнасьці. Пераважная большасьць гэтых школ была пераведзена на беларускую мову выкладаньня з расійскай; школы-ж жыдоўскія ды польскія—гэта большай часткаю нанова адчыненыя школы. Перавод з расійскіх школ у беларускія рабіўся паступова, і цяпер яшчэ ўсе гэтыя школы, зьмешчаныя ў табліцы пад назваю „беларускія", рознастайны па сваёй беларускасьці; усе школы далучаных да Беларусі ў гэтым годзе частак Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губэрань перавялі на беларускую мову толькі першы год навучаньня, астатнія тры гады працуюць яшчэ дагэтуль на расійскай мове.

Беларускасьць так званых „беларускіх" чатырохгадовых працоўных школ відавочна выяўляецца з наступнай табліцы:

| НАЗВА АКРУГ | Усяго белар. школ чатырохгадак | Пераведзена на беларускую мову выкладаньня | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Усе чатыры гады | % | Толькі тры гады | Толькі два гады | % | Толькі адзін год |
| Менская . . . | 438 | 438 | 100 | — | — | | — |
| Мазырская . . . | 252 | — | 100 | 208 | 44 | | — |
| Слуцкая . . . | 211 | 211 | — | — | — | | — |
| Барысаўская . . . | 328 | 240 | | 1 | — | | 81 |
| Бабруйская . . . | 362 | 86 | | 98 | 164 | | 14 |
| Віцебская . . . | 438 | — | | — | — | | 438 |
| Полацкая . . . | 302 | — | | — | 66 | | 236 |
| Калінінская . . . | 390 | — | | — | 390 | 100 | — |
| Магілеўская . . . | 485 | 18 | | 1 | 2 | | 464 |
| Аршанская . . . | 327 | 6 | | 25 | 215 | | 82 |
| УСЯГО . | 3533 | 1005 | | 333 | 881 | | 1.315 |

Табліца гэтая паказвае, што ў справе беларускасьці школы дзеляцца на дзьве часткі: акругі—Менская, Мазырская, Слуцкая, Барысаўская і Бабруйская пераважную большасьць школ маюць такіх, дзе ўжо ўсе тры-чатыры гады перашлі на беларускую мову выкладаньня; усе іншыя акругі—Віцебская, Полацкая, Калінінская, Магілеўская, Аршанская—перавялі на беларускую мову толькі першы-другі год навучаньня. Прычым у акругах Мазырскай, Бабруйскай ды Барысаўскай яшчэ значная частка таксама маецца школ, дзе толькі першы-другі год навучаньня вядзецца на беларускай мове. Мяжа якраз праходзіць па лініі старой Беларусі ды далучаных у 1924 г. да яе частак беларускіх губэрань.

У старой Беларусі беларусізацыя вядзецца з самага пачатку існаваньня Савецкае ўлады, гэта значыцца—з 1919 году ў беларускіх губэрнях РСФСР усе школы працавалі на расійскай мове аж да моманту далучэньня іх да Беларусі. Зразумела, што пры такіх варунках беларускасьць школ у розных частках сучаснае БССР будзе розная. У акругах Мазырскай, Бабруйскай ды Барысаўскай—многа школ, дзе выкладаньне на беларускай мове толькі ў першым-другім годзе навучаньня, дзеля таго што акругі гэтыя злажыліся якраз з абшараў старой Беларусі ды далучаных да яе частак.

**Кароценькі гістарычны нарыс беларусізацыі чатырохгадовае працоўнае школы і культурна-асьветных установ наогул**

Беларусізацыя культурна-асьветных установ, у тым ліку і школ у старой Савецкай Беларусі, пачалася з 1919 году. Тады яшчэ ўрадам Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі быў выдадзены дэкрэт аб роўнапраўнасьці ўсіх існуючых на абшарах рэспублікі моў і абвяшчэньні дзяржаўнымі мовамі беларускай, літоўскай, жыдоўскай ды польскай; фактычна і тады ўжо дзе-ні-дзе пачыналіся засноўвацца школы на беларускай мове. Окупацыя Савецкай Беларусі белагвардзейскай панскай Польшчай прыпыніла беларусізацыю, але тыя культурна-асьветныя установы, якія былі зорганізаваны пры Савецкай уладзе, прадаўжаюць існаваць і пры польскай окупацыі 2-га ліпня 1920 г. Савецкая ўлада канчаткова замацоўваецца на абшарах сучаснай Беларусі, і беларусізацыя школы надалей ідзе ўжо сыстэматычна, паступова.

У лютым 1921 г. адбываецца 2-я сэсія ЦВК II Зьезду Саветаў Беларусі. На гэтай сэсіі сярод другіх пытаньняў стаіць і беларускае па дакладу Народнага Камісарыяту Асьветы. Сэсія, ухваляючы політыку Наркамату Асьветы, „пакіраваную да сапраўднага наданьня ўсім нацыянальнасьцям рэспублікі магчымасьці атрымаць асьвету і выхаваньне на сваёй роднай мове“, прапануе „прыняць ўсе меры да ўзмацненьня працы на мове аграмаднай большасьці працоўнага сялянства Беларусі—мове беларускай“. „Камісарыят Асьветы павінен у сваёй працы кіравацца няўхільнай пэрспэктывай плянавага і паступовага пераходу ўстаноў, у якіх

навучаюцца ды выхоўваюцца дзеці беларусаў, на іх мацярынскую, беларускую мову выкладаньня. Да выкананьня гэтага заданьня павінны прыступіць яшчэ ў бягучым годзе“.

З гэтага моманту фактычна і пачалася сапраўдная беларусізацыя культурна-асьветных установ і, у першую чаргу, чатырохгадовых працоўных школ. Для практычнага правядзеньня беларусізацыі патрэбны былі настаўнікі і іншыя культурна-асьветныя працаўнікі, якія ведалі-б беларускую мову. Такіх працаўнікоў было вельмі мала, настаўніцтва беларускае, дзякуючы пастаянным окупацыям беларускага краю, было раскідана па ўсіх абшарах РСФСР ды Украіны, значная частка школ на Беларусі ці заставалася без настаўнікаў, ці займалася неадпаведнымі, выпадковымі працаўнікамі. Патрэбна было сабраць настаўнікаў беларусаў, заняць імі школьныя пасады, замяніць неадпаведных настаўнікаў. Апрача гэтага, нават з настаўнікаў беларусаў мала хто ведаў беларускую мову так, каб на ёй можна было выкладаць у школе, па прычынах усім вядомай царскай русіфікатарскай політыкі. Трэ‘ было тэрмінова заняцца перападрыхтоўкай настаўніцтва. Падручнікаў на беларускай мове амаль што ня было, дый сама мова тэорэтычна была слаба распрацована, трэба было складаць беларускую навуковую тэрмінолёгію, апрацоўваць тэорэтычна беларускую мову, выдаваць на ёй падручнікі, прыстасаваныя да савецкае працоўнае школы. Адным словам, працы было непачаты край, і ўся гэта праца была ўскладзена на Народны Камісарыят Асьветы ў асобе яго Беларускага аддзелу. Пасьля, калі значная частка працы па беларусізацыі культурна-асьветных установ была ўжо зроблена, стала дзіўна неяк, што пры Беларускім Наркамасьветы ды яго аддзелах на мясцох існавалі так званыя „беларускія аддзелы“ і сэкцыі, але пры ўмовах таго часу інакш зрабіць ня можна было; беларусізацыя толькі пачыналася і патрэбна было справу гэтую выдзеліць у паасобны орган, концэнтраваць у адным месцы, не распыляць па шматлікіх „глаўках, аддзелах, пададдзелах, сэкцыях, ды падсэкцыях“ Наркамасьветы. На долю Беларускага аддзелу і выпала ўся першапачатковая праца па беларусізацыі культурна-асьветных установ.

Па пропозыцыі Беларускага аддзелу, Цэнтральны Выканаўчы Комітэт Беларусі прыняў адозву да ўсіх культурных працаўнікоў—ураджэнцаў Беларусі, якія знаходзяцца ў РСФСР ды Украіне,—клічучы іх на працу ў Савецкую Беларусь. 12 мая 1921 г. і Саўнарком РСФСР ад сябе зрабіў пастанову, згодна якой культурнікі-беларусы павінны адкамандыроўвацца ў БССР.; нават чырвонаармейцы настаўнікі, родам з Беларусі, адкамандыроўваліся, калі яны займалі пасады ня вышэй ротнага камандзіра. Трэба адзначыць, што адозва Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту Беларусі і пастанова Саўнаркому РСФСР далі значныя вынікі: настаўніцтва масамі пачало прыбываць з усіх канцоў Расіі ды Украіны ў Беларусь і сярод прыбыўшых было шмат такіх, якія ведалі беларускую мову.

Улетку гэтага самага году пачалася масавая перападрыхтоўка настаўніцтва амаль што ўва ўсіх паветах тагочаснай Беларусі былі зарганізаваны настаўніцкія каротка-тэрміновыя курсы, праз якія прашло да 1.500 чалавек.

Летнія пэдагогічныя курсы паказалі, што вельмі мала маецца лектароў-беларусазнаўцаў, а запатрабаваньні, разам з пашырэньнем беларускага нацыянальнага руху ды сьвядомасьці,—вельмі вялікія. Народны Камісарыят Асьветы ў жніўні месяцы адчыняе першыя дзевяцімесячныя лектарскія курсы беларусазнаўства на 75 асоб.

Гэтыя курсы потым далі магчымасьць ня толькі мець выкладчыкаў беларусазнаўства ў розных культурна-асьветных установах, але скончыўшыя гэтыя курсы, кіруючы настаўніцкімі гурткамі, значна памаглі настаўніцтву пры вывучэньні імі беларускай мовы; апрача таго, скончыўшыя курсы лектары былі заўсёды агітатарамі ды пропагандыстымі школы ў матчынай мове.

Каротка-тэрміновыя летнія пэдагогічныя курсы паказалі яшчэ і тое, што за такі кароткі тэрмін трудна выўчыць беларускую мову, асабліва, калі побач з беларускаю моваю праходзіўся цэлы шэраг іншых пэдагогічных дысцыплін. Дзеля пасьпешнага правядзеньня беларусізацыі патрэбен быў пэўны кадр настаўнікаў, стала падгатаваных і дасканальна ведаючых беларускую мову. Вось чаму ў тым-жа 1921 годзе Беларускі аддзел закладвае яшчэ двое курсаў: адны дзесяцімесячныя—настаўніцкія, а другія аднагадовыя—па дашкольным выхаваньні. Курсы гэтыя далі шмат працаўнікоў, стала падгатаваных па беларусазнаўству і здольных для працы ўва ўстановах соцвыху.

Зразумела, што ўсе гэтыя мерапрыемствы, накіраваныя дзеля правядзеньня беларусізацыі, далі значныя вынікі; калі з 1919 па 1921 год беларускія школы налічваліся адзінкамі,—у 1922 годзе каля 20 проц. усіх чатырохгадовых школ Беларусі перавялі выкладаньне ўсіх прадметаў на беларускую мову, зьявіліся дзіцячыя дамы і сады як у Менску, так і ў паветах, працуючыя на беларускай мове. Справа па беларусізацыі шырыцца наогул, вынікае патрэба, каб увесь Наркамат Асьветы цалком ды яго аддзелы на мясцох заняліся правядзеньнем беларусізацыі культурна-асьветных установ; Беларускі аддзел у канцы 1922 году і беларускія сэкцыі пры мясцовых аддзелах асьветы касуюцца, і ўся іх праца ўскладаецца на Наркамасьветы і аддзелы народнае асьветы.

1923 і 1924 гады былі гадамі паступовага росту школ у матчынай мове ды паглыбленьня іх працы. Перападрыхтоўка настаўнікаў пачынаючы з 1921 году не прыпыняецца аж да гэтага часу, у канцы 1923 году былі організаваны „Вышэйшыя курсы беларусазнаўства“, якія зрабілі другі выпуск і далі бязумоўна стала адукаваных настаўнікаў. Кожны год для настаўнікаў устраіваліся ўлетку каротка-тэрміновыя пэдагогічныя курсы, на якіх беларуская мова займала вельмі значнае месца.

Такім чынам, у справе пераводу школ на матчыну мову выкладаньня значную ролю адыграла перападрыхтоўка настаўніцтва, асабліва таго, якое зараз працуе ў беларускіх школах, але канчатковую і рашучую перамогу ў гэтым сэнсе зрабіў падручнік.

Яшчэ 2-я сэсія ЦВК ў лютым 1921 г. заўважыла, што ў справе беларусізацыі кніжка на беларускай мове, і асабліва падручнік, адыграе надзвычайна важную ролю, што фактычна зробіць школу беларускай, галоўным чынам, падручнік. Сэсія зазначыла: „Дзяржаўнае Выдавецтва (Госиздат) павінна зьвярнуць пільную ўвагу на выданьне літаратуры на мясцовых мовах. *Выданьне-ж падручнікаў, дзіцячага журналу, навукова-папулярнай і палітычнай літаратуры на беларускай мове павінна быць пастаўлена, як ударнае заданьне*".

Згодна гэтай пастанове, Дзяржаўнае Выдавецтва прыступіла да друкаваньня беларускіх падручнікаў; з 1-га сьнежня 1920 году па 1-е сьнежня 1921 году было надрукавана 5 падручнікаў на беларускай мове з агульным лікам экзэмпляраў 79.000. Разумеецца, што гэта была капля ў моры; але ўсё-ж такі яны зрабілі сваю справу; разасланыя па школах Беларусі, яны далі фактычную магчымасьць настаўніцтву перайсьці на беларускую мову выкладаньня. Трэ' было павялічыць тэмп друкаваньня падручнікаў, прыняць якія-небудзь рашучыя крокі, каб зьліквідаваць гэты надзвычайны голад на беларускі падручнік, а фактычнай мажлівасьці зрабіць гэта ня было. Разбураныя і дрэнна абсталяваныя друкарні Беларусі завалены былі агітацыйнай літаратурай, лістоўкамі, плякатамі, газэтамі ды ўсялякімі блянкамі; кніжку, асабліва падручнік, выдаць было вельмі трудна. Зьявілася думка перанесьці друкаваньне беларускіх кніжак за кардон. Зьвярнуліся ў Саўнарком за грашыма; было адпушчана 20 мільёнаў царскіх рублёў (тады гэта была валюта), і прадстаўнік Наркамату Асьветы ў жніўні 1921 г. выехаў у Бэрлін, дзе і прыступіў да друкаваньня беларускіх кніжак.

Але асабліва пашло ўперад выдавецтва літаратуры, у тым ліку і падручнікаў, у беларускай мове пачынаючы з 1922 году. У сакавіку г. г. заложана было Беларускае коопэрацыйна-выдавецкае т-ва „Адраджэньне", якое потым прыняло назву „Савецкая Беларусь". Т-ва шырока разьвінула сваю працу і ў хуткім часе папярэдзіла Дзяржвыдат, а далей і Белтрэстдрук. Ужо ў сярэдзіне 1922 году, гэта значыцца праз м-цы тры-чатыры пасьля заснаваньня, Наркамат Асьветы меў магчымасьць разаслаць па школах у круглых лічбах каля 150.000 падручнікаў. Тымчасам, пачалі патроху прыбываць кніжкі, якія друкаваліся ў Бэрліне: 1922-23 школьны год быў першым годам, калі беларускі падручнік, крыху спазьніўшыся, але зьявіўся ў школах у больш-менш значным ліку. Былі разасланы па школах: „разразная азбука", „Роднае слова", другая кніжка да чытаньня—Некрашэвіча, „Правапіс беларускае мовы"—Лёсіка, „Граматыка для школ"—Тарашкевіча, „Зборнік арытмэтычных задач ч. I і II"—Валасковіча

і Лукашэвіча, „Арытмэтыка“—Цыгельмана; у другой палове навуковага году атрымаўся з Бэрліну і быў разасланы школам „Лемантар“—Некрашэвіча.

Адначасна з гэтым, у школы было разаслана па комплекту беларускай мастацкай літаратуры: „Песьні працы і змаганьня“—Ц. Гартнага, „Сокі цаліны“—яго-ж, „Спадчына“—Я. Купалы, „Водгульле“ – Я. Коласа, „Босыя на вогнішчы“—Чарота, „Беларускі лірнік“—Тэраўскага і інш.

Беларускі падручнік і беларуская кніжка наогул зрабілі сваю справу; папаўшы ў школу, яны прымусілі нават і тых настаўнікаў, якія варожа адносіліся да беларускай мовы (а такія былі), выкладаньне весьці ў беларускай мове ды па беларускіх падручніках.

1922-23 год—гэта год, калі чатырохгадовыя працоўныя школы ўжо ў большай сваёй частцы перашлі на беларускую мову выкладаньня. Процантаў 60 ужо ўсіх школ працавала цалком на беларускай мове. Настаўніцтва вельмі хутка зразумела, што вясьці навучаньне беларускіх дзяцей у беларускай мове значна лягчэй, чым на расійскай. Усё больш і больш зьяўлялася шчырых прыхільнікаў школы ў матчынай мове, і з 1923-24 школьнага году мы ўжо фактычна мелі чатырохгадовых працоўных школ па непашыранай Беларусі столькі, колькі паказана ў табліцы. Беларусізацыя чатырохгадовых працоўных школ у непашыранай Беларусі, такім чынам, закончылася ў мінулым школьным годзе.

Справа правядзеньня беларусізацыі ў далучаных частках Беларусі абстаіць многа лягчэй; перш за ўсё, маецца пэўная практыка, а падругое— тэхнічныя сродкі цяпер значна большыя. Раней, чым прыступіць да пераходу школ у далучаных да Беларусі частках на матчыну мову выкладаньня, вялася значная падгатоўчая праца: яшчэ з самага пачатку далучэньня да Беларусі была праведзена, і вядзецца ўвесь час, шырокая кампанія па азнаямленьні настаўніцтва з прынцыпамі сучаснай працоўнай школы, мэтодамі яе працы, радзімазнаўчым нахілам, матчынаю моваю; за тры м-цы да школьнага году было паслана ў кожную школу па комплекту беларускіх падручнікаў дзеля азнаямленьня настаўніцтва; апрацованы і зацьверджаны Цэнтральным Выканаўчым Комітэтам сталы і пэўны плян сыстэматычнага паступовага і няўхільнага пераводу школ на матчыну мову; адбыліся летам 1924-га году ва ўсіх акруговых цэнтрах кароткатэрміновыя пэдагогічныя курсы, дзе на беларускую мову была зьвернута вялікая ўвага; паадчыняліся гурткі беларусазнаўства, у якія ўцягнута шмат настаўніцтва.

Па пляну ў 1924-25 школьным годзе на беларускую мову выкладаньня ў далучаных частках Беларусі павінен быў перайсьці першы год навучаньня ўва ўсіх школах, дзе пераважная большасьць дзяцей беларускай нацыянальнасьці. Выходзячы з гэтага прынцыпу, амаль што ня ўсе вясковыя школы пераведзены на беларускую мову. Яшчэ ў пачатку навуковага году былі разасланы па школах лемантары на беларускай

мове па 30 экзэмпляраў на кожную. Праца пачалася; напрамак быў зроблены, лемантары зразу вызначылі мову выкладаньня ў школах. Настаўніцтва, ужо крышку падгатаванае, шчыра ўзялося за працу. Тая частка настаўніцтва, якая даўно жыве на вёсцы ў сялянскіх абставінах, практычна разумела беларускую мову і яму толькі трэба было прызвычаіцца да выкладаньня на ёй у школе. Таксама, як і ў непашыранай Беларусі, у практычнай працы настаўніцтва далучаных частак вельмі хутка зразумела, што выхаваньне і навучаньне дзяцей ка матчынай мове многа лягчэй, чым на расійскай. І калі ў пачатку школьнага году ў далучаных да Беларусі частках сярод некаторых настаўнікаў быў варожы настрой, а ў значнай частцы—палахлівы, цяпер мы маем значную лічбу шчырых прыхільнікаў і абаронцаў беларускай школы. За кароткі час працы свае ў беларускай школе частка настаўнікаў дасканальна выўчыла беларускую мову, азнаёміліся з беларускім грамадзянскім рухам, з географіяй Беларусі і яе прыроднымі асаблівасьцямі. Разумеецца, што гэтая частка яшчэ невялічкая, але з кожным месяцам яна расьце, бо сама школа прымушае настаўніцтва да гэтага. Настаўніцтва вучыць і само вучыцца, праца йдзе, першы год навучаньня сапраўды перашоў на беларускую мову. Некалькі затрымалася першая кніжка да чытаньня, але ў студзені м-цы 1924 году і яна выслана; цяпер нішто не перашкаджае школам па ўсёй пашыранай Беларусі стала закончыць свой школьны год на матчынай мове.

### Беларуская сямігадовая працоўная школа

Апрача чатырохгадовых працоўных школ, у Беларусі, усё роўна як на Украіне, маюцца яшчэ сямігадовыя працоўныя школы. Па сваіх вучэбных плянах яны дзеляцца на першы і другі концэнтры. Першы концэнтр па сваёй програме зьяўляецца тэй самай чатырохгадовай працоўнай школай, аб якой мы гаварылі раней; другі концэнтр па сваёй програме і вучэбным пляне будуецца на першым концэнтры,—зьяўляецца яго прадаўжэньнем. Сямігадовая працоўная школа дае навыкі ды элемэнты вед, якія патрэбны дзеля таго, каб умець будаваць як сваё ўласнае жыцьцё, так і грамадзкае жыцьцё сярод працоўных.

На падставе тых вед, якія грамадзянін атрымаў у сямігадовай працоўнай школе, ён можа папаўняць сваю агульную адукацыю самастойна. Сямігадовай працоўнай школай заканчваецца агульная адукацыя ў школе, далей ідзе ўжо профтэхнічная спэцыяльная асьвета, дзе агульная адукацыя прыстасавана да тэй ці іншай спэцыяльнасьці.

Разумеецца, што посьпех працы сямігадовае працоўнае школы, таксама як і чатырохгадовае, вельмі многа залежыць ад тэй мовы, на якой вядзецца выкладаньне ў школе.

Матчына мова выкладаньня зьяўляецца адным з самых лепшых пэдагогічных прынцыпаў і ў сямігадовай працоўнай школе.

У БССР маецца сямігадовых працоўных школ, разам з тымі, якія ў бліжэйшыя часы рыхтуюцца зрабіцца поўнымі сямігодкамі, „190“. Па мове выкладаньня яны дзеляцца:

| Назва акруг | Беларуск. | Жыдоўск. | Расійск. | Польск. | Літоўск. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Менская . . . . | 31 | 12 | 5 | 2 | — | 50 |
| Віцебская . . . . | 29 | 5 | 17 | 1 | 1 | 53 |
| Магілеўская . . . | 12 | 2 | 5 | 1 | — | 20 |
| Бабруйская . . . | 30 | 12 | 2 | — | — | 44 |
| Барысаўская . . . | 16 | 1 | — | — | — | 17 |
| Аршанская . . . | 12 | 3 | — | — | — | 15 |
| Мазырская . . . | 14 | 1 | — | — | — | 15 |
| Калінінская . . . | 17 | 2 | — | — | — | 19 |
| Полацкая . . . . | 8 | 1 | — | 1 | — | 10 |
| Слуцкая . . . . | 21 | 3 | — | — | — | 24 |
| Усяго . . | 190 | 42 | 29 | 5 | 1 | 267 |

Значная лічба сямігадовых працоўных школ знаходзіцца ў гарадох; частка гарадзкіх школ працуюць на расійскай мове, бо ў гарадох беларускіх шмат маецца расійцаў, а беларускае і жыдоўскае жыхарства гарадоў у некаторай сваёй частцы зрусіфікавана. Беларускі этнографічны тып захаваўся, галоўным чынам, на акраінах і ў рабочых кварталах (чыгуначнікі); маецца таксама беларуская інтэлігэнцыя, дзеці якіх гавораць на беларускай мове. Для гэтай часткі жыхарства адчыняюцца ў гарадох школы на беларускай мове, але расійскіх сямігодак яшчэ ў гарадох многа, бо школа павінна быць прыстасавана да мовы дзяцей. Тыя школы, якія ў табліцы вызначаны расійскімі знаходзяцца ў гарадох.

Сямігодкі сялянскіх мясцовасьцяй абслугоўваюць, галоўным чынам, дзяцей беларускага сялянства, крыху местачковага жыдоўства і вельмі нязначную лічбу вясковай інтэлігэнцыі.

Дзеці беларускага сялянства карыстаюцца выключна беларускай моваю, дзеці местачковага жыдоўства гавораць як на жыдоўскай, так і на беларускай мове, а інтэлігэнцыя—на расійскай мове. Сямігодкі прыстасоўваюцца да большасьці жыхарства, вось чаму яны ў сялянскіх мясцовасьцях пераважна перашлі на беларускую мову выкладаньня. Зразумела, што ў тых мясцох, дзе значныя лічбы рабочых ці сялян не бе-

ларускай нацыянальнасьці (жыды, палякі, латышы), адчыняюцца ў сялянскіх мясцовасьцях для абслугоўваньня гэтых нацыянальнасьцяй школы на іх роднай мове. Жыдоўскія школы знаходзяцца ў гарадох і ў буйных мястэчках; польскія, таксама як беларускія, маюцца і на вёсцы.

Беларусізацыя сямігодак пачалася адначасна з чатырохгадовымі працоўнымі школамі і мае такую-ж самую гісторыю. У старой Беларусі яна вядзецца з 1920 году, у далучаных да Беларусі частках: Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губ.—у 1924 годзе. Па беларускасьці сваёй сямігодкі падзяляюцца:

| Назва акруг | Усяго беларус. школ | ПЕРАВЕДЗЕНЫ НА БЕЛАРУСК. МОВУ ВЫКЛАДАНЬНЯ | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Усе 7 кл. | толькі 6 кл. | толькі 5 кл. | толькі 4 кл. | толькі 3 кл. | толькі 2 кл. | толькі 1 кл. |
| Менская . . . . | 31 | 3 | 5 | 2 | 19 | — | — | 2 |
| Бабруйская . . . | 30 | — | — | — | 8 | 15 | 6 | 1 |
| Барысаўская . . . | 16 | — | — | — | — | 14 | 2 | — |
| Слуцкая . . . . | 21 | — | — | — | 21 | — | — | — |
| Мазырская . . . | 14 | — | — | — | — | 12 | 12 | — |
| Калінінская . . . | 17 | — | — | — | — | 17 | — | — |
| Аршанская . . . | 12 | — | — | — | — | 2 | 10 | — |
| Магілеўская . . . | 12 | — | — | — | — | 1 | — | 11 |
| Віцебская . . . . | 29 | — | — | — | — | — | 2 | 27 |
| Полацкая . . . . | 8 | — | — | — | 1 | — | — | 7 |
| Усяго . . | 190 | 3 | 5 | 2 | 49 | 61 | 32 | 48 |

З гэтай табліцы відаць, што па сваёй беларускасьці сямігодкі, таксама як і чатырохгодкі, падзяляюцца на дзьве часткі: на школы, якія знаходзяцца ў старой Беларусі, і на школы, якія далучыліся да Беларусі разам з яе пашырэньнем. У акругах—Менскай, Слуцкай, Барысаўскай, Бабруйскай і Мазырскай, якія цалком ці пераважна злажыліся з абшараў старой Беларусі, першыя тры, а ў некаторых чатыры гады навучаньня працуюць на беларускай мове; ва ўсіх іншых акругах—Віцебскай, Аршанскай, Магілеўскай і Полацкай,—як далучыўшыхся разам з пашырэньнем, на беларускай мове вядзецца выкладаньне ў большасьці школ толькі на першым годзе навучаньня. Выключэньнем зьяўляецца Калінінская акруга, дзе, ня гледзячы на тое, што беларусізацыя там праводзіцца першы год, пераведзены першыя тры гады навучаньня на беларускую мову. Тлумачыцца гэта тым, што Калінішчына, як выключна сялянская акруга, наогул

шпарчэй праводзіць нац. політыку, чым усе іншыя. Падобнасьць поўная да беларускасьці чатырохгадовых працоўных школ. Апошнія гады навучаньня сямігодак, пачынаючых з чацьвертага нават у старой Беларусі, у значнай частцы працуюць яшчэ на расійскай мове. Тлумачыцца гэта тым, што другі концэнтр сямігодкі патрабуе больш кваліфікаваных настаўнікаў, якія для свайго выкладаньня павінны дасканальна ведаць беларускую мову. Кваліфікаваных настаўнікаў наогул мала, а такіх, якія стала ведалі-б беларускую мову, яшчэ менш. Апрача таго, трэба адзначыць, што настаўнікі сямігадовых школ больш консэрватыўны, менш паддаюцца ўплыву сучаснасьці, ім цяжэй узяцца за вывучэньне беларускай мовы, чым настаўнікам чатырохгодак. У некаторых сямігодках сустракаюцца яшчэ выпадкі нават варожых адносін да беларусізацыі школ.

Другая прычына, па якой ня могуць старэйшыя клясы сямігадовае школы перайсьці на беларускую мову,—гэта адсутнасьць падручнікаў на беларускай мове. Першыя гады больш-менш падручнікі маюць, а для апошніх кляс толькі ў гэтым годзе некаторыя надрукаваны, а некаторыя пачалі друкавацца. Без падручнікаў настаўнікі, якія добра ня ведалі беларускае мовы, не рашаліся на ёй выкладаць. З 1925-26 школьнага году другі концэнтр сямігодкі ў старой Беларусі і першы концэнтр у далучаных да Беларусі частках павінны цалком перайсьці на беларускую мову выкладаньня; патрэбныя падручнікі будуць надрукаваны і разасланы на месцы яшчэ да пачатку школьнага году; настаўнікі павінны да 1 верасьня 1925 году стала і дасканальна выўчыць беларускую мову, аб гэтым ёсьць пастанова Наркамату Асьветы і настаўніцкага зьезду. У 1924-25 школьным годзе з усіх пэдагогічных тэхнікумаў, пэдфаку, вышэйшых курсаў беларусазнаўства выпускаецца каля 300 чалавек, добра ведаючых беларускую мову.

### Дзіцячыя дамы і сады

Да ўстаноў соцыяльнага выхаваньня адносяцца таксама дзіцячыя дамы і дзіцячыя сады. Праца іх у матчынай мове мае яшчэ большае значэньне, чым праца школ. Дзіцячыя дамы—установы зачыненыя: дзеці ўсё сваё жыцьцё праводзяць у гэтых установах. Калі школьнік большую частку свайго жыцьця праводзіць у сям'і, дзе ён таксама выхоўваецца і разьвіваецца, дык выхаванец дзіцячага дому сям'і ня мае, для яго сям'я—гэта дзіцячы дом; настаўнік дзіцячага дому замяняе для яго матку, мова настаўніка замяняе матычну мову; вось чаму выхаваньне ў матчынай мове ў дзіцячых дамох мае такое вялікае значэньне. У БССР па мове выхаваньня дзіцячыя дамы распадаюцца:

| Назва акруг | Дзіцячых дамоў і гарадкоў | | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | белар. | жыд. | польск. | расійск. | латыск. | |
| Менская . . . . . | 8 | 4 | 1 | 3 | — | 16 |
| Бабруйская. . . . | 7 | 5 | 1 | 2 | — | 15 |
| Барысаўская . . . | 6 | 1 | — | — | — | 7 |
| Мазырская . . . . | 2 гр. | 4 гр. | — | 2 гр. | — | 1 |
| Слуцкая . . . . . | 2 | 2 | — | 1 | — | 5 |
| Віцебская . . . . | — | 5 | 1 | 7 | 1 | 14 |
| Магілеўская . . . | 2 | 4 | 1 | 7 | — | 14 |
| Аршанская . . . . | 1 | 1 | — | — | — | 2 |
| Полацкая . . . . | 1 | 1 | 1 | — | — | 3 |
| Калінінская . . | 3 | 1 | — | — | — | 4 |
| Усяго . . | 32 | 28 | 5 | 22 | 1 | 81 |

Мова дзяцей у дзіцячых дамох больш-менш адпавядае нацыянальнаму складу дзіцячых дамоў за выключэньнем Віцебшчыны, дзе да гэтага ячшэ часу дзеці-беларусы знаходзяцца ў расійскіх дзіцячых дамох. Вялікі лік на Беларусі жыдоўскіх і расійскіх дзіцячых дамоў тлумачыцца тым, што на Беларусі ў часы грамадзянскае барацьбы было шмат пагромаў на жыдоў збоку белагвардзейшчыны, дзякуючы чаму засталося шмат дзяцей сірот жыдоўскае нацыянальнасьці, а расійскія дзіцячыя дамы злажыліся, галоўным чынам, з дзяцей Паваложжа ў часы голаду 1919 г.

Беларускасьць тых дзіцячых дамоў, якія лічацца беларускімі, патрабуе многага; у некаторых дзіцячых дамох значная частка пэрсоналу пакуль што ня ведае яшчэ беларускае мовы; асабліва гэта датычыць беларускіх дзіцячых дамоў у далучаных частках Віцебшчыны, Гомельшчыны і Смаленшчыны. Таксама, як настаўнікі школ, выхаваацелі ў беларускіх дзіцячых дамох павінны выўчыць беларускую мову да 1-га верасьня 1925 году,—гэтага вымагае жыцьцё і аб гэтым ёсьць пастанова Наркамасьветы і настаўніцкага зьезду 1925 году.

Дзіцячыя сады ў Беларусі зьявіліся толькі пасьля рэволюцыі, да гэтага часу існавалі толькі дзе-ні-дзе прыватныя дзіцячыя сады, якія абслугоўвалі дзяцей чыноўнікаў і буржуазіі і працавалі выключна на расійскай мове. З самага пачатку свайго існаваньня дзіцячыя сады пачалі складацца па нацыянальным прынцыпе. Іначай нельга было; з дзецьмі дашкольнага ўзросту магчыма працаваць толькі на іх матчынай мове.

Па нацыянальным прызнаку дзіцячыя сады БССР падзяляюцца гэткім чынам:

| Назва акруг | Лік дзіцячых садоў | | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | белар. | жыд. | польск. | расійск. | латыск. | |
| Менская . . . . | 6 | 7 | 2 | 1 | — | 16 |
| Бабруйская. . , . | 2 | 4 | — | — | — | 6 |
| Барысаўская . . . | — | — | — | — | — | — |
| Мазырская . . . . | — | — | — | — | — | — |
| Слуцкая . . . . | — | 1 | — | — | — | 1 |
| Віцебская . . . . | — | 6 | — | 4 | -- | 10 |
| Магілеўская . . . | 1 | 1 | — | 1 | — | 3 |
| Аршанская . . . . | 1 | 1 | — | — | — | 2 |
| Полацкая . . . . | — | 1 | — | — | — | 1 |
| Калінінская. . . . | 1 | — | — | — | — | 1 |
| Усяго . . | 11 | 21 | 2 | 6 | -- | 40 |

Дзіцячыя сады існуюць пакуль што выключна ў гарадох, вось чым тлумачыцца вялікі, параўнаўча, лік дзіцячых садоў жыдоўскай нацыянальнасьці. Пры далейшым разьвіцьці сеткі дзіцячых садоў гэткая-ж пропорцыя будзе ліквідавана.

**Чыгуначныя культурна-асьветныя ўстановы**

Сярод культурна-асьветных устаноў БССР некалькі асабняком стаяць культурна-асьветныя ўстановы чыгуначнікаў. З матэрыяльнага боку яны знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад НКПС, на ўтрыманьні якога культурна-асьветныя ўстановы чыгуначнікаў знаходзяцца. Матэрыяльная залежнасьць, як гэта заўсёды бывае, адбіваецца і на ідэолёгічнай залежнасьці; да 1923-24 году культурна-асьветныя ўстановы чыгуначнікаў фактычна ніякаму ўплыву збоку Наркамасьветы БССР не падлягалі. Толькі пачынаючы з гэтага году, Наркамату Асьветы ўдалося дагаварыцца з НКПС аб парадку кіраваньня культурна-асьветнымі ўстановамі чыгуначнікаў. Была дасягнута згода з НКПС., па якой усё ідэолёгічнае і мэтодычнае кіраўніцтва чыгуначнымі культурна-асьветнымі ўстановамі павінна йсьці збоку Камісарыяту Асьветы Беларусі. З гэтага часу фактычна палітыка Наркамату Асьветы БССР распаўсюджваецца на чыгуначныя культурна-асьветныя ўстановы. Нацыянальная палітыка, якая да гэтага часу

зусім не праводзілася НКПС у культурна-асьветных установах на абшарах БССР, пачынае праводзіцца толькі з 1924-1925 школьнага году. Вось чаму мы яшчэ маем слабыя вынікі правядзеньня нацполітыкі ў культурна-асьветных установах чыгуначнікаў.

Наступная табліца відавочна паказвае гэта:

| Тып культурна-асьветнай установы | Лік культурна-асьветных устаноў | | |
|---|---|---|---|
| | Белар. | Расійс. | Усяго. |
| Сямігодак . . . . . | — | 28 | 28 |
| Чатырохгадовых школ . | 18 | 14 | 32 |
| Дзіцячых садоў . . . . | — | 7 | 7 |
| Усяго . . | 18 | 49 | 67 |

Такім чынам, толькі чатырохгадовыя школы часткаю перашлі на беларускую мову і то толькі першы год навучаньня; усе іншыя школы і дзіцячыя дамы яшчэ пакуль што працуюць на расійскай мове, ня гледзячы на тое, што пераважная большасьць дзяцей чыгуначнікаў гаворыць пабеларуску. Трэба адзначыць, што работнікі чыгунак яшчэ да гэтага часу выразна не ўясьнілі значэньне матчынай мовы ў школах. Там пануе погляд, што работнікі чыгунак па сваім службовым стане павінны ведаць толькі расійскую мову, чаму няма чаго вучыць дзяцей у беларускай мове. Каб зьнішчыць гэты няправільны погляд, трэба прыняць меры да практычнага ўжываньня беларускае мовы ў абіходзе працы работнікаў чыгунак на абшарах БССР.

**Беларуская мова, як абавязковы прадмет выкладаньня ва ўсіх школах**

Апрача беларускіх школ, беларуская мова зьяўляецца абавязковым прадметам выкладаньня ва ўсіх школах соцыяльнага выхаваньня, ня гледзячы на тое, на якой мове працуе гэтая школа. Лік гадзін беларускай мовы ў тыдзень адзначаецца наступнай табліцай:

| Клясы альбо групы | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Усяго лекцый |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік гадзінных лекцый у тыдзень . . . | — | — | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 15 |

Лік гадзінных лекцый у тыдзень досыць значны дзеля таго, каб нават у расійскіх і нацменшасьцяй школах ведаць беларускую мову. Гэты лік гадзін праводзіцца ва ўсіх школах па ўсім абшары БССР; у цыгуначных школах і ў школах далучаных да Беларусі частак—з 1924-25 вучэбнага году, а ўва ўсіх іншых школах—разам з пачаткам беларусізацыі.

### Профэсыянальна-тэхнічныя школы

Бліжэй за ўсё да школ соцыяльнага выхаваньня падыходзяць профэсыянальна-тэхнічныя школы. Па сыстэме, якую прыняў Народны Камісарыят Асьветы, профэсыянальна-тэхнічныя школы зьяўляюцца ўстановамі масавымі, гэта значыць, што профэсыянальна-тэхнічных школ, усё роўна як школ соцыяльнага выхаваньня, павінна быць шмат: столькі, каб яны мелі магчымасьць абслужыць шырокія гушчы працоўнае моладзі, бо кожны чалавек мусіць навучыцца тэй ці іншай спэцыяльнасьці, мець належную кваліфікацыю. Масавыя профэсыянальна-тэхнічныя школы павінны працаваць на матчынай мове; мова вучняў павінна зьяўляцца мовай школы. Так мусіць быць збоку пэдагогічных прынцыпаў і збоку правільнага правядзеньня нацыянальнае політыкі; але калі фактычна даводзіцца праводзіць гэтыя прынцыпы ў жыцьцё, дык мы натыкаемся на шматлікія прапоны. Перш за ўсё профэсыянальна-тэхнічныя школы не зьяўляюцца сапраўды масавымі—па ўсёй БССР мы пакуль што разам з школамі фабрычна-заводзкага вучнёўства і профэсыянальна-тэхнічнымі майстроўнямі маем 34. Сетка, такім чынам, профэсыянальна-тэхнічных школ—вельмі нязначная, абслужыць усіх, хто жадае вучыцца ў профтэхнічных школах, яна ня можа. У адну й тую самую школу прыходзіцца прымаць вучняў розных нацыянальнасьцяй, матчына мова якіх—розная. Іначай зрабіць і нельга, бо калі мы, напрыклад, на ўсю Мазырскую акругу маем адну профэсыянальна-тэхнічную школу і па экономічных умовах зараз пабудаваць больш ня можам, дык прымаць у яе мы павінны дзяцей усіх нацыянальнасьцяй, бо ўсе жадаюць у ёй вучыцца. Так яно фактычна й ёсьць: тыя школы, якія зараз ёсьць на Беларусі, рознанацыянальны па сваім асабовым складзе. А раз так, дык школа прыстасоўваецца да вучняў усіх нацыянальнасьцяй і абірае мову для свае працы такую, якая найбольш зразумелая вучням усіх нацыянальнасьцяй. Такою моваю можа быць беларуская альбо расійская; і тую і другую праходзяць, як абавязковы прадмет выкладаньня ва ўсіх школах соцвыху, на якой-бы мове гэтыя школы не працавалі. Профэсыянальна-тэхнічныя школы будуюцца на школах соцыяльнага выхаваньня; гэта значыць, што вучні профэсыянальна-тэхнічных школ больш-менш ведаюць беларускую і расійскую мовы; у кожным разе гэтыя мовы для іх зьяўляюцца зразумелымі. У тых выпадках, калі адна ці некалькі груп па тэй ці іншай прычыне аказаліся-б укомплектаванымі дзецьмі аднае нацыянальнасьці, гэтая група зараз-жа перашла-б на матчыну мову гэтых дзяцей.

Дагэтуль большасьць профэсыянальна-тэхнічных школ працуе на расійскай мове па прычынах, аб якіх вышэй казалі, а таксама дзеля таго, што вельмі мала настаўнікаў профтэхнічных школ стала ведае беларускую мову. З 34 школ, якія мы маем зараз у БССР,—$29^1/_2$ школ працуе на расійскай мове, 4—на жыдоўскай і толькі $^1/_2$ школы працуе на беларускай мове. Што датычыць нацыянальнага складу вучняў гэтых школ, дык ён выяўляецца з наступнае табліцы:

| №№ п. п. | НАЗВА АКРУГ | Лік вучняў у профтэхшколах, фабзавуч. і профтэхнічных майстэрнях па нацыянальнасьці | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Белар. | $^0/_0$ | Руск. | $^0/_0$ | Жыдоў | $^0/_0$ | Паляκoў | $^0/_0$ | Іншых | $^0/_0$ | УСЯГО |
| 1 | Менская . . . | 203 | 27 | 42 | 5 | 484 | 64 | 39 | 3,75 | 2 | 0,25 | 770 |
| 2 | Магілеўская . . | 281 | 48 | 33 | 5 | 248 | 42 | 16 | 3,25 | 6 | 1,75 | 584 |
| 3 | Слуцкая . . . | 51 | 42 | 4 | 1,5 | 60 | 55 | 4 | 1,5 | — | — | 119 |
| 4 | Бабруйская . . | 100 | 46 | 14 | 6 | 80 | 37 | 20 | 9,25 | 2 | 1,7 | 216 |
| 5 | Мазырская . . | 19 | 25 | 2 | 1,5 | 54 | 72 | 2 | 1,5 | — | — | 77 |
| 6 | Віцебская . . . | 237 | 39 | 138 | 22,2 | 197 | 32,7 | 20 | 3,2 | 9 | 2,1 | 601 |
| 7 | Барысаўская . . | 19 | 43 | 2 | 5 | 20 | 47 | 2 | 5 | — | — | 43 |
| 8 | Аршанская . . | 219 | 85 | 9 | 1,2 | 32 | 11 | 12 | 2,7 | — | — | 272 |
| 9 | Калінінская . . | 138 | 91 | 2 | 1,5 | 10 | 6 | 2 | 1,5 | — | — | 152 |
| 10 | Полацкая . . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | УСЯГО . | 1.267 | 45 | 246 | 8 | 1.185 | 41 | 117 | 5,75 | 19 | 0,25 | 2.834 |

Такім чынам, склад вучняў у профэсыянальна-тэхнічных школах самы рознанацыянальны, але пераважную большасьць складаюць вучні беларускае і жыдоўскае нацыянальнасьці. У некаторых акругах, як, напрыклад, Менская, Слуцкая, Мазырская і Барысаўская, вучняў жыдоўскае нацыянальнасьці нават больш, як беларускае; тлумачыцца гэта тым, што профэсыянальна-тэхнічныя школы знаходзяцца ў гарадох, дзе наогул $^0/_0$ жыдоў досыць вялікі. Пераўкамплектаваць школы па нацыянальных адзнаках не зьяўляецца магчымым, бо нават у тых гарадох, дзе некалькі школ, яны рознае спэцыяльнасьці і немагчыма зачыняць для моладзі тае ці іншае нацыянальнасьці вучыцца гэтай спэцыяльнасьці. Пры пашырэньні сеткі профэсыянальна-тэхнічных школ (а такое пашырэньне па

плянах Наркамату Асьветы прадбачыцца) будзе магчымасьць адчыняць па некалькі школ аднае спэцыяльнасьці і, такім чынам, укомплектоўваць іх па нацыянальных адзнаках з пераводам іх на матчыну мову выкладаньня. Пакуль такое пашырэньне адбудзецца, перад Наркаматам Асьветы стаяць дзьве задачы—перавесьці школы з расійскае на беларускую мову выкладаньня, бо, аднолькавая з пэдагогічнага прынцыпу, яна мае перавагу ў БССР і дабіцца таго, каб у тых школах, дзе вучыцца досыць значная лічба дзяцей жыдоўскае ці польскае альбо якое-небудзь іншае нацыянальнасьці, увясьці мову гэтае нацыянальнасьці, як абавязковы прадмет выкладаньня. Трэба адзначыць, што беларуская мова, ня гледзячы на тое, што школы працуюць на расійскай мове, выкладаецца ва ўсіх клясах профэсыянальна-тэхнічных школ па тры гадзіны кожны тыдзень.

## Тэхнікумы і ВУЗ‘ы

Тэхнікумы таксама, як і ВУЗ‘ы, не зьяўляюцца ўстановамі масавага характару. У той час, калі школы соцыяльнага выхаваньня і профтэхнічныя школы разьлічаны на шырокія гушчы рабоча-сялянскае моладзі з тым, каб даць ёй магчымасьць атрымаць першапачатковую адукацыю, разьвіцьцё і належнае выхаваньне, тэхнікумы і ВУЗ‘ы маюць на мэце даць ужо стала кваліфікаваных працаўнікоў і кіраўнікоў у розных галінах савецкага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Лік тэхнікумаў і ВУЗ‘аў выяўляецца з ліку патрэбных дзяржаве стала кваліфікаваных працаўнікоў. Адчыняецца тэхнікумаў ды ВУЗ‘аў ня столькі, колькі жадае ў іх вучыцца, а столькі, колькі адчуваецца патрэба ў тых ці іншых спэцыялістых. Тэхнікумы і ВУЗ‘ы павінны падрыхтаваць працаўнікоў, прыстасаваных да тых рабоча-сялянскіх гушч, сярод якіх ім прыдзецца працаваць. Усе гэтыя асаблівасьці тэхнікумаў і ВУЗ‘аў патрабуюць некалькі інакшага падыходу да іх з боку нацыянальнае політыкі. Матчына мова ў тэхнікумах і ВУЗ‘ах мае меншае значэньне, чым у профэсыянальна-тэхнічных і працоўных школах. Калі ў школах соцвыху мова зьяўляецца спосабам выхаваньня і найхутчэйшага разьвіцьця дзяцей, дык у тэхнікумах і ВУЗ‘ах, апроч гэтага, тая ці іншая мова зьяўляецца сродкам, якім павінен стала ўладаць кожны вучань, каб потым карыстацца ёю ў сваёй працы сярод работнікаў і сялян. Мова, на якой павінен весьці працу тэхнікум ці ВУЗ, мусіць адказваць двум запатрабаваньням: перш за ўсё яна павінна быць зразумелай вучням на столькі, каб яны без асаблівае напружнасьці маглі атрымаць выкладаныя на гэтай мове належныя веды, падругое,— гэтая мова павінна быць мовай тых працоўных гушч, сярод якіх прыдзецца потым працаваць. Напрыклад: лепей будзе, калі тыя работнікі, якім потым прыдзецца працаваць сярод польскіх рабоча-сялянскіх гушч, будуць адукоўвацца і выхоўвацца ў культурна-асьветных установах з выкладаньнем на польскай мове, але дзеля таго, каб адукацыя іх у гэ-

тых культурна-асветных установах ішла належным спосабам, зразумела, што яны павінны ведаць польскую мову. Вось чаму тэхнікумы і ВУЗ'ы БССР павінны абавязкова перайсьці на беларускую мову выкладаньня, ня гледзячы на тое, што ў нашых тэхнікумах і ВУЗ'ах ёсьць і будзе шмат студэнтаў, для якіх беларуская мова не зьяўляецца роднай. Гэтак сама зусім зразумела, што частка тэхнікумаў і ВУЗ'аў павінна працаваць на польскай і жыдоўскай мовах, бо працоўныя гушчы гэтых нацыянальнасьцяй патрабуюць адпаведных працаўнікоў на агульных умовах з работнікамі і сялянамі Беларусі. Выходзячы з гэтага прынцыпу, Народны Камісарыят Асьветы БССР, прыступіўшы да паступовага пераводу тэхнікумаў і ВУЗ'аў на беларускую мову выкладаньня, мае польскі і два жыдоўскіх пэдтэхнікумы, а таксама жыдоўскую і польскую сэкцыі на пэдагогічным факультэце Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Апроч мовы выкладаньня, нацыянальная палітыка КПБ вымагае, каб зьмест свае працы тэхнікумы і ВУЗ'ы прыстасоўвалі да мясцовых асаблівасьцяй БССР. У тэхнікумах і ВУЗ'ах павінны стала вывучацца гісторыя, географія Беларусі, прыродныя асаблівасьці, экономіка і багацьці краю. Усю сваю працу тэхнікумы і ВУЗ'ы павінны будаваць на мясцовым матэрыяле; гэтага вымагае ня толькі нацыянальная палітыка, але і сучасныя мэтоды працы нашых школ наогул. Усё гэтае—і выкладаньне на беларускай мове і наданьне тэхнікумам і ВУЗ'ам мясцовага спэцыфічна-беларускага нахілу—вызначаецца адным словам „беларусізацыя"...

Тэхнікумы і ВУЗ'ы нашы пачалі беларусізавацца з самага пачатку свайго. Беларуская мова, гісторыя і географія Беларусі, як прадметы выкладаньня, занялі належнае месца сярод іншых прадметаў, фактычна пачынаючы з 1923—1924 школьнага году, пасьля агалашэньня пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту аб практычным правядзеньні нацыянальнае палітыкі. Улетку 1924 году першы раз пры залічэньні ў ВУЗ'ы, рабочыя факультэты і тэхнікумы вымагалася ведаць беларускую мову, і яна была ўнесена ў лік прадметаў колёквіуму, які трэба было трымаць пры залічэньні ў ВУЗ альбо тэхнікум.

Першымі пачалі беларусізавацца пэдагогічныя тэхнікумы; яно і зразумела: настаўнікі, якія ведаюць беларускую мову, патрэбны былі з самага пачатку існаваньня Савецкае ўлады. Разам з жыдоўскім і польскім пэдтэхнікумамі, заснаваўся ў 1920 годзе, рэорганізаваны з Пэдагогічнага Інстытуту, Беларускі Пэдагогічны Тэхнікум. Ён згуртаваў каля сябе беларускіх культурнікаў і пачаў працаваць адразу на беларускай мове; усе іншыя пэдагогічныя тэхнікумы да гэтага часу яшчэ ня могуць цалкам перайсьці на беларускую мову выкладаньня. Апроч польскага ды двух жыдоўскіх, БССР мае шэсьць беларускіх пэдагогічных тэхнікумаў. Каб судзіць аб беларускасьці гэтых тэхнікумаў, прыводзім наступную табліцу:

| Назва пэдагогічных тэхнікумаў | Колькі гадзінных лекцый належыць па навучальным пляне ў год | Колькі гадз. лекц. з навучальнага пляну выкладаецца на беларуск. мове | °/₀ беларусізацыі |
|---|---|---|---|
| Менскі . . . . . | 216 | 200 | 92,5 |
| Рагачэўскі . . . . | 216 | 154 | 71,3 |
| Магілеўскі . . . . | 144 | 47 | 32,6 |
| Віцебскі . . . . . | 144 | 55 | 38,2 |
| Барысаўскі . . . . | 144 | 89 | 6 |
| Полацкі . . . . . | 144 | 28 | 19,4 |
| Усяго. . . | 1.008 | 573 | 57 |

Як відаць з гэтае табліцы, беларускасьць беларускіх пэдагогічных тэхнікумаў патрабуе шмат большага. Такая нізкая ступень беларусізацыі тлумачыцца тым, што пэдагогічныя тэхнікумы для сваёй працы павінны мець высока кваліфікаваны пэдагогічны склад, а ён падаецца беларусізацыі вельмі цяжка.

Апроч пэдагогічных, БССР мае два індустрыяльныя тэхнікумы, адзін будаўнічы, адзін коопэрацыйны, два мастацкіх (музычны і вобразных мастацтваў), два сельска-гаспадарчых і адзін лясны тэхнікум. Усе гэтыя тэхнікумы працуюць на расійскай мове, бо для ўсіх іх патрэбен склад з высокай спэцыяльна-вытворчай кваліфікацыяй, якога, стала ведаючага беларускую мову, яшчэ менш, чым у пэдтэхнікумах. На беларускай мове ў гэтых тэхнікумах выкладаецца гісторыя, географія БССР і беларуская мова, як прадмет выкладаньня. З гэтага пачалася беларусізацыя памянёных культурна-асьветных устаноў.

Увядзеньне беларускае мовы, гісторыі і географіі Беларусі ў тэхнікумах і ВУЗ'ах ня выклікала агулам ніякіх конфліктаў ні з боку пэдагогічнага складу, ні з боку студэнтаў; наадварот, заўважана вялікая зацікаўленасьць беларусазнаўствам, што выяўляецца ў цэлай сетцы гурткоў, якія самастойна працуюць над пытаньнямі беларусазнаўства.

Асабліва вялікай популярнасьцю карыстаюцца прадметы беларусазнаўства на Пэдфаку і ў пэдагогічных тэхнікумах, што тлумачыцца нацыянальным складам студэнтаў (вялікі °/₀ беларусаў). Некалькі інакшая справа на рабфаках. Да бягучага школьнага году рабфакі БССР мелі свой асабісты ўхіл: яны рыхтавалі ў тэхнічныя ВУЗ'ы, якіх у БССР няма; такім чынам, большасьць паміж скончыўшых рабфакі йшлі ў ВУЗ'ы

РСФСР і Украіны, а беларускія ВУЗ'ы ўпоўналічваліся не рабфакаўцамі.

Толькі ў 1924-25 навучальным годзе мы пазбавілі нашыя рабфакі ад эхнічнага ўхілу і надалі ім ухіл, прыстасаваны да нашых ВУЗ'аў. Аднвчасна на рабфаках быў павялічаны лік лекцый па беларусазнаўству, што ізноў такі паказвала, што НКАБ прымацоўвае рабфакі да беларускіх ВУЗ'аў.

Сярод часткі рабфакаўцаў (галоўным чынам, беларусаў) выяўляецца глыбокая зацікаўленасьць да вывучэньня беларусазнаўства, організуюцца гурткі, сэмінарыі і інш.

Зусім у асобку ў галіне практычнага правядзеньня нацыянальнае політыкі знаходзяцца сельска-гаспадарчыя навучальныя ўстановы, Гэтыя навучальныя ўстановы ўкомплектаваны пераважна вучнямі беларускай нацыянальнасьці, і перавод гэтых устаноў на беларускую мову зьяўляецца абавязкова патрэбным.

Паміж іншым апрача беларускае мовы, як прадмету выкладаньня, там пакуль мала зроблена. Тлумачыцца гэта тым, што там няма адпаведных спэцыялістых, ведаючых беларускую мову, а галоўным чынам, тым, што няма падручнікаў і іншых прылад на беларускай мове; сельска-гаспадарчая літаратура, прыстасаваная для тэхнікумаў, пачала друкавацца толькі ў 1924-25 шк. годзе.

Беларусізацыю вышэйшых навучальных устаноў можна мець толькі ў пэрспэктыве. Калі цяжка знайсьці адпаведны пэдагогічны склад для тэхнікумаў, дык для вышэйшых вучэбных устаноў яшчэ цяжэй.

Толькі шляхам доўгае падрыхтоўкі і паступовага спэцыяльнага дабору можна ўтварыць навуковых працаўнікоў, якія здолеюць чытаць лекцыі і весьці заняткі на беларускай мове.

Адначасна з гэтым, трэба ўсіх профэсароў і навуковых працаўнікоў, што ведаюць беларускую мову і працуюць за межамі БССР, прыцягнуць у беларускія вышэйшыя навучальныя ўстановы, утварыўшы для іх адпаведныя абставіны для працы.

Цяперашні пэдагогічны склад вышэйшых навучальных устаноў па сваім нацыянальным і мовазнаўчым складзе выяўляецца з наступнае табліцы:

З паказаных табліц можна зрабіць цэлы шэраг вывадаў. Наперад за ўсё кідаецца ў вочы тое, што проц. беларусоў сярод пэдагогічнага складу вагаецца па розных навучальных установах, але наогул ён вельмі нязначны, а процант тых, якія ведаюць беларускую мову, яшчэ меншы.

Трохі лепш стаіць справа з настаўнікамі БДУ і гэта зусім зразумела: настаўнікі набіраліся ў большасьці выпадкаў на месцы, з мясцовых працаўнікоў, і толькі ў нязначнай частцы былі запрошаны з боку.

| Установы і пасады | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ. Белар. | Расійц. | Жыдоў | Палякоў | Інш. | Усяго | Ведаючых бел. мову Лік | % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Беларускі Дзярж. Унівэрсытэт.** | | | | | | | | |
| Профэсароў | 1 | 23 | 5 | — | 2 | 31 | 1 | 3,2 |
| Выкладчыкаў | 11 | 4 | 6 | — | — | 21 | 7 | 33,3 |
| Асыстэнтаў | 13 | 13 | 23 | 1 | 3 | 53 | 8 | 16,3 |
| Ордынатараў | 8 | 4 | 35 | — | — | 47 | 4 | 8,5 |
| Усяго | 33 | 44 | 69 | 1 | 5 | 152 | 20 | 13,5 |
| **Беларускі Дзярж. Інст. Сельскае Гаспадаркі.** | | | | | | | | |
| Профэсароў | 1 | 14 | — | — | 2 | 17 | 1 | 5,8 |
| Выкладчыкаў | 2 | 2 | — | — | 3 | 7 | 2 | 32,2 |
| Асыстэнтаў | 8 | 7 | 2 | — | 2 | 19 | 1 | 5,2 |
| Прозэктароў | 3 | 4 | 1 | — | — | 8 | 2 | 25,0 |
| Усяго | 14 | 27 | 3 | — | 7 | 51 | 6 | 11,6 |
| **Горацкі Сельска-Гаспад. Інстытут.** | | | | | | | | |
| Профэсароў | 2 | 20 | — | — | 3 | 25 | — | — |
| Выкладчыкаў | 2 | 9 | 2 | — | — | 13 | 1 | 7,5 |
| Навуковых супрац. | 34 | 12 | 2 | — | 5 | 53 | 15 | 28,0 |
| Усяго | 38 | 41 | 4 | — | 8 | 91 | 16 | 17 |
| **Віцебскі Вэтэрынарны Інстытут.** | | | | | | | | |
| Профэсароў | — | 2 | — | — | — | 2 | — | — |
| Выкладчыкаў | 2 | 2 | — | — | 1 | 5 | 1 | 20 |
| Асыстэнтаў | 4 | — | — | — | — | 4 | 1 | 25 |
| Навук. супрац. | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Усяго | 6 | 4 | — | — | 1 | 11 | 2 | 18,2 |
| **Рабочыя факультэты.** | | | | | | | | |
| Выкладчыкаў | 13 | 37 | 27 | 2 | 11 | 90 | 12 | 13 |
| **Разам ва ўсіх ВУЗ'ах.** | | | | | | | | |
| Профэсароў | 4 | 59 | 5 | — | 7 | 75 | 2 | 2,6 |
| Выкладчыкаў | 30 | 54 | 35 | 2 | 15 | 136 | 23 | 17,0 |
| Асыстэнтаў | 25 | 20 | 25 | 1 | 5 | 76 | 10 | 13,2 |
| Ордынатараў | 8 | 4 | 35 | — | — | 47 | 4 | 8,5 |
| Прозэктароў | 3 | 4 | 1 | — | — | 8 | 2 | 25,0 |
| Навуковых супрац. | 34 | 12 | 2 | — | 5 | 53 | 15 | 28,0 |
| Усяго | 104 | 153 | 103 | 3 | 32 | 395 | 56 | 14,7 |

Аднак, ня ўсе настаўнікі-беларусы могуць пакуль што весьці працу на беларускай мове, але значнай частцы іх беларуская мова зразумела, дык пры адпаведных умовах яны могуць перайсьці на беларускую мову.

Горш з пункту погляду правядзеньня нацыянальнае політыкі ўкамплектаваны ВУЗ'ы асыстэнтамі, яшчэ горш — ордынатарамі. Процант беларусоў і асоб, якія ведаюць беларускую мову, тут зусім нязначны. Асабліва гэта кідаецца ў вочы ў БДУ., дзе на 53 асыстэнты 13 беларусоў і з іх толькі 8, якія ведаюць беларускую мову; а на 47 ордынатараў толькі 8 беларусоў і 4, якія ведаюць беларускую мову. Гэткае зьявішча паступова трэба будзе выправіць, пры далейшым комплектаваньні ВУЗ'аў навуковымі супрацоўнікамі больш трэба зьвяртаць уваг на іх нацыянальны склад; сярод беларускіх культурных працаўнікоў шмат ёсьць здольных ліц, з якіх бязумоўна могуць выйсьці салідныя навуковыя сілы.

Паміж іншым, ордынатары — гэта кадр, з якога будуць падбірацца навуковыя працаўнікі ВУЗ'аў, а асыстэнты беспасрэдна лічацца кандыдатамі ў профэсуру, дык на іх, такім чынам, і трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Гэтыя абставіны былі адзначаны Пленумам ЦК КП(б)Б ў восень 1924 г., які ў сваёй пастанове аб правядзеньні нацыянальнае політыкі вызначыў спэцыяльны пункт у пытаньні аб комплектаваньні навуковымі працаўнікамі ВУЗ'аў і тэхнікумаў.

„Пры замяшчэньні вакантных катэдр профэсароў, настаўнікаў, асыстэнтаў, ордынатараў і інш. навуковых працаўнікоў вышэйшых вучэбных устаноў і тэхнікумаў, пры ўсіх аднолькавых умовах, перавагу даваць асобам, якія ведаюць беларускую мову".

Дырэктыва гэтая часткова ўжо праведзена ў жыцьцё: у 1924-25 вуч. годзе пры замяшчэньні ўнівэрсытэцкіх пасад ордынатарамі зьвярталася ўвага на тое, ці ведаюць яны беларускую мову, ці не.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя, ня зусім спагадныя ўмовы ў сэнсе беларусізацыі, у БДУ крыху што зроблена. Унівэрсытэту, можна сказаць, дадзены краёвы ўхіл, прыстасаваны да варункаў беларускае сапраўднасьці. Пэдагогічны факультэт падзелены на тры сэкцыі: беларускую, жыдоўскую і польскую для падрыхтоўкі настаўнікаў у школы адпаведнай нацыянальнасьці.

Праўда, гэта рэорганізацыя пэдагогічнага факультэту, прыстасаваная да нацыянальных асаблівасьцяй Беларусі, зроблена ў пачатку 1924-25 вучэбн. году паводле дырэктывы пленуму ЦК КП(б)Б і асабліва вялікіх вынікаў яшчэ не дала, але ўсё-ж цэлы шэраг прадметаў, якія датычаць БССР, уведзены і выкладаюцца з 1924-25 вуч. году. Табліца, якая зьмешчана ніжэй, ясна паказвае гэты краёвы ўхіл БДУ.

А) Беларусазнаўства

| Назва прадметаў | Выкладаюцца на белар. мове | Выкладаюцца на расійск. мове |
|---|---|---|
| **Мова.** | | |
| Беларуская мова . . | на бел. | — |
| Гістарычная граматыка беларускае мовы . . | „ | — |
| Навуковая граматыка сучаснае беларускае мовы | „ | — |
| Беларуская літаратура, народнае пісьменства . | „ | — |
| Белар. мастацк. літаратура ў сувязі з гісторыяй агульнага руху . . | „ | — |
| Нов. белар. літаратура . | „ | — |
| **Гісторыя.** | | |
| Гісторыя беларуск. культ. | „ | — |
| Гісторыя Белар. XIX і XX в. | „ | — |
| Крыніцы беларускай гісторыі . . . . | „ | на рас. |
| Культрух у Польшчы і на Беларусі . . . | — | „ |
| **Этнографія.** | | |
| Этнографія народнасьцяй Беларусі . . . | — | „ |
| Гісторыя белар. мастацтва | на бел. | — |
| **Нарасьвета.** | | |
| Гістор. нарасьв. на Белар. | — | „ |
| **Народн. гаспадарка** | | |
| Гісторыя народн. гаспад.. | — | „ |
| **Географія.** | | |
| Географія Беларусі . . | на бел. | — |
| Флёра і фауна Беларусі . | — | на рас. |

Б) Жыдазнаўства

| Назва прадметаў | Выкладаюцца на расійск. мове | Выкладаюцца на жыдоўск. мове |
|---|---|---|
| **Мова.** | | |
| Жыдоўская мова . . | — | жыд. |
| Навуковая граматыка сучаснае жыдоўск. мовы. | — | „ |
| Старажытная жыдоўская мова. Жыдоўск.фольклёр | — | „ |
| **Літаратура.** | | |
| Новая жыдоўская літаратура . . . . | — | „ |
| **Гісторыя.** | | |
| Старадаўні Ізраіль. Гісторыя жыдоў у сярэднявеччы і новага часу . | — | „ |
| Гісторыя жыдоў на Маскоўшчыне XIX і XX в. | — | „ |
| Гісторыя жыдоў на Беларусі, Літве, Польшчы і Украіне . . . . | — | „ |
| Гісторыя жыдоўскага рабоч. руху (сэмінары) . | — | „ |
| Гісторыя жыдоўскага эканомічнага быту . . | — | „ |
| Крыніцы жыдоўскае гісторыі . . . . | — | „ |
| Гісторыя жыдоўскага мастацтва . . . . | — | „ |
| Гісторыя жыдоўскае нарасьветы . . . . | — | „ |

Мэдфаку таксама належала-б даць некаторы мясцовы ўхіл.

Для Беларусі характэрны цэлы шэраг хвароб, на якія неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу. Апрача таго, ёсьць хваробы, спэцыфічныя для Беларусі, як, напрыклад, каўтун, фавоз і інш. Належала-б узяцца за іх дасьледваньне.

Сялянска-гаспадарчыя ВУЗ'ы павінны быць яшчэ больш зьвязаны сваімі навуковымі дысцыплінамі з Беларусьсю.

Асаблівасьці сялянскага гаспадарства Беларусі павінны быць найдакладней дасьледваны ў Сялянска-Гаспадарчых Інстытутах. Усю сваю працу С.-Гаспад. ВУЗ павінен будаваць на мясцовым матэрыяле. Гэты прынцып нашыя с.-гаспад. вуз'ы ўжо прынялі за падставу сваёй працы, але дасягненьні пакуль што нязначныя.

Каб скончыць з ВУЗ'амі, трэба застанавіцца яшчэ на адным пытаньні, самым хворым і самым цяжкім, каб правільна яго вырашыць, гэта—пытаньне аб укомплектаваньні ВУЗ'аў студэнцкім складам. ВУЗ'ы ёсьць навучальныя ўстановы ня масавага характару; лік ВУЗ'аў і лік студэнтаў у іх азначаецца не жаданьнем вучыцца, а патрэбамі рэспублікі ў кваліфікаваных працаўнікох. Жадаючых паступіць у ВУЗ'ы шмат больш за той лік, які мы прымаем. Дзякуючы гэтаму, утвараецца конкурэнцыя, барацьба за паступленьне ў ВУЗ'ы ці на рабфак. У нас, у БССР, старонцы сельскае гаспадаркі з нязначным лікам пролетарыяту, які складае вельмі нязначную праслойку, трэба паставць пытаньне аб наданьні больш сялянскага складу нашым ВУЗ'ам і рабфакам, абсяляніць ВУЗ'ы больш, чымся цяпер. У гэтым пытаньні нацыянальная політыка мае чыста экономічную базу.

Цяпер нацыянальны склад студэнцтва ў ВУЗ'ах і рабфаках выяўляецца ў такіх лічбах:

| Назва навучальн. установ | Лік студэнтаў па нацыянальнасьцях | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Белар. | % | Жыдоў | % | Расійцаў | % | Паляк. | % | Інш. | % | УСЯГО |
| **Б. Д. У.** | | | | | | | | | | | |
| а) Пэдфак . . . . . | 701 | 48 | 656 | 45 | 88 | 6 | 9 | 0,6 | 9 | 0,6 | 1.463 |
| б) Мэдфак . . . . . | 240 | 32 | 440 | 58 | 56 | 7 | 2 | 0,2 | 12 | 1 | 750 |
| в) ФОН . . . . . . | 84 | 31 | 169 | 62 | 11 | 4 | 1 | 0,4 | 5 | 2 | 270 |
| УСЯГО . . . | 1.025 | 41 | 1.265 | 51 | 155 | 6 | 12 | 0,5 | 26 | 1 | 2.483 |
| Менск С.-Гасп. Інстытут | 404 | 78 | 67 | 13 | 39 | 8 | — | — | 3 | 0,6 | 513 |
| Горацк. С.-Гасп. Інстытут. | 328 | 53 | 94 | 16 | 164 | 27 | 5 | 0,8 | 19 | 3 | 610 |
| Віцебск. Вэт. Інстытут . | 78 | 74 | 6 | 5 | 16 | 15 | 2 | 2 | 4 | 4 | 106 |
| Менск. рабфак . . . . | 196 | 52 | 156 | 42 | 18 | 5 | 4 | 1 | 2 | 0,5 | 376 |
| Аршанск. рабфак . . . | 100 | 35 | 123 | 44 | 42 | 15 | 6 | 2 | 9 | 3 | 280 |
| Горацк. рабфак. . . . | 56 | 26 | 64 | 30 | 86 | 40 | — | — | 10 | 4 | 216 |
| УСЯГО . . . | 2.187 | 45 | 1.775 | 39 | 520 | 11 | 29 | 0,6 | 63 | 1,5 | 4.584 |

З гэтай табліцы відаць, што ў некаторых навучальных установах (БДУ і рабфакі) $^0/_0$ беларусоў адносна невялікі; шляхам далейшых прымаў яго неабходна павялічыць, прычым гэта павялічэньне аднача-сова дасьць у нашыя выш. навук. ўстановы значны лік сялян.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на нацыянальны склад слухачоў рабфакаў.

У паказанай намі табліцы слухачы ўзяты пасьля прыёму бягучага году і чысткі. У 1922 г. ў БДУ нацыянальны склад студэнцтва ў процантах выяўляўся ў наступных лічбах: беларусоў—31 $^0/_0$, жыдоў—63 $^0/_0$, расійцаў—5 $^0/_0$, іншых—1 $^0/_0$. Тлумачыцца гэта тым, што ВУЗ'ы з пачатку рэволюцыі комплектаваліся большасьцю з рабочых і наогул гарадзкога жыхарства, дзе $^0/_0$ беларусоў нязначны.

К 1924—25 навучальнаму году мы маем ужо наступны прыём.

| Назва навучальн. устаноў | Прынята ў 1924-25 навучальн. годзе па нацыянальнасьцях | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Белар. | $^0/_0$ | Жыдоў | $^0/_0$ | Расійцаў | $^0/_0$ | Паляк. | $^0/_0$ | Інш. | $^0/_0$ | УСЯГО |
| **Б. Д. У.** | | | | | | | | | | | |
| а) Пэдфак . . . . . | 193 | 57 | 112 | 33 | 28 | 8 | — | — | 5 | 2 | 338 |
| б) Мэдфак . . . . . | 66 | 50 | 46 | 34 | 16 | 12 | 3 | 2 | 1 | 0,6 | 132 |
| Менск. С.-Гасп. Інстытут | 119 | 71 | 27 | 17 | 18 | 10 | 1 | 0,6 | 2 | 1 | 167 |
| Горацк. С.-Гасп. Інстытут | 72 | 55 | 24 | 18 | 28 | 21 | — | — | 7 | 5 | 131 |
| Віцебск. Вэт. Інстытут . | 78 | 74 | 6 | 5 | 16 | 15 | 2 | 2 | 4 | 4 | 106 |
| **РАБФАКІ.** | | | | | | | | | | | |
| а) Менскі. . . . . . | 71 | 64 | 29 | 27 | 7 | 6 | 1 | 1 | 2 | 2 | 110 |
| б) Аршанскі . . . . | 58 | 58 | 26 | 26 | 13 | 13 | 2 | 2 | 1 | 1 | 100 |
| в) Горацкі . . . . . | 15 | 50 | 12 | 40 | 2 | 7 | — | — | 1 | 3 | 30 |
| УСЯГО . . . | 672 | 60 | 282 | 25 | 128 | 9 | 9 | 0,8 | 23 | 2 | 1.114 |

Як відаць з паказаных лічб, прыём гэтага году даў пэўнае павялічэньне $^0/_0$ беларусоў і ад гэтага павялічэньня зусім не пацярпеў соцыяльны склад студэнтаў, з тэй толькі розьніцай, што служачыя і дзеці вольных профэсій былі заменены сялянамі, $^0/_0$ якіх павялічыўся.

1924-25 нав. год—першы год, у якім пры паступленьні ў ВУЗ'ы і рабфакі неабходна было ведаць беларускую мову, за выключэньнем тых асоб, якія поступалі з далучаных часьцін. Вымагаць ад апошніх, каб яны ведалі беларускую мову было нельга, бо ў вучэбных установах далучаных да нас часьцін беларуская мова да бягучага вучэбнага году не вы-

кладалася. Паступаючыя аднесьліся да гэтае навіны супакойна, прынялі гэтае, як абавязковае, бо ў межах непашыранае Беларусі беларуская мова выкладалася ўжо на рабфаках, тэхнікумах і сямігадовых працоўных школах.

Неабходна, аднак, адзначыць, што ведалі мову наогул вельмі слаба. Калі сяляне, якія паступалі ў ВУЗ'ы, ведалі мову практычна, дык ня ведалі яе тэорэтычна; мескія жыхары ня ведалі ні практычна, ні тэорэтычна. Тлумачыцца гэта тым, што моладзь, якая вучыцца ў нашых школах ужо пасьля рэволюцыі, да ВУЗ'аў дашла яшчэ ў нязначным ліку; грунтоўны кадр паступаючых—гэта скончыўшыя яшчэ старыя вучэбныя ўстановы да іх рэорганізацыі ці ў пэрыод рэорганізацыі (гімназіі, настаўніцк. сэмінарыі, выш. пачатковыя школы, школы II ступ., самавучкі). Паміж іншым, неабходна наогул адзначыць вельмі нізкі проц. кваліфікаваных „здавальняюча“ па колёквіуму пры паступленьні ў ВУЗ'ы.

Такім чынам, у БДУ з прынятых 470 чалавек мелі „здавальняюча“ па ўсіх прадметах толькі 232, астатнія прыняты з адным і больш „нездавальняючым“; такі самы малюнак заўважваецца і ў іншых ВУЗ'ах, але гэта—пытаньне асобнага характару; мы адзначаем яго тут, паколькі яно падкрэсьлівае, што нездавальняючыя веды былі ня толькі ў беларускай мове, але і па ўсіх другіх прадметах прыёмнага колёквіуму.

### Інстытут Беларускае Культуры

Пры практычным правядзеньні нацыянальнае політыкі асабліваe значэньне атрымлівае Інстытут Беларускае Культуры. За кароткі час свайго існаваньня гэтая ўстанова, маючы невялічкія дзяржаўныя сродкі, аб'яднала каля сябе навукова-рэволюцыйныя сілы і зрабіла шмат рознае, надзвычайна карыснае навукова-культурнае працы.

Тое, што мы маем беларускую школу, што прадметы беларусазнаўства выкладаюцца ў ВУЗ'ах, як пэўныя навуковыя дысцыпліны, належыць у значнай меры Інбелкульту.

Беларуская культура—культура маладая, яна вымагае дзеля свайго разьвіцьця, каб нехта сыстэматычна і навукова распрацоўваў і вывучаў зьвязаныя з ёю пытаньні.

Да рэволюцыі такія краіны, як Беларусь, былі дасьледваны з навуковага боку вельмі слаба; беларуская мова лічылася мужыцкаю моваю, беларускае гісторыі ня было, беларуская географія складалася толькі з топографічнае карты вайсковага штабу з весткамі стратэгічнага характару; прыродныя багацьці ды асаблівасьці краю не вывучаліся; вытворчасьць прыродных сіл Беларусі ведаў толькі селянін-хлебароб.

З часу рэволюцыі ўнутраная потэнцыяльная моц беларускіх работнікаў і сялян выявілася ва ўтварэньні Беларускае Савецкае Рэспублікі, і ўжо гэты адзін факт прыцягнуў да сябе ўвагу культурных працаўнікоў Беларусі, якія завінуліся вывучаць усё тое, што датычыць БССР. Бела-

руская „мужыцкая“ мова становіцца мовай дзяржаўнай, апрацоўваецца з навуковага боку і ўводзіцца, як прадмет выкладаньня, ва ўсе школьныя ўстановы.

Інстытут Беларускае Культуры канчальна прымае беларускую тэрмінолёгію і гэтым самым дае магчымасьць паставіць выкладаньне навуковых дысцыплін на беларускай мове, апрацоўвае шмат іншых навуковых пытаньняў, робіць навуковае дасьледваньне краю.

Інстытут Беларускае Культуры ёсьць вышэйшая навуковая ўстанова Беларусі, якая ставіць сваёй мэтай распрацоўку пытаньняў беларускай культуры ва ўсіх яе выяўленьнях.

Патрэба ў адчыненьні такой установы стала адчувацца Нар. Кам. Асьветы ўжо з самых першых год яго існаваньня. У 1921 годзе, адначасова з пастановай аб адчыненьні ў Менску Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, была прынята пастанова і аб утварэньні навукова-дасьледчага інстытуту па беларусазнаўству. У сувязі з гэтым, Нар. Кам. Асьветы зрабіў пастанову аб пашырэньні організаванай ужо і існуючай Беларускай Навукова-Тэрмінолёгічнай Комісіі і рэорганізацыі яе ў сталую навукова-дасьледчую інстытуцыю. Гэтая навукова-дасьледчая інстытуцыя, рэорганізаваная сьпярша з Навукова-Тэрмінолёгічнай Комісіі, і стала называцца Інстытутам Беларускае Культуры. З таго часу прашло ўжо тры гады; замест скромнай навукова-тэрмінолёгічнай комісіі, Інстытут Беларускае Культуры разгортваецца ў сталую дзейную навуковую ўстанову з тэндэнцыяй паступовай зьмены яе ў Беларускую Акадэмію Навук.

Праца Інстытуту Беларускай Культуры за гэтыя тры гады праходзіла пры самых неспагадных умовах. Цяжкае матэрыяльнае становішча дзяржавы адбівалася і на працы Інбелкульту. Калі не хапала сродкаў, у першую чаргу, яны траціліся на самыя неадкладныя патрэбы; такія ўстановы, як Інбелкульт, адсоўваліся да лепшага будучага, да здавальненьня першага голаду. Нават у 1923-24 вучэбным годзе—годзе многа лепшым, чымся папярэднія два гады,—на Інстытут Беларускае Культуры мы патрацілі толькі 7.186 руб. Выдаткі за першыя два гады былі яшчэ меншыя.

Адсутнасьць сродкаў моцна затрымлівала працу Інбелкульту, а самае галоўнае, што гэты недахват сродкаў не дазволіў надрукаваць і выпусьціць у сьвет багаты навуковы матэрыял, сабраны і часткай ужо апрацаваны Інбелкультам.

Ня гледзячы, аднак, на неспагадаючыя матэрыяльныя ўмовы, Інбелкульт за кароткі тэрмін свайго існаваньня выпаўніў вялікую навуковую працу.

Галоўная праца Інбелкульту—гэта апрацоўка беларускае літаратурнае мовы. І за гэтую працу Інбелкульт узяўся не выпадкова. У культурным жыцьці кожнага народу галоўнай асаблівасьцю нацыянальнай куль-

туры зьяўляецца мова гэтага народу. І на мову, як на фактар першараднага культурнага значэньня, заўсёды зварочваецца асаблівая ўвага. Мова павінна быць так апрацована, павінна быць такая гібкая і паслухмяная, каб у ёй можна было выказваць паняцьці і пачуцьцё культурнага чалавека ў яго сучасным становішчы. Да Кастрычнікавай рэволюцыі беларуская мова была ў загоне: яна зьяўлялася мовай „мужыцкай“, сялянскай, на ёй гаварыла толькі „сярмяжная Беларусь“ ды яшчэ нязначная частка беларускае інтэлігэнцыі. І толькі ў 1920 годзе для беларускае мовы пачынаецца новая эра: беларуская мова абвяшчаецца аднэй з дзяржаўных моў Беларусі; на ёй вядзецца выкладаньне ў школах, яна робіцца мовай зносін паміж сабой дзяржаўных устаноў рэспублікі. Трэба было літаратурна і навукова апрацаваць мову. Такой, навукова апрацаванай мовы перш за ўсё патрабавала школа. Неабходна была навукова-апрацаваная беларуская тэрмінолёгія па розных галінах навуковых дысцыплін.

Навуковай апрацоўкай беларускай тэрмінолёгіі і заняўся ў першую чаргу Інстытут Беларускай Культуры. Багатая сама па сабе і налічваючая ў сваім лексіконе цэлыя тысячы слоў і іх значэньняў беларуская мова народная аказваецца іншы раз беднай словамі-тэрмінамі, якія ў большасьці сваёй адзначаюць адцягненыя паняцьці, а іншы раз вызначаецца некаторай цьмянасьцю ў адзначэньні аднаго і таго-ж прадмету ў розных мясцовасьцях. У першым выпадку, калі ў беларускай мове патрэбнага слова не знаходзілася, патрабавалася або злажыць нэолёгізм на падставе элемэнтаў і законаў беларускае мовы, або, у другім выпадку, пры дыялектычным путаньні тэрміну, патрэбна было выбраць з некалькіх слоў адно слова-тэрмін, якое-б больш дакладна выказвала сэнс таго ці іншага паняцьця. Гэта вельмі марудная і, разам з гэтым, скрупулёзная праца патрабавала ад працаўнікоў Інбелкультту значнай патраты часу і вялікай напружанасьці іх сіл. Да гэтага часу тэрмінолёгічную працу ў абхваце сярэдняй школы ў большай частцы можна лічыць скончанай. Ужо вышла з друку шэсьць выпускаў тэрмінолёгіі і, прыблізна, столькі ўжо падрыхтавана да друку. Усяго разгледжана і прынята Інбелкультам больш, як 15.000 беларускіх слоў-тэрмінаў.

Другім вялікім заданьнем Інбелкульту па апрацоўцы беларускае мовы зьяўляецца складаньне параўнаўчага расійска-беларускага слоўніка, у якім разгледжана расійскіх і беларускіх слоў больш, як 50 000. Гэтыя словы былі ўзяты з твораў беларускіх пісьменьнікаў, з народнай творчасьці, з матэрыялаў тэрмінолёгічных прац і інш. На вялікі жаль, гэты каштоўны слоўнік, які паказвае вялікае багацьце беларускае мовы ў параўнаньні яе з мовай расійскай, яшчэ і да гэтага часу застаецца ненадрукованым.

Другі від навукова-дасьледчай працы Інбелкульту складаецца з арганізацыі навуковых экспэдыцый па дасьледваньні БССР. Адны з гэтых

экспэдыцый былі організаваны самым Інбелкультам, другія—іншымі ўстановамі пры яго дапамозе. У 1923 г. Інбелкультам былі організаваны этнографічныя досьледы Беларусі і археолёгічныя раскопкі. Першая экспэдыцыя сабрала вельмі каштоўны матэрыял па этнографіі Беларусі, які дэмонстраваўся на Ўсесаюзнай Сельска-гаспадарчай Выстаўцы і заслужыў вышэйшую прэмію. Другая экспэдыцыя зрабіла археолёгічныя дасьледваньні Барысаўскага павету. Знойдзеныя прадметы на паверхні зямлі і ў курганох адносяцца ў большасьці сваёй да нэолітычнай эпохі; усе яны здадзены ў Беларускі Дзяржаўны Музэй.

Улетку мінулага году Інбелкультам была накіравана на Ўсходнюю Беларусь этнографічная экспэдыцыя ў складзе вядомага беларускага этнографа Сяржпутоўскага і гармонізатара беларускай народнай песьні, композытара-этнографа проф. Прохарава. Гэтая экспэдыцыя сабрала багаты навуковы матэрыял, датычны Ўсходняй Беларусі.

Кажучы аб культурна-грамадзкай дзейнасьці Інбелкульту, неабходна адмеціць ролю, якую ён сыграў у справе беларусізацыі школ. Складаньне падручнікаў для школ у беларускай мове, чытаньне курсаў па беларусазнаўству,—усё гэта ў значнай сваёй частцы праводзілася супрацоўнікамі і сябрамі Інбелкульту. Па ініцыятыве Інбелкульту было організавана выдавецтва „Савецкая Беларусь“, якое ў сваёй працы заняло асобнае, важнае месца ў беларускім культурным жыцьці.

Тры гады існаваньня Інстытуту паказалі яго вялікае значэньне ў культурным будаўніцтве Беларусі. Далучэньне Ўсходняй Беларусі і практычнае правядзеньне нацыянальнай політыкі яшчэ больш павялічваюць значэньне і ролю Інбелкульту. Інстытут павінен стаць асяродкам навуковай мысьлі. Ён павінен сконцэнтраваць каля сябе навуковую працу вышэйшых навуковых устаноў Беларусі і з увагай сачыць за тым, каб беларуская культура разьвівалася і ішла па адным напрамку, каб яна, скажам, у Віцебшчыне і Магілеўшчыне ня прыняла іншых форм, чымся ў Меншчыне. А дзеля таго і павінна быць пабудавана аўторытэтная навуковая ўстанова, да якой-бы прыслухоўваліся ўсе навуковыя організацыі і ня толькі ў Савецкай Беларусі, але і ў Заходняй.

Такой навуковай аўторытэтнай установай і павінен стаць Інбелкульт, рэорганізаваны ў сталую дзейную навуковую ўстанову па тыпу Акадэміі Навук, якая-б ставіла сваёй мэтай—сыстэматычную і плянавую распрацоўку ўсіх пытаньняў навукі і культуры, датычных БССР. Грунтоўныя заданьні рэорганізаванага ў Беларускую Акадэмію Навук Інбелкульту будуць у першую чаргу выяўляцца ў наступным:

Далейшае дасьледваньне і вывучэньне беларускае мовы, выяўленьне яе багацьця і нагляданьне за тым, як беларуская літаратурная мова ўцягвала і яшчэ ўцягвае ў сябе ўсе дыялектолёгічныя асаблівасьці беларускіх гаворак і робіцца агульнай мовай для ўсіх частак Беларусі. Дзеля гэтага пры Інбелкульце неабходна заснаваць сталыя комісіі: 1) па

складаньні слоўніка жывой беларускай мовы, 2) орфографічна-тэрміналёгічную, 3) дыялектолёгічную і 4) па дасьледваньні беларускай літаратуры.

Комісія па складаньні слоўніка жывой беларускай мовы павінны злажыць, памагчымасьці, поўны слоўнік беларускае мовы з аб'ясьненьнем слоў і прыкладамі з народных гаворак, літаратурнай мовы і народнай творчасьці.

Орфографічна-тэрмінолёгічная комісія павінна заняцца распрацоўкай і ўпрошчаньнем беларускай орфографіі і скончыць навуковую распрацоўку беларускай тэрмінолёгіі.

Дыялектолёгічная комісія павінна займацца дасьледваньнем беларускіх дыялектаў. Яна павінна сабраць дыялектолёгічны матэрыял, галоўным чынам, пры дапамозе анкет, і навукова апрацаваць яго.

Комісія па дасьледваньні беларускае літаратуры павінна займацца дасьледваньнем беларускае літаратуры як штучнай, таксама і народнай. У яе заданьні ўваходзіць і падрыхтоўка твораў беларускіх аўтараў дзеля акадэмічных выданьняў.

Другім заданьнем Інбелкульту зьяўляецца падрыхтоўка і распрацоўка пытаньняў, датычных мінулай гісторыі Беларусі і яе культурнага багацьця. Дзеля гэтага павінны быць заснаваны наступныя, стала працуючыя комісіі:

а) Комісія па складаньні слоўніка жыцьцёпісаў беларускіх дзеячоў, пачынаючы ад X стагодзьдзя і да гэтага часу.

б) Этнографічная комісія для распрацоўкі пытаньняў беларускай этнографіі, помнікаў мастацтва і старажытнасьці.

в) Гісторыяграфічная комісія, якая павінна распрацоўваць беларускую гісторыяграфію і займацца выданьнем гісторыяграфічных матэрыялаў.

г) Бібліографічная комісія, якая павінна весьці працу па разглядзе як выходзячых з друку выданьняў, так і ўсіх наогул выданьняў, якія ўжо вышлі за ўвесь час на тэрыторыі Беларусі.

Дасьледваньне прыроды, флёры і фауны Беларусі і яе прыроднага багацьця зьяўляецца галоўнейшай задачай Інбелкульту. Праца гэта вельмі вялікая. Беларусь зьяўляецца мала вывучанай і дасьледванай краінай, і навуковае дасьледваньне яе ўнясе значны ўклад ня толькі ў беларускую культуру, але і ў скарбніцу агульна-сусьветнай культуры. У сваёй працы Інстытут Беларускай Культуры павінен апірацца як на сваіх сяброў і навуковых супрацоўнікаў, стала і сыстэматычна працуючых над пытаньнямі беларускае культуры, таксама і на вышэйшыя навуковыя ўстановы і іх навукова-дасьледчыя сілы; аб'яднаць каля сябе ўсю навуковую працу ўсіх навуковых сіл Беларусі—грунтоўная задача Інбелкульту.

Разьвіцьцё беларускае культуры ідзе разам і побач з другой культурай, старадаўняй, але перанесенай на беларускую глебу і, дзякуючы гэтаму, атрымаўшай значныя беларускія асаблівасьці. Я кажу аб куль-

туры жыдоўскай. Па розных мястэчках і другіх мясцовасьцях Беларусі жыдоўская культура так пераплялася з беларускай, што вывучэньне аднэй патрабуе бязумоўнага вывучэньня і другой. Вось чаму пры Інбелкульце організован Жыдоўскі аддзел з стала працуючымі комісіямі і іх сэкцыямі па вывучэньні жыдоўскае культуры ў спэцыфічных асаблівасьцях Беларускай краіны. Вось чаму організацыя пры Інстытуце Беларускай Культуры Жыдоўскага аддзелу ня толькі не падзяляе задач Інбелкульту, але прыдае гэтай установе асабістую складнасьць і гармонію. Інстытут Беларускай Культуры павінен вывучаць усе пытаньні, датычныя навукі і культуры БССР, а ў тым ліку—і пытаньні жыдоўскай культуры на тэрыторыі Беларускай Рэспублікі, якая, дзякуючы гістарычным умовам, павінна стаць цэнтрам ня толькі беларускай, але і жыдоўскай культуры.

# АСНОЎНЫЯ ЭТАПЫ Ў РАЗЬВІЦЬЦІ ЛІРЫКІ ЯНКІ КУПАЛЫ [1])

**М. Піотуховіч**

15-га мая 1905 году ў менскай газэце „Северо-Западный Край“ зьмешчан быў першы верш Янкі Купалы—„Мужык“. Роўна 20 год прашло з тэй пары. За гэтыя 20 год пясьняр прашоў даўгі шлях свайго мастацкага разьвіцьця і не пахучымі кветкамі, а, хутчэй, калючымі цернямі быў усеяны гэты шлях: ён быў поўны барацьбы за самавызначэньне і за лепшую долю роднага народу.

У рамках кароткага нарысу не прадстаўляецца мажлівым поўнасьцю абхапіць усю многагранную творчасьць беларускага поэты. Мы намецім толькі галоўныя вехі, зазначым асноўныя этапы, якія прашоў у сваім разьвіцьці пясьняр.

Першы этап—гэта зборнік „Жалейка“, які зьявіўся ў 1908 годзе. У дадзеным зборніку мы ўжо знаходзім эмбрыён галоўных мотываў творчасьці Янкі Купалы. Тут ужо досыць выразна вызначаецца мастацкая постаць песьняра. Для навуковага дасьледчыка поэзіі Купалы „Жалейка“, калі шукаць анолёгій, мае такое-ж вялікае значэньне, як, напрыклад, ліцэйскія вершы Пушкіна.

У „Жалейцы“ пераважваюць об'ектыўныя мотывы лірыкі. Янка Купала выступае тут, галоўным чынам, як назіральнік наўкольнага жыцьця. Гэрой зборніка—беларускі селянін. Асабліва падрабязна распрацована тут тэма сялянскай беднасьці. Поэта ўсебакова абхапляе соцыяльныя злыдні беларускага селяніна. Вось напрыклад, якія сумныя песьні мужыка падслухаў наш поэта:

Няма хлеба, няма солі,
　　Чужому рабі;
Няма шчасьця, няма долі,
　　Вот тут і жыві;
Вот зіма—мароз вялікі,—
　　Дровы ў Менск цягні;
Дзеткі зьмерзьлі; енкі, крыкі,—
　　Вот тут і жыві.

---

[1]) З некаторымі довадамі аўтара рэдакцыя не згаджаецца. *Рэдакцыя.*

На гэтай тэме сялянскай беднасьці поэта спыняецца некалькі раз. Відаць яго гуманнае сэрца асабліва хваравіта адчувала гэтую адвечную крыўду народнага жыцьця.

Пясьняр ня толькі констатуе факты беднасьці, ён ставіць і дыагноз; паказвае прычыны ненормальнага соцыяльнага становішча беларускага селяніна. У дадзеных адносінах часам Янка Купала выяўляе вострыаналіз ня столькі поэты, колькі політэкономістага. Ён, напрыклад, маляўніча рысуе нам, як выбіваюць з селяніна дадатковую вартасьць:

Пан за тваю працу
Нібы то й заплаце—
Знай плату з Палацу;
Зьбярэш з ёй багацьця—
За гадзін семнаццаць
Трудоў ў дзень нязьменьне
Выйдзе грошай дваццаць
Або й таго меней.

Эксплёатацыя, такім чынам,—галоўная прычына сялянскай беднасьці Адзін за другім перад намі разгарнаюцца малюнкі соцыяльнага ўціску. Вось, напрыклад, верш „Гоніш мяне, панічок“; гэта эмбрыён будучай драмы „Раскіданае гняздо“: тут поэта малюе нам, як пан выганяе селяніна з яго сялібы. Верш „Град“ рысуе нам, як пан імкнецца скарыстаць нават няшчасьце селяніна. Ня толькі вобразы эксплёататараў-абшарнікаў зарысоўваюцца тут; перад намі выступаюць іншыя вобразы прыгнятальнікаў вёскі ў старыя часы; пан з гандляроў, ліхвяр, эксплёататар з інтэлігэнцыі, ксёндз, аконам, шляхціц, — усе гэтыя здані мінулага праходзяць прад намі.

Ува ўмовах эксплёатацыі праца не дае здавальненьня; яна—цяжкая пакута. І вось пясьняр малюе нам жніво. Мы бачым гэтых жней з пагнутымі худымі каркамі. Мы чуем іх смутныя песьні:

Асобна кожную загонам
Нас надзяліў пан дабрадзей.
А над усімі злы аконам
Стаіць, ганяець жаць барждждэй.

Нават думка аб дажынках ня радуе гэтых пакутніц:

Пан справіць гучныя дажынкі,
За пот, кроў, сьлёзы водкі дасьць,
Мы будзем піць, як гора п‘ем,
Паноў хваліць
І дружна ім
Скрозь сьлёзы песьню прапяем.

Па мотывах, якія пануюць у „Жалейцы“, Янка Купала прыбліжаецца да народнікаў: галоўным об‘ектам яго творчасьці зьяўляецца вёска, народ. Але паміж ім і народнікамі ранейшага часу ёсьць значная розьніца.

Як вядома, для народнікаў характэрнай зьяўляецца іх вера ў інтэлігэнцыю. На падставе тэорыі крытычна мысьлячай асобы Лаўрова яны лічылі, што інтэлігэнцыя—гэта галоўны фактар культуры і прогрэсу, гэта—соль зямлі. Беларускі пясьняр не падзяляе гэтай ілюзіі. У яго вершы „Песенька для некаторых маладых людзей“ выразна выяўляюцца крытычныя адносіны да інтэлігэнцыі; тут выступаюць паасобныя вобразы інтэлігэнтаў высокай кваліфікацыі—доктар, інжынэр, адвакат, судзьдзя. Для ўсіх іх характэрна тое, што яны, па думцы поэты, рана губляюць свой юнацкі парыў у высь ідэалу і хутка зацягваюцца жыцьцёвым брудам, павялічваючы сабой толькі кадры дармаедаў, якія экспләатуюць працоўны люд. Поэта гаворыць:

Людзей маладых у нас дужа вучоных
Цяпер надта шмат разьвялося,
Праўд нейкіх шукаюць на сьвеце нясьнёных,
Над бедным з іх кожны галосе,
Да працы да роўнай, да волі шырокай
Ахвочы крычаці, ўзываці.

Але гэты юнацкі ідэалізм, рысуе поэта, адцьвітае, не пасьпеўшы расквеціцца: доктар бярэ з беднякоў рублі і поўрублёвікі, інжынэр—будуе турмы і вастрогі, судзьдзя—асуджае на катаргу галодных людзей і г. д.

Гэтак у „Жалейцы“ Янка Купала выступае, як народнік, але народнік sui generis, сваясаблівы, пазбаўлены некаторых ілюзій народніцтва.

Можа неорыгінальны асабліва думкі, якія выказвае Янка Купала ў „Жалейцы“, але затое зборнік падкупляе нас сваёй шчырасьцю і беспасрэднасьцю; тут ня чуецца ніводнага фальшывага гуку, усе словы йдуць ад сэрца поэты; тут ён раскрывае ўласныя раны сваёй душы, раны і болькі свайго народу. У зборніку заўважваецца поўная адсутнасьць рыторыкі, фальшывай позы; гукі поэты чаруюць нас і вабяць сваёй прастатой і эмоцыянальнасьцю.

Другі этап у мастацкім разьвіцьці Янкі Купалы ўяўляе сабой зборнік „Гусьляр“. Гэта—пераважна філёзофскі зборнік. Поэта тут часам адыходзіць ад дзейнасьці і ўваходзіць у глыб сваіх унутраных перажываньняў. Праўда, і ў „Жалейцы“ мы спатыкаем выраз асабістых настрояў поэты, але там выказваюцца пераважна эмоцыянальныя адносіны да рачаіснасьці, пануе часам беспрадметны сум, мэлянхолія; тут, у „Гусьляры“, пераважна выказваюцца інтэлектуальныя, разумовыя адносіны песьняра да рачаіснасьці. Поэта сам заўважае свой нахіл да рэфлексіі, цяжкога задумленьня; ён гаворыць, напрыклад:

Мае думкі, быццам кумкі,
Назаляцца любяць мне,
То стыдліва, то пужліва,
Тая—ў яве, тая—ў сьне.

Тая плача, тая скача,
Тая песенькі пяе;
Як зязюлькі, аздабулькі,—
Думкі родныя мае.

У „Гусьляры“ выяўляецца спроба абхапіць увесь космос; на крыльлях сваёй думкі поэта хоча падняцца высока ў блакітныя абшары і прасякнуць у жыцьцё нябесных сфэр. Часткаю пясьняр знаёміць нас з вынікамі гэтай напружанай працы свайго розуму; у зборніку „Гусьляр“ перад намі выяўляецца досыць акрэсьленая сыстэма агульна-філёзофскага сьветагляду поэты. Гэты сьветагляд ахварбован у пэсымістычны колер. Яго падставай служаць ідэі агностыцызму, хаосу і кругавароту рэчаў. Поэта кажа:

Нязнанай сілай праве сьветам
Пачатак, бытнасьць і канец.

Пад гэтымі радкамі мог-бы, думаецца нам, падпісацца і галоўны прадстаўнік агностыцызму—Спэнсэр. Па думцы ангельскага філёзофа, гэтак сама сутнасьць рэчаў застаецца для чалавека сілай нязнанай. Гэта нязнаная сіла выяўляецца ў двух галоўных процэсах інтэграцыі і дыфэрэнцыяцыі матэрыі; на падставе гэтых процэсаў адбываецца ператварэньне хаосу ў космос і распадзеньне космосу ў хаос—два адвечных рытмы, якія абхапляюць сабою дынаміку быцьця,—„пачатак, бытнасьць і канец“.

Ідэя хаосу, як асновы сьветабудовы, асабліва выразна выяўлена ў Купалы ў вершы „Зьнямога“, дзе поэта зазначае:

Безнадзейна, бястрывожна,
Ціха, зважна, асьцярожна,
Хаос гнёзды ўе свае,
Вара зельле калатуху,
Пое, зводзе князя-духа,
Перадыху не дае.

Гэткім чынам, фэномэнальны сьвет распадаецца для Купалы на дзьве часткі: адну складаюць сабой сілы ірацыянальныя, другую—сілы рацыянальныя; але аснова быцьця—гэта цёмны хаос, сьветлыя сілы розуму знаходзяцца самі на повадзе ў хаосу.

Імкнучыся абхапіць сваёй думкай ня толькі сьвет прыроды, але і сьвет гістарычнай дзейснасьці, Янка Купала прыходзіць да ідэі кругавароту рэчаў, якая выражана ў вершы пад той-жа назвай. Поэта зазначае:

Марнеюць сільныя народы;
Бяруць слабейшыя гару,—
Нянавісьць, бітвы, непагоды,
Туманяць радасьці зару.

І ў гісторыі, такім чынам, адбываецца разгул цёмных сіл, няма паступовасьці, адбываецца адвечны кругаварот у сабе замкнёных кол.

ідэя ня новая ў філёзофіі гісторыі: яна, як вядома, была разьвіта яшчэ Джонбатысто Віко, у нашы часы—адноўлена Шпэнглерам і іншымі.

Для нас „Гусьляр“ мае паважнае значэньне, як спроба Янкі Купалы разабрацца ў агульных пытаньнях філёзофскага характару—спроба разьвязаць пытаньне аб сэнсе ўсяго існуючага, гэтую адвечную проблему; гаворачы словамі Гэйнэ:

Головы в иероглифных кидарах,
В черных беретах, чалмах,
В пудре—и головы всякого рода
Бились над этим вопросом в слезах.

Асобны нахіл да філёзофскай рэфлексіі адбіваецца і на об'ектыўных мотывах зборніка „Гусьляр“. Праўда, і тут яшчэ адчуваецца часткаю манера „Жалейкі“—выхляпляць і зарысоўваць паасобныя абразкі жыцьця; і ў „Гусьляры“ мы знаходзім соцыяльныя малюнкі рэалістычнага характару: апяваецца гаротная доля безьзямельных, сірочая доля і інш. Але побач з гэтай рэалістычнай манерай выяўляецца і другая манера—імкненьне даць філёзофскае абагульненьне фактаў жыцьця; адсюль вынікае надзвычайна пашыраны ў Янкі Купалы прыём схэматызацыі, жыцьцё як-бы вылушчваецца з рамак побыту і разглядаецца быццам пэўная абстракцыя, адцягненая катэгорыя. Такі прыём мы спатыкаем ў вершах „З песень жыцьця“, „Над калыскай“ і інш., дзе разглядаецца жыцьцё чалавека наогул. Абразкі гэтага жыцьця агорнуты змрочным флёрам пэсымізму; густую цемру пэсымізму толькі зрэдка праразаюць тут сьветлыя праменьні веры поэты ў сябе і свой народ.

Іншы характар носіць трэці этап у мастацкім разьвіцьці Янкі Купалы—зборнік „Шляхам жыцьця“ (1913 г.). Праўда, і тут часам мігацяць мрачныя цені былых настрояў, але перавес канчальны ўсё-ж такі на старане сьвятла. У „Гусьляры“ поэта пераажыў стадыю бязгрунтоўнага гамлетызму; там імкненьне разьвязаць агульныя проблемы жыцьця параджала сабой ціхую развагу і цяжкое задумленьне. У „Шляхам жыцьця“ Янка Купала выступае ў новай постаці барацьбіта і змаганьніка. Ён у значнай ступені адкідае ўжо бясплодную рэфлексію і акрыляецца магутнай верай у зьдзейсьненьне сваіх ідэалаў. Гэтыя ідэалы, папершае, зводзяцца к ідэалам нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня айчыны.

Нацыянальныя мотывы эпізодычна трапляюцца і ў двох папярэдніх зборніках, але там заўважваюцца больш эмоцыянальныя адносіны песьняра да Беларусі; у „Шляхам жыцьця“ выступае ўжо выразна акрэсьленая ідэолёгія адраджэнца. Пытаньне аб беларускай мове, істотнае для справы адраджэньня, нацыянальны ўціск чужынцаў, гандаль душой беларуса—усё гэта знашло сваё выяўленьне ў дадзеным зборніку. Акрылены ўжо бадзёрым оптымізмам, поэта сваім тварам павернуты ня толькі да прошласьці, ня толькі романтыку мінулага выяўляе ён у сваёй творчасьці—другой постацьцю сваёй істоты ён павернуты да будучыны. Няхай

сучаснае было тады сумным, няхай Беларусь была тады прыгнечанай рабыняй з цярновым вянком на галаве, цемру гэтай сучаснасьці для поэты праразалі сьветлыя зоры будучыны; поэта верыў, што гэта будучына скіне з Беларусі цярновы вянец і ўскладзе на яе вянок з пахучых кветак шчасьця і радасьці. Пад уплывам такіх настрояў, поэта свой надзвычайна настраёвы верш „Ворагам беларушчыны“ канчае сьветлым акордам:

К свабодзе, роўнасьці і знаньню
Мы працярэбім сабе сьлед,
І будзе ўнукаў панаваньне
Там, дзе сягоньня плача дзед.

У жудаснай цемры царскай рэакцыі поэта ўжо падглядзеў ранішнія зарніцы, хуткі расьсьвет рэволюцыі, і ён піша свой чароўны верш „Ужо днее“. Гэтак ад пэсымізму ў „Шляхам жыцьця“ Купала пераходзіць да больш бадзёрага настрою, на змрочным фоне гамлетызму ўжо выяўляюцца іншыя сьветлыя блікі.

Паглыбляюцца ў дадзеным зборніку і соцыяльныя мотывы. У першых двох зборніках абмалёўваецца, галоўным чынам, сялянства, панства зачэпліваецца толькі эпізодычна; у „Шляхам жыцьця“ абрысоўваецца ня толькі гаротны селянін, але процілеглы—стан „ликующих, праздно болтающих, обагряющих руки в крови“. Панства акрэсьлена выступае тут, як паразітарны стан...

Над цёмнай вёскай, дзе мігацяць лучыны, высіцца багаты панскі палац.

Дымна замглелі, як блудныя вогні,
У вёсцы далёкай лучыны...
есела, ярка ў палацы сягоньня,
Хвіляй-мінутай—гадзіна.

Шыбы зардзелі блісканьнем няўхватным;
Кружацца пары, мігаюць;
Душы, да славы ўсебратняй ня здатны,
Вокліку суму ня знаюць.

Гэтак панства весяліцца, але бязьлітасная рука гісторыі ўжо піша свой суровы прыгавор над адыходзячай у нябыт соцыяльнай клясай... Вокны палацу асьвятляюцца заравам пажару, паднімаецца сялянства, змагаючыся за лепшую долю і імкнучыся адамсьціць за свае адвечныя мукі і крыўды...

Гэй-жа, ў тахт ногі!.. Пара за парай!
Стой!!! Блеск чырвоны шыбае з вакон.
Ах! Гэта вёска сьвеціць пажарам...

Апроч ідэёвай лірыкі, у „Шляхам жыцьця“ мы знаходзім лепшыя прыродаапісальныя вершы Янкі Купалы. Пераважна пясьняр рысуе нам

мяккія ідылічныя малюнкі прыроды, рэдка яго муза спыняецца на грозных і магутных зьявах, у прыродзе поэта як-бы шукае супакою і забыцьця ад суровай жыцьцёвай прозы. Адсюль вынікае імпрэсыяніскі характар малюнкаў прыроды песьняра. Трэцяя адзнака гэтых малюнкаў— шырокае і поўнагучнае ўспрыняцьце зьяў прыроды: Янка Купала дае нам ня толькі пластычныя вобразы, ён зарысоўвае рознастайныя шумы і гукі прыроды; пластыка вобразаў у яго цесна злучаецца з музыкальнасьцю.

Другая крыніца лірыкі ў Янкі Купалы—гэта каханьне. Малюнкі каханьня ў поэты цесна зьвязаны з яго прыродаапісальнай лірыкай. Пясьняр пераважна рысуе нам пяшчотныя ідыліі гэтага пачуцьця на лоньні прыроды; муза яго ня ведае бурнага палу і хваравітай эротыкі,—малюецца здаровае пачуцьцё ў здаровай абстаноўцы. Самыя рызыкоўныя сытуацыі поэта ўмее прыкрываць трапнымі вобразамі, якія большаю часткаю запазычваюцца з народнай творчасьці; адсюль вынікае асаблівая саромлівасьць і цаламудранасьць музы песьняра...

„Жалейка“, „Гусьляр“ і „Шляхам жыцьця“ ўяўляюць сабой тры паасобных этапы ў мастацкім разьвіцьці Янкі Купалы. У зьмене гэтых этапаў заўважваецца некаторая законамернасьць. У „Жалейцы“—Купала пераважна назіральнік дзейнасьці; ён малюе сялянскае гора ў розных яго аспэктах, уціск і заняпад роднай краіны параджаюць у поэты стан маральнай дэпрэсіі. У „Гусьляры“ Янка Купала крыху адходзіць ад дзейнасьці і процістаўляе ёй сваё „я“; ён імкнецца асмысьліць жыцьцё, пабудаваць сабе пэўныя ідэалы. У „Шляхам жыцьця“ пясьняр малюе нам дзейнасьць, але ўжо асіяную сьвятлом ідэалу. Можна ўгледзець, такім чынам, некаторую дыялектычнасьць у агульным процэсе мастацкага разьвіцьця Янкі Купалы: „Жалейка“ дае нам тэзіс дзейнасьці, „Гусьляр“— уяўляе сабой да некаторага стопню антытэзіс—процістаўленьне гэтай дзейнасьці ўласнага „я“; „Шляхам жыцьця“—сынтэз, гармонічнае злучэньне элемэнтаў об'ектыўных і суб'ектыўных. Гэтым тлумачыцца розьніца ў эмоцыянальнай ахварбоўцы паасобных зборнікаў: у „Жалейцы“ Янка Купала толькі сумуе над дзейнасьцю царскай рэакцыі, у „Гусьляры“ ён адыходзіць ад гэтай дзейнасьці ў глыб філёзофскай рэфлексіі, у „Шляхам жыцьця“ ён заве ператварыць дзейнасьць у імя ідэалу і па ўзоры ідэалу. Гэткім чынам, разгледжаныя зборнікі вычэрпваюць усе вядомыя нам віды лірыкі: у першым зборніку прадстаўлена лірыка беспасрэдняга пачуцьця, у другім зборніку—дадзена лірыка задуменьня, у „Шляхам жыцьця“—пануе лірыка захапленьня і адушаўленьня.

Усяго чатыры гады аддзяляюць „Жалейку“ ад „Шляхам—жыцьця“, але гэтыя гады прашлі для поэты не дарэмна; творчасьць яго значна пашырылася ў параўнаньні з першым зборнікам; яна ўвабрала ў сябе шмат тэм філёзофскіх, грамадзянскіх і іншых; зьмянілася значна эмоцыянальная ахварбоўка: на зьмену суму і мэлянхоліі прышоў патос барацьбы і

змаганьня. Значна пашырылася творчасьць поэты і збоку формальнаэстэтычнага; у „Жалейцы“ конкрэтнае мысьленьне аўтара параджае адпаведныя конкрэтныя вобразы, мы знаходзім тут сакавітыя эпітэты і параўнаньні: у Купалы месяц сьвеціць, як лысіна ў пана, альбо, як дзюрка ў сярмязе; печ раўняецца ў яго з вураднікам, які з-пад ілба глядзіць на ўсю хату. У „Гусьляры“ нахіл аўтара да філёзофскіх абагульненьняў параждае прыёмы алегорыі і сымболікі: сонца і зоры бяруцца, як сымболь высокага ідэалу, зіма,—як сымболь цяжкай рэакцыі, вясна ўвасабляе сабой рэволюцыйны ўздым і інш. У „Шляхам жыцьця“ на падставе захапленьня поэты высокімі ідэаламі лепшай будучыны вынікае вялікая мэтафорычнасьць стылю; ночка сьпявае ў Купалы сьмелы гымн каханьня, сіні бор ён прымушае сьмяяцца і плакаць да самага сьвітаньня, у другім месцы гэты дзед-бор патрасае ў поэты сваёй зялёнай каронай і ў няўгадных словах піша свае законы; сьмелыя мэтафоры разрастаюцца ў поэты ў трапныя ўвасабленьні і зграбныя пераварочаньні. Поэта, напрыклад, так выражае свае пяшчотныя пачуцьці:

З зорак усходніх, заходніх, з бліскучай
маланкі выткаў-бы шаты,
З сонца і кветак-пралесак карону
вяночак зьвіў-бы Табе я.
З пальмаў, з цыпрысаў сьвятліцу ў цьвітучай
цяністай строіў-бы кнеі;
Волбачак зьняў-бы на трон з небасклону,
з-пад сонца пышны, багаты.

Разам з тэматычным і формальным пашырэньнем поэзіі Янкі Купалы пашыраецца й паглыбляецца і творчая самасьвядомасьць песьняра. У „Жалейцы“ ён выказвае скромны погляд на сябе, раўняючы сябе з верабейкам, які скромна чырыкае, з-пад Гайны; у „Гусьляры“ ён ужо раўняе сябе з сокалам і ветрам, асазнае об'ектыўнае і суб'ектыўнае значэньне поэзіі: песьня—гэта сіла, якая руйнуе ўсе перашкоды і пракладае зорны шлях да сонечнага сьвятла ідэалу; песьня духоўна прыпаднімае самога поэту з стану моральнай дэпрэсіі („Сон“). Гэтай проблеме творчай самасьвядомасьці поэты асабліва шмат твораў пасьвечана ў зборніку „Шляхам жыцьця“. „Курган“, „На куцьцю“, „Забытая скрыпка“, „Абразок“, „На папасе“—усе гэтыя творы высьвятляюць пытаньне аб мэтах і задачах поэзіі. У „Кургане“ падкрэсьліваецца соцыяльная місія поэты; поэзія павінна выкрываць соцыяльныя крыўды: гусьляр адважна кідае ў твар князю шчырую праўду, гаворыць, што ўсё яго багацьце пабудавана на крыві і пакутах людзей:

„Глянь у лёхі свае, ў падзямельлі глянь, князь,
„Што настроіў пад хорамам гэтым:
„Брацьця корчацца там, табой кінуты ў гразь,
„Чэрві точаць жывых іх, разьдзетых.

„Ты ўсё золатам хочаш прыцьміць, загаціць...
„Ці-ж прыгледзеўся, хорамны княжа.
„Кроў на золаце гэтым людзкая блішчыць,
„Кроў, якой і твая моц ня зможа.
„Ты брыльлянтамі ўсыпаў атласы і шоўк—
„Гэта цёртая сталь ад кайданаў,
„Гэта вісельні петляў разьвіты шнурок,
„Гэта, княжа, твае саматканы“.

Гіне гусьляр, але жыве яго песьня, навакол яго імя плятуцца пекныя легэнды і паданьні:

Кажуць людзі: у год раз ночкай з гусьлямі дзед
З кургана, як сьнег, белы выходзе.
Гусьлі строе свае, струны звонка зьвіняць.
Жменяй водзе па іх абамлелай,
І ўсё нешта пяе, што жывым не паняць,
І на месяц глядзіць, як сам, белы.

Твор „На куцьцю“ праводзіць думку аб нацыянальнай місіі поэты. Песьняры—гэта вешчыя ганцы: сваім словам—сьветлым, як сонца, моцным, як лук стралы, і гучным, як гусьлі,—яны па́вінны адбудзіць заняпаўшую старонку. Нарэшце абразок „На папасе“ разьвязвае глыбокую проблему аб адносінах высокаадаронага чалавека да масы звычайных людзей. Проблема ня раз ставілася ў сусьветнай літаратуры. Ужо Сэрвантэс у сваім творы „Дон-Кіхот“ зачэплівае гэта пытаньне, процістаўляючы вобразы Санчо Пансо і Дон-Кіхота; Шэксьпір асабліва завострывае проблему: ён вырывае непраходнае бяздоньне паміж сьветлым духам Арыэлем і Калібанам, увасабленьнем натоўпу; романтыкі XIX стагодзьдзя йдуць па сьлядох Шэксьпіра: з іх пункту погляду поэта—гэта няшчасная ахвяра, якая асуджана на пакуты адвечнага неразуменьня і варожых адносін збоку масы. Янка Купала, як выхадзец з гушчы працоўнага люду,—далёкі ад арыстократычнай трактоўкі дадзенага пытаньня; ён паказвае нам сьціслыя ўзаемаадносіны масы і поэты; падарожнікі, праўда, спачатку не разумеюць незнаёмага, у іх вачох ён нейкі дзівак, але поэта сьпявае ім песьню пра гаротнае жыцьцё на сьвеце Лявона, і падарожнікі няпрыкметна падпадаюць пад уплыў гэтай песьні.

Зборнік „Шляхам жыцьця“ не замыкае сабой кола мастацкага разьвіцьця поэты; у 1922 годзе зьяўляецца чацьверты зборнік яго—„Спадчына“.

Паймі, пачуй! Сон наш і свой стрывожы,—
Закон і суд свой праведны пашлі!
Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, божа,
Калі ты цар і неба, і зямлі!

Тут часткаю пашыраюцца і паглыбляюцца мотывы папярэдніх зборнікаў, але адначасна прыўносяцца і некаторыя новыя элемэнты. Па-

першае, надзвычайнай моцы дасягае тут нацыянальны патос поэты, узвышаючыся да мотываў богазмаганьня. У вершы „Цару неба і зямлі“ пясьняр імкнецца разьвязаць антыномію, як пагадзіць пакуты Беларусі з існаваньнем бога. Гэта супярэчнасьць паміж існаваньнем зла ў сьвеце і існаваньнем нейкай вышэйшай сілы мучыла шмат якіх поэтаў і пісьменьнікаў. Байрон, Лермантаў, Дастаеўскі, Славацкі і інш. зьяўляюцца папярэднікамі беларускага песьняра ў дадзеных адносінах, але орыгінальнасьць Янкі Купалы заключаецца ў тым, што ён агульналюдзкую проблему разглядае ня ў роўніцы мэтафізычнай і моральнай, а ў роўніцы нацыянальнай. Немажлівасьць пагадзіць пакуты роднага народу і існаваньне бога прыводзіць песьняра на здаровы шлях рэлігійнага скэптыцызму, і ён канчае свой верш магутным закідам па адрасу бога.

У гэтым зборніку выяўляюцца рознастайныя соцыяльныя тэмы; тут мы знаходзім водгукі на падзеі імпэрыялістычнай бойні (песьні вайны), перапяваюцца мотывы беднасьці і заняпаду вёскі ў старыя часы.

Значна ўзбагачаецца лірыка асабовая; у ёй мы знаходзім новыя адценьні ў сьветапоглядзе поэты і яго адчуваньнях; агностыцызм гусьляра зьмяняецца тут бадзёрым рацыяналізмам; пад уплывам магутнай веры ў моц чалавечага розуму і навукі поэта стварае свой чароўны сонэт „Чаму?“.

Няма для духу вольнага граніцы, меры,
Гдзе-б ён сягнуць ня сьмеў, гдзе-б ён ня ўзлунаў...

Яму да тайнаў душ і сэрц адкрыты дзьверы,
Ўсё тое спазнае, што бег сталецьцяў не спазнаў;
Як фэнікс з попелаў, узносіцца з канаў,
На дно якіх яго сьпіхаюць цемраў зьверы.

Магучы, векавечны, створан з сонц мільёнаў,—
Гром, пяруны ў руках трымаць, спыняць ня слаб,
Хоць-бы ў вагні кіпеў, ў віхрох марозаў зяб...

Эмоцыянальная лірыка поэты дасягае свайго кульмінацыйнага пункту ў пекным цыклі „Яна і я“; тут жанчына рысуецца ў ролі памоцніцы і супрацоўніцы чалавека на яго жыцьцёвым шляху; удзел жанчыны ў працы ўносяць сабой сьветлыя праменьні ў гаспадарчую дзейнасьць земляроба, прысутнасьць жанчыны асьвятляе і момант яго адпачыну, з ёй ён дзеліць свае супольныя радасьці і гора. Тут штодзенныя праявы сялянскага жыцьця, абагрэтыя прысутнасьцю „яе“, узьведзены поэтай у дыямэнт стварэньня.

Апошні этап у мастацкім разьвіцьці беларускага песьняра ўяўляе сабой яго зборнік „Безназоўнае“. Тут мы ўжо знаходзім выразную спробу падыйсьці бліжэй да сучаснай савецкай дзейнасьці, тут ужо выразна выступаюць мотывы пролетарскай поэзіі, Янка Купала выяўляецца ў новай постаці песьняра Кастрычнікавай рэволюцыі. Мастацкі пэндзаль яго

з захапленьнем рысуе шырокі размах пролетарскай рэволюцыі, якая ўскалыхнула ўсё сабой: „на‘т беларускія межы ўсталі з залежы“.

Рэволюцыя прынесла сабой сапраўдную свабоду:

Ня сьвісьціць ужо нагайка,
Ня гудзіць бізун.
Селі макам усе тыя,
Што нас, вольны люд,
Не шкадуючы памыяў
Аблівалі тут.
Барын веку дажывае,
Выгнаны Масквой,
Пан Варшаву прапівае,
Гонар панскі свой.
А мы самі, сабе самі
Ўжо гаспадары,
Млатамі і сярпамі
Звонім да зары.

Здабыткі рэволюцыі тым балей яскравы, што там, на Захадзе пануе зьдзек і ўціск:

Яшчэ дзесь здрадна ласка панская
На беларускім едзе карку
І круціць з подласьцю паганскаю
На свой лад нашу гаспадарку.

Ацэньваючы агульныя вынікі Кастрычнікавай рэволюцыі, Янка Купала ўзвышаецца да гістарычнага погляду, добра разумеючы, што гэта рэволюцыя ўяўляе сабой новы этап у сусьветнай гісторыі:

Пакінем спадчыну мы для патомкаў,
Інакшую ад тэй,
Што ўзялі мы ад продкаў на абломках
Гісторыі сваей.

З інакшай думкай пойдзе ў сьвет і людзі
Патомак гэны наш:
Згібацца ўжо ня будзе і ня будзе
Піць з недапітых чаш.

Дасталі сьцежкі, ад якіх прапасьці
Маглі мы ў бяспуцьці,
А кінем бітыя шляхі да шчасьця,
Абы умець ісьці.

Часам поэта адгукаецца ў сваіх вершах на злобы дня. Нарада ў Гэнуі, выйсьце 1000-га нумару „Савецкай Беларусі“, юбілей беларускага песьняра Цішкі Гартнага, сьмерць Сьцяпана Булата,—усё гэта знаходзіць сабе водгук у лірыцы „Безназоўнае“. Лепшым зьяўляецца верш на сьмерць

Сьцяпана Булата, поэта праваджае ў магілу комуністычнага дзеяча словамі шчырага смутку і спагаданьня:

Задрамаў ты з доляй, з хвалай,
Жвір халодны прыгаруніў...
Ой, скасіла, ня спытала!
— Сьні, таварыш, аб Комуне.
Ты хапаў за косы сонца,
Думаў думку аб пяруне,
Што дух збудзе ўсёй старонцы...
— Сьні, таварыш, аб Комуне.

„Безназоўнае“ пакуль што замыкае сабой даўгі шлях мастацкага разьвіцьця поэты. Першы і апошні зборнікі да некаторага стопня ўяўляюць сабой два процілеглыя полюсы творчасьці песьняра: на адным полюсе сум і мэлянхолія, на другім—радаснае прыняцьце сучаснасьці і бадзёрая вера ў яшчэ лепшую будучыну. Змаганьне сьвятла і ценяй, якое запаўняе сабой прастор паміж гэтымі абодвума полюсамі, кончылася, такім чынам, перамогай сьветлага пачатку...

І цені, і сьвятло ў творчасьці Янкі Купалы маюць свае пэўныя соцыяльныя і гісторыка-культурныя падставы. У лірыцы Купалы многа месца адводзіцца выразу індывідуалістычных настрояў, і гэты індывідуалізм поэты, думаецца нам, мае свае карэньні у ўмовах класявага пахаджэньня поэты. Сын дробнага працоўнага арандатара, Купала цесна зьвязан з сялянскай гаспадаркай, усё яго маленства і юнацтва прашло ў цяжкай працы земляроба. „Сяляне працуюць кожны на сваім палетку“, кажа М. М. Пакроўскі, „параўнальна рэдка дапамагаюць адзін другому, а калі прадаюць вырабы сваёй зямлі, тады ўжо зьяўляюцца супернікамі адзін другому. З гэтай прычыны ў селяніна не магла разьвіцца солідарнасьць“.

Апроч соцыяльна-экономічнага фактару, разьвіцьцё індывідуалістычных настрояў у Купалы выклікалася і політычна-гістарычнымі акалічнасьцямі царскай рэакцыі, у багне якой прышлося выступаць поэце на літаратурную ніву. Назіраецца агульны соцыяльны закон, што калі дзейнасьць не адпавядае ідэалам мастака, то ён адходзіць ад яе ў глыб сваіх уласных індывідуальных перажываньняў. Дзейства гэтага заксну асабліва выяўляецца на сучасных Янку Купале расійскіх поэтах і пісьменьніках. Так, Андрэй Белы заблытваецца ў непраходнай тхлані містыкі, Бальмонт сам сабой „забавляется и развлекается“, Фёдар Салагуб будуе сваю тэорыю „Творимой легенды“, Арцыбашаў і Анатолі Каменскі смакуюць палавую проблему, нават Валеры Брусаў і той аддаў належны падатак часу. У параўнаньні з музай гэтых прадстаўнікоў расійскага Парнасу, муза нашага беларускага песьняра аказваецца здаровай; Янка Купала ніколі не даходзіць да крайнасьцяй індывідуалізму, у яго мы хутчэй спатыкаем сынтэз індывідуалізму і грамадзкасьці. Пад уплывам жыватворчых павеваў Кастрыч-

нікавай рэволюцыі поэта рашуча парывае са старой спадчынай і становіцца на бадзёры шлях пролетарскай творчасьці.

Ставячы на падставе агляду пройдзеных песьняром этапаў прогноз адносна будучай лініі яго творчасьці, можна спадзявацца, што гэта лінія будзе накіравана ў бок яшчэ больш сьціслага і глыбокага падыходу да сучаснасьці. Можна спадзявацца, што сонца Вялікага Кастрычніка яшчэ больш яскрава і магутна асьветліць будучы творчы шлях песьняра сонца і зор.

г. Менск, 28 мая 1925 г.

# МУЗЫКА Ў ТВОРАХ БЕЛАРУСКІХ ПОЭТАЎ

## Дрэйзін

Шмат часу Беларусь знаходзілася пад уладаю чужых народаў, пад цяжкім уціскам экономічным, грамадзянскім, політычным, культурным. У такіх варунках яна не магла разьвінуць сваю музыку ўшыркі і ўглыбкі, як то зрабілі расійцы, палякі, чэхі. Але музычнасьць сваю беларусы захавалі. Яны захавалі сваю беларускую песьню і свае нацыянальныя музычныя інструманты—жалейку, дуду, леру і інш.

І ў апошнія дзесяцігодзьдзі, асабліва ў апошнія годы, гэта яскрава адзначылася. Калі пачалося зьбіраньне беларускіх песень, дык зараз-жа выявілася, што беларусы ўтварылі нязьлічонае мноства гэтых песень, якія адзначаюцца праўдзівым музычным хараством. Некалькі тысяч песень ужо запісана, але гэта ёсьць толькі малая часьціна таго, што яшчэ трэба зрабіць у гэтай галіне.

Песьня праходзіць праз усё жыцьцё беларускага селяніна. Знаўца беларускага народу, пясьняр З. Бядуля, пісаў: „Пачынаючы ад калыскі дзіцяці, беларус сьпявае да самай сьмерці. Нават прычытаньні на хаўтурох не гаворацца звычайным голасам, а пяюцца. Рассыпаны паміж лясоў і далін, паміж рэчак і лугоў, дзе жаўранкі, салаўі, дрэвы і ветрык сьпяваюць пад блакітным небам,—наш селянін таксама любіць сьпяваць. Беларускаму хлопчыку здаецца, што „вёска грае". Ён чуе музыку ў скрыпе брамы, у шэптах жытняга поля, у гуканьнях і сьвістах начлежнікаў, у журчаньні рэчкі. Песьня перапаўняе ўсю душу вясковага чалавека, усё жыцьцё яго ператвараецца ў адну доўгую неперарыўную мэлёдыю, у якой пераліваюцца размаітыя пачуцьці—ад хмельна-вясёлых да жалобна-смутных [„Вольны сьцяг". 1921, № 6 (8)].

З прычыны доўгага перапынку ў культурным разьвіцьці беларускага народу, песьня і зьявілася галоўным сродкам праяўленьня яго музычнасьці. Характэрнае зьявішча: слова „поэта" на беларускай мове перадаецца словам „пясьняр", тады калі ў усіх іншых эўропэйскіх народаў і дагэтуль ужываецца старагрэцкае слова „поэта" (poietes), якое абазначае толькі таго, хто робіць, утварае (ад дзеяслова „poieo"—рабіць).

Нічога дзіўнага ў тым, што ў творах беларускіх песьняроў—поэтаў, якія зьяўляюцца праўдзівымі сынамі свайго народу, якія балеюць яго больлю, цешацца яго радасьцю,—адбіваецца гэтае адчуваньне музыкі ў жыцьці і прыродзе, гэтая любоў да музыкі, да яе праявы—песьні.

Беларускія поэты галоўным чынам—лірыкі, бо яны—песьняры.

У цяперашнім артыкуле мы разгледзім з гэтага боку творчасьць беларускага песьняра—поэты Янкі Купалы.

**Янка Купала**

„А песьня будзе жыць і жыць“ („Шляхам жыцьця“. Песьняру-беларусу), кажа Купала. І ўсю яго поэзію прасякае любоў да песьні, любоў да музыкі, сьвядомасьць тэй сілы, якую мае музыка. Калі Я. Купала хоча намаляваць гэтую сілу музыкі, ён знаходзіць на сваёй палітры хварбы старагрэцкае поэзіі, хварбы мітаў аб Орфэі, Арыоне і інш. Вось як малюецца сіла музыкі ў вершы „Курганы“ (Шл. ж.): калі стары гусьляр зайграе на сваіх гусьлях,—

Сон зьлятае з павек, болю цішыцца стогн,
Ня шумяць ясакары, чарэсьні;
Пушча-лес ня шуміць, белка, лось не бяжыць,
Салавей-птушка ў той час сьціхае;
Паміж вольхаў рака, як штодзень, ня бурліць,
Паплаўкі рыба-плотка хавае.
Прытаіцца да моху русалка, лясун;
Каня вечнага „піць“ не заводзе;
Пад звон-песьню жывучых гусьляравых струн
Для ўсіх папараць-кветка ўзыходзе.

І ня толькі на бясслоўную прыроду ўплывае так музыка, але й на чалавека, ды з яшчэ большаю сілаю, яна робіць такое неадхільнае ўражаньне. Мала таго, музыка-песьня (побач з казкаю) можа даць чалавеку шчасьце, яна павядзе яго ў краіну шчасьлівае будучыны, яна адкрые перад ім шырокія паземы.

Песьня і казка,
Як у крышталі,
Сьвету пакажуць
Тайныя далі.
Шляхі намецяць
К сонцу і зорам
Для людзкай долі,
Скованай горам.

Песьня і казка
Ў райскіх праявах
Шчасьце збудуюць
З кветак яскравых,
Сэрца атуляць
Вечнаю ласкай...
Слухай-жа, сэрца,
Песень і казак.

(Безназоўнае, стар. 62).

А калі так, то песьняру-поэту часам здаецца, што песьня павінна быць асяродкам жыцьця ня толькі паасобных індывідуумаў, але і ўсяго народу, які толькі й мае вартасьць, пакуль існуе яго песьня, бо—

... бяз песень-жа народ
Што ён варт быць можа?

(Жалейка. Песьна песьнях).

Нічога дзіўнага, што поэта-пясьняр ніколі не зрачэцца сваёй песьні, ня кіне яе, пакуль ён жыве, як чалавек, як істота, маючая сьвядомасьць свайго жыцьця:

Хоць ты, сэрца, лопні, трэсьні!
Хоць ты выгані, пан, з хаты!
Буду пець я свае песьні,
Пакуль возьмуць у салдаты.

(Жалейка * * *).

І калі песьня-музыка мае такую моц, калі яна мае такое значэньне ў жыцьці чалавека й цэлага народу, то творца музыкі, пясьняр і музыка, грае вялікую ролю.

У вышэйпрыведзеным вершы „Курган“ гусьляр, на абяцаньне князя заплаціць золатам за добрыя песьні і павесіць за злыя, адказвае:

Гэй, ты, князь! гэй, праслаўны на цэлы бел-сьвет!
Не такую задумаў ты думу,—
Но дае гусьляром сказу золата цьвет,
Белых хорамаў п‘яныя шумы.
Скурганіў-бы душу чырванцом тваім я;
Гусьлям, княжа, ня пішуць законаў:
Небу справу здае сэрца, думка мая,
Сонцу, зорам, арлом толькі роўна.
Бачыш, княжа, загоны, лясы, сенажаць,—
Ім пакорны я толькі з гусьлямі.

І кожны пясьняр павінен памятаваць аб тэй вялічэзнай ролі, якую ён грае сярод людзей, ён павінен бязустанку змагацца за сваю песьню з ворагамі яе, ён павінен любіць песьню не за золата, якое яна можа яму прынесьці, але за яе саму па сабе:

За родну песьню будзь ваякай,
Ня жджы заплаты ад людзей,
Пясьняр—слуга слугі усякай,
Пясьняр і цар усіх цараў.

(Шл. ж. Песьняру-беларусу).

Поэзія Я. Купалы да такой ступені прасякнута пачуцьцём музыкі, адчуваньнем яе моцы, што песьня ў яго зьліваецца з думкаю. У песьні ён выражае свае думкі, настроі, жаданьні. Песьня для нашага поэты—жывая істота, з якою можна весьці гутарку, якая разам з песьняром плача альбо цешыцца, аб якой можна пець песьні (Песьня аб песьні).

Жутка стогнуць рэкі,
Ўзбураны вясною;
Плачуць мае песьні,
Галосяць са мною.

Не стагнеце, воды
Паводкі бурлівай,
Кіньце плакаць, песьні,
Горка, нешчасьліва.

(Жалейка. Плачуць мае песьні).

І музыку поэта лічыць выгодным сродкам дзеля выражэньня сваіх думак:

З шумам бораў, ясакораў,
Ой, гаю, ой, гаю,
На жалейцы, добрадзейцы
Думку дум заграю.
Ой, заграю, запытаю,
За што, за якое
Плачуць песьні, як ня трэсьне
Сэрца маладое?

(Шл. ж. На жалейцы).

Думка зьліваецца з песьняй, робіцца „думка-песьня“,—

...песеньку-думку...
Я-ж ціха йграю...

(Жалейка. Я не поэта).

і дае гэтая думка-песьня поэце пацеху ў яго смутку:

Думу-песьню запей, стань адважнай ступой,
Яшчэ раз не засьні, не засьні!..
Дык ня плач-жа, брат мой, запей песьню са мной.
Яшчэ раз не засьні!

(Шл. ж. Ня ўздыхай).

Нічога дзіўнага, што поэта так моцна адчувае сілу песьні-музыкі. Ён чуе гэтую песьню з усіх бакоў. І найперш за ўсё ён чуе гэтую. песьню ў прыродзе, у яе жыцьці. Для поэты прырода ня ёсьць нешта мёртвае, несьвядомае. Яна—жывая істота, поўная думак, поўная сьвядомасьці.

Уся прырода жыве, і чалавек ёсьць толькі часьціна гэтае жывое прыроды. Часам здаецца, што нейкім старажытным паганскім пантэізмам абвеена поэзія Я. Купалы. Уся прырода жыве, гамоніць, мае свае думкі, вядзе гутаркі, а найбольш—пяе песьні. З усіх бакоў чутны гэтыя песьні і не змаўкаюць яны ні на момант. Чарадзейнаю песьняй вясна скідае з зямлі яе зімнія чары, яе сьнежную вопратку, прырода адраджаецца, шэпчуцца явар з калінаю і пачынаецца „дзіўная музыка“, музыка вясны і лета (Шл. ж. Явар і каліна). І лес ужо ня проста шуміць, а „іграе шумам“ (Спадчына. Як цені), і пушча радасна грае свае песьні (Сп. Вясна. Жалейка—Перад вясной). Радасьць жыцьця разьлілася ў прыродзе, бо вясна „запела сваю песьню“ (Спадчына. Запела вясна сваю песьню), вясна „залатаструнная“ (Спадчына. Праталіны). А за вясною йдзе лета і, як раней вясна, „грае лета песьню сьпеўную быцьця“ (Спадчына. Летам). І яшчэ галасьней чуецца цяпер песьня. Пяюць ня толькі лясы і пушчы, але й паасобныя дрэвы. Вось там, дзесь у полі, стаялі дзьве таполі і пелі лісьцьмі сваімі,—

Як адна, дзьве таполі ўсё пелі.

(Шл. ж. Дзьве таполі).

І ў ветры чутна тая-ж песьня, і пушча нясе выклік гэтым песьням і прыслухоўваецца да іх (Шл. ж. За касой). І ўсё радуецца гэтай песьні, само пяе, і пчолы ўжо ня пчолы, а „неўгамонныя музыкі“ (Спадчына. Пчолы).

Разам з прыродаю адраджаецца і яе часьціна, чалавек,—і песьням прыроды адказваюць песьні людзей, бо адраджаюцца разам—

І зелень, і кветкі, і песьні,
І неба вясёлая яснасьць...

(Шл. ж. З песень аб вясьне).

І калі выходзіць на зямлю гэтая „вясёласьць вясны“, чалавек адчувае ў сэрцы сваім шчасьце і пачуцьцё шчасьця выражае ў тэй-жа песьні, якая „ўвысь імчыцца“—

Кожны весяліцца,
Благаславіць жыцьцё.

(Спадчына. З вясной).

Поэта ня можа застацца маўклівым. Ён чуе песьні і гутаркі прыроды, яго сэрцу штось гавораць і неба, і сонца, і месяц, і зоры, і людзі і пушча, і ўся зямля; ён бачыць з усіх бакоў моц быцьця, і тады ён ня можа чакаць, драмаць—

Так і хочацца заўсёды
Песьню вечную сьпяваць.

(Шл. ж. Грайце, песьні).

Пяе пушча, дзе поэта адчувае сябе, як дома, і, разам з пушчаю, ён пяе песьні свае (Шл. ж. Як я полем іду). І да гэтага лета, у якое аджывае прырода, якое прыносіць песьні, разьліваючы ўсюды моц жыцьця, поэта зварочваецца з просьбаю даць яму веру ў сябе, веру ў будучае шчасьце, даць яму моц змагацца з крыўдаю і са злом і... пець песьні (Шл. ж. Лета). Да гэтых песень запрашае поэта і другіх. Няхай іграе на сваёй жалейцы падпасьвіч, няхай, разам з пушчаю, з птушкамі, з вольнымі ветрамі, ён грае яму аб шчасьці, аб вясьне (Спадчына. Вясна).

Але ня толькі ўдзень, калі сонейка зьяе і залівае сваімі праменьнямі ўсю зямлю, калі ўсё навокал гамоніць і пяе, чуе поэта песьні прыроды. Ён чуе іх і ўночы, калі ўсё сьпіць, бо ёсьць свая музыка і ў цішыні, і цішыня гавора:

Ночна-сонная даль мае мову сваю,
Былі зьяўныя шорахам тайным складае,
Песьню з небам снуе—праслаўляе зямлю,
Ў песьню лучыцца гэту душа маладая.
Аб квяцістым зямнога жыцьця харастве,
Аб праменьнях, што долю галубяць людзкую,
І аб з сілай благою пабеднай бітве
Чую голас прарочы і ў думках мяркую.

Вось і праходзіць лета, прырода памірае, заціхае і, разам з ёю, заціхаюць песьні. Заціхаюць песьні прыроды, а замест іх „ліюцца з неба каплі-сьлезы“ (Шл. ж. На склоне лета), заціхаюць і песьні людзей:

Людзі ў курныя
Хаткі пакрыліся,
Радасьць мінулася,
Песьні забыліся

(Шл. ж. З асеньніх напеваў).

Але не, песьня ня змоўкла зусім, яна толькі зьмянілася. І восень пяе, і восень мае свае песьні, толькі гэтыя песьні ўжо не вясёлыя песьні вясны і лета, а песьні нудныя, сумныя, песьні „няўдалыя“ (Жалейка. Восень).

Прырода была яго школай, прыродзе ён аддаваўся ўсім сваім сэрцам, у прыроды ён падслухоўваў яе шопаты, яе думкі, яе песьні, прырода дала яму дар песьняра, дзякуючы прыродзе, ён цяпер „песьні ўладар“. Гэтая прырода:

...п'яная чарамі, п'яная песьняй,
Як сон заварожаны райскіх мясьцін,
Шаптала мне дзівы цьвітучых прадвесьняў
І песьняй лілася з паходам часін...
Ад шопату сьпелых пшанічных калосьсяў,
Ад шэлесту лісьцяў узьмежных ігруш
Музычнае водгульле ў песьню лілося.

(Спадчына. Мая навука).

Песьняю адказвае Я. Купала песьням прыроды, песьню выклікаюць у яго розныя пачуцьці, якія ўзрушаюць яго сэрца. І сярод гэтых пачуцьцяў немагчыма прайсьці міма таго пачуцьця, якое давала натхненьне поэтам усіх вякоў і народаў, пачуцьця каханьня. Трэба сказаць, што Я. Купала не зьяўляецца поэтам каханьня наогул. Непараўнальна больш лірыка поэты распрацоўвае мотывы прыроды, з аднаго боку, і мотывы жыцьця беларускага народу—з другога (існуючыя альбо раней існаваўшыя адносіны экономічныя, грамадзянскія і палітычныя). Але біолёгічна неабходнае і найпоэтычнейшае з пачуцьцяў—пучуцьцё каханьня не магло не знайсьці водгуку ў сэрцы поэты, у яго поэзіі. І на палітры поэты знаходзіцца ня мала фарб, патрэбных для гэтай мэты. Мімаволі ўспамінаецца найперш за усё такі дзіўна прыгожы верш Я. Купалы, як „А яна?“ (Спадчына). Поэта атуляе прадмет свайго каханьня ўсёю ласкаю, усёю цеплатою свайго сэрца.

І як раней прырода, так цяпер каханьне выклікае ў поэты песьню, Яму хочацца:

К ружовенькім шчочкам
Губамі прыльнуць
І песьню аб Людцы
На ўвесь сьвет грымнуць!

(Шл.ж. Людка).

Ён хоча даць шчасьце сваёй улюбёнай, і гэтае шчасьце ён жадае даць песьняй —

Славіць, шчасьлівіць сваю маладую,
сьвятую песьняй няпетай.
Сэрцавы струны зьвінелі-б нязьвеўна,
павеўна гымны жывыя.

І калі прырода наогул заўсёды пяе, то тым больш пяе яна ў сэрцы поэты, калі ён знаходзіцца са сваёй каханкай сярод гэтай прыроды:

Шлі ветры, пелі пра красу,
Хісталі стан, любыя,
І расплягалі мне касу
І шчакаталі шыю...
А ночка пела з бліскам зор
Нам сьмелы гымн каханьня,
Сьмяяўся, плакаў сіні бор
Да самага сьвітаньня.
(Шл. ж. Па захадзе).

Жыцьцё мужыка-беларуса, якім яно было за часы царызму, ёсьць адзін з найважнейшых мотываў лірыкі Янкі Купалы. Я. Купала добра ведаў гэтае жыцьцё, жыцьцё нуднае і цяжкае, калі чалавек праз увесь свой век працаваў, не разгінаючы сьпіны, і потам і крывёю дабываў свой хлеб. Калі-б яшчэ заўсёды дабываў! Ой не, потам і крывёю абліваў ён зямельку, а з працы яго карысталіся чужыя людзі. Шчыра кахае Я. Купала свой працоўны народ, дзе-б ні быў поэта, не забываўся аб ім, з чужой старонкі пасылаў яму здароўканьне братнім словам і песьняй (Шл. ж. Сваяком па гутарцы). Здалёку, у чужой старонцы чуў поэта песьні і сваіх землякоў, іх песьні знаходзілі водклік у яго сэрцы. Адклікаўся ён на гэтыя песьні сваімі песьнямі, і ляцелі гэтыя песьні, дабытыя ад душы, ад сэрца, на родную Беларусь, і, здаецца, поэта сам-бы паляцеў разам з імі (Шл. ж. Я ад вас далёка). Аб жыцьці мужыка-бедака поэта хацеў апавядаць усяму сьвету. У кожным зборніку вершаў Купалы мы знаходзім шмат вершаў аб ранейшым жыцьці мужыка-беларуса. Але аб гэтым жыцьці поэта хацеў ня толькі апавядаць, але граць і пець:

Дайце скрыпку мне маю,
Дайце мне мой смык!
Я зайграю, запяю,
Як жыве мужык.
(Шл. ж. Аб мужыцкай долі).

Ох, цяжкае, праклятае было гэтае жыцьцё! У цяжкіх варунках жыцьця, калі „потам і крывёю сьцелецца сьлед“, ня можа нарадзіцца песьня вясёлая, песьня радасьці. І калі мужык вылівае у песьні сваё сэрца, сваё гора, свой боль, „ён заводзіў песьню змучэньня“ (Шл. ж. Холадна).

Цэлы шэраг абразкоў нядаўна мінулага жыцьця сялян малюе нам Я. Купала.

Вось працуюць касцы. Цурком льлецца пот па іх тварах,—трэба толькі абмахнуць твар рукавом і бязупынна працаваць далей. Грудзі ўпалі ад цяжкай працы, плакаць хочацца. Што-ж, завядзі песьню сьлёз, родную песьню сваёй долі, але працуй, працуй бязупынна.

Песьню пей і касі, пакуль ясныя дні.
Пакуль хмараў на небе няма...

(Шл. ж. Касцом).

Так яно і было рачавіста ў жыцьці селяніна-беларуса. Зранку пачынаў ён касіць, з песьняй пачынаў ён сваю працу, але з песьняй гаротнаю. Працаваў ён, і было—

Яго сілу ў касьбе
Відаць моцную,
Дый у песьні сьлязу
Чуць гаротную.

(Шл. ж. На сенажаці).

А вось і жнеі. У крук пагнуты іх худыя сьпіны, махаюць бязупынку яны крывымі сярпамі—жонкі, удовы і дзяўчаты, дружна жнуць, адна другую падбодрываюць і „жаласна“ пяюць песьню (Жалейка. Песьня жней). І многа ў тэй песьні нуды, бо—

Хто зьлічыў тыя каплі,
Што нам неба прыносе?
Хто прыслухаўся, людзі,
Аб чым жнейка галосе?

(Шл. ж. Жнеям).

Так жнейка песьню не пяяла, але галасіла.

Але ці-ж назаўсёды так, ці заўсёды песьні мужыцкія будуць зьвінець сумам? Яшчэ задаўга да рэволюцыі поэта марыў аб іншай песьні, аб песьні яснай, як неба; ён хацеў стварыць такую песьню, хацеў з такой песьняй быць мілым гасьцём у кожнай мужыцкай хатцы, ён жыў толькі гэтым пачуцьцём, бо такая песьня ёсьць яго адзіны скарб (Шл. ж. З кутка жаданьняў). І да дзяўчынкі ён зварочваўся з просьбай, каб яна, быццам маці над калыскай, пела яму, але пела пацехай, пела разгульна, ня скупіла-бы душы (Шл. ж. Перад ночкай). Так, ужо тады Я. Купала пісаў, што трэба запець іншыя песьні, трэба сьмела грымнуць на ўвесь сьвет, каб увесь сьвет ведаў, як цяжка жыць мужыку. Поэта зварочваўся да сваіх братоў-мужыкоў:

Гэй-жа, брацьці, ўсе мы разам
Песьню запяём,
Дружна, сьмела, на сьвет цэлы
Аб жыцьці сваём!

(Спадчына. Усе разам).

Так, трэба расьпяяцца песьняй,—вольнай, свабоднай песьняй, трэба зайграць у мільён струн, каб гэтая музыка-песьня чутна была ўсяму сьвету, каб нават глухі чуў яе, каб маці-Беларусі ня было ўжо маркотна спаць, як раней. Трэба пець, бо, як ужо вышэй бачым, музыка-песьня мае вялікі ўплыў на чалавека. Ці свабода прынясла з сабой свабодную, вольную песьню, ці гэтая песьня прынясла свабоду? Магчыма (у Я. Купалы) паставіць і такое пытаньне. А адказ на яго? І так, і так:

На дудзе, на самагудзе
(А дуда—як веча звон)
Духам кліч пускае ў людзі (дудар)—
Песьня ў песьню, тон у тон.
Як жывая рвецца песьня,
Лесам-пушчаю шуміць,
З забыцьця зьмятае плесьню,
Мох з мінуўшчыны ляціць.
(Шл. ж. Дудар).

Так, новыя часы прышлі; ужо беларускі народ вольны, свабодны, ужо ён гаспадар свайго жыцьця, ужо скончыліся ўсялякія ўціскі, „ня сьвісьціць ужо нагайка, ня гудзіць бізун“. І трэба граць, трэба граць так, як можа і павінен граць вольны, свабодны чалавек, граць ад усяго сэрца, ад усяе душы:

Звучна, гучна грай нам, грайка,
Ад усіх рэж струн!
(Безназоўнае, 7).

Мы—дажыўшыя да гэтых сьветлых часоў рэволюцыі; мы—новае пакаленьне; мы атрымалі ад сваіх бацькоў адны думкі, настроі і... песьні, а сваім патомкам мы пакінем зусім іншую спадчыну—новыя думкі, новыя настроі і... новую песьню; продкі нашыя—

Яшчэ пакінулі нам асьляпленьне,
Пашану да пакут,
А мы пакінем песьню вызваленьня
І вольны бацькаў кут.
(Безназоўнае, 10).

Ёсьць у Я. Купалы прыгожы твор, надрукованы ў двох зборніках „Шляхам жыцьця“ і „Безназоўнае“. У гэтым творы Я. Купала вельмі цікава малюе нам беларуса-рэволюцыянэра. Гэта твор—„На папасе“. На месцы, дзе быў калісьці густы лес, прыстойваюць тры падарожныя, мужыкі-беларусы. Да іх падыходзіць нейкі незнаёмы, якога яны спачатку прыймаюць за бадзягу-злодзея, але ён ім аб'ясьняе, што ён такі самы мужык, як і яны, і што ён ведае шмат казак і песень. Падарожныя просяць яго, каб ён сьпеў ім што-колечы, і незнаёмы пяе ім песьню аб Лявоне. Лявон—гэта ўвасабленьне мужыка-беларуса наогул, сымболь усяго беларускага працоўнага народу. Кепска жыў Лявон, жыў у прыгоне,

у холадзе й голадзе, дый нарэшце зразумеў, што ён „жыў пабыдлячаму“ і „што падобен быў дрэву хадзячаму“. І вось прышла рэволюцыя:

Зварухнуўся Лявон,
Як вада, як агонь,
Пазнаў сілу ў сабе нябывалую;
Ўжо бяда—не бяда,
Ўжо нуда—ня нуда,
Запеў песьні свае разудалыя.
Зямля стогне, дрыжыць,
Як пяе, як крычыць,
Як прасьвету сабе дамагаецца;
Аж ад песень такіх
Страх напаў на другіх,
І вось чорная моц падымаецца.

Цяпер Беларусь вольная, яна сама сабе гаспадыня. У гэтым новым жыцьці, жыцьці вольным, свабодным, музыка, зразумела, павінна заняць пачэснае месца. Вось які малюнак рысуе поэта: Беларусь—сама сабе гаспадыня, важна сядзіць, у прыгожай вопратцы,—

А з тутэйшых музык
Гучная капэля,
Хто ў дуду, хто пад смык,
Граюць ёй вясельле.
Так бубняць і гудзяць
На гэтай бяседзе,
А суседзі глядзяць,
Дзівяцца суседзі.

(Безназоўнае, 6).

Так усе мотывы, якія распрацоўваў і распрацоўвае ў сваёй лірыцы Я. Купала, зьвязаны ў яго з музыкаю, з песьняю. Мотывы прыроды, мотывы каханьня, мотывы мінулага быту-жыцьця селяніна, мотывы рэволюцыйныя, мотывы нацыянальныя,—усё гэта знаходзіць сваё адбіцьцё ў музыцы, на ўсё яна адклікаецца. Можа быць дзеля таго, што паміж музыкаю і лірыкаю шмат супольнага, што і музыка і лірыка—галіны пачуцьця? Можа быць. Але здаецца, што гэтая сувязь паміж лірыкаю і музыкаю ёсьць у значнай ступені асаблівасьць, уласная Я. Купалу (і некаторым іншым беларускім поэтам), бо існуе шмат лірычных поэтаў—і старых і новых,—якія ня ставілі сваю лірыку ў такую цесную сувязь з музыкай.

Бяз музыкі-песьні Я. Купала жыць ня можа. „Песьняй толькі на сьвеце жыву я“ (Спадчына. Песьняй толькі), кажа ён, бо песьня—яго сьвет, яго ўсе скарбы (Спадчына. Вечар). З песьняй поэта ня можа расстацца ніколі:

Ці я сам у полі,
Ці я дзе з людзямі:
Цяжка мне, нялёгка,
Калі я ня з вамі.

Мусіць, я памёр-бы,
Каб мне вас ня стала;
Мусіць, паваліўся-б,
Як бярно-павала.

Дык-жа будзем жыці
Разам днём ці ночай,
Пакуль сэрца б'ецца,
Пакуль плачуць вочы!

Што тычыцца песьні, вось credo Я. Купалы:

Буду пець, громка пець, пакуль возьме магіла.
Буду пець не за славу, праз вас абяцаную.
Буду пець, бо люблю свайго краю паляны.
Буду пець, бо люблю сваю песьню загнаную.
Буду пець, бо мне дар гэты богам пасланы.

# У СЯЛЯНСКІХ ГУШЧАХ

**Цішка Гартны**

*Случчына*

Случчына! Я ізноў у тваіх абдымах, на шырокіх галах тваіх палёў, сярод гушчэчы садоў, сярод роўнасьці, якой не акінуць вокам, нязьмеранай. Ужо з Урэчча, толькі цягнік мінае астаткі лесу, калісьці непраходнага, тысячамі дзесяцін, але пасьля, у ліхапамятную вайну ды окупацыі зьнішчанага драпежнай рукой нямецкіх юнкераў і польскіх паноў,— ужо з Урэчча пачынаецца знатная Слуцкая ровень. Абапал чыгункі, абапал прысад, што стройнаю палоскаю цягнуцца побач чыгункі, дробныя чубочкі лесу, хмызьнячкі, кусьцікі і поле ды лугі, як стол, як штучна выгаблеваная дошка, на дзесяткі вёрст. Вока не знаходзіць супынку, пражэцца ў сівую далячыню, дзе ўпіраецца ў яшчэ сівейшы пазем. Вёскі і хутаркі, шэрыя хаты, гумны, абсаджаныя дрэвамі, як купіны, як параскіданыя клумкі з ношай. Вузкія, выхілястыя рачулкі, сьценкі, канавы— струнамі. Мэрам мухі на шыбах вокан, поўзаюць-езьдзяць сяляне: той вязе масла місачку, той цабэрак, той скрутак зрэб'я, а шашою, яшчэ ня так даўно атуленаю зразу-ж пасьля Слуцку густымі лясамі, а цяпер аголенаю,—гэтаю шашою бесканечным шнурком вязуць дровы,—у Слуцак, у Слуцак, у Слуцак. Акруга, асяродак нябеднае Случчыны.

Палілі, нішчылі, разграблялі яго,—пакуль багата-багата сьлядоў гэтага руйнаваньня галеецца ў горадзе,—усё-ж горад не змаўкае сваім жыцьцём, тлумам штодзенных кірмашоў, дзелавітасьцю напружнай штодзеннай карыснай працы. Стаў савецкім—зашумеў многа гульчэй ды іншым гулам стары Слуцак. Колісь папы абвівалі яго сваім нябесным дурманам, дурылі сялянства сьвятымі мошчамі, бляскам царкоўнасьці, каб праз гэта бессаромна выцягаць з яго кросны, лён, сала, медзякі. Тлусьцелі плоймы манахаў, захапіўшы найбагатшую зямлю, будавалі новыя царквы. А зараз—дымам разьляцеліся набожныя чары, пусьцее манастыр, ня вабіць звон нікога, падцягнулі жываты духоўнікі. Рознаколерныя, чорназялёна-бурашна-бела-пярэстыя хусткі случанак калышацца на рынку, па простай шырокай Шашэйнай вуліцы. Песьні чырвонаармейцаў, дапрызыўнікаў, што лунаюць над горадам, стройныя шэрагі іх—вось дзе цікава.

І ад раньня да вечара—люднее Слуцак, бурліць суконна-кажушным морам сялянства. З усіх куткоў, з сямі раёнаў плыве яно ў акругу, у акругу, у акругу.

Жыцьцё ня спыняецца, клопат ня меншае: чым шырэй разьвіцьцё краю, рэспублікі, тым яго болей.

Вось шырокая раўніна, што па ўсходу абмінае Слуцак і сягае ў далячыню, вярстоў на сорак к захаду, да граніцы—здаецца, так цікава, так ласкава цешыць вока, дапамінаючы пра неасяжныя стэпы Украіны, а тота-ж найболей выпіхае нездаваленьне. Няма дроў—бо няма лесу. Даўно яго няма, але ня так гэта чулася, як у гэту зіму, гразкую, проста цудную зіму. Былі астаткі, у рэволюцыю само сялянства перастаралася і зьнішчыла. Дрэнна, ды ці вернеш? Зіма цёплая і гразкая. Ня выехаць у дарогу па дровы, з аднаго боку—а падругое, іх менш і трэба.

Але трэба, трэба—хто таго ня ведае, хто таму супярэчыць?

Патрошку разьвінаецца, расьце, паляпшаецца сельскае гаспадарства. Селянін разводзіць гавяду, гадуе каняку. Нарастае больш людзей—павялічваецца нястача ў полі, а асабліва ў сенажацях—клопат. Сена дастаць цяжка, бо няма паплавоў. Далёка, к Палесьсю—там дастанеш, але асака, разачка. Хто-ж ня ведае таго? Трэба пераходзіць на штучныя травы, канюшыну, сэрадэлю, іншыя.

А далей—высяленьне на пасёлкі...

Ды ці пералічыць усе тыя патрэбы, на чым будуецца жыцьцё, з чаго яно складаецца, без чаго яго ня бывае і ня можа быць?

І адусюль і ўсе ў Слуцак—за яго вырашэньнем. У Слуцак, у акругу...

**У сельсавет**

Выбітая, камяністая шаша. Колькі па ёй праехала ўражага войска—нямецкага, польскага! Сельскія драбіны, поўна саломы, пара рыкаўскіх коні—рысьсю ў сельсавет на работу, на выкананьне пастаноў „тварам да вёскі“. Мінаюць астаткі гораду, адкінутыя хаты прыгараду—і неўзабаве мы, я ды прадрыку, перад першаю вёскаю. Золка, гразка. Хмурае неба нагадвае восень. Імгла гусьціць халоднае паветра, сівіць сельскія будынкі. Мэрам-бы ім таксама холадна, бо прытуліліся хата к хаце, гумно к гумну шчыльна-шчыльна і грэюцца. Збоку саўхоз. Калісьці магнат, як п‘яўка, прыссаўся быў к вёсцы, глуміўся над сялянамі ў часы прыгону, а пазьней, калі сялянства з яго вызвалілася, ішла хітрая неміласэрная эксплёатацыя яго праз адработкі, найміцтва, сэрвітутнасьць. Гэта благаслаўлілася ў царкве, клапатліва прыстаўленай да маёнтку—ямчэй кіраваць папом... А зараз саўхоз культывуе на панскім гнязьдзе дзяржаўную гаспадарку. Відаць—расьце, мацнее, пакрысе падымаецца: там новая агарожа, тут падбудованы хлеў, а вунь і зусім новы будынак. Ня так лёгка стаць на ногі пасьля няшчаднага, неміласэрнага разбурэньня! Але ўсе адзнакі таго, што хутка станецца,—на далоні.

Ад саўхозу, ганоў на тры, пасёлак. Толькі-толькі пачынае расьці. Яшчэ хаты без сянец, яшчэ няма хлявоў, але ўжо нівы заворaны, межы праведзены, насыпаны капцы. Пасёлак будуюць быўшыя парабкі. Ім цяжэй асталявацца: яны пачынаюць рабіцца самастойнымі, ня меўшы да рэ-

волюцыі ні кавалачку свае зямлі, аддаваўшы цалкам усю працу пану. Як яны марылі аб незалежным жыцьці, аб самотным гаспадараваньні! Прышла Кастрычнікавая рэволюцыя—прынесла ім гэта. Слава ёй! Ды добра-добра, што зямлю яна дала ім не як маемасьць, а як рамяство, як спосаб пражыцьця, для карыстаньня. Бо ці-ж пасавала-б пролетару рабіцца ўласьнікам? Гэта—перадавы слой сялянства.

Вёрст са тры далей, па тэй-жа дарозе, пачынаюцца хутары. Колькі іх! На вёрст трыццаць вакола. Як копы, як курганкі, гумны-хаты, хаты-гумны. Некалькі буйных вёсак раскідалася, разьбеглася, мэрам-бы пасварыўшыся: Селішчы, Еўлічы, Сярэднікі, Падлесьсе. Едзеш—і здаецца, ня мінеш іх, гэтых нязьлічных хутароў. І калі ўспамінаеш іх гісторыю, іх нараджэньне—цікавітая. Гэтыя хутары—плён праклятае, ліхапамятнае сталыпіншчыны. Выяўляеш перад сабою часы цяжкае рэакцыі 1906 году. Царскі ўрад, перамогшы апошні раз рэволюцыю, спраўляў бяседу. Ішла крывавая расплата за бурлівы 1905 год. Віселіцы, расстрэлы, высылка, карныя атрады і побач—плянаваньне, як і што надалей умацніцца ў абуджанай вёсцы. У царскага „временника“ насьпявае думка: выгадаваць моцнага мужычка, які падтрымае заўсёды існуючы лад. Скуткам гэтае думкі Сталыпіна і зьявілася культываваньне хутарскага способу гаспадаркі. Недалечанае земства ў „Заходнім краі“ пільна занялося гэтаю працаю і шмат беларускіх вёсак кінулася на хутары. Гэткім парадкам зьявіліся і слуцкія. Цяпер ім дванаццаць год жыцьця. Але народжаныя для вызначанай мэты, яны ўсё-ж не зрабілі гэтым сваіх уласьнікаў прыхільнікамі царскіх парадкаў. Політычны настрой сялянства, якое вышла на хутары, ня адрозьніваўся і зараз не адрозьніваецца ад настрою сялян, якія засталіся нерасьселенымі. Рэформы Сталыпіна, гэткім чынам, не апраўдалі яго думак, як не пасобілі царскаму ўраду і страшныя рэпрэсыі. Жыцьцё ўверана нясло яму нямінучую гібель.

Як-жа цяпер экономічна жывуць слуцкія хутаране? Ці задаволены яны сваім становішчам? Вядома, пад агульную мерку ўсіх падвясьці нельга; ёсьць гэткія, якім, бязумоўна, на хутары выгадней, чым было ў вёсцы, але шмат і такіх, каторым хутарская гаспадарка зусім няцікава. Недастача зямлі не дае паправіцца ніякім чынам. Асабліва цяжка з гавядамі, для якіх няма пашы. А ў агуле хутаране часта наракаюць на раскіданасьць, на аддаленасьць між сабою. Ці ў школу дзецям хадзіць, ці на сход сабрацца—трудна. Або мінулыя годы, калі блуталася бандыцтва пры немцах ці палякох, дык зусім было боязна. Кожнаму ліхадзею лёгка напасьці на адну сям'ю і зрабіць з ёю, што хочаш. І гэтыя мотывы застаўляюць многіх хутаран задумоўвацца аб пасёлках. „Усё-ткі гэткая форма пасяленьня куды выгадней хутарское“. Ды што-ж,—думаць можна, а перайсьці—ня так лёгка. І так жывецца і жджэцца.

Аднак знаходзяцца сяляне, што думаюць іншае і часта завідуюць хутаром. Праўда, гэтакіх, чым далей, усё меншае ды меншае. У рыку, на-

прыклад, няма заяў наконт выйсьця на хутары; затое да дваццаці вёсак Слуцкага раёну хадатайнічаюць аб высяленьні на пасёлкі. Цяга да пасёлкаў наўзьдзіў вялікая ў сялянстве. Супыняе адно—гэта беднасьць на лес і яго далёкасьць.

— А думаеш, м. Леніну ня варт разыйсьціся на пасёлкі,—кажа прадрыку т. Кандыбовіч, калі мы мінаем апошнія хутары і выяжджаем на ленінскія палеткі:—глядзі—вёрст чатыры ад мястэчка, колькі ты раз у дзень гною вывезеш? Ня больш двух-трох вазоў. Якая-ж тут продукцыйнасьць?!

Сапраўды: у ленінцаў зямлі шмат і зямля добрая, пры гэтым само мястэчка стаіць у лужы, страшэнна гразкае, які з яго толк? Пэўна была-б куды большая выгада для ленінцаў расьсяліцца. Але і тут тая-ж бяда—лес.

Лес у гэтым пункце—проста гора. Ужо год дзесяць, як зьнішчыліся блізкія к м. Леніну лясы і засаб год сем-восем, а то і больш, ленінцы вымушаны езьдзіць па дровы за 20-25 вёрст. Чым далей, тым лес уцякае, а ім даводзіцца гнацца ўсьлед. Калі добрая зіма, то яшчэ сяк-так адложыць чалавек тydняў два і запасе хоць і здалёку дроў. А ў гэтым годзе праз усю зіму бездарожжа і бяда з дрывамі. Прыходзілася высякаць бярозы, садовыя дрэвы, разьбіраць старыя будынкі. Пэўна—гэта балюча і крыўдна, але што-ж парадзіць? Ня вылезьці з хлева. Адно спасеньне—што ня трэба было шмат паліць... Само сабою зразумела, што аднэй з вострых недастач у сялянскай гаспадарцы гэтае часткі Слуцкага раёну—гэта паліва. І мы, набліжаючыся да мястэчка, абгаворваем плян свае працы і адзнаём, што нам, як прадстаўніком улады, дадуць сяляне пытлю за дровы. Ведаем—чаму-ж бы ня ведаць—і адзнаём добра самі што цяжка-цяжка бяз дроў. Прыходзім да вываду — прыняць экстраныя надзвычайныя рады, але дроў адпусьціць звыш нормы, прасіць акругу, прасіць цэнтр. А пакуль—гатавацца да спатканьня з сялянамі.

**Сходы**

Чутка, што прыехалі цэнтравікі, маланкаю бліснула і мігам абляцела раён сельсавету. Сялянства зашавялілася, загутарыла, паваліла ў сельсавет. Пасыпаліся запытаньні, калі сход. Самае важнае—сход! Ён спадабаўся селяніну, які прашоў суровую школу апошніх бураломных год, выгартаваўся і прывык да палітыкі, да сталага грамадзкага жыцьця. Кожны сход, кожнае пасяджэньне прыцягае багата людзей, старых і маладых. Грамадзкасьць усюды выпірае наповерх, як не паглядзі. І калі праз дзень пасьля прыезду мы распачалі сходы, то ў Леніна паслухаць цэнтравікоў зышлося да тысячы чалавек. Хата-чытальня, калісьці быўшы папоўскі дом, набілася, як яблыку ўпасьці. Прагныя вочы, строгія твары, чаканьні. Праходзіць цэрамонія з выбарамі прэзыдыуму, з абвесткаю парадку сходу і тэм дакладаў і далей—самыя даклады... Чытаюцца, а ў будынку—хоць муха праляціць. Міжнароднае становішча, чаго сход папра-

сіў, зацікаўлівае да чароўнасьці. Сялянства слухае з надзвычайнаю ўвагаю, ловіць кожнае слова. Поўгадзіны, гадзіну... За гэтым дакладам—другі: палітыка партыі і Савецкае ўлады ў вёсцы—ня менш цікавы, ня менш захоплівае аўдыторыю. Але цікаўней—запытаньні, запіскі, выступленьні і адказы. Тым болей, што справа ідзе з цэнтравікамі. За кароткі тэрмін—сотня запісак, многа выступленьняў. На кожную запіску па чарзе, то мой, то прадрыку адказ. Што скажуць прадстаўнікі?

Чатыры асобы, заўсягдатаі мітынгаў, „закройшчыкі", „хітрацы", як іх празывае сялянства: адстаўны афіцэр, чорнасоценны настаўнік, чыноўнік, у якога рэволюцыя сарвала бліщчастыя гузікі і чыноўніцкую фанабэру ды загнала ў вёску—опозыцыя. Рызыка і нахрап, пахвальба, нібы ён упоўнаважаны ад усяго сялянства казаць, і гаворка, перасыпаная нападкамі на політыку Савецкае ўлады ў адносінах да вёскі, на яе „дэфэкты". Слухаем—і чуем, як спрытна зьвязвае хадайнік ад сходу свае ўласныя неабгрунтованыя інтарэсы з інтарэсамі сялянства, не саромячыся выдаваць іх за супольныя. Сяляне слухаюць няпрошанага заступніка і ўжо з першых слоў многія пачынаюць недаверна ківаць галавою і махаць рукамі. Але маўчаць—няхай скончыць. І вось скончыў,—мы адказваем, разьбіваем па пунктах, складна, як на далоні, поўны портрэт „закройшчыка". Сялянства крычыць: „Го, мы ведаем яго! Балхвіць ліха ведае што! Дурыла". Бываюць выпадкі, што больш цямнейшых сялян гэтыя дурылы зьбіваюць з толку. Але хутка апошнія разьбіраюцца ў іх абмане і болей слухаць ня хочуць ніводнага слова. Не да толку! А з намі, ня хвалячыся, ня вытрымаў ні адзін з гэткіх гэрояў. Болей таго, пасьля нашага адказу—губіў увесь свой прэсьціж і нікнуў галавою. Сход яго цураўся, а перадавое сялянства яшчэ болей агідзілася ім.

Дарэчы, аб перадавым сялянстве, як-бы сказаць, аб яго актыве. Бач, ня ў сэнсе настрою, які поўнасьцю савецкі, а ў сэнсе грамадзкай чыннасьці. Гэткі актыў выразна і ў значнай меры праслойваецца ў беларускай вёсцы. Вакол савету, вакол ячэек, у хатах-чытальнях, пры кожным пачынаньні—ён зьяўляецца першым і ахвотна, старэнна бярэцца за працу. На кожным кроку вы сустракаеце ў вёсцы селяніна-актывістага: ён першым цябе знаходзіць, знаёміцца з табою, разгаворваецца ад душы і расказвае ўсе падрабязгі вясковага жыцьця. Ад яго не схаваецца ніхто і нішто.

Канчаецца сход заўсёды беларускаю марсэльезаю,—і актывісты прашыецца з гушчы да прэзыдыуму і ў дадатак распытвае цябе розных рэчаў, як і што. На самым сходзе ты чуеш, як ён стала выступае, патрабуючы ад сялян самадзейнасьці. Ён угаворвае сялян у прыватных гутарках, каб тыя трэзьвей глядзелі на рэчы.

У Леніне абставіны асабістыя. Мястэчка—культурнае, людзі—разумныя. Здаўна ў ім была двухклясавая школа, а пасьля яшчэ і пачальнае вучылішча. Кожны ленінец лічыў абавязкам выўчыць свайго сына ці дачку

на настаўніка, на таго ці іншага чыноўніка. Нясьвіская сэмінарыя, слуцкія сярэднія школы добра ведалі ленінцаў (тады раманаўцаў). Жартуюць: „У Леніне няма нягграматных“, ці: „У Леніне—трыста афіцэраў“. Гэтыя жарты недалёкі ад праўды. Розных чыноўнікаў ды настаўнікаў Леніна дало вельмі многа. Пры гэтым, увесь гэты слой ленінскай інтэлігэнцыі старэнна прапускаўся праз сурогую ісьцінна-расійскую школу. Начальнае вучылішча знаходзілася пад апекаю ленінскіх папоў (іх заўсёды было ў Леніне двое) і чорнасотніка Вярбілы—кулака-селяніна, які быў сябрам Дзяржаўнае думы. Дзіця пападала ў абоймы папа, пасьля—чорнасотніцкіх настаўнікаў сэмінарыі, і выходзіў загартаваны прававерны ісьцінна-рускі настаўнік, таварыш урадніка, любімец папа і пан у вачох „простых людзей“. Гэтая асабістасьць Леніна стварала цікавую карціну ў агульным разьвіцьці Случчыны. У той час, калі вакола яго ў мястэчках шпарка ды шырока рос соцыялістычны рух, працавалі моцныя соцыял-дэмакрацкія організацыі, а ў Капылі (14 вёрст ад Леніна) на працягу трох-чатырох год існаваў раённы комітэт Паўночна-Заходняй організацыі РСДРП, у Леніне (тагдашнім Раманаве) ня было ніводнага соцыялістага.

Раманава туга паддавалася на соцыялістычныя рэформы—у моц свайго крэпкага экономічна-гаспадарчага стану і ісьцінна-расійскага ўплыву. Консэрватыўнасьць ленінскай інтэлігэнцыі—вядомая рэч. Яшчэ ў 1921 г., калі пачалася беларусізацыя ў школах, у Леніне яна спаткала збоку настаўнікаў вострую опозыцыю. Сялянства акругі і самога Леніна—ні слова насупроціў, а настаўніцтва здагадалася злажыць організацыю супярэчнасьці ўводу „хамскае мовы“. Не пасавала выхаванцам папоў і ісьцінна-рускіх сэмінарый вучыць на некультурнай мове. Трэба было прарабіць доўгую культурна-політычную працу, каб зьняць з вачэй адурманенай ленінскай інтэлігэнцыі заплясьнелую лупіну царкоўна-мяшчанска-чорнасотніцкага забабонства.

Але сьляды яго яшчэ жывуць у рэдкіх ядынак ленінскай інтэлігэнцыі, праўда,—у самых адсталых, пакрыўджаных за „зьніжэньне з п‘едэсталу“. І на агульным сходзе у напісаных дома доўгіх лістох настрой гэтых ядынак выскаўзнуў. Го, яны ня любяць комуністых! За тое, што яны цацкаюцца з беднякамі, за тое, што палеты і цэшкі прышлося выкінуць на сьметнік, за тое, што месца ў сялянскім грамадзкім жыцьці занялі новыя людзі, мала-граматныя, якім ня суджана было прайсьці ні начальнае школы, ні, тым болей, сэмінарыі. Вось, хоць-бы тав. Кашанскі! Куды яму да якога старога афіцэра ці настаўніка!

На сходзе апошнія захацелі парызыкаваць, і адзін выступіў, а двое падалі запіскі. Думалі—вось дамо дыхту цэнтравіком, што сяляне вон іх выганяць. Думалі, але вышла іначай. Храбрацы селі ў лужу, добра селі і прызналіся: „Да іх не падкапаешся ні з якага боку“. Падкапацца пад іх—гэта знача падкапацца пад Савецкую ўладу. Не разьлічылі! З часу Кастрычнікаўскае рэволюцыі гэтыя тыпы не разьлічылі. Сялянства абмі-

нула іх хітрасьць, іх самых і шчыльна падышло да Савецкае ўлады. Яно чуе, што гэта ўлада яго, а аб іншай чуць ня хоча. Помняць ленінцы панскую ўладу, помняць кары, якія яна накладала на іх, і шлюць праклёны і не дапусьцяць яе ўзвароту. Мала што калі на сходзе, рэдкім, надзвычайным сходзе, куды прыехалі з цэнтру, які-кольвечы селянін выкажа рэзка сваю думку. Чаму-ж не пагутарыць з начальствам? Яно ня тоіцца, не хавае таго, што ў мінулыя гады давялося працярпець. На тое-ж рэволюцыя, буралом. Лес сякуць—трэскі ляцяць. Гістарычная ломка, нячуваная завіруха. Была пара, што за дваццаць фунтаў мукі рабочы жыў з сям'ёю месяц і ў той час абараняў рэспубліку ад насядаючых ворагаў. Была пара продразьвёрсткі. Будуецца дзяржава, будуецца новы лад усяго якіх пяць-шэсьць год. Селянін ведае, што за гэткі тэрмін не наладзіць свае ўласнае гаспадаркі. Селянін ведае, што рабочы разам з ім *вучыцца* будаваць. І гэта кажа на сходзе. Трыста год, на працягу якіх будавалася самадзяржаўе—ня пяць-шэсьць год... Ды што казаць! Каму гэта невядома! Гэта—ісьціна. І ўвесь сход, даючы пытлю прадстаўніку, маўчыць вінавата, калі прадстаўнік дае пытаньне: „А што вы прапануеце зрабіць, каб зразу-ж палепшыць багацьце рэспублікі?“ Ласьне гэта можна зрабіць тымі радамі, якія прапануе адстаўны афіцэр, быўшы монархісты, каб падзяліць пэнсію прадрыку? Сьмехатня і нясталасьць. І ніхто ў сур'ёз не бярэ, і ніхто не зважае. Вось гутарыш з селянінам, з другім, з пятым, з дзесятым і чуеш ад яго: „Мілыя таварышы, я ведаю сам, мы ўсе ведаем, што ўсім усіх не здаволіш, не ўкантактуеш. Звычайная рэч у сьвеце. Заўсёды знойдуцца людзі недавольныя. Але адно важна, як глядзіць грамада цалкам? Трэба сазнацца, што ў гушчы сваёй наша сялянства—шчыра савецкае, ніякае ўлады іншае яму ня трэба, ні аб чым іншым, апроч саветаў, яно ня думае“.

Сапраўды, зараз, як ніколі, вёска шчыльна падблізілася да Савецкае ўлады. Можа гэта ў рэдкім пункце, у рэдкі момант і ня так відаць, затое ў агуле—гэта, як на далоні. Вось цэлы шэраг мітынгаў: Чалевічы, Урэчча, Заградзьдзе, Вісея, Кублішчы, Падлесьсе, Старэва, Сарогі, Рыбакі, Амговічы і інш.,—так і лунае здаровы, вытрыманы, выразны савецкі настрой, савецкі падыход. Вёска Случчыны перажыла многа, каб думаць адмоўна пра Савецкі лад. Пачула смаку ад паноў, паспытала Балаховіча. Чуе і ведае, што робіцца ў яе пад бокам, за мяжою Беларусі. Не здарма-ж на сходах зьвяртаюцца да прадстаўнікоў з рашучымі запытаньнямі: „Дакуль мы пазваляцьмем, каб нашы браты-беларусы мучыліся пад панскім абсацам?“ І рады сход, і з воплескам сустракае, калі адкажаш: „Бязумоўна, наша граніца патрабуе, каб яе выраўналі крыху“.

Хоць цяпер, хоць зараз вёска гатова йсьці раўнаваць несправядлівую балючую беларускую граніцу.

### Зьверху і ў глыбі

Едам з сельсавету ў бліжэйшую вёску, варочаемся назад. Каняка ня ў мочы пацягнуць драбіны з трыма чалавекамі. Вязнуць калёсы па калодкі—прыходзіцца падыходзіць пехам. Едам паміж хутароў, бачым: новыя хаты, без хлявоў. Пытаем у прадсядацеля, з якім едам:

— Дзядзька Мікалаевіч, чаму гэта новыя будынкі? Ці толькі што вышлі людзі на хутары?

— Не,—адказвае:—гэта скутак польскае ўлады—адыходзіла і паліла сялян. Пасьля пачалі адбудоўвацца нанова.

Паны няшчадна разбуралі Беларусь; добра даліся ў знак насяленьню

— Нашы людзі і слухаць ня хочуць аб паляках,—кажа прадсядацель.

— А вось усё-ткі нечым нездаволены?

— Мала што крычаць, ці-ж гэта, думаеце, характарызуе іх настрой? Ні званьня. Сапраўды нашы людзі любяць Савецкую ўладу. Раней пры райкомах яшчэ, калі пападалі розныя прайдохі, насалілі нашым людзям. А як зжылося тое, зусім іначай стала. У гэтую зіму падкачалі дровы. Ня было як прывезьці палена. Таксама дрэнна, што безрабоцьце адчуваецца ў сяле, няма дзе прырабіць.

Я падказваю на аднаго з крыкуноў, што на сходзе рэзка казаў свае словы, і пытаю:

— Няўжо яму сапраўды цяжка жывецца?

Прадсядацель ухмыльнуўся.

— Гэта самы багаты ў вёсцы чалавек: мае крупадзёрку, сячкарню, трыер. Добра жыве.

— А чаго-ж яму не ўгадзіла Савецкая ўлада?

— Дурыла, пагутарыць любіць.

Прадрыку, прызнацца, вельмі добрага працаўніка, папулярнага ў вёсках раёну, з умелым падыходам да сялянства, разумнага, падгатаванага таварыша,—зьдзівіла гэта.

— Паглядзі ты,—кажа ён:—вось яно як, пане мой, багацейшы за ўсіх, а трэба ліха ведае што балхвіць! Цікава.

— Што за цікавасьць,—адказвае Мікалаевіч,—яно заўсёды так: бядняк сядзіць ціха, а кулак—гарлапаніць.

— Вото-ж яно.

Можа ня ўсюды і не заўсёды так, але часта гэта ёсьць...

Другі чалавек, што вёз мяне ў іншую дарогу, казаў тое, што й прадсядацель сельсавету. Казаў і яшчэ, і яшчэ адзін падобнае. У дарозе, адзін к аднаму—то не на сходзе:—няма чаго сароміцца.

Вось праз колькі дзён пасьля таго, як мы правялі некалькі мітынгаў у раёне сельсавету, як я, наведаўшы Капыль у час мітынгу, дзе выступаў прадсаўнаркому т. Адамовіч, быў у дарозе, вёзшы мяне селянін забавіў нямала вясковым бытам. Праз усе пятнаццаць вёрст ён апавядаў мне пра сялянскае жыцьцё, выкладаючы хмару рознастайных бытавых рысаў.

— Падумайце, дзядзька, як яно йдзецца; зьверху—то, здэцца, сапраўды за горла хапіла жыцьцё, а праведаўшы—зусім ня тое. Вядома, ня ўсе роўна жывуць: ёсьць шмат бедных, але многія задарма наракаюць на саветы. Ці-ж задаволіш кожнага? Хоць-бы ўзяць у нас Яся або Карнея, ласьне ім дрэнна жывецца, думаеце? А патом скавычуць на Савецкі лад. Ясь, напрыклад, мае добрую кабылу, жаробку да таго, ляжыць сам цэлы дзень на печы, а надакучыць ляжаць, выйдзе на двор, стане на ганку і цешыцца, як кабыла па двары падбрыквае. Што яму абходзіць? Або Карней? Адзенецца ў дрэнную адзежу—лепшую схавае—і тыча пальцам, кажучы: „Паглядзеце да чаго мяне бальшавікі давялі. Ці я думаў, што прыжду гэтага?“ Збоку—то, здаецца, трэба паспагадаць. А як мы ўжо ведаем яго, то гэта—проста, патворства. Чалавек мае што есьці, пэўна мае троха і чырвонцаў, ну, а любіць нудзіць, скардзіцца. Нораў ужо гэтакі... Не, няма чаго казаць, нашым людзям ня зусім кепска. Кожны аддаў продналог, кожны мае кусок сала, блінец, ды яшчэ пшанічны... Не кажу, каб таго ня было,—працуюць і ёсьць, але хто-ж не працуе? Бачыце, многія скардзяцца на тое, што няма чаго рабіць. А думаеце гэта праўда? Абы хацеў чалавек, то работы дастане. Вазьмеце мяне: я не паскарджуся, бо я хачу і люблю рабіць усё, што ні папала. Плот гарадзіць, дровы сячы, малаціць, у падводу—мне ўсё роўна. Сілу маю, ахвота ёсьць і ёсьць праца. Пэўна, тыя, хто разьбірае, каб рабіць ды лёгка або зарабляць многа,—тым, вядома, трудней прыстасавацца, не кажу... Але, у агуле яно іначай, як выглядае.

Можа цалкам і нельга згадзіцца з ім.

Але мне самому вядома сёе-тое: вядома, што бядняцкаму сялянству цяжка, што серадплкі крапчэйшыя і што часта-густа тыя й другія любяць прыхварбаваць палажэньне...

Чым далей я працую, тым бліжэй знаёмлюся з вясковым жыцьцём, тым больш даных за мой пагляд на сучаснае жыцьцё сялянства. Яно, гэта жыцьцё, бязумоўна патрабуе свайго паляпшэньня. Вёска—някультурная, цёмная, чорная. У вёсцы пануюць розныя хваробы, у вёсцы—агромныя патрэбы. Загэтым-жа і пасланы мы партыяй ды Савецкаю ўладаю на вёску, каб падрабязгова яе вывучыць, каб ведаць, як і што, падыйсьці да стыстэматычных сталых папаўненьняў тых дэфэктаў, якія сьвіцяцца навакола. Дэфэктаў у сялянскім жыцьці—нявычарпаны скарб, і больш усяго гэтыя дэфэкты—у яго экономічным стане. Але трэба мець на ўвазе, што гэты стан вёскі складаўся вякамі цяжкага паднявольнага бытаваньня. Ды ў дадатак, царская вайна і напады белагвардзейцаў—урэшту зьнішчылі рэспубліку, калі-ж быў час выжыць гэта насьледзьдзе? І кажучы, што вёска ня дрэнна жыве, гэтым мы кажам, што яна жыве ня так, як трэба, як мусіць жыць, але й ня горай, як жыла раней. У агуле, ня горай... Аб гэтым кажуць самі сяляне.

На сходзе, ужо ў зусім процілеглым канцы раёну, мы пачулі ад іх многа скаргаў. Былі рэзкія выкрыкі—знаёмая рэч. Адзін дзядзька пасьля дакладу дакрычаўся да таго, што паставіў пытаньне гэткім чынам: „Савецкая ўлада мусіць паставіць нам новыя хаты“. Другі дашоў да скутку, што Савецкая ўлада мусіць даць селяніну новае калясо, калі ў дарозе зломіцца старое, і г. д. і г. д. Вёска Заградзе, дзе гэта было, сапраўды, вёска багатая. Нездаваленьня—ніякага. „Адкуль і навошта нам скардзіцца на Савецкую ўладу, калі яна нас выбавіла з цяжкага стану“, казаў мне адзін з разумнейшых сялян вёскі, дзядзька Выскварка, з якім мы гутарылі да трэцяй гадзіны ночы: „да рэволюцыі мы былі ўсілены ў ярмо кругавое парукі па выплаце мірскіх. Мне выпадала плаціць штогодна 60 руб., а зараз я плачу 25 руб. Пры гэтым рэволюцыя выбавіла нас ад дваццацігадовага выплатку. За сваю зямлю мы гэтулькі папацярпелі пры цары, што выказаць трудна! У 1908 г. нас расстралялі: забілі пяцёх, звыш дзесяці ранілі, многіх судзіла Віленская палата, асудзіўшы на 6 год крэпасьці... Што й казаць! Цяпер нам рай адчыніўся... А гаварыць—язык не баліць. Чакалі вас, чаму-бы не пагутарыць? Пры гэтым, не без таго, што ёсьць ліхамысьнікі, якія пускаюць розныя плёткі на Савецкую ўладу, падбіваюць некаторых сялян супроціў рабочых, проціў Савецкае ўлады. Толькі гэта рэдкае зьявішча і зусім няглыбокае“.

У Заградзі лягчэй з лесам і настрой спакойны, дзелавіты, устаноўлены. Тое самае і ў сумежным райсавеце, Сарогскім. Лясы, якіх тут пакуль хапае, даюць сякі-такі заработак сялянству ці лясными работамі, ці гандлем дрыўмі і інш. Калі-б у гэтай мясцовасьці які-кольвечы заводзік адчыніць чалавек на 200—дык зусім было-б добра.

„Ідзе прыбытак людзей. Зямля падзяляецца“, казаў селянін Гурыновіч, вязучы нас з сельсавету ў вёску на сход: „а новае не расьце,—і, бязумоўна, збытак рабочае сілы. У хаце сядзіць чацьвера-пяцера маладых здаровых чалавек—ім толькі падавай працу. Сем-дзесяць дзесяцін—што для іх значыць? І, зразумела, хочацца зямлі, дзе-б прылажыць свае рукі. Да гэтага—каб не зракці—у нашага сялянства знашлося зараз шмат ахвоты, многа цягі да зямлі. Ведаеце, наша здольнасьць, наш талент—пакуль куды, дык да зямлі хутчэй. І што-ж, ласьне ўкантактуеш усю прагу на зямлю? Каб яшчэ другую зямную кулю даў, дык разьбярэцца—і мала будзе. Кажу вам. Вазьмеце нашу сям‘ю—шэсьцера ў хаце, няўрокам, здаровыя, старанныя да работы,—ці-ж хопіць для нас нашых трох дзесяцін? Але дзе ўзяць, калі няма?“

Сялянства добра адзнае ўвесь сэнс палажэньня. Ой, добра адзнае і ахвотна, шчыра з ім мірыцца. У глыбі—а знадворку, часамі, любіць упікнуць.

### Інтэлігэнцыя і школы

Якая вялікая перамена ў культурным стане вёскі! Прыяжджаеш і зразу чуеш, якім повеем нясе культурнае жыцьцё. На хатах—абвесткі на

спэктакль. Амаль ня што-тыдзень—спэктаклі. Драмгурткі працуюць ва ўсю. Тэатры—бытавое зьявішча. Часамі цікавы рэпэртуар—больш дробныя п'ескі, дэклямацыя. А то і—трукі! Гэтак, трапляе сілач і паказвае сваю моц. А то—водзяць мядзьведзя, з якім інсцэніруюць дужанку. Сяляне любяць хадзіць на спэктаклі, на аб'езны кіно. Ідуць у хату-чытальню, дзе ўважліва слухаюць чытаньне газэт. Асабліва цікаўным для сялян зьяўляецца беларуская кніжка, беларуская газэта, беларускі тэатр. Рэпэртуар вясковых спэктакляў найбольш беларускі. Кожная п'еса беларуская—зразумела селяніну, выяўна, прыемна. Акторы—з запоем іграюць... Усюды чуеш, як старыя слова ў слова пераказваюць сказы з беларускіх хрэстоматый. Жарт „Што кажух—то ня вата“ Каганца перадаецца ў кожным сяле і выклікае рогат. Вершы, якія дэклямуе кожны хлопчык, ці ходзіць у школку ці не,—навучаюцца вельмі хутка: пераказваюцца бацькамі і мацяркамі даслоўна. У кожнай хаце, дзе ёсьць вучань, трое ці чацьвёра малюпаткіх дзяцей натхненна, заўзята дэклямуюць „Ярка на камінку смольны корч палае“. „Трэба адзначыць“, кажуць сяляне і настаўнікі: „што беларуская кніжка захоплівае дзіця. Яму зразумелы сэнс кожнага слова і посьпех у грамаце, куды большы, ніж то было пры вучэньні расійскае мовы“. Гутарка пабеларуску збоку прадстаўніка ўлады захапляе сход, зблізае гушчу сялянскую з прамоўцам і дасягае вельмі добрых скуткаў. Дзе мы ні выступалі з беларускаю прамоваю, там атрымоўвалі найвялікшы посьпех. Сяляне слухалі—муха праляціць, дзякавалі, што зразумела ім сказалі, што вельмі цікава слухаць прамову на сваёй мове. Беларуская марсэльеза сапраўды захапіла вёску. Ці сход, ці спэктакль, ці проста пасяджэньне,—яна разносіцца па вёсцы, лунае ў тэатры, у школе, на зборнях. Старыя, маладыя, дзеці,—усе ведаюць, усе заводзяць „Ад веку мы спалі“.

Культурны рух, захапіўшы вёску, праводзіць інтэлігэнцыя вясковая, настаўніцтва, студэнцтва, комсамольцы. Асабліва старанна і многа працуе настаўніцтва. Ліквідацыя няпісьменнасьці, беларускія гурткі, вусныя газэты, лекцыі ў хаце-чытальні, рэволюцыйныя сьвяты, кампаніі,—усё ўзложана на настаўніцтва, якое ў агромнай сваёй большасьці аддана да Савецкае ўлады ўсёю істотаю. Апошнія два годы зрабілі ў ім канчатковы перагіб. Політычныя курсы, зьезды, уважлівыя адносіны з боку партыі перарадзілі настаўніка-вяскоўца, зрабіўшы з яго шчырога праваднік савецкае культуры ў людзкія гушчы...

Паглядзіш на школьную працу—і цешышся, што яна ўвашла ў сваё ўлоньне, вядзецца нормальнаю хадою; недастачы ў падручніках і школьных прыладах патрошку мінаюцца, матэрыяльны стан школы расьце, посьпех навучаньня паднімаецца. У кожнай школцы ведаюць пра Беларускую рэспубліку, як радзіму, ведаюць Леніна, ведаюць Чарвякова. Амаль ня ў кожнай школе—піонэры. Чырвоныя шалікі на шыях,—гэтыя ўжо з багатым, па іх росьце, політычным багажом. Наогул, піонэрства

прашло ў вёску і захапіла сялянскае дзіця. Але больш пашыраецца комсамолія. Цяга ў комсамольцы надзвычайная. Моладзь стыхійна ўваходзіць у Комсамол, рвецца да працы, да ведаў, да творчасьці. Амаль ня ў кожнай вёсцы—організацыя Комсамолу.

Вочавідкі адмячаеш, як высока паднялася вёска ў культурна-палітычных адносінах. Адчуваеш нявыказна вялікую цягу да культуры. Як быццам-бы сялянства пастанавіла сабе заданьнем, узяло на вурок нагнаць сваю адсталасьць у найбліжэйшы тэрмін. Якая моц, якая сіла Кастрычнікавае рэволюцыі!

### У горад

Два месяцы на сходзе. Апофэоз працы—зьезды і конфэрэнцыі: партыйныя, настаўніцкія, савецкія. Падрахунак таго, што дала паездка ў вёску, што далей намячае рабіць Савецкі ўрад у ажыцьцяўленьне лёзунгу „тварам да вёскі“ і інш., важнейшыя й драбнейшыя пытаньні, раённыя і агульна-рэспубліканскія. Удзельнікі зьезду ўжо могуць падагуліць першыя скуткі вясковай палітыкі Комуністычнае партыі і Савецкае ўлады. Пастановы аб падзешаўленьні лесу, аб зьніжэньні продналогу, аб закладзе мэліорацыйных таварыстваў, аб урэгуляваньні землябудаўніцтва пераканалі сялянства, што прадстаўнікі ўраду нездарма наведалі вёску. Заўсёднае дбаньне аб ёй—адно з галоўнейшых заданьняў партыі і ўлады. І тыя гутаркі аб кожным пытаньні, і тое хаценьне пабыць на зьезьдзе, актыўнасьць у выбарах ці-то ў прэзыдыум, ці на акруговы зьезд,—усё гэта жывое пасьведчаньне з боку сялянства сваіх шчырых адносін ды свае адданасьці Савецкаму ладу. Старожка, чула азіраецца яно на захад, дзе стаіць енк прыгнечаных братоў, дзе буржуазія не пакідае бразгаць мячамі, і аднагалосным прыняцьцем пастаноў і рэзолюцый выказвае сваю гатоўнасьць бараніць работніцка-сялянскі ўрад. „Мы дружна паўстанем з сярпамі, касамі, прагонім з зямлі палачоў!“—ня пустыя словы, ахвярная кляцьба выпаўніць у любы момант гэтыя словы.

Выпаўніць! Сялянства Беларусі выразна адзначыла гэта прадстаўніком партыі, пабываўшым у яго гушчы, і так радасна было пакідаць вёску тую, у якую верыў, якая так цесна, так шчыра аддана Савецкай уладзе і абароне Кастрычнікавай рэволюцыі!

# ДА ГІСТОРЫІ КОНФІСКАЦЫІ „НАШАЙ НІВЫ“

**Ал. Шлюбскі**

*(Па неагалошаных даных)* [1])

Калі ў канцы 1906 г. беларускім дзеячом стала відавочна, што першая легальная беларуская газэта „Наша Доля“ будзе зачынена, то яны перад самым яе зачыненьнем пачалі выдаваць другую беларускую газэту п. з. „Наша Ніва“ [2]). Кірунак новай газэты значна адрозьніваўся ад кірунку „Нашай Долі“; апошняя адзначалася рэзкім рэволюцыйным характарам, накіраваным проці тагочаснай царскай улады, што было прычынай яе хуткага зачыненьня пры разьвіцьці ў 1907 г. дарэволюцыйнай рэакцыі. Між тым, як „Наша Ніва“, заняўшы месца „Нашай Долі“, абабрала іншы шлях; яна ўзяла на сябе ўвесь цяжар нацыянальна-культурнага абуджэньня беларусаў і, галоўным чынам, беларускіх сялян, шляхам упартай, паступовай нацыянальна-культурнай працы.

---

[1]) Дакуманты, паводле якіх напісаны артыкул, захоўваюцца ў рукапісным аддзеле Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі ў Менску, № 162.537 і 162.539.

[2]) Да апошняга часу ў шырокіх колах грамадзянства лічыцца, што першай беларускай газэтай была „Наша Доля“, а другой—„Наша Ніва“.

Сапраўды-ж гэта крыху ня так, бо „Наша Ніва“ ёсьць шостай па ліку і другой „штодзеннай беларускай газэтай“.

*Першай* газэтай на беларускай мове была паўстанчаская, рэволюцыйная „*Мужыцкая Праўда*“ К. Каліноўскага, якая друкавалася ў Беластоку ў часы польскага паўстаньня (1861-63 г.). Усяго вышла 9 нумароў ( N. К. Каліноўскі, „Савец. Беларусь“, 1923, № 86, 192).

*Другое* месца займае „*Гоман*“, які нелегальна друкаваўся на гэктографе ў Менску ў 1884 г. і які адзначаўся „ясно выраженной тенденцией автономии Белоруссии“ (*Ф. Турук*. Белорусское движение. Москва 1921 г. с. 10).

*На трэцім* месцы стаіць „*Свабода*“, орган Беларускай Соцыялістычнай Грамады, якой у 1902 г. вышаў толькі адзін гэктографаваны № (*Стары Пілін*. Кароткі агляд беларускага нац.-рэволюц. руху. „Вестник Н. К. Пр.“ 1921, № 1. стр. 6).

*На чацьвертым* месцы стаіць „*Беларусь*“, вышаўшая ў Менску ў 1905 г. на беларускай і маскоўскай мовах (*М. Гарэцкі*. Гісторыя бел. літаратуры. Вільня, 1921 г. стр. 206).

*На пятым* месцы—„Наша Доля“ (1906-1907 г. ў Вільні), з 7 нумароў якой 5 былі сконфіскаваны царскай цэнзурай (*Дзядзька Пранук*. Аб „Нашай Долі“—„Беларусь“, 1919, №№ 47-48. *Ал. Шлюбскі*. Конфіскацыя першай бел. часопісі „Наша Доля“—„Сав. Беларусь“, 1923, № 159).

І, нарэшце, толькі на *шостым* месцы стаіць „*Наша Ніва*“.

Роля „Нашай Нівы“ ў беларускім адраджэньні адзначалася і ў друку [1]).

Але, ня гледзячы на ціхамірлівы тон гэтай новай газэты, дарэволюцыйная цэнзура не магла прайсьці міма газэты, каб час-ад-часу не канфіскаваць якога-небудзь яе нумару.

Па маючыхся ў нашых руках аўтэнткавых дакумантах, конфіскацыя „Нашай Нівы“ мела месца ў 1907 і 1915 гадох.

У 1907 годзе былі конфіскаваны Віленскім Цэнзурным Кіраўніцтвам 8, 9 і 12 нумары „Нашае Нівы“. Захавалася некалькі цікавых дакумантаў, якія непасрэдна датыкаюцца конфіскацыі і якія з гэтае прычыны прыводжу поўнасьцю.

Адносна №№ 8 і 9 за 1907 г. цэнзура пісала:

„14 марта 1907 г. № 148.

„Его Превосходительству Господину прокурору Виленской Судебной Палаты.

„В №№ 8 и 9 выходящей в г. Вильне на белорусском языке еженедельной газеты „Наша Нива“, мною усматривается нарушение законов о печати. Так между прочим в № 8 фельетонная статья, подписанная „Марцин“ под заглавием „Дума и Народ“ и конец статьи (на стр. 8) под заглавием „Зямельная справа у Новай Зэляндии“, а также передовая статья в № 9 и статья под заглавием „Работы Думы“ в том же номере—по содержанию и характеру изложения совсем напоминают подпольныя прокламации, и кроме этих статей, стихотворение вроде помещенного на стр. 3 № 8 под заглавием „Расейские образы“ и краткия известия и заметки в роде тех, которыя помещаются в № 8 на стр. 3 под общим заглавием: „З усих старон“ и в № 9 на стр. 6 и 7, заключают сообщения едва ли кем-либо проверенные, большею частью без указания источника откуда заимствованы сведения, и между тем все, как на подбор, в состоянии сильно взволновать простого мало интеллигентного читателя белорусской газеты и внушить ему неуважение к суду, полиции, земскому начальнику, помещику, к войску и к законам государства и сделать его легкою жертвою преступной пропаганды. По этим соображениям, усматривая в названных статьях и заметках номеров 8 и 9 названной выше газеты на белорусском языке преступления, предусмотренные пп. 1 и 3 ст. 129 Угол. Улож. и ст. 281[1] п. I Улож. о Наказ., мною согласно ст. IX отд. VII Высоч. Указ. от 24 ноября 1905 г. был наложен арест на №№ 8 и 9 издающейся в г. Вильне газеты на белорусском языке „Наша Нива“.

---

[1]) Гл., напрыклад: *У Ігнатоўскі.* Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі. Менск, 1921, стр. 75. *Н. Янчук.* Новейшая белорусская литература и ее деятели. Москва стр. 59. *Л. Б.* Из истории белорусского движения. „Белорусская Рада“. 1917, № 2. *І. Святицкій.* Відрожене білоруського пісьменства. Львів. 1908, і іншыя.

„Об этом имею честь довести до сведения Вашего Превосходительства на предмет возбуждения уголовного преследования против ответственнаго редактора-издателя названной газеты г. А. Власова.

„При этом считаю своим долгом поставить Ваше П-во в известность, что полициею, по сообщению Полицеймейстера, конфисковано: № 8-го—668 экз., а № 9-го—5 экз., а почтовой конторой задержано: № 9-го—965 экз., присовокупляю при этом, что каждый номер названной газеты печатается в количестве 1500 экз.

И. о. Инспектора по делам печати Киммерлинг“.

Праз дзесяць дзён—24 сакавіка 1907 г. гэты самы Кімэрлінг адаслаў прокурору другую паперку аб № 12 „Нашай Нівы“ (адносьнік № 178):

„Г. Прокурору Виленской Судебной Палаты.

„В № 12 выходящей в г. Вильне на белорусском языке еженедельной газеты „Наша Нива“, отъ 28 марта текущого года, между прочим помещена передовая статья под загл. „Государственная Дума“. В этой статье автор приводит вкратце содержание прений во время заседаний с 12 по 19 марта крайне тенденциозно, в искаженном и извращенном виде, с очевидною целью воздействовать на малокультурный белорусский народ.

„Усматривая в содержании означенной статьи преступление, предусмотренное п. п. 1 и 3 ст. 129 Угол. Улож., а также п. 1, ст. 281[1] I Улож. о наказ. Виленский Временный Комитет по делам печати имеет честь сообщить Вашему Превосходительству на основании п. 9, ст. VII Высочайшего Указа от 24 ноября 1905 г. на предмет уголовного преследования против редактора-издателя А. Власова

„При этом Комитет считает нужным присовокупить, что на прилагаемый при сем № 12 газеты „Наша Нива“ наложен арест [1]).

Председательствующий А. Киммерлинг“.

Прокурор, як відаць, нічога не зразумеў у пасланых да яго цэнзурай беларускіх газэтах; з гэтае прычыны ён папрасіў прыслаць яму пераклады „инкриминируемых статей“.

Адказ Кімэрлінга цікавы тым, што ён пунктуальна паказвае тыя месцы газэты, за якія яна прыцягвалася да адказнасьці. Так з № 8—1, „Дума и народ“ перакладаецца на маскоўскую мову цалкам. 2, „Зямельная справа ў Новай Зэляндыі“—перакладаецца ня ўся. Увага зьвернута на стар. 8 са слоў: „Вось якіх зямельных парадкаў дабіўся народ у новай Зэляндыі“. З гэтага выразу артыкул перакладаецца да канца. З № 9—3, „Вільня 2 (15) марта“, передавіца перакладзена цалкам. 4, у аддзале „Аб усём патроху“ са стар. 6 перакладзена: „У Пецярбургу адкрылась новае машэнства“. 5, у аддзеле „З усіх старон“ пера-

---

1) Паводле іншых дакумантаў, якія знаходзяцца ў справе, відаць, што гэтага нумару было конфіскавана 467 экз.

кладзена: „Саратов. Многа народу хварэець ад гнілога хлеба“... 6, перакладзена: „Екатеринослав“... і г. д. З № 12 у артыкуле „Государственная Дума“ цалкам перакладзены падзел: „Заседание 12 и 13 марца“; часткай перакладзены падзел: „Заседание 15 марца“ ад слоў: „Першы пачаў гаварыць а безработных“... і канчаючы словамі: „Казначэйства павінна выдаць патрэбныя грошы“; падзел: „Заседание 19 марца“ перакладаецца са слоў: „Першы казаў ад імені „правых“ Святополк-Мірскі“ і канчаецца словамі: „Усе выплаты ізноў зваляцца на шыю народную“.

Віленскай Судзебнай Палатай 27 чэрвеня 1907 г. арэст, накладзены Цэнзурным Комітэтам, быў зацьверджаны толькі на восьмы № „Нашае Нівы“. Арышты 9 и 12 нумароў былі адменены. Але, як відаць з папер, Кімэрлінг і пасьля гэтага рабіў крокі да прыцягненьня рэдактара „Нашае Нівы“ Уласава да адказнасьці за адзін восьмы №; чым справа скончылася—невядома.

Другая конфіскацыя „Нашай Нівы“, паводле дакумантаў, якія ў нас на руках, адбылася ў 1915 годзе. Вось як аб гэтым апавядае „Журнал Заседания Виленского Временного Комитета по делам печати 16 января 1915 г. № 1“, на якім прысутнічалі: Старшыня Комітэту „Коллежский Советник П. Г. Кругляков-Чердацкий“, „Коллежский Советник Э. Л. Меллерштейн-фон-Миллер“, „Титулярный Советник А. Н. Ярошевский“ и „Губернский секретарь И. В. Андреев“.

„СЛУШАЛИ: В Виленский Вр. Комитет по делам печати поступил № 2 от 16 января 1915 г. газеты „Наша Ніва“, в котором помещена статья „Думкі“ за подписью А. Язьмен.

„Въ этой статье высказывается мысль, что низшие классы в России находятся в совершенно бесправном беспомощном положении и не могут ожидать справедливого и заботливого къ себе отношения от правительствующей власти.

„Так, раненые на войне солдаты, несмотря даже на полную потерю трудоспособности (без ног и без рук) вряд ли могут, по мнению автора статьи, рассчитывать на получение „пособия“, т.к. для этого необходимы особыя хлопоты. Так, дескать, было и после Японской войны. Кто поумнее, тот выхлопотал себе пособие, а „многие калеки остались без гроша и пропадают, как собаки в сырых и холодных углах“.

„Затем, и в отношени крестьян, говорит автор, у нас вообще нет справедливости. Если крестьянин окончит даже высшее учебное заведение, то и такому трудно получить хорошее место, тогда как сын чиновника или офицера, хотя бы и недоучка, место получит.

„Наконец и в отношении налогов у нас такое же отсутствие справедливости; ни чиновник, ни офицер никаких налогов не платит. Вообще, в России полная противоположность заграничным порядкам и состоятельные классы никаких налогов не несут.

„В заключение автор говорит: если бы у нас были такие порядки, как заграницей, не пропадали бы мы так.

„Таким образом в означенной статье сообщаются заведомо ложные сведения о деятельности правительственных учреждений, возбуждающие враждебное к ним отношение крестьянских масс и нижних воинских чинов.

„Принимая во внимание, что в содержании статьи „Думкі“ заключаются признаки преступления, предусмотреннаго 3 п. ст. $1034^1$ ст. Улож. о наказ., Виленский Вр. Комитет по делам печати ПОСТАНОВИЛ: возбудить уголовное преследование против редактора газеты „Наша Ніва“ мещанина Ивана Доминиковича Луцевича, по обвинению его в преступлении, предусмотренном 3 п. $1034^1$ ст. Улож. о наказ., наложив, на основании $1213^{10}$ ст. Улож. Угол. суд. арест на № 2 газеты „Наша Ніва“ [1]).

Арышт, накладзены Цэнзурным Комітэтам на № 2 „Нашай Нівы“ за 1915 г. Віленскім Акруговым Судом пастанавіў ад 3 лютага 1915 г., быў „утвержден“ и прокурором было „предложено судебному следователю 7 уч. гор. Вильны приступить к производству предварительного следствия по обвинению редактора указанной газеты по 3 п. $1034^1$ ст. Улож. о наказ“.

Аб далейшым руху гэтае справы дакумантаў не захавалася.

Скончыла сваё жыцьцё „Наша Ніва“ ў 1916 годзе, калі выданьне яе было забаронена гэнэралам Эвэртам[2]).

Для гісторыі распаўсюджаньня беларускага друку цікава адзначыць, што ў траўні 1914 г. начальнікам былога С.-Пецярбурскага жандарска-паліцэйскага кіраўніцтва зялезных шляхаў былі затрыманы №№ 15, 16, 17 і 18 „Нашай Нівы“ за 1914 г. Затрымаўшы гэтую газэту, ён зьвярнуўся ў С.-Пецярбурскі цэнзурны комітэт па справах друку з просьбай „уведомить, дозволена ли цензурой упомянутая газета к обращению“. Апошні пераслаў яго адносьнік у Віленскі комітэт, які адказаў, што „таковые инкриминированию не подвергались“.

---

[1]) Затрымана гэтага № было 580 экз.

[2]) *Прохоров*. Беларуская справа („Вольная Беларусь“, 1917 г. № 4).

# СУЧАСНАЕ СТАНОВІШЧА УКРАІНСКАЕ НАВУКОВАЕ МОВЫ

## Н. Мархэль

У агульным разьвіцьці культуры народу адно з найважнейшых месц займае мова і асабліва яе прыстасаваньне да сучаснае навукі. Гістарычныя ўмовы калечылі нормальны разьвітак украінскае навуковае і літаратурнае мовы, і калі кінуць пагляд на яе мінулае, дык там можна выдзеліць два выразных пэрыоды. Першы, калі украінскі народ пад заслонай сваёй дзяржаўнасьці меў магчымасьць вольна будаваць нацыянальную культуру, і другі—калі царскі расійскі ўрад, асабліва выразны з часоў Кацярыны II, павёў сыстэматычны ўціск гэтае культуры разам з політычным заняволеньнем краю. У гэты апошні пэрыод украінская мова мусіла адыйсьці ў глыбіню народных мас, дзе яна моцна трымалася да сучаснага моманту. Аднак, ня ўся Украіна тэрыторыяльна была паднявольна Расіі. Значная яе дзялянка, Галіччына, была пад уладай Аўстрыі. Пры трохі іншай політычнай орыентацыі аўстрыйскага ўраду, Галіччына мела вялікшыя культурныя магчымасьці, і на працягу нашага і папярэдняга сталецьця будавала украінскую нацыянальную культуру. Там у значнай меры захавалася і навуковая мова.

Рэволюцыя 1917 г. пытаньне пра украінскую навуковую мову высунула на гістарычны грунт. У 1918 годзе пад загадам Укр. Навук. Таварыства ў Кіеве пачынаецца апрацоўка укр. навуковае тэрмінолёгіі, бо гэтага канечна вымагала паступовае разьвіцьцё навуковых дасягненьняў краю. Праца хутка разгортваецца, захапляе вялікшыя месты Украіны, і для яе аб'яднаньня організуецца ў 1921 годзе Інстытут Украінскае Навуковае Мовы пры Украінскай Акадэміі Навук.

Інстытут прарабіў за тры гады вялізарную працу, якая энэргічна працягваецца і зараз. Ён мае зараз 6 аддзелаў: прыродазнаўчы, сельскагаспадарчы, тэхнічны, соцыяльна-экономічны, праўны і мастацтва. Пад кіраўніцтвам І-ту перароблены і пашыраны слоўнік фізыкі друку 1919 г., выданы слоўнікі хіміі і геолёгіі. Рыхтуюцца да друку слоўнікі: матэматычны, мэтэоролёгічны і ботанічны. Таксама ўкладаецца поўны слоўнік зоолёгіі. Сабрана шмат матэрыялаў і па антрополёгіі, і этнографіі, якія зараз апрацоўваюцца. Друкуецца мэдычны слоўнік, што складзены на грунце міжнароднае мэдычнае тэрмінолёгіі. Слоўнік праўны выходзіць таксама з друку; па тэхнічнай тэрмінолёгіі выдана некалькі невялічкіх

слоўнічкаў. Апрацавана номэнклятура (назвы) па будаўніцтву і прыкладнай мэханіцы. Шмат матэрыялаў маецца па экономічнай, соцыяльнай і мастацкай тэрмінолёгіі.

Побач з выданьнем навуковых прац, Ін-т мае на мэце выдаць слоўнікі практычнага тыпу для шырокага ўжытку.

Карэньні складанае працы Ін-ту ляжаць у цеснай сувязі яго са сваімі корэспондэнтамі, якія маюцца ў розных кутках Украіны. Пры іх дапамозе, а таксама шляхам спэцыяльных экспэдыцый, Ін-т зьбірае народную тэрмінолёгію, якая і кладзецца ў аснову работы. Тыя тэрміны, якіх бракуе ў украінскай мове як сучаснай, так і калішняй, бяруцца з чужаземных моў і толькі ў крайніх выпадках ужываецца мэтод новаўтварэньня слоў.

Зараз у Ін-це маецца да 100 тыс. картак з „сырым“ матэрыялам, які перабывае на розных стопнях апрацоўкі. З бягучага году Ін-т мае выдаваць свой друкаваны орган „Вістник українськоі науковоі мови“.

Апрача навуковае работы над адраджэньнем свае нацыянальнае культуры, украінская грамадзкая думка зьвяртае належную ўвагу і на пашырэньне ў жыцьцё, у масы гэтае культуры, так сказаць, на навуковую „украінізацыю“ грамадзянства, бо на практыцы выясьнена, што украінізацыя аднымі адміністрацыйнымі захадамі ўносіць у дзелаводзтва папсаваную мову. Ня ўнікаюць гэтага і друкаваныя творы. Каб скласьці здаровую грамадзкую атмосфэру для распаўсюджаньня навукова-апрацаванай мовы, складзена Таварыства дапамогі і разьвіцьця украінскай навуковай мовы, на чале якога стаіць Старшыня Саўнаркому т. Чубар.

Аслабаніўшыя сябе ад нацыянальных пут народы нашага Саюзу з вялікім імпэтам працуюць над роднымі мовамі. Але асаблівыя ўмовы параджаюць і новыя мэтоды. І калі заходня-эўроп. і расійская навуковыя мовы разьвіваліся паволі, там быў час і месца для індывідуальнага ўплыву: часта большая ці меншая частка тэрмінолёгіі была зьвязана нават з імем таго ці іншага вучонага.

Разьвітак навуковай мовы гэтак званых маладых нацый ідзе шляхам чэрпаньня тэрмінолёгіі з глыбін народных мас. Гэты шлях, бяз сумненьня, дэмократызуе навуку, падводзіць яе бліжэй да працоўных. Яна становіцца больш роднай і зразумелай народу.

Палтава.

# КНІГАПІС

**А. Александровіч.** *Па беларускім бруку. Д. В. Б. Менск 1925, 43 стар.*

Хаця й невялічкі па колькасьці старонак і радкоў, але багаты па зьместу зборнічак вершаў маладога песьняра А. Александровіча па мотывах яго творчасьці зварачае на сябе ўвагу літаратурнае крытыкі.

Ырай, фабрычны дым
у дрыжачую сонную даль,—
разьвясёлы юнацкі ўздым
пачуеш у песьнях машын!..
Зьвіні, сьпеў малады,
Завод, бі ў барабан.

Так пачынае поэта зборнічак сваіх вершаў. І сапраўды—у яго песьнях адчуваецца менскі рытм, рытм буйнага гораду з пеністым жыцьцём вуліцы, фабрычнай працай, тупатам чырвонаармейскіх ног, піонэрамі і інш. Паміж беларускіх поэтаў, нават з маладнякоўцаў, А. Александровіч пераважна й нават выключна—поэта гораду.

Сярод вершыкаў, што знашлі сабе месца ў зборніку, ёсьць бязумоўна вельмі ўдалыя рэчы, якія дазваляюць з надзеяй глядзець на літаратурную будучыну поэты. Асабліва ўдалымі я лічу вершы: „Абрам" і „Чырвонаармейская". Мотыў першай—гарадзкая простытуцыя (простытутка—дачка Абрама) колёрытна выяўляе аблікі гораду, дзе панавалі окупанты.

Немец ходзіць ля спадніцы...
Ой люлі, ой люлі,
Дзеўку замуж аддалі;
Дзеўка, немкаю як стала
панямецку загуляла.

А потым пры палякох зноў жыцьцё і зноў забавы...

Мотывы „Чырвонаармейскай"—бадзёрыя мотывы рэволюцыйнае арміі.

Некаторыя і іншыя вершыкі напісаны добра.

Аднак, нельга замаўчаць таго, што ёсьць і даволі слабыя вершыкі.

Напр., вершык „Бацькава радасьць"...

Вось вынятка з вершыку:

У віхуры, ў завірусе
ды фабрычнага жыцьця
Комсамольцам Беларусі
стала роднае дзіця.
І на фабрыцы рухомы
малады мой качагар
выбран членам фабзаўкому,—
весяліся ў домне жар.

Што гэта? Просты набор слоў бяз сэнсу, бяз густу? А такі набор знойдзем і ў іншых мясцох зборнічку. Трэба лічыць, бязумоўна, памылкай з боку маладога поэты—і ня толькі аднаго А. Александровіча, але й шмат яшчэ каго,—бачыць у друку ўсе напісаныя вершыкі. Ня ўсё пекна, што пішацца, і бяз строгае вытрыманасьці поэзія рызыкуе абярнуцца ў вершаплёцтва. Наогул, зборнічак выйграў-бы, калі-б ён быў скарочаны па меншай меры напалову.

І яшчэ адна ўвага аб мове аўтара. У вершах ня мала расійскіх слоў і расійскіх зваротаў (напр., як вышэй—„дзеўку замуж аддалі"), але асабліва псуюць мову аўтара нязграбныя, выдуманыя ім самім новатворы, як, напр.: „прастор-небазвод" (9 стар.), „бурапеніць" (18 стр.), „нядолевы" (37).

Наогул, мова вершыкаў патрабуе крытычнага падыходу.

**М. Байкоў.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

### ІНБЕЛКУЛЬТ

О Рэорганізацыя Інбелкульту бадай уцалку ўжо закончана. Застаюцца яшчэ незамешчанымі некаторыя адказныя навуковыя пасады, але працаўнікі на іх запрошаны, і з прыездам іх у Менск пачнуць інтэнсыўна працаваць тыя сэкцыі і комісіі, на чале якіх яны стануць. Так, пераяжджаюць на сталую працу ў Менск у ІБК этнограф Сержпутоўскі, проф. мовазнаўца Растаргуеў, Даўнар-Запольскі, архэографісты Даўгялла і інш.

Інбелкульт зараз мае ў сваім складзе 10 асноўных сэкцый, асоцыяцыю „НОТ" і 3 сэкцыі жыдазнаўства. З разьвіцьцём сэкцый вынікла патрэба ў сьціслай працы паасобных падсэкцый, дзеля абслугоўваньня працы якіх у 11 падсэкцыях (з іх 3 па жыдазнаўству) зьявілася патрэба мець сталых сакратароў. Апрача таго, пачалася сталая праца ў сталых комісіях, якіх зорганізавалася, як стала працуючых, 20, з іх 6 па жыдоўскаму і польскаму аддзелах ІБК. Арганізуюцца, як дапаможныя ўстановы, псыхотэхнічная лябораторыя „НОТ", дасьледчая хімічная лябораторыя пры комісіі выўчэньня прыродных вытворчых сіл, лэктарска-экскурсыйнае бюро пры Цэнтр. Бюро Краязнаўства і бюро адказных перакладаў пры правапісна-тэрмінолёгічнай комісіі. Бібліотэка мае ўжо звыш 5.000 томаў кніг.

Пры ІБК, на правах сэкцыі, лічыцца пры Сел.-Гасп. Інстытуце т-ва па навук. выўчэньні Беларусі, якое знаходзіцца ў Горках; пакуль што, да атрыманьня ўласнага памяшканьня і каштарысу з наступнага опэрац. году працуе, на правох сэкцыі, і Ўсебеларускае аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк".

О Па выўчэньні дыялэктаў (гаворак) беларускае мовы гэтым летам выяжджаюць па камандыроўцы ІБК: проф. П. Растаргуеў (у паўночныя паветы былое Чарнігаўшчыны, а зараз у паўднёвыя паветы Гомельшчыны), С. М. Некрашэвіч (у Нэвельскі і Себескі паветы Пскоўшчыны) і Арасімовіч (на граніцу паветаў Смаленшчыны і Цьвярское губ. для выўчэньня галіны белар. мовы так званых „тудаўлян").

О Літаратурная комісія закончыла разборку рукапісаў поэты і пісьменьніка М. Багдановіча, большую частку якіх пасьпела належным чынам расчытаць (пераважна праз павялічальнае шкло, бо характар пісьма памёршага поэты вельмі дробны і чарнавыя рукапісы пісаны шмат алоўкам) і зьняць копіі. З восені, калі закончаць коп'яваньне пад наглядам проф. Ів. Замоціна будзе прыступлена да складаньня першага поўнага збору твораў М. Багдановіча. За лета комісія спадзяецца атрымаць з-за рубяжу з СССР і іншых месц БССР копіі таго, што яшчэ маецца з орыгіналаў пісьменьніка ў паасобных грамадзян, асабліва копіі яго шматлікай перапіскі. Для складаньня біографіі М. Багдановіча сабраны ўжо значны сыры матэрыял успамінаў прыяцеляў памёршага поэты і ўласнаручныя матэрыялы пра жыцьцё сына ад бацькі пісьменьніка Адама Багдановіча, які зараз працуе ў Яраслаўлі. З Ялты атрыманы фотографіі з устаноўленага

на адшуканай „маладнякоўцамі“ А. Вольным і А. Александровічам магіле поэты помніка. Дбаньне аб апошнім узяў на сябе і выканаў жыўшы ў Ялце прошлым летам пісьменьнік Цішка Гартны.

O Гістарычна-археолёгічная сэкцыя нядаўна закончыла, пад наглядам свайго нав. сакратара І. Сербава, раскопку старажытных цікавых курганоў пад Менскам у т. зв. Рылаўшчыне (3 вярсты ад Менску). Асабліваcьці курганоў і пахаваньня, таксама і знойдзеныя рэчы правьлюць сьвет на далёкае мінулае Менску, як старадаўняга пункту людзкога гандлёвага аселішча яшчэ ў IX веку.

Зараз І. Сербаў, па даручэньні комісіі па ахове помнікаў старажытнасьці, дзейным членам і нав. сакратаром якое ён таксама зьяўляецца, працуе ў Клімавічах, дзе пад будынкам былое, цяпер скасаванае турмы, ён вядзе раскопку сутарэньняў домініканскага кляштару XVII в., аб якіх маюцца друкаваныя весткі, што там захаваўся архіў або бібліотэка былога кляштару.

O Пасланы комісіяй „па ахове помнікаў“ М. Шчакаціхін у Полацак дасьледваў адкрытыя, дзякуючы пачатаму разбору будынкаў тамтэйшым камхозам, насьценныя фрэскі ў Пятніцкай і Барысаглебскай цэрквах. Фрэскі, наколькі толькі яны раскрыліся, з-заападу тынку (шчыкатуркі), сфотографаваны і, апрача таго, зарысованы з натуры мастачкаю М. Лебедзеваю, членам-корэспондэнтам ІБК з Віцебску. Фрэскі вельмі каштоўны з гістарычна-мастацкага боку, сьведчаць аб будове цэркваў яшчэ ў XII в., бясспрэчна бізантыйскага характару, але значна адметны ад кіеўскіх. Калі ня лічыць толькі орнамэнтальных фрэсак Полацкае Софіі і Сьмядыні, дзе таксама толькі захаваўся часткаю орнамант, першыя і адзіныя пакуль што толькі на Беларусі, пры гэтым памятак вельмі далёкага мінулага.

Полацкі Акруговы Выкан. Комітэт у зьвязку з гэтым прыняў на сябе адказнасьць за перахаваньне рэдкага помніка старадаўняе на Беларусі архітэктуры і мастацтва і на працягу месяца абавязаўся пакрыць дахам абодва раскрытыя цяпер будынкі.

O На сродкі Дзяржпляну Комісія ІБК па выўчэньні прыродных вытворчых сіл закончыла падрыхтаваньне навуковых экспэдыцый па далейшым геолёгічным досьледзе БССР (экспэдыцыі профэсароў-геолёгаў Блюдухі М., Тэрлецкага Б. і Лунгэрсгаўбэна), зоолёгічнай проф. Федзюшына А. Г., па выўчэньні тэхнікі земляробства С. Скандракова. На гэтых днях для складаньня геоботанічнай 10-вёрстай карты БССР выяжджаюць проф. Горацкага Сел.-Гасп. Інстытуту Васількоў і ботанікі Паманская, Савіч і Зьбіткоўскі (папярэднія двое працаўнікі Ленінгр. Ботанічнага Саду).

O У зьвязку з беларусізацыяй з 1 ліпня г.г. вышэйшых дзярж. установаў, пры комісіі ІБК па савецкім будаўніцтве склалася тэрмінолёгічная комісія па апрацаваньні юрыдычнае і дзелаводнае тэрмінолёгіі, у склад якое ўвашлі Зм. Чарнушэвіч, М. Мароз, Парэчын і Прышчэпчык. Комісія пільна вядзе сваю працу і спадзяецца, палажыўшы ў аснову юрыдычную тэрмінолёгію, апрацаваную М. Гуткоўскім. Комісія пэўна, што скончыць сваю працу да 1 ліпня, што дасьць магчымасьць карыстацца сталаю тэрмінолёгіяй належным установам.

O Прыяжджаючы ў Менск вядомы беларускі этнограф Сержпутоўскі стане на чале этнографічнай экспэдыцыі, якая ўлетку гэтага году, па ініцыятыве і на сродкі этногр. сэкцыі ІБК, аб'едзе некаторую тэрыторыю БССР для далейшага зьбіраньня этногр. навуковых матэрыялаў. Прэзыдыум ІБК, з мэтамі дасьледваньня новага на вёсцы побыту, уводзіць у склад экспэдыцыі маладога этнографа

М. Мялешку, які на апошнім сходзе сэкцыі чытаў належны даклад аб гэтай патрэбе ў працы нашай этнографіі.

О Бібліографічная Комісія ІБК працуе інтэнсыўна над складаньнем бібліографіі па ўсіх галінах беларусазнаўства. Картотэка гэтай бібліографіі мае ўжо звыш 20.000 картак, якія зараз прыводзяцца ў сыстэмат. парадак, каб можна было дапусьціць у бліжэйшы-ж час карыстаньне ёю чытачом Белар. Дзярж. Бібліотэкі, якія вядуць дасьледчую па розных галінах беларусазнаўства працу. Канчаюцца падрыхтоўкаю да друку першыя два бібліографічныя паказьнікі, першы з якіх дасьць поўную бібліографію беларускае кнігі за ўвесь час яе існаваньня аж да 1 студз. 1925 г. А.Шлюбскім закончана цалком бібліографія па этнографіі беларусаў.

О Цэнтр. Бюро краязнаўства пры Інбелкульце падрыхтавала першы нумар свае краязнаўчае часопісі, на старонках якое будзе сыстэматычна друкавацца і хроніка дзейнасьці Інбелкульту. Да 1 кастр. г. г. выйдзе яшчэ два №№ гэтае часопісі.

О Для выўчэньня і музычнай апрацоўкі беларускае песьні пры Мастацкай сэкцый ІБК утварылася Бел. Песенная Комісія, якая гэтым летам рыхтуе выезд чатырох сваіх сяброў для зьбіраньня народных песень у розныя багатыя песьняю месцы БССР. Паедуць: М. Аладаў, А. Грыневіч, М. Чуркін і Ў. Тэраўскі (або Ягораў). Песеннай комісіі Я. Дыла перадаў са свайго архіву ўсе нотныя запісы белар. песень і інш. нотны белар. матэрыял, якія ён у свой час атрымаў у падарунак ад памёршага А. Бурбіса. ІБК набыта ад М. Чуркіна і перададзена комісіі 342 белар. песьні, запісаных на ноты ў розн. мясцох БССР.

О Для выўчэньня старажытнага і сучаснага беларускага вобразнага мастацтва гэтым летам рыхтуецца мастацкаю сэкцыяю ІБК экспэдыцыя на чале з М. Шчакаціхіным, якая заадно зьбярэ і належны матэрыял для мастацкай Усебелар. выстаўкі ўвосень гэтага году.

О Антрополёгічная комісія мэдычнае сэкцыі ІБК ўлетку гэтага году правядзе антрополёгічныя досьледы нашага Палесься. На гэта ёй ІБК адпушчаюцца патрэбныя сродкі. Ёю сабраны ўжо значны навуковы матэрыял па антрополёгіі беларуса, між іншым шмат чарапоў для хронолёгічных абмераў.

**Маладняк.**

О Згодна пастановы свайго пленуму, „Маладняк“ вядзе зараз пераглядправерку складу сваіх членаў. Па апошніх даных яго філіі цяпер складаюць наступны лік членаў: Менская—46 чалавек, з якіх 8 пішучых на расійскай мове, Віцебская і Магілеўская па 11 чал., Клімавіцкая—8 і Аршанская—4. Яшчэ не праверанымі застаюцца філіі: Барысаўская—12 ч., Слуцкая, з раёнамі—18, Полацкая—8, Бабруйская--5 чал. Па-замежамі БССР: Маскоўская філія—12 чал. і Гомельская—6 чал. Наогул, з восені г. г. „Маладняк“ зьверне сваю ўвагу на паглыбленьне сваёй працы, менш дбаючы аб пашырэньні складу сваіх сяброў. З гэтымі-ж мэтамі з восені рыхтуецца адчыненьне сталае літаратурна-мастацкае студыі, каб паглыбіць падрыхтоўку літар. сіл. Новы пленум адбудзецца пасьля 1 верасьня г. г.

О Вядзецца маладнякоўцамі энэргічная творчая і падрыхтоўчая да надрукаваньня ўласных твораў праца. Так, Ул. Дубоўка рыхтуе зборнік сваіх твораў за 1923-25 г. г. пад назваю „Трыкліньні“ (да 10 друк. аркушаў), працуе яшчэ над падручнікам вершаваньня пад назваю „Навука вершаваньня“ (да 9 др. аркушаў), які спадзяецца закончыць да 1 жніўня г.г. Рыхтуе да друку і свой вялікі зборнік вершаў Яз. Пушча. Міх. Чарот закончыў і прыслаў у Менск для

друку ў чарговых № „Маладняку“ сваю новую вялікую поэму. Ім ўжо закончана аповесьць „Сьвінапас“, да якое скончан і кіно-сцэнарый. Крапіва рыхтуе першы зборнік сваёй сатыры для Дз. Выдав. пад назваю „Крапіва“, разьмерам да 6 др. аркушаў. Вышла і кніжачка яго сатыры „Асьцё“ ў сэрыі бібліотэчкі. А. Бабарэка закончыў зборнік сваіх крытычных нарысаў разьмерам да 12 др. аркушаў. К. Чорны скончыў вялікае (да 6 др. арк.) апавяданьне „Зямля“ і новую драму ў 5 дзеях, назва якое яшчэ ня вызначана. Нічыпар Чарнушэвіч скончыў значную па разьмерах поэму, якой перш хацеў даць назву „Комсамолка“.

О З восені г. г., каля 15 кастрычніка, „Маладняк“ выпусьціць свой першы значнага разьмеру трохмесячнік-альманах, у якім будуць зьмешчаны як творы прыгожага пісьменства, так і крытычныя нарысы і сатыра.

О Чарговая сэрыя бібліотэчкі „Маладняку“ зьмесьціць наступныя сшыткі: Хурсік—апавяданьні, якімі будзе дэбютаваць малады член „Маладняку“; Якімовіч—вершы; К. Чорны—гумарыст. апавяданьні; П. Трус—вершы; колектыўны зборнічак узорнай творчасьці сябраў літ.-маст. студыі „Маладняку“ ў Менску, вершы поэтэс-маладняковак Бандарынай, Вішнеўскай і інш.; А. Александровіч—апавяданьні.

О У Воршы вышаў з друку № 1 „Аршанскага Маладняку“.

**Навука.**

О У бібліотэцы Пскоўскага Гістарычна-археолёгічнага Музэю маюцца чатыры арабскіх рукапісы, два якіх увосень 1924 году дасьледваў арабісты, беларус родам, акадэмік І. Ю. Крачкоўскі.

Найбольш цікавым зьяўляецца рукапіс пад № ж. 8/56, том in folio ў 211 старонак у цісьненай скурай вокладцы, з дошчак якое захавалася толькі першая. Гэта—каран, які ў 1740 г. належаў Сямёну Тадорскаму, першаму гэбраістаму Кіеўскае Дух. Акадэміі, пазьней пскоўскаму архірэю. Рукапіс пісаны тыповаю рукою літоўскіх татар і мае шмат прыпісак і паасобных слоў на беларускай мове ў арабскім пісьме. Маецца і цэлы пераклад арабскае малітвы на беларускай мове такім-жа пісьмом. Дата вызначана з памылкаю, якая пазваляе назваць або 1682 або 1692 год, што адпавядае арабскай лічбе 1093—1103 год хіджры (магамэт. леталічбы). Мова беларуская папсаваная, поўная полёнізмаў, як можна бачыць з фразы: „Есліб у намазе там незатрымалае, намаз непрынятый... и дух не бер запеўне кафиринем будеш“.

Гэтая вынаходка лішні раз сьведчыць, што сваячасна трэба было-б зрабіць грунтоўныя досьледы ў гэтым напрамку, што дасьць багаты матэрыял для гісторыі беларускае мовы.

Узрост нашае Дзяржаўнае Бібліотэкі ідзе нясупынна. На 1 кастр. 1924 г. бібліотэка мела зарэгістраваных ужо 175.000 томаў; зараз, на 16 чэрвеня, яна пераваліла за 225.000 каталёгізаваных ужо томаў. За час з пачатку гэтага каштар-году такім чынам прыбыло звыш 50.000 томаў. Трэба прыняць пад увагу, што сюды не зарэгістраваны зусім паасобныя №№ дробных пэрыод. выданьняў, бо яны атрымоўваюць свой № толькі на гадовым сваім комплекце, а такіх выданьняў атрымоўваецца да 1.000 назваў. У лік паступіўшых выданьняў (50.000 т.) каля 15.000 т. падае на абавязковы ўсесаюзны экзэмпляр, да 4.000 т. атрымана дарамз Ленінграду з дзярж. кніжнага фонду, звыш 8.000 т. набыта ад „Кніжнага двара“ Ленінград. Дзяржвыдату, 1.500 т. дарам ад Ленінград. Аддзяленьня Цэнтраархіву; набыты суцэльныя бібліотэкі—па матэматыцы ад Барысава (500 т.), бібліотэчка Сарокіна (каля

700 т.), па жыдазнаўству—Тувіма і Вольтке (каля 500 т.). З апошніх набыцьцяў заслугоўвае адзначэньня бібліотэка Якава і Каст. Як. Гротаў па славяназнаўству, набытая разам з Інбелкультам, з якое паступіла звыш 2.000 томаў. Новае папаўненьне ад Расійск. Акад. Навук—500 томаў, ад Ленінгр. Унівэрсытэту—100 том.; потым былыя бібліотэкі Кудраўцава і друг. Усе набыцьці адбыліся, дзякуючы спэцыяльнай дапамогі СНК і ЦВК БССР, якія адпусьцілі на гэта асобны грашовы фонд у 8.000 рублёў. На спэцыяльныя-ж сродкі самой бібліотэкі йшла выпіска чужаземнай найноўшай навуковай літаратуры і часопісяй (апошніх атрымоўваецца 50 назваў). У апошнія месяцы паступіла ў бібліотэку 6.000 томаў з Калінінскае акругі і каля 6.000 т.—з Магілеву. Усё гэта пераважна комплекты ранейшых навуковых часопісяй. Набыты яшчэ бібліотэкі Ісаева па біолёгічных навуках (да 3.000 томаў) і збор адбіткаў (да 2.500 назваў) артыкулаў па філёзофіі і сумежных навуках ад акадэміка Э. Рыдлава.

О Навуковы зьезд беларусазнаўцаў, які рыхтаваў ІБК на восень, для належнага яго падрыхтаваньня, адложан канчаткова на зімовыя вакацыі, што дасьць мажлівасьць добра яго падрыхтаваць. Для вядзеньня нясупыннай працы па яго падрыхтаваньні ІБК абрана спэцыяльн. комісія.

О Белар. Дзярж. Музэй у Менску нясупынна папаўняецца рознымі прадметамі старасьветчыны, мастацтва і этнографіі. За апошні месяц у музэй набыта і паступіла дарам: 16 экспонатаў па жыд. аддзелу, 20 рысункаў М. Філіповіча да белар. казак, 2 старыя карціны з Белпэдтэхнікуму ў Менску, некалькі здымкаў з Менскай і Слуцкай старых сынагог ад М. Шчакаціхіна, новы збор памятак стаянкі першабытнага чалавека каля Нов.-Быхава ад студэнта С. Шутава, шмат старых монэт, сярод якіх цікавы 2 срэбных капейкі Івана Грознага (ад С. Гарбуза), 6 срэбных рублёў 1736-57 г., талер 1671 г. Максымільяна Кёльнскага, старая мядзяная люстра пачатку XIX веку і шмат іншых рэчаў.

О Члены ІБК В. Друшчыц і Я. Дыла атрымалі навук. камандыроўкі для выўчэньня гістар. пытаньняў ў архівах Масквы і Ленінграду. Першы выўчае гісторыю белар. гарадоў у сярэднявякоўі, другі—окупацыйную політыку першых Раманавых у часе захвату імі, або заваяваньня Ўсходняй Беларусі, а таксама польскае паўстаньне на Беларусі 1863 г.

О Скарынінская комісія ІБК скончыла сваю працу, распрацаваўшы плян Усебеларускага сьвяткаваньня 400-годзьдзя беларускага друку. На гэтых днях яна ўносіць гэтае пытаньне ў НКА, па дакладу якога гэты плян атрымае канчатковае зацьвярджэньне СНК, які і адпусьціць належныя сродкі на гэтыя ўрачыстасьці. Рэдакцыйная комісія скарынінскага навук. зборніку канчае таксама падрыхтоўку зборніку. Скульптарам Бразэрам закончан бюст Ф. Скарыны, набыты ІБК. Зроблены ім і два гіпсавых адліўкі з орыгіналу і пяць памятных масак. Спэцыяльная мастацкая комісія прызнала бюст вельмі ўдатным і добра перадаўшым рысы твару Ф. Скарыны з вядомай усім гравюры. Досьледам М. Шчакаціхіна здаецца канчаткова будзе высьветлена дакладная дата нараджэньня Ф. Скарыны, якую ён вывеў з вельмі вострадумна-заўважанае асаблівасьці портрэтнай гравюры першага друкара Беларусі. Мастаком Кругерам распачаты алеёвы портрэт Ф. Скарыны ў гусьце портрэтаў XVI веку. Портрэт будзе выстаўлен на Ўсебелар. мастацкай выстаўцы ўвосень гэтага году.

О Мовазнаўца Я. Лёсік зараз працуе над навуковаю граматыкаю беларускае мовы для патрэб ВУЗ'аў і белар. пэдтэхнікумаў. Працу гэтую ён спадзяецца закончыць да восені г. г.

О Беларускія географы А. Смоліч, М. Азбукін і М. Грамыка ўлетку г. г. мерацца зрабіць навуковае падарожжа па БССР для географічнага вывучэньня нашых краявідаў.

**Тэатр.**

О Дзесятага траўня закончыўся зімовы сэзон Белар. Дзярж. Тэатру, пачаты гістарычнаю драмаю Н. Быхаеўскага „Панскі гайдук“, пастаноўка якое была ў звычайных рэалістычных формах. БДАТ даў навінку расійскае сцэны „Савецкі чорт“, як узор новае сучаснае рэалістычнае комэдыі і толькі па вясьне вярнуўся да свайго пераважаючага прынцыпу дэкарацыйна-конструкцыйнага прынцыпу, калі была пастаўлена „Чырвоная маска“ А. Луначарскага, пастаноўка якое зьявілася новым дасягненьнем у працы БДАТ'у. Пад канец ужо сэзону мы ўбачылі чацьвертую новую пастаноўку тэатру—гэта новы твор А. Міровіча „Каваль-ваявода“.

О 17 траўня БДАТ выехаў у сваё звычайнае летняе падарожжа па БССР. Па атрыманых ужо вестках тэатр наш у Віцебску ў пачатку і канцы сваіх пастановак карыстаўся мастацкім і матэрыяльным посьпехам, што і дало яму магчымасьць заглянуць у Полацак. Там ён, ня гледзячы на неадпаведны будынак тэатру, нават ня маючы магчымасьці паказаць, напр., „Чырвоную маску“ і інш. складаныя пастаноўкі, бярэ поўныя зборы і карыстаецца выдатным посьпехам. Адзін раз дзярж. трупе ўдалося выехаць на граніцу з Польшчаю (у Ветрына), дзе „Пінская шляхта“ Марцінкевіча і белар. концэрт пакінулі на ўсіх моцнае ўражаньне растучай у сваіх посьпехах белар. культуры. У далейшы маршрут ўнесены Ворша, Клімавічы і Магілеў.

О Наступны сэзон БДАТ'у сустракаецца з рэпэртуарнымі труднасьцямі, якія цалкам яшчэ ня вычарпаны. З старога белар. драматычнага рэпэртуару затрымаліся на „Сялянцы“ Дунін-Марцінкевіча, „На Антокалі“ Аляхновіча, але абедзьве п'есы пойдуць з значнымі зьменамі, адпавядаючымі сучаснасьці. Есьць надзея на новыя орыгінальныя творы М. Грамыкі, А. Міровіча і шэрагу маладых драматургаў, з якіх цікавіць К. Чорны, кончыўшы два сваіх драматычных творы. З перакладных п'ес пакуль што затрымаліся на „Вірынэі“ Сэйфулінай і „Цымбельліне“ Шэкспіра.

Мастацкі бок пастановак будзе ў наступным сэзоне значна палепшан, бо будуць пашыраны трупа і оркестр, запрошаны яшчэ другі рэжысэр-пастаноўшчык і патрэбныя іншыя мастацкія кіруючыя сілы. З кандыдатамі на другога пастаноўшчыка ўжо вядуцца належныя перамаўленьні.

**Літаратура.**

О Дваццацёхгодзьдзе творчае дзейнасьці песьняра Беларусі Я. Купалы выклікала шырокі водгук ня толькі ў БССР, але й з-за межаў яе. Так адгукнуліся тэлеграмамі цэлы шэраг украінскіх і жыдоўскіх з УССР устаноў і з СССР. Віталі юбіляра нашыя адказныя кіраўнікі дзяржавы, беларускія студэнцкія організацыі, настаўніцтва і паасобныя навуковыя ўстановы і працаўнікі БССР.

О У зьвязку з юбілеем Янкі Купалы і падарожжам яго ў першай палове чэрвеня па закліканьні ў Віцебск Воршу і Горкі, у гэтых мясцох адбыліся ўрачыстасьці з шырокім удзелам устаноў і моладзі, на якіх вельмі цёпла віталі песьняра Беларусі. Бабруйск, Барысаў і Рагачоў, як сьведчыць прэса, адсьвяткавалі таксама ўрачысты юбілей творчай працы поэты.

О Прымаючы пад увагу выдатныя заслугі юбіляра Я. Купалы, як песьняра барацьбы і адраджэньня Беларусі, СНК БССР надаў пісьменьні-

ку пачэснае званьне народнага поэты і вызначыў яму сталую пэнсію адказнага працаўніка, каб пазбавіць яго ад вымушанае патрэбы несьці неадпаведную яго здольнасьцям службу.

О Высунута пытаньне аб зарубежнай камандыроўцы белар. пісьменьнікаў Цішкі Гартнага, Янкі Купалы і Міх. Чарота ў Нямеччыну і ў Парыж на сусьветную мастацкую выстаўку. СНК БССР і Інбелкульт адпусьцілі патрэбныя на гэтую падарожу сродкі. Такім чынам, па прыкладу РСФСР і УССР, нашыя пісьменьнікі атрымаюць магчымасьць азнаёміцца з чужымі культурамі і ў сваю чаргу пазнаёмяць чужынцаў з маладою белар. культураю,

О Беларуская і жыдоўская драмстудыі ў Маскве наступны год будуць яшчэ канчаць сваю падрыхтоўку да самастойнай дзейнасьці з восені 1926 г. З мэтамі даць улетку гэтага году дастатачны адпачынак, абедзьве студыі ў ліпні ня будуць прыяжджаць у Менск для паказных сваіх новых пастановак. Такім чынам, ні белар. пастановак „Зруйнавана цемра“. — Шашалевіча-Міцкевіча, ні „Сон летняе тночы“ — Шэксьпіра, ні жыдоўскіх пас ановак „Меншн“ і „Ін польш аф дэр кейт“—Пераца Менск у гэтым годзе ня ўбачыць.

О Белар. Музтэхнікум у Менску за мінулы ўжо год дасяг значных посьпехаў. Гэта можна адзначыць як па дасягненьнях вучняў тэхнікуму, якія сьведчылі гэта сваімі справаздачнымі концэртамі, так і ў галіне працы Музтэхнікуму над белар. музыкаю. На публічным апошнім концэрте 25 траўня белар. музыкі квартэт І. Фідлона і квінтэт М. Аладова парадавалі ўсіх знаўцаў і аматараў бел. музыкі і песьні. Квінтэт М. Аладава—выключна выдатны твор, які дае права спадзявацца ад яго і далейшых творчых посьпехаў, нават у напісаньні белар. арыгінальнае опэры.

О На працягу месяца ў музычнай сэкцыі ІБК ішлі пробы розных дудароў, аднаго з якіх мерыліся пасладь на Парыскую мастацкую выстаўку.

О Мерыцца канчаткова пераехаць на мастацкую працу ў БССР выдатны белар. мастак-керамісты Міхалап, які зараз загадвае мастацка-керамічнаю школаю ў Ноўгарад-Северску (УССР.).

О У восень г. г. ў Менску мае адбыцца 1-ая Ўсебеларуская мастацкая выстаўка, якая павінна будзе мець выключнае значэньне ў справе падняцьця беларускага і жыдоўскага мастацтва ў БССР.

Ёсьць надзея атрымаць належныя на гэта сродкі, і тады адбудуцца і выезды мастакоў на працу ў мястэчкі й вёскі і ўдасца зьдзейсьніць цэлы шэраг іншых мастацкіх патрэб нашае рэспублікі. НКА вызначана і адпаведная „тройка“ ў Выстав. Комітэт.

**Выдавецкая справа.**

О Белар. Дзярж. Выдавецтва на працягу часу з 1 кастр. г. г. значна ўперад штурхнула справу выпуску белар. выданьняў. Досыць адзначыць, што да чэрвеня месяца г. г. ім выпушчаны 313 друк. аркушаў у ліку 938.000 экз. паасобн. выданьняў, што складае сабою 61 проц. гадавога заданьня.

О Тэхнічны бок выдавецкае справы значна паляпшаецца. Апрача двох ротацыёнак, набыты яшчэ з заграніцы тры наборных машыны з белар. шрыфтом і гатовая цынкаграфія, якія з восені будуць ужо выкарыстаны.

О 12—15 чэрвеня адбыўся зьезд загадчыкаў акруговых аддзяленьняў БДВ, які лічбамі засьведчыў паступова растучы збыт беларускае кніжкі.

О Закончана рэдагаваньнем і на гэтых днях здаецца ў друк І-я кніга „Беларускага мастацтва“, штогодні-

ку Белар. Дзярж. Тэатру, якая ахапляе сабою працу апошняга за 1921—24 г. г. Выданьне гэтае зьявіцца выключным па багацьці ілюстрацый мастацкім выданьнем, пасьвечаным ня толькі мінуламу, але і сучасным дасягненьням белар. тэатру, але зьмесьціць у сабе і некаторыя артыкулы па беларускім мастацтве наогул. Асновы выданьня складаюць артыкулы Зм. Бядулі, М. Гарэцкага, А. Паўловіча, А. Бурбіса, Д. Даўгялы, Ч. Родзевіча, А. Баліцкага, Х. Хэрсонскага, М. Гурскага, Н. Бываеўскага, Г. Гарэцкага, М. Ільлінскага і др. па гісторыі белар. тэатру і розных пытаньнях беларускага мастацтва. Багатая хроніка жыцьця і дзейнасьці БДТ за часы 1921—24 г. г. Шэраг літаратурных твораў, сярод якіх аддзяляюцца драматычныя этуды М. Грамыкі. Каштоўныя сунхронічныя табліцы Н. Бываеўскага па гісторыі белар. тэатру і белар. драматургіі, зложаныя па архіўных матэрыялах Ф. Ждановіча, Ч. Родзевіча і др. крыніцах. Гэтыя табліцы і складзеная Ю. Бібілай бібліографія белар. мастацтва і тэатру дадуць магчымасьць стала выўчаць гісторыю белар. тэатру.

## ХРОНІКА ЖЫДОЎСКАЕ КУЛЬТУРЫ

О Жыдоўскі аддзел Інбелкульту складае сабою тры сэкцыі: лінгвістычную, літаратурную і гістарычную, якія выдзелілі з сябе тры падсэкцыі: тэатральна-мастацкую, гістарычна-рэволюцыйную і экономічна-дэмографічную. Існуюць яшчэ тры сталыя комісіі: слоўнікавая, літаратурная гістарычная.

Вядзецца энэргічная праца па зьбіраньні друкаванага й пісьмоўнага матэрыялу і набываюцца патрэбныя кніжкі. Падрыхтаваны да друку шэраг выданьняў. Да працы прыцягнута шмат штатных і добраахвотных працаўнікоў, сярод якіх віднае месца займае Н. Ойслэндэр, малады дасьледца па галіне літаратуры і мастацтва.

О Для зьбіраньня дыалектычнага матэрыялу жыдоўскім аддзелам ІБК выдадзена інструкцыйная програма, зложаная М. Вэйнгерам. Пад кіраўніцтвам апошняга пачата праца па складаньні жыдоўскага акадэмічнага слоўніка, якая будзе выканана няменш як у 3 гады.

О Па пастанове НКА БССР ў Адэсе будзе organізован жыдоўскі дзяржаўны музэй.

О Па справах сугалошаньня жыдоўскай культурнай працы ў РСФСР, УССР і БССР выяжджаў у Маскву загадчык жыдоўскага аддзелу ІБК т. Аршанскі Б.

О Група кіеўскіх жыдоўскіх пісьменьнікаў (Л. Рэзьнік, Н. Лур'е, Э. Фінінбэрг, Д. Волкенштэйн, Дэр Ністэр, Л. Квітка, Л. Арланд і інш.) рыхтуюць да друку літаратурны альманах, на 10-12 друк. аркушаў.

О Жыдоўскі Дзярж. Тэатр Граноўскага, які зараз іграе на Украіне, карыстаецца там выдатным посьпехам сярод жыдоўскіх працоўных мас.

О У якіх абставінах самавольства збоку панскае ўлады ў Польшчы ідзе нацыянальнае і культурнае жыцьцё беларусаў і жыдоў сьведчыць факт забароны жыдоўскай драматычнай трупе, якая гастролюе ў Горадні, далейшай ігры на жыдоўскай мове. Пан староста мотываваў гэта тым, што ў Горадні занадта шмат іграюць ужо на жыдоўскай мове!

О Вышаў з друку і прадаецца першы нумар двухмесячнае часопісі „Дэр Штэрн“ (Зорка) з літаратурна-мастацкім і навукова-публіцыстычным зьместам.

О Жыдоўскі аддзел ІБК рыхтуе да друку першую кніжку свайго „Цайтшрыфт“ („Часопісі“), у якой будуць зьмяшчацца орыгінальныя навуковыя артыкулы, матэрыялы, бібліографія і рэцэнзіі на тэмы літаратуры, мовазнаўства, мастацтва і гісторыі. У рэдакцыйную колегію ўваходзяць 10 членаў і супрацоўнікаў аддзелу ІБК, для супрацоўніцтва-ж запрошаны выдатныя сілы СССР і заграніцы.

О У бліжэйшы-ж час будзе здан у друк зборнік жыдаддзелу ІБК па гісторыі жыдоўскага рэволюцыйнага руху на Беларусі пад назваю „Ройтэ блетэр“ („Чырвоныя старонкі“).

Рэдколегія складаецца з 5 асоб.

О У Маскве рыхтуе да друку першы нумар бюлетэню т-ва па надзяленьні працоўных жыдоў зямлёю

„Гезэрд“ пад назваю „Жыдоўскі селянін“, у якім будзе зьмешчан багаты фактычны матэрыял па жыдоўскім земляробстве. Выданьне будзе выходзіць на расійскай мове.

О У чэрвені ў Бабруйску адбылася акруговая конфэрэнцыя жыдоўскіх школьных працаўнікоў. Загадчык жыд. сэкцыяю акр. аддз. асьветы т. Гольдзін у сваім справаздачным дакладзе вызначыў дасягнутыя посьпехі. Загадчык жыд. сэкцыяю НКА БССР т. Мац, вітаючы конфэрэнцыю, адзначыў, што ў Зах. Беларусі, якая стогне пад панскім гвалтам, жыдоўскіх культурных установ у 2 разы менш, чымся ў БССР, хаця нашая рэспубліка па сваёй тэрыторыі складае толькі 8-ую частку тэрыторыі „дэмократычнае“ польскае рэспублікі. Член-супрацоўнік ІБК Аляксандраў прачытаў на конфэрэнцыі даклад на тэму „Краязнаўства і жыдоўская школа“ і прасіў удзельнікаў конфэрэнцыі дапамагчы ў працы гістар. комісіі жыд. аддзелу ІБК прысылкаю належных матэрыялаў.

## З КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ У СССР

### РСФСР

О Бібліотэка Комуністычнае Акадэміі ў Маскве зараз складае сабою да 560.000 томаў. Маецца пэрыодычны друк на 22 мовах у ліку 2.262 назваў, газэт—звыш 600 назваў. У ёй цяпер самы поўны ў Маскве збор выданьняў цэнтр. савецкіх і партыйных інстытуцый, пачынаючы з 1917 г.

Бібліографічны аддзел гэтай бібліотэкі зараз складае апіс усіх матэрыялаў аб 1905 г., якія маюцца ў бібліотэцы. Распачата складаньне картотэкі аўтараў і псэўдонімаў (умоўных прозьвішчаў) тых артыкулаў падпольных рэволюцыйных выданьняў, якія ня былі падпісаны фактычным аўтарам. За адно будуць бібліографаваны ўсе падпольныя выданьні рэволюц. партый царскае Расіі.

О Інстытутам К. Маркса і Ф. Энгэльса ўлетку гэтага году будуць выпушчаны з друку II і III томы „Архіву“ К. Маркса і Ф. Энгэльса, дзе будуць зьмешчаны працы К. Маркса: „Філёзофія права Гэгэля“ і Ф. Энгэльса: „Дыалектыка ў прыродзе“ і „Выклад капіталу“. У III томе „Архіву“ будзе зьмешчана зложаная Э. Цобэлем і П. Гайду бібліографія марксызму на чужаземных мовах за 1914—1924 г.

Інстытутам выдана новая значна перапрацованая і старэнна прагледжаная трохтомная праца Ю. Пляханова—„Гісторыя рускае грамадзкае думкі“. Сярод другіх шматлікіх выданьняў Інстытуту, якія выйдуць з друку ў восень гэтага году, зварочвае на сябе ўвагу сэрыя навукова-популярнае бібліотэчкі па тэорыі, гісторыі і практыцы марксызму, кожны томік якое, у 5-7 друк. аркушаў, дасьць клясычныя працы асноўцаў марксызму і іх вучняў.

О У Франкфурце на Майне (Нямеччына) Інстытутам К. Маркса і Ф. Энгэльса сумесна з Таварыствам дасьледваньня соцыяльных проблем заснована выдавецтва для надрукаваньня на нямецкай мове поўнага збору твораў Маркса й Энгэльса і „Архіву“ іх імя. У выданьне война і ўся перапіска асноўцаў марксызму. Вызначана да друку 42 томы, з якіх 10 томаў выйдуць у 1925/26 годзе.

О Бібліотэка Інстытуту Маркса і Энгэльса ў сучасны момант мае ўжо 160.000 томаў, з якіх толькі ў 1924 і 1925 г. паступіла 30.000 томаў. Асабліва багатымі былі закупкі кніг для бібліотэкі Інстытуту, зробленыя ў 1924 г. за рубяжом Д. Разанавым. Між іншым, летам 1924 г. Д. Разанаў зрабіў у Лёндоне фотографічнае копіяваньне (звыш 2.000 №№) тых выданьняў, якія немагчыма было набыць ва ўласнасьць Інстытуту. Сярод сфотографаваных 703 брошур маюцца нязвычайна рэдкія выданьні часоў ангельскае рэволюцыі, некаторыя рэдкія часопісі і г. д.

У бліжэйшы час будуць атрыманы фотокопіі з рукапісаў архіву нямецкай соцыял-дэмократыі. Архіўная праца навуковае распрацоўкі ўсіх гэтых багатых збораў складае сабою шырокую ўжо галіну працы Інстытуту.

О Зараз бібліотэка Інстытуту імя У. І. Леніна складае сабою ўжо выдатны збор выданьняў аб Леніне і па ленінізьме. У ёй налічваецца да

40.000 томаў, з якіх 10.000 т. выключна „ленінскае“ літаратуры і да 15.000 назваў падпольных і легальных, але рэдкіх рэволюц. выданьняў. У чытальні бібліотэкі Інстытуту на адбыўшайся выстаўцы чужаземнай літаратуры аб Леніне і ленінізьме было сабрана да 825 назваў на 47 мовах, з якіх—да 550 кніг і звыш 270 назваў пэрыодычнага друку.

О Асоцыацыі (саюзу) навукова-дасьледчых інстытутаў комісіяю А. Рыкава асыгнавана 200.000 р. на патрэбы навуковых выданьняў. На гэтыя сродкі Інстытуты гісторыі, экономікі, археолёгіі, мастацвазнаўства, мовазнаўства, гісторыі літаратуры і інш. распачалі цэлы шэраг каштоўных навуковых прац, гатовых ужо да друку.

О Таварыства гісторыкаў-марксыстых, організаванае ў Маскве яшчэ ў сакавіку мес. г. году, абрала сваім старшынёю М. М. Пакроўскага, а ў сакратарыят—т.т. Шастакова, Горына і Панкратава. У т-ва між іншым увашлі: Н. Лукін, В. Волгік, М. Паўловіч, С. Міцкевіч і інш.

О Вышла з друку вельмі цікавая і вялізарная па разьмеры (671 стар.) кніга: Ежов и Шамурин—„Русская поэзия XX в.“ (антропология). М. 1925 г. 15 р. Выдадзена выдав. „Новая Москва“. Складаўшыя кнігу далі два ўступных цікавых артыкулы. У зборнік увашлі выбраныя творы поэтаў ад папярэднікаў сымболістых, сымболістых-акмэістых, футурыстых, імажыністых, стоячых па-за межамі гэтых плыняў, папярэднікаў рэволюцыйнае поэзіі, сялянскіх і пролетарскіх поэтаў.

О Пры Гімн‘е (Дзярж. Інстытуце Музычнае Навукі) у Маскве існуюць этнографічныя курсы (20 слухачоў, загадчык А. В. Нікольскі), якія рыхтуюць музычных этнографаў.

О Музсэктарам Дзяржвыдату ў Маскве распачата сэрыя брошур пад назваю „Навукова-популярная музычная бібліотэка“. Рэдагуюць гэтыя кніжачкі (сярэднім па 36 старонак) Рославец Н. і Браўдо Н.

Ужо вышлі з друку брошуры Л. Сабанеева, С. Чамаданава, М. Іванова-Барэцкага і інш.

О Музычны пэрыодычны друк на расійскай мове ўжо значна вырас. Вышлі № 11 „Музакальной Нови“, № 3 „Музыкальной Культуры“, чарговы № „Современной музыки“.

О Нядаўна вышаў з друку цікавы зборнік па пэдагогічных, навуковых і грамадзкіх пытаньнях музычнага жыцьця пад назвай „Музыкальное образование“. Выдана кніжка групаю работнікаў Маскоўскае Дзярж. Консэрваторыі.

## УКРАІНА

О 3—7 траўня адбыўся 2 зьезд „Плуга“. У бюро ЦК „Плуга“ абраны: Піліпенко, Кырыленко, Панів, Усенко і Стэповы. У склад рэдколегіі „Плужаніна“ абраны Піліпенко, Сенченко і Быковэць.

О Укрцэнтрархіў зьвярнуўся да ВУЦВК‘у аб паразуменьні з ЦВК СССР наконт звароту УССР украінскіх архіўных матэрыялаў, якія знаходзяцца ў архівах РСФСР. Прэзыдыум ВУЦВК паслаў аб гэтым дакладную запіску ЦВК СССР., а адначасна прапанаваў Укрцэнтрархіву высьветліць пытаньне, якія-б архіўныя матэрыялы, датычныя РСФСР, маглі-б быць перaданы апошняй.

О Спэцыяльная комісія Галоўпалітасьветы НКА УССР у складзе Радыша, Туркельтаўба, Козыцькага, М. Любчэнка і інш. распрацавала дэтальна проэкт заснаваньня ў Харкаве Дзярж. Украінскае Опэры. Пытаньне гэтае канчаткова ўжо вырашана ў вышэйшых інстанцыях.

О Украінскі тэатр ім. Г. Міхайлічэнкі з Кіеву выехаў у Донбас. З 17 па 31 траўня ён ставіў свой рэпэртуар у Нардоме ў Артэмску, дзе карыстаўся сярод работнікаў вя-

лікім посьпехам, асабліва пасьля дакладаў на тэму „Тэатр і рэволюцыя“. Далейшую падарожу ён мае: Лісічанск, Славянск, Краматорская і інш. месцы Артэмаўскае акругі.

О Колектыў Укр. дзяр. тэатру ім. Франка з Харкава быў на гастролях у Крамянчугу. Найбольшым посьпехам карысталася п'еса М. Куліша „97“. Тэатр ужо закончыў сваю падарожу.

О Галоўполітасьветы УССР зараз пашырае сетку тэатраў, маючых ад яго субсыдыю. Апрача тэатру ім. Шэўчэнкі ў Палтаве і тэатру ім. Зенькавецкай у Кацярынаславе, будуць організаваны тэатры ў Чарнігаве і на Валыні. Прадстаўнік Галоўполітасьветы ўжо выехаў з гэтаю мэтаю ў вызначаныя вышэй пункты.

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# ЗЬМЕСТ „ПОЛЫМЯ“ № 4.



---

Б. Д. В. № 110 Галоўліт 9272.

1-я Дзярж. друкарня. Зак. № 753. У ліку 2.000 экз.